# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



№ 7

1925

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ



## № 7
## 1925

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК — 1925



## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Каліноўскі Ул., Кацэнбогэн С. проф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А. Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# НА ПАРОЗЕ

**Тарас Гушча**

I

Сьцяпан—чалавек сур'ёзны, хоць яму ўсяго дванаццаць гадкоў. Толькі часамі прарвецца ў ім маладая, бурлівая натура, і тады Сьцёпка, як і ўсе людзі яго веку, выкажа гэтую маладую імкненнасьць: прабяжыць па вуліцы так, што аж вецер каля вушэй засьвішча. І зробіць яшчэ Сьцёпка такія выбрыкі ў паветры, што і артысты другі пазайздросьціць.

Але гэта ніколечкі ня шкодзіла славе яго сур'ёзнасьці.

І яшчэ можна было-б адмеціць у ім адну рысачку, якая таксама як-бы трошачкі супярэчыць гэтай сур'ёзнасьці.

Справа, бачыце, у тым, што тады, калі Сьцёпка віхрыцца па вуліцы, яму кожны раз пападзецца на вочы гэтая Аленка, дачка Андрэева. Стаіць яна каля весьнічак свайго дворыка. Ясныя, прыветныя вочкі яе глядзяць на Сьцёпку, а на губках сьвеціцца такая лагодненькая ўсьмешка. Бягучы, Сьцёпка толькі блісьне на яе сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца грозна, але кінуць ёй якое-небудзь слова няма часу— Сьцёпка імчыцца далей. Аленка-ж стаіць, праводзіць яго сваімі яснымі вочкамі.

А калі Сьцёпка бег назад, то ўжо за некалькі крокаў да Аленкінага дворыка грозна паварочваў голаву ў бок Аленкі. А тая не заўсёды стрымаецца і скажа яму часам:

— А я дагнала-б цябе.

Скажа і ўсьміхнецца. Усьмешка гэтая выразна казала аб тым, што Аленка нічога ня мела-б, каб паганяцца за Сьцёпкам.

Да ці-ж згодзіцца на гэта Сьцёпка?

Хіба-ж дапусьціць ён сябе да таго, каб сябраваць з гэтым жаночым насеньнем?

Папершае: яму дванаццаць год, а ёй усяго дзесяць, падругое, ён—мужчына, а яна—баба.

І Сьцёпка яшчэ больш грозна блісьне вачыма і зробіць намеры сьцерці яе з твару зямлі, пасьля чаго імчыцца далей, а Аленка, пакрыўджаная ў лепшых сваіх жаданьнях, у сваёй шчырасьці да яго, стаіць маўклівая, і гасьне ўсьмешка на яе губках.

Яшчэ больш сур'ёзны стаўся Сьцёпка, скончыўшы пачатковую школу. А гэта было ўжо тады, калі Сьцёпка меў трынаццаць гадкоў.

І Аленка таксама хадзіла ў школу. І цікавей усяго тое, што яна, хоць і „баба“, але далёка ішла ўперад ад „мужчын“, што вельмі дзівіла Сьцёпку, бо гэта нарушала ў корані яго прадстаўленьне аб „бабах“, як аб істотах ніжэйшага гатунку, чым, скажам, наш брат—мужчына.

Сьцёпка быў чалавек заняты. З васьмі гадкоў і нават раней яму ўжо прышлося, як і ўсім дзецям рольлі, прыняць удзел у будаўніцтве жыцьця, калі можна так сказаць. Трэба было і матцы ў хаце памагчы, і сьвіней папільнаваць, і каня папасьвіць ды з бараною за бацькам у полі пахадзіць... Да ці мала работы ў гаспадарцы? Але гэтая работа, сказаць праўду, ня надта захапляла і гарнула да сябе Сьцёпку: яго больш цікавіла кніжка... Эх, каб у яго да былі грошы: кніжак, кніжак накупляў-бы ён сабе! У тым-та і бяда, што гэтых грошай няма, і ў бацькі іх ня возьмеш—галота!

Скончыў Сьцёпка школу.

Настаўнік яму сказаў:

— Не пакідай, Сьцёпка, навукі: у цябе вялікія здольнасьці да яе. Прыходзь да мяне вольным часам—падганю цябе, у вышэйшую школу паступіш. Толк з цябе будзе.

Задумаўся Сьцёпка. А добра было-б яшчэ павучыцца.

Настала лета, уцягнуўся Сьцёпка ў гаспадарскую работу, нават думкам сваім ня было калі аддацца.

## II

На дванаццатым годзе скончыла школу і Аленка Андрэева. Здала яна экзамен ня толькі лепш за вучняў свае школы—з усіх школ, якія былі на экзаменах, выдзелілася яна сваімі здольнасьцямі. Проста на ўсё сваё сяло праславілася. Дачуўся аб гэтым Сьцёпка, зайздрасьць патайная абудзілася ў ім.

„Няўжо гэта праўда, што яна такая здольная?“ думаў Сьцёпка і не хацеў даваць веры. З поўгадзіны ня мог заснуць Сьцёпка, думаючы аб вучонасьці Аленкі. Успомніў, што сам ён закінуў сваю навуку, і яму стала нявесела на сэрцы. З галавы ня выходзілі ўсе гэтыя думкі. Урэшце Сьцёпка спыніўся на думцы—пабачыцца як-небудзь з Аленкаю. Толькі трэба зрабіць так, як-бы гэта было нязумысьня.

Назаўтра ранічкаю прашоўся Сьцёпка каля хаты, дзе жыла Аленка. Яе там ня было. Прашоўся другі раз, а Аленкі так і ня відаць.

Чаму-ж гэта даўней тырчала яна там кожны раз, калі-б толькі Сьцёпка ні зьявіўся там? Можа, хіба, яе дома няма? А можа фанабэрыі набралася, што ўжо ня хоча і глянуць на яго?

Потым Сьцёпка разважыў так, што яна напэўна баіцца на вочы яму пападацца, каб ён не запытаў у яе чаго-небудзь па часьці навукі, бо ў

Сьцёпкі, калі хочаце ведаць, якраз і былі гэтыя запытаньні: хацелася ўпэўніцца ў яе вучонасьці і ў яе здольнасьці. Да і так хацелася пабачыцца з ёю.

Прайсьціся трэці раз Сьцёпка не адважыўся: лёгка магла стацца так, што хто-небудзь з суседзяй мог-бы зьвярнуць на яго ўвагу і пранікнуць у таямніцы яго думак. Што-б яму было адказваць, калі-б яго запыталіся, чаго ён шнуруе каля Андрэевай хаты?

А людзі маглі-б падумаць чорт ведае што: гатовы яшчэ сказаць, што ён за Аленкай хадзіць пачынае. Вось чаму, калі Сьцёпка мінуў Аленкіну хату, не пабачыўшы Аленкі, ён кінуўся на хітрасьць: вярнуўся назад і пашоў па вуліцы наўскасяк. Проціў яе хаты з другога боку вуліцы быў гародчык Алесі Ганчаровых. У гэтым гародчыку пад вокнамі расьлі такія слаўныя кветкі. Гэтымі кветкамі і любуецца Сьцёпка. Адным вокам на кветкі глядзіць, а другім незаметна і на вокны Аленкінай хаты кіне... Не, нічога ня выходзіць—ня відаць Аленкі. І пазіраць-жа на гэтыя вокны нялоўка, і тут стаяць доўга не выпадае. Сьцёпка заўважыў бусла над сялом. Ляціць нізка над хатамі. Правёў вачыма і бусла і таксама і на Аленчыну хату глянуць не забыў... Поўная няўдача. Прашоў па вуліцы далей, хаты тры-чатыры, зноў на той бок вуліцы перашоў; назад павярнуў і апошні раз каля Аленкінай хаты прашоўся.

— Тфу, дурань!—аблаяў сам сябе Сьцёпка і дадому пашоў.

Падумаеш, важнасьць якая—Аленка! І Сьцёпка засьвістаў, з самаю нявіннаю мінаю, нейкі вясёлы мотыўчык.

А Аленка бачыла Сьцёпку. Стаяла ў хаце каля вакна і бачыла, як Сьцёпка прашоў па вуліцы. Падумайце, якая хітрая! Стаілася каля вакна і за Сьцёпкам цікуе, а сама не паказваецца. Дагадваецца Аленка, што Сьцёпка нічога ня меў-бы, каб пабачыцца з ёю, але і ашукацца баіцца. Бачыць яна, як Сьцёпка на кветкі глядзіць і як бусла вачамі праводзіць. Намерылася ўжо выйсьці, ды маці штосьці затрымала, а калі яна апынілася на двары, то Сьцёпка, пасьвістваючы, у свой двор ўваходзіў. Калі гляне яшчэ ў яе бок, то ўжо напэўна можна лічыць, што Сьцёпка спэцыяльна хадзіў тут, каб яе пабачыць. Не, не аглянуўся.

III

Гэтая няўдача крыху абяскуражыла Сьцёпку. Таксама няпрыемна было і Аленцы, што Сьцёпка і папраўдзе мог так сабе вандраваць па вуліцы, ня маючы на ўвазе яе асобу. І ў той час, калі Сьцёпка думаў над пытаньнем, ці дома была Аленка, ці проста не хацела з ім пабачыцца, бо быў такі момант, калі яму здалося, што яна быццам-бы стаяла ў хаце каля вакна. Аленка ламала галаву, думаючы над тым, чаго Сьцёпка каля іх хаты вандраваў. Хацелася думаць, што Сьцёпка меў на ўвазе пагаманіць з ёю. Але-ж ён не аглянуўся ў яе бок, калі ў свой двор уваходзіў, а гэтая акалічнасьць казала за тое, як і загадала Аленка, што ён хадзіў

так сабе. Але, як вядома, калі тое ці іншае гаданьне кажа ня ў нашу руку, то мы, звычайна, ня хочам яму і верыць.

Як бачыце, і ў Сьцёпкі і ў Аленкі ў выніку гэтае справы была няпэўнасьць. І Сьцёпку і Аленцы хацелася гэтую няпэўнасьць высьніць. Сьцёпка-ж быў чалавек цьвёрды. Ён ніколі не дапусьціць, каб другі раз пайсьці туды. О, не дачакае яна гэтага! Ну, і Аленка—дзяўчына з гонарам. Хіба забылася яна, як Сьцёпка колькі раз зьневажаў яе? Яна добра памятае, як хацела дагнаць яго, а ён толькі воўкам зірне на яе—і ані прыступу... І як гэта яна магла дапусьціцца да гэтага? Адно толькі апраўданьне: дурная была яшчэ. І будзе яна яшчэ, можа, шукаць яго? Да ніколі!

Ясныя, слаўныя вочкі яе зрабіліся нязвычайна строгімі.

Вось яна што зробіць: яна возьме сваю кнігу, а такая кніга яму і ня сьнілася, і пойдзе сабе пад магазын чытаць. Адзін настаўнік на экзаменах падарыў ёй гэтую кнігу. Гэтая кніга „Кабзар“ Тараса Шэўчэнкі. І настаўнік сказаў яшчэ:

— Якая ты разумная і мілая! Вось табе падарак ад мяне.

Які гэта быў добры настаўнік! Напэўна другога такога ўжо й на сьвеце няма. Заскочыла ў хату Аленка, Тараса Шэўчэнку ўзяла, хустачку на плечы накінула, зірнулася ў люстэрачку ў бляшанай аправе і на вуліцу вышла.

Пад магазын можна было-б бліжэй агародамі прайсьці, але хто ёй забароніць ісьці вуліцаю?

Разгарнула яна кнігу, ідзе і чытае:

Реве та стогне Дніпр широкий,
Сердитий вітер завива.

А ідучы каля Сьцёпкавай хаты, яна так захапілася чытаньнем, што ішла зусім памаленечку, чуць-чуць ногі перастаўляла.

А Сьцёпка, адрэзаўшы лусту хлеба, стаяў у хаце каля акна, пазіраў на вуліцу і паважна разважаў, жуючы хлеб. Аж бачыць—Аленка з кнігаю ідзе. Уся важнасьць і ўся Сьцёпкава цьвёрдасьць адразу прападаюць. А як пабачыў яшчэ такую шыкозную кнігу, дык і зусім уладу над сабою страціў.

Кніга і толькі кніга змусіла яго на вуліцу выскачыць, бо каб Аленка бяз кнігі ішла, то ён ані зварухнуўся-б.

Хоць Аленка захапілася чытаньнем вельмі моцна, але гэтае захапленьне не пашкодзіла ёй заўважыць Сьцёпку. Сьцёпка стаяў каля весьнічак.

— Алена!

Сьцёпка аклікнуў яе досыць громка. Аленка-ж так захоплена чытаньнем, што й вачэй ад кнігі не адводзіць, а сама думае, ці глянуць на Сьцёпку ці не.

Каб яшчэ раз пазваў яе, то яна глянула-б.

А Сьцёпка разважае, як далей быць яму.

— Аленка!—пазваў ён мацней.

Аленка, нібы спалохаўшыся, раптам спыняецца і глядзіць на Сьцёпку так, як-бы яго за сто вёрст ад сяла спаткала.

— Якая гэта ў цябе кніга? дай паглядзець!

Сьцёпка падыходзіць да Аленкі. Па голасу яго чуе глыбокую да яе павагу і пачцівую просьбу.

Ня вытрымлівае сур'ёзнасьці і Аленка. Яна прыветна ўсьміхаецца.

— Да гэта мне такую кнігу настаўнік адзін падарыў на экзаменах,—адказвае Аленка і паказвае Сьцяпану кніжку.

— Вось дзіўна як тут напісана, як-бы крыху на наш просты лад,— зазначае Сьцёпка.

— Гэта украінская мова такая, і напісаў гэтую кніжку Тарас Шэўчэнка,—кажа Аленка.

— Гэта хахлацкая мова?—пытае Сьцёпка.

— Не хахлацкая, а украінская. Казаць „хахлацкая“—гэта будзе зьнявага.

Дзівіцца Сьцёпка. З кніжкі дзівіцца і з Аленкінай вучонасьці, і ён не адважваецца паэкзаменаваць яе.

— Слаўная кніжка,—кажа Сьцёпка:—а за што табе далі яе?

— А за тое, што я лепш за ўсіх экзамен здала,—горда кажа Аленка.

— Бачыш ты... Якая шчасьлівая.

— А я цябе бачыла, як ты каля Ганчаровых на кветкі глядзеў.

— А ты дзе была?

— У хаце.

— Чаму-ж я цябе ня бачыў?

— А хіба ты хацеў мяне бачыць?—злавіла Аленка Сьцёпку.

Сьцёпка троху замяўся.

— Ну, хацеў,—прызнаецца ён.

Аленка зусім здавольваецца.

— Хочаш, будзем чытаць разам. Пойдзем унь туды, пад магазын будзем чытаць.

Сьцёпка чухае галаву.

— Бачыш ты, мне сёньня часу няма. Хіба як другім разам.

— Ну, як уважаеш,—адказвае Аленка і весела ідзе далей, ужо не пазіраючы ў кнігу. А Сьцёпка спыніўся каля весьніц і пазірае на Аленку, покі ня зьнікла з вачэй. І не азірнулася нават.

## IV

Выходзіла так, што Аленка верх брала над Сьцёпкам. Ён скончыў школу, і яна скончыла—ды яшчэ як! Кнігу нават падарылі ёй. І яна ведае, чаму ня трэба казаць „хахлацкая“ мова.

Яшчэ дачуўся Сьцёпка, што Аленка думае далей у навуку йсьці. І ёй гэта лягчэй, бо дома без яе куды спадручней абыйсьціся, чым у іх доме без яго. Дый бацька яе багацейшы за яго бацьку. І няўжо-ж яму так і аставацца без навукі?

Многа думаў над гэтым Сьцёпка. І надумаўся ён за навуку сур'ёзна ўзяцца. Але як? Часу няма і, самае галоўнае,—няма кніжак.

І ўспомніў ён свайго настаўніка. Выбраў вольную часіну і пашоў у школу. Якраз і настаўніка дома застаў.

— Ну, здароў, Сьцёпка! Як жывеш?

Распытаў яго настаўнік, пагаманіў з ім.

— А я прышоў да вас—ці не маглі-б мне кніг сякіх-такіх даць?

— А якіх-бы табе кніг?

— А каб падвучыцца можна было.

— Дык табе падручнікі трэба? Гатавацца куды хочаш?

— Хацеў-бы.

— Ну, а куды-б?

— Да куды-б небудзь.

Настаўнік крыху падумаў.

— Ведаеш што, Сьцёпа, папрабуй ты на рабфак паступіць. Падгатуйся і рызыкні. Кніг я табе дам; чаго не зразумееш, прыходзь да мяне—разам разьбірацца будзем. Табе я ахвотна памагу. Пры тваіх здольнасьцях ды стараньні—многа можна зрабіць.

Абнадзеіў настаўнік Сьцёпку, ахвоты да навукі паддаў. І пашоў Сьцёпка да дому другім чалавекам.

Кожную вольную часіну за кніжкамі сядзеў і рабіў сваю справу незаметна, бяз шуму. Пісаць вучыўся сам, сам свае мэтоды стварыў.

Праз месяц да настаўніка пашоў.

— Ну, як твая навука?

— А папытайце мяне.

— Ну, давай.

Зрабіў настаўнік экзамен Сьцяпану.

— Да ты, брат, малайчына,—пасьля некалькік пытаньняў сказаў настаўнік:—ну, а з пісьмом як твая справа?

Замест адказу, Сьцяпан дастаў з-за пазухі цэлы жмут паперак.

Паглядзеў настаўнік, чытаць пачаў.

Сьцёпка пільна сачыў за выразаю твару настаўніка. А настаўніцкі твар усё больш і больш прасьвятляўся.

— Малайчына, чэснае слова, маладзец. І граматна і разумна; да з цябе проста пісьменьнік будзе!

Сьцёпка рос, як на дражджох.

— Ну, а цяпер табе трэба за матэматыку ўзяцца. І, перш за ўсё трэба з арытмэтыкі пачаць. Садзіся, я табе сёе-тое пакажу.

Селі. Пачалі з дробаў. Растлумачыў яму настаўнік пахаджэньне дробаў, іх сутнасьць, складаньне, адніманьне, множаньне і дзяленьне. А ўрэшце і кнігу яму даў, каб Сьцёпка сам папрабаваў разабрацца ў ёй.

Сьцёпка, вясёлы, ішоў да дому, каб у вольную часіну ўзяцца за дробы. Ці не зайсьці яму да Аленкі? Хацелася пахваліцца ёй і даць некалькі пытаньняў, якія даваў яму настаўнік. Не: пакуль што лепш нічога не казаць ёй.

## V

Прашоў год часу.

Ужо нейк пад восень сказала Аленка Сьцёпку:

— А ведаеш, Сьцёпка: на зіму я хачу ў сямігодку пахтупіць.

Сьцёпка, здавалася, ніколечкі ня зьдзівіўся, як-бы ён і ведаў, што Аленка на зіму куды-небудзь у школу падасца. Ён толькі спытаў:

— У якую сямігодку?

— У Загорскую.

— А чаму-ж ты выбіраеш Загорскую: у Трасьцянскую табе было-б бліжэй.

— А ў Загорскай, кажуць, лепей вучаць.

— А, хіба што так,—разважна сказаў Сьцёпка.—А жыць-жа дзе ты там будзеш?

— Кватэры пашукаць прыдзецца.

— Ну, разумеецца... Так, значыцца.

Сьцёпка трохі задумаўся, а Аленка сказала:

— А ведаеш, у якую клясу паступаць хачу?

— Ну?

— У пятую.

І тут Сьцёпка ня выказаў зьдзіўленьня.

— А я, каб ужо паступаў, то паступаў-бы ў шостую клясу.

Аленка глянула на Сьцёпку: праўду гаворыць ён, ці жартуе.

— Для шостае клясы трэба многа чаго ведаць,—заўважыла Аленка.

— Ну, пэўна-ж падгатоўку мець трэба. Трэба, скажам, ведаць усю арытмэтыку—простыя дробы, дзесятковыя, пропорцыі, трайное правіла: процанты,—ну, словам усё; таксама трэба трохі і альгэбру ведаць да і другія навукі.

Аленка шырока расчыніла свае ясныя вочкі і пазірала на Сьцёпку, скуль ён гэтыя навукі ведае?

— А чаму ты, Сьцёпка, ня вучышся далей?—спытала яна:—ты-ж гэтакі здольны.

Сьцёпка значна зьмякчыўся. Ён прыветна зірнуў на Аленку і сказаў многазначна:

— Можа я і буду вучыцца, гэта яшчэ невядома.

Хвіліначку памаўчаўшы, сказаў:

— Можа я і вучуся. Вось калі хочаш, паслухай, як я пішу.

— Цікава паслухаць,—сказала зусім зьдзіўленая і зьбітая Аленка.

Сьцёпка дастаў з кішэні некалькі памятых лісткоў, азірнуўся, каб ня было лішніх сьведак.

— Пойдзем на прыгумень—там зацішней будзе.

Селі пад страхою адрынкі.

— Ну, слухай: „На начлезе“.

Прачытаў Сьцяпан аб адным здарэньні на начлезе, дзе апісвалася вельмі жыва і натуральна, як дзядзька Мікола шукаў сваю люльку і за гэтую люльку з Лявонам Садоўскім чуць-чуць не пабіўся.

Гэтая гісторыя з люлькаю была вядома ўсяму сялу і апісана была яна так сьмешна, што Аленка, слухаючы, шчыра сьмяялася. А гэта было найлепшай пахвалою для маладога пісьменьніка.

— І гэта ўсё ты сам напісаў, Сьцёпачка?—у захапленьні спыталася Аленка, калі Сьцёпка скончыў свой расказ.

— Ну, што: добра напісана?

— Ой, як слаўна! Усё роўна, як-бы ў кнізе,—адказала Аленка і пазірала на Сьцёпку так, што Сьцёпку ясна стала, як высака падняў ён свой аўторытэт у яе вачах.

— Грэх табе будзе, Сьцёпка, ну, проста такі грэх, калі ты вучыцца ня будзеш,—казала Аленка.

Тут ужо Сьцёпка ня мог стрымацца і прызнаўся Аленцы, што ён вучыцца, што ў яго ёсьць шырокія пляны, толькі ён нічога аб іх ня кажа, а Аленка аб іх не павінна нікому казаць, бо толькі ён ёй аднэй і сказаў аб гэтым.

О, ён працярэбіць сабе дарогу!

## VI

Канчалася лета. Заварушылася моладзь, бы тое птаства на выраі. Пачыналася для яе гарачая пара, час радасьці і надзей для адных, час горкіх сьлёз—для другіх.

Цэлае лета жыла Аленка думкаю аб новай школе, аб далейшай сваёй навуцы. Перад ёю адчыняўся цэлы сьвет новага жыцьця, вучнёўскія гурткі, работа ў іх, вечары, даклады. Яна ўся была поўна няясных імкненьняў, яшчэ невядомага ёй адчуваньня і радасьці за парогам яе роднае ваколіцы.

У гэтых думках, у гэтых жаданьнях і лета прашло. Аставалася некалькі дзён да паступленьня ў школу, у Загорскую сямігодку.

Усе гэтыя дні Аленка была ў нейкім зусім новым для яе настроі. Яе трохі палохалі экзамены—ці мала што можа там здарыцца. Але была і надзея, што ўсё скончыцца добра. Яе вабіла гэтая школа. Было трохі і смутна на сэрцы з прычыны разлукі з домам, з сям'ёю. І была нават такая мінута, калі Аленка шчыра прыгарнула чорную кошачку з белаю грудзінкаю і ціхенька ёй сказала на вуха:

— Катусянё ты маё мілае. Астанешся ты без мяне. Хто цябе песьціць будзе?!

Гатавалася Аленка ехаць у дарогу. Яна загадзя сабрала свае кнігі і рэчы і чакала дня ад'езду. Адвесьці ў Загор'е меўся сам бацька яе, Андрэй Гарнашка.

Ї прышоў гэты час. Запрог бацька коніка. Забрала Аленка свае пакуначкі, кніжкі і ўсе патрэбныя рэчы. Заплакала маці, пусьціла сьлязу і Аленка.

Выехалі на вуліцу. Украдкам зірнула ў бок Сьцёпкавай хаты. А Сьцёпка ў процілежным канцы стаяў. Відаць, яе паджыдаў. А Аленка і ня чаяла ўгледзець яго. Убачыла, прыветна-радасна ўсьміхнулася яму. А Сьцёпка замаркочаны быў.

Кіўнула яму Аленка на разьвітаньне. Сказаць хацела нешта, ды мусіць бацькі засаромілася.

— Ну, шчасьлівай дарогі і добрай часіны!—сказаў Сьцёпка.

— Аставайся здаровы, Сьцёпка!

Ї радасна стала Аленцы.

А Сьцёпка доўга праводзіў яе вачыма. Пазіраў у той бок і тады, калі і цялежка даўно з вачэй зьнікла.

## VII

Перадрыжэла бедная Аленка на экзаменах.

Насілу-насілу паступіла. Ну, гэта не бяда: Аленка сваё возьме.

Яшчэ с большаю стараннасьцю ўзяўся Сьцёпка за сваю навуку. Жартаваць тут няма чаго: Аленка цераз тры гады скончыць сямігодку, а там дарога ёй шырэйшая будзе. Яна ўжо, можна сказаць, прыстроена, а ён што. Палажэньне яго зусім няпэўнае. Разьлічаць на бацькаву дапамогу ня прыходзіцца: бацька і слухаць ня хоча аб яго навуцы. Папершае, якая цяпер навука? Вучні ў школах лынды б'юць, ходзяць ды лісьце зьбіраюць. На чорта яно? Хлеб на іх пякуць ці што? Падругое, распуста пашла, дзеці настаўнікамі кіруюць, а вучыцца ня хочуць. Лусты хлеба не адрэжа, а сьвет перавярнуць зьбіраецца, келб няшчасны. Хіба так даўней вучыліся? Ня вывучыш, бывала, лекцыі, дык настаўнік так загрэе табе, што аж іскры пасыплюцца. На калені паставіць ды яшчэ палена ў рукі дасьць—стой і палена над галавою дзяржы. Вот гэта была навука: баяліся і вучыліся. А цяпер чаму вучаць? Бацькоў ня слухаць, старых звычаяў не шанаваць... Не, брат, за такую навуку дзякую табе! Вучыся, як хочаш, а бацька памагаць табе ня будзе — вучыць, як па бацькавым карку езьдзіць.

Але Сьцёпка сваё вядзе: чытае, піша, думае, разважае.

Ні адзін вечар вольны не прападаў дарма. Ї яшчэ трэба адмеціць, што быў такі выпадак, калі Сьцёпку прышлося на дзеле паказаць, які ён ужо быў вучоны чалавек: сакратаром давялося раз быць яму. Ї што-ж

вы думаеце? Такі протокол закацiў, што нейкі гарадзкі адказны работнік, прачытаўшы гэты протокол, доўга ўглядаўся ў Сьцёпку і сказаў:

— Ну і маладец! На рабфак табе паступіць трэба.

Гэтыя словы казаліся пры ўсіх людзях.

Людзі чулі, як іх хлопца, хлопца іх сяла, пахваліў такі вучоны чалавек, і гэта хвала лажылася трохі і на іх самых. І бацька Сьцяпанаў усьцешан быў, як-бы яго маслам па сэрцы памазалі, і ён моцна зацікавіўся рабфакам, толькі ніяк ня мог зразумець гэтага слова, а вечарам запытаў у Сьцёпкі:

— Скажы ты мне, што гэта такое „рабак“.

Тут ізноў прадставіўся Сьцёпку выпадак паказаць сваю вучонасьць, і ён зьняў з бацькі вялікі цяжар, хоць, праўда, можа і ня ў поўнай меры.

— Не рабак: тата пераблытаў—рабфак, гэта значыць—рабочы факультэт, дзе вучацца дзеці рабочых і сялян.

— Ну, а факультэт, гэта што такое?

Тут і сам Сьцёпка з нагі зьбіўся, а бацька заўважыў:

— Вось пашлі словы—і мазгі на іх скруціш.—І тым ня меней ён застаўся задаволены, што мае такога сына. А Сьцёпка стараўся скарыстаць гэты выпадак для пэўнай агітацыі.

— Ну, вядома, седзячы тут, многа чаго ведаць ня будзеш. А бяз гэтага як ты цяпер жыць будзеш. Мы цяпер самі павінны гаспадарыць над сваім жыцьцём.

Мусі быць і тата не згадзіўся-б паклікаць пана, каб ён нам парадкі заводзіў.

— Няхай іх, сынку, сьляпых водзяць, каб яны нам зноў парадкі заводзілі.

— А каб умець жыць палюдзку, дык трэба вучыцца і ня толькі ведаць, што такое рабфак, а й навучыцца на рабфаку.

„Праўду, падла, кажа“, думае Сьцёпкаў бацька.

## VIII

Загорская сямігодка была распушчана на дзьве нядзелі зімніх вакацый. Прыехала Аленка дадому. Яна прабыла ў школе месяцаў пяць. Пасьля такой доўгай разлукі з домам Аленка адчувала сябе шчасьлівай.

За гэты час пабыту ў школе Аленка значна зьмянілася. Яна заметна падрасла і яшчэ пахарашэла, хоць і без таго была прыгожанькая дзяўчынка. І калі вечарам, у першы дзень прыезду, да яе пазьбягаліся таварышкі, бо цікава-ж было паглядзець на Аленку, то яе русавая галоўка з мілым тварыкам і яснымі, удумнымі вочкамі вельмі выгодна для Аленкі выдзялялася з цэлае чарады галовак яе таварышак. Тварык яе набываў той адбітак адухаўленьня, які звычайна накладае навука, работа мысьлі і разважаньня. У школе Аленка ня зводзіла часу дарма. Ста-

ранна слухала лекцыі, чытала кнігі, якія толькі можна было дастаць, а кожнае няяснае для яе пытаньне старалася зразумець, а калі ёй гэта было трудна, яна зварачалася да настаўніка, хоць на першых часох крыху саромілася. Гэтая стараннасьць, гэтае шчырае адданьне навуцы, а таксама і здольнасьць да навукі вывелі яе і тут на першае месца ў клясе. Яна кіравала сваім гуртком па вывучэньні прыроды; яна-ж, ня хочучы адставаць ад Сьцёпкі па часьці прыгожага пісьменства, прымала ўдзел у насьценнай газэце і ў школьных журналах, але яна аддавала перавагу ня прозе, а вершам, бо верш ёй больш падабаўся і наогул верш яна лічыла вышэйшаю формаю літаратуры. Можна сьмела сказаць, што на гэтую дарогу накіраваў яе дзядзька Тарас Шэўчэнка, а свае беларускія поэты, з творамі каторых Аленка пазнаёмілася ў сямігодцы, яшчэ мацней паставілі яе на грунт вершавальнай творчасьці.

За той-жа час пабыту ў школе Аленка зьмясьціла два свае вершыкі ў газэце і адзін вершык у школьным журнале. Але ёсьць у яе адзін верш. Яна хавае яго, як нейкі сакрамант і нікому яго не паказвае, ня гледзячы на ўвесь аўтарскі сьвербь падзяліцца з чытачом сваёю творчасьцю. Гэты верш заўсёды неразлучан з маладою поэткаю. Ён акуратненька запісан на паперачцы і аздоблен рысуначкамі.

Яго Аленка ведае на памяць. На сьвеце ёсьць толькі адзін чалавек, для каго напісан гэты верш. Але ці прычытаць яму? Вот пытаньне. Аленка перажывала мукі гэтай няпэўнасьці.

Мілыя поэты! дазвольце выказаць вам спачуваньне ад імя чытачоў і пасьведчыць перад усім сьветэм, што вы—вялікія пакутнікі на зямлі.

Хто-ж такі ён, для каго напісан гэты верш?

Адгадаць ня так трудна: гэты чалавек—Сьцёпка.

І цікава ведаць Аленцы: ці зойдзе ён да іх, ці не. Яна напэўна ўсьцешылася-б, калі-б ведала яго думкі нашчот гэтага. У Сьцёпкі было многа прычын пабачыцца з Аленкаю: трэба было дазнацца, як многа навучылася Аленка за гэты час, цікава было пачуць, як там наогул стаіць справа з навукаю і, калі ўжо на тое пашло, яму проста хочацца на Аленку паглядзець, бо толькі ён да Аленка—вучоныя людзі на іх сяле. Настаўніка лічыць тут няма чаго.

У той час, калі маці пазірала на сваю вучоную дачку і цешылася з яе, бо яна так выдзялялася з гэтае шумлівае чарады дзяўчатак, Сьцёпка думаў, як тут латвей і натуральней пабачыцца з Аленкаю. Лепш-бы, вядома, было спаткацца адзін-на-адзін. Але можна і проста зайсьці да іх. Толькі-б гэтых стракатух-піскух там ня было.

## IX

Аказвалася ня так проста зайсьці да Андрэевых, як думаў учора Сьцёпка.

Першая яго памылка была ў тым, што з таго часу, як Аленка пахала ў Загор'е, ён ні разу не зашоў да іх. Трэба было-б пасуседзку

як-небудзь даведацца. Другая, ня меней важная памылка—Сьцёпка ні разу не сказаў „дзень добры“ цётцы Ганьне, Аленчынай матцы, хоць на вуліцы яе й бачыў ня раз. Але-ж казаць ёй „дзень добры“ таксама магло-б навесьці на пэўныя думкі. І цяпер нейк проста нялоўка было заходзіць, бо адразу кінецца ўсім у вочы, што ён пашоў да Андрэевых. Як гэта раней ня прыняў ён пад увагу?

Сьцёпка трохі падумаў.

Ні да чаго пэўнага не дадумаўшыся, вышаў на вуліцу і мерным крокам, як чалавек сталы, пашоў у бок Андрэевай хаты.

Было холадна.

Зайздросны мароз узяў ды пазакрываў лёдам і хрыбусткім сьнегам шыбы на вокнах, асабліва на вокнах тых хат, дзе жывуць дзяўчаты. Але дзяўчаты ўмеюць перахітрыць старога зайздросьніка і гарачым дыханьнем прагрэюць халодныя заслоны, а каго трэба ім пабачыць, то пабачаць.

Як толькі Сьцёпка параўняўся з аднэю хатаю ў сяле і зірнуў на яе мёрзлыя шыбы, ён адразу заўважыў гэта прагрэтае акенечка ў аконцы. Мала гэтага: ён пачуў стук у акенца.

Сьцёпка спыніўся.

Момант—і ў весьнічках паказалася Аленка... Ну, ведаеце, і сэрца застукала мацней у грудзёх у Сьцёпкі.

— Можа ты да нас?—спытала Аленка.

На што яна так запыталася?

Сьцёпка ня ведае, што ёй сказаць на гэта.

Але як не сказаць ёй праўды, калі яна так многа памагла яму разьвязаць нязвычайна трудную задачу.

Усьміхнуўся Сьцёпка і сказаў:

— Ну, але, да вас.

А можа яно лепш было-б сказаць: „Да цябе?“

Бадай што лепей так, як сказаў.

— Ну, здароў-жа, Сьцёпка!

Аленка падала яму руку. Сьцёпка, прызнацца, ня ўжываў гэтага звычаю вітаньня, знаходзячы яго залішне далікатным. Ён няспрытна падаў руку, а яна так слаўна, папрыяцельску паціснула і патрэсла яе.

Увашлі ў хату.

У хаце была адна толькі цётка Ганна, і Сьцёпка, як толькі мог, сказаў ёй вельмі прыветна „дзень добры“.

— Ну, сядай у нас, Сьцёпка,—сказала цётка Ганна, а Аленка латвей паставіла яму заслончык каля стала, і сама села з краю стала насупроць.

— Ты пакажы, Аленка, свае рысункі Сьцёпку.

— Ат, якія там рысункі: Сьцёпка сьмяяцца будзе,—як-бы трошкі засаромілася Аленка.

— Пакажы, пакажы,—папрасіў і Сьцёпка.

Аленка дастала сшытак са сваімі рысункамі. Сьцёпка разглядаў іх уважна, і цётка Ганна падышла паглядзець на іх яшчэ раз, бо яны ёй вельмі падабаліся, а самае важнае тут, гэта тое, што іх нарысавала яе Аленка.

— Слаўныя рысуначкі,—пахваліў Сьцёпка:—гэта ты сама рысавала?

— Сама.

Сьцёпка зьдзівіўся.

— Я такіх напэўне не нарысаваў-бы.

— Да што ты кажаш? Яшчэ лепшыя нарысаваў-бы, каб павучыўся.

— Хіба што, каб павучыўся.

Праўду сказаць, Сьцёпка ня лічыў за навуку гэтае рысаваньне і ня бачыў у ім нічога сур'ёзнага. Вось чаму ён і спытаў:

— А што ў вас праходзіцца з навукі?

— А мы ўсё комплексы распрацоўваем,—важна сказала Аленка.

Беднаму Сьцёпку аж горача стала ад гэтых комплексаў: што гэта яшчэ за навука такая? Ніколі аб іх і ня чуў і ў кнігах нідзе ня вычытаў іх. Пярун бы іх пабіў, і нялоўка яму перад Аленкаю: яна комплексы праходзіць, а ён аб гэтых комплексах ні цэ ні мэ. І што-ж яны, праклятыя, азначаюць? Ці тут некалькі скарочаных і злучаных слоў, накшталт „рабфака?“

У Сьцёпкавых мазгох мільгацяць розныя разгадкі слова: комуністычны лес, компартыйныя лекі... не, нічога ня выходзіць. Але ён не паказвае віду, што не разумее комплексаў. Можа як з далейшае гутаркі выясьніцца. Сьцёпка пускаецца на хітрасьць.

— А жто-ж вы з гэтых... як іх... компексаў праходзіце?

Аленка зірнула на Сьцёпку.

— Як ты сьмешна сказаў: „компексы“—і, як дурная, пачала хіхікаць.

Сьцёпка пачырванеў. Злосьць яго забрала.

— А халера іх ведае, што яны і як яны там. Ня чуў такога паганага слова!

Сьцёпка змушан быў прызнаць сваё паражэньне. Але ён у далейшым адыграецца, бо ў сэрцы яго накіпела. І ён спытаў:

— А якая-ж гэта навука?

Прыбавіць „комплексы“ ён не адважыўся.

— А гэта, бачыш, так. Бярэцца які-небудзь прадмет або якаянебудзь зьява, скажам, „калодзеж“ або „Кастрычнікавая рэволюцыя“ і разглядаецца з усіх бакоў.

— Ну, а як вы калодзеж разглядаеце з усіх бакоў? Выкопваеце яго, як той цыган, з зямлі, ці што?

Сьцёпка стаў на грунт крытыкі, каб хоць гэтым насаліць „комплексам“.

— Не, мы так робім: разьбіраем калодзеж.

— Як, зруб разьбіраеце?

— Да ты дай-жа сказаць. Мы разглядаем, на што патрэбен людзям калодзеж...

— Дык гэта кожнаму дурню вядома,—заўважыў Сьцёпка.

Тут і Аленку трохі забрала.

— А як пападае вада ў зямлю?

— Да вельмі проста. Вада знаходзіцца ў стане вечнага руху. Ад сонца яна паруе, з пары робяцца хмары, з хмар падае дождж. Дажджавая вада застаецца на паверхні зямлі, а часткаю прасачваецца ў зямлю. У зямлі ёсьць такія грунты, дзе вада спыняецца, ня йдзе далей... Але-ж гэта ўсё я ведаю з географіі. А гэтыя вашы, як іх... компасы чаму вучаць?

— А мы ў комплексах усё разам разглядаем: і географію, і гісторыю, і ўсё.—У момант перад Сьцёпкам мільгатнула думка, і ён усьміхнуўся.

— Гэта значыць так: паставілі табе на стол капусту, яечню, кіслае малако, локшыну. Дык вось пазьліваць іх у вадну пасудзіну,—і еж. Глупства гэтыя вашы... комплексы.

Бачыць Аленка, што са Сьцёпкам гаварыць цяжка, што ён проста ўгневан гэтымі комплексамі, бо ня ведае іх. Ну, што-ж з ім спрачацца? Яна гатова не гаварыць аб іх.

Цётка Ганна, тупаючы каля печы, хоць і мала разумела ў гэтай іх гутарцы, але бачыла, што Сьцёпка, мусі быць, проста ў навуцы адстаў. Але ён так загаварыў пра гэты вечны рух вады, што як-бы пачаў верх браць над яе Аленкаю. А як загаманіў яшчэ пра гэтыя стравы, то і ёй стала ясна, што калі-б іх зьмяшаць, як кажа Сьцёпка, то вышла-б нямаведама што. Урэшце, гэта павяло яе на разважаньне, што ў жываце гэтыя стравы ўсё роўна перамяшаюцца-ж, а як перамяшаеш іх у ваднэй пасудзіне, то і есьці ня стаў-бы. Чаму гэта так?

— Цяпер яны мне ясны,—сказаў Сьцёпка.

— Не, ты дарма на іх нападаеш, а вот каб ты прарабіў адзін-другі комплекс, то ты пабачыў-бы, што яны не такія ўжо кепскія.

— Глупства,—махнуў рукой Сьцёпка.

Цётка Ганна вышла з хаты.

— Мы свае газэты пішам,—сказала Аленка.

— Газэты?

— І журналы.

— А што вы там пішаце?

— Усё: апавяданьні, вершы, заметкі розныя, часамі, крытыку на каго-небудзь напішам.

— А хто іх чытае?

— Усе чытаюць. Вывесім газэту на сьцяну—і чытаюць. Я ня раз думала, вот каб ты быў там, вось напісаў-бы—усе чыталі-б і сьмяяліся

Сьцёпку гэта заметна кранула.

Аленка трошачкі замялася.

— І я, Сьцёпка, пішу ў газэтах і журналах.

— Ну, ты каб адстала,—заўважыў Сьцёпка.

Як разумець яго словы?

Трошачкі памаўчалі.

— А што ты пісала?

Аленка на момант замялася.

— Вершы.

Тут Сьцёпка і вочы вырачыў. Ён пачуў новую конкурэнцыю.

— Можа ты пачытаеш?

Для Аленкі была вялікая спакуса прачытаць той верш, але адвагі не хватала.

— У мяне іх тут няма,—салгала яна.

— Шкада. А можа ты на памяць ведаеш?

— Ну, дай падумаю.

Аленка стала думаць.

— Ну, вось.

Яна апусьціла галоўку і стала чытаць па памяці.

„Як я цябе люблю,
Хай скажа гэта сонца,
Што раніцай на небе узышло
І, цалуючы прыроду ўсю лучамі,
Душу маю абаграло.
Як я цябе люблю,
Хай скажа гэты вецер,
Што ласкава калыша васількі,
Хай скажуць птушкі, што пяюць
Мне песьні роднай стараны.
Як я цябе люблю,
Хай скажа гэта ніва,
Што узрасла на роднай зямлі
І цяжкі каласы схіляе,
Ціхенька шэпча ў начы.
Як я цябе люблю,
Хай скажа рэчка гэта,
Што хвалямі у даль бяжыць...
Хай скажа песьняй салавей,
Хто так табою даражыць“.

І поэтка і яе слухач у часе дэклямаваньня адчувалі сябе „нейк няловка“. Дэклямуючы, Аленка думала, што Сьцёпка запытае, каго яна мае на ўвазе ў гэтым вершы. А Сьцёпка, слухаючы, адчуваў зайздрасьць да самой поэткі, бо яна, на яго погляд, напісала вельмі добры верш, і

яшчэ большую зайздрасьць адчуваў да таго, каму верш прызначаўся.

Аленка нясьмела зірнула на Сьцёпку. Сьцёпка сядзеў, угнуўшы галаву.

— Калі гэта ты напісала, то вельмі добра. Вельмі добра,—сказаў Сьцёпка.

## X

Эх, і слаўныя гэтыя летнія ночы!

Здаецца, дзеля таго толькі і сходзяць яны на зямлю, каб паказаць, што ў цёмнай цішыні ёсьць і поэзія, і хараство. А можа яны проста толькі баламуткі: прыдуць, разальлюць хмеліва чар сваіх, закруцяць, замуцяць цябе, закружаць галаву, нямаведама чаго наабяцаюць, тысячы ўсякіх спакус прынясуць табе і чорт ведае на якія ўчынкі падбухтораць... Эх, ночы, хмельныя летнія ночы!

Сьцёпка вышаў на вуліцу. Цёмныя, нізкія хаты пад саламянымі стрэхамі яшчэ ніжэй туліліся да зямлі. Дзесь на другім канцы вуліцы малады дзявочы голас, як тонкі срэбраны званочак, прарэзваў цёплую цішыню летняе ночы:

„Я пастаўлю самавар,
Залатыя трубы,
А ў заборцаўскіх хлапцоў
Навыварат губы“.

Песьня раптам абарвалася. Выбух дружнага маладога сьмеху. Дзявочы піск, крык. Відаць, хлопцы зрабілі налёт, бо іх грубыя галасы пачуліся з таго канца вуліцы, пераплятаючыся з звонкімі галасамі дзяўчат, і зьліліся ў віхор разудалага шуму жыцьця.

Сьцёпка ў няясным парываньні яшчэ неразгорнутых маладых крыльляў адчуваў патрэбу выявіць сябе хоць чым-небудзь у гэтую ноч. Яго цягнуў вір сельскага шуму. Было нейк і смутна на сэрцы. Хацелася кудысь пайсьці, нешта зрабіць, адным словам, паказаць, што на сьвеце ёсьць Сьцёпка, каб гэты сьвет зьвярнуў на яго ўвагу. Але ў тым віры яму ня месца: яго, падростка, спаткалі-б там зьняважліва. Ды ці гэта яго дарога? Яму засталося колькі дзён да паступленьня на рабфак. У яго яшчэ ня ўсе дакуманты сабраны. Яму трэба заручка „комсамольскай ячэйкі“: бяз гэтае заручкі вельмі лёгка можна праваронiць усю вучоную кар'еру. І невядома, што яшчэ ячэйка скажа яму. Справа ў тым, што сакратар ячэйкі, Макар Лагун, ужо ня раз казаў Сьцёпку, чаму ён не ў ячэйцы, чаму ня ходзіць на яе сходкі і чаму ня выявіўся нічым, як бязбожнік. Сьцёпка нічога ня мае проціў комсамольства, ён нават і запісаўся-б у комсамол, каб яму ня трэба было гатавацца да рабфаку. І гэта яшчэ-б поўбяды: часу знайсьці можна-б было, але бацька Сьцёпкаў сказаў раз:

— Калі ты, гад, пойдзеш проці бога, то я з цябе скуру злуплю. А запішашся ў комсамол, дык дадому не яўляйся.

Не хацелася Сьцёпку з бацькам сварыцца.

Перш за ўсё, гэта сварка сама па сабе няпрыемна; затым, пасварыся з бацькам—не спадзявайся бацькавай дапамогі. А Сьцёпку так хацелася вучыцца.

У часе глыбокага Сьцёпкавага разважаньня па вуліцы прасунуліся дзьве чорныя постаці. Сьцёпка пазнаў іх адразу: гэта былі—Макар Лагун, сакратар ячэйкі, і Мікітка Дудзік, таксама комсамолец.

— Гэй!—аклікнуў іх Сьцёпка.

Хлопцы спыніліся.

— Куды йдзіцё?

— На наш сход,—адказаў Макар.

— А мне можна з вамі?

Хлопцы як-бы трохі замяліся. У іх будзе нарада, як павясьці змаганьне „з рэлігійным дурманам“. У іх Заборцах якраз заўтра фэст. На „іспаса“ кожны год наяжджае сюды з суседніх сёл і хутароў многа народу. Дык ці добра дапускаць на такое паважнае і экстранае сабраньне ячэйкі пастаронніх?

А ўрэшце, чаму-ж бы Сьцёпку і не пабыць там? Няхай уцягваецца, а карысьць з яго будзе: Сьцёпка самы вучоны паміж іх хлопец.

— Думаю, што можна,—сказаў Макар.

— Ды можна,—даў згоду і Мікітка.

І трое хлопцаў пасунулі па цёмнай вуліцы Заборцаў.

XI

Сходка адбывалася ў каморы старшыні ячэйкі. Кандрата Гугі. Кандрат Гуга быў больш-менш незалежным гаспадаром у сваім доме. Маці яго, бедная ўдава, ня ўмешвалася ў справы свайго сына. У іх было трохі зямлі, але самі на зямлі не працавалі—ніяк не маглі на каня ўзьбіцца, і зямлю прыходзілася аддаваць на палавіну.

На сходцы было пастаўлена пытаньне, якім спосабам выявіць заўтра антырэлігійную пропаганду. Гутарак і спрэчак гэтае пытаньне выклікала многа. Многа было і розных пропозыцый.

Сьцёпка маўчаў і слухаў.

— Дайце мне сказаць,—папрасіў ён слова.

Шумлівы комсамольскі сход адразу сьціх. Усе хлопцы павярнул галавы на Сьцёпку.

— Самае лепшае, што можна зрабіць на заўтрашні дзень,—гэта пайсьці да „сьвятога калодзежа“, зьняць крыж і зьнесьці адтуль „фігурку“ Прыдуць папы маліцца, а там нічога ня будзе.

Самому Сьцёпку паказалася сьмешным папоўскае зьдзіўленьне, кал пабачаць яны, што там нічога няма.

Комсамольцы—а іх было чалавек восем—дружна зарагаталі і запляскалі Сьцёпку.

Сьцёпкава пропозыцыя была прынята аднагалосна, і ўсе хлопцы. а з імі і Сьцёпка, пашлі да „сьвятога калодзежа“.

Ціха йшлі хлопцы па пустой вуліцы Заборцаў. Дзявочыя песьні даўно змоўклі, і вёска спала моцным сялянскім сном.

Вышлі ў поле: „сьвяты калодзеж“ быў ад сяла вярсты, за паўтары. Стаяў ён у надзвычайна прыгожым месцы пад нявысокаю горкаю. Гэтая горка досыць крута спускалася ў глыбокую мурожную даліну, на другі бок каторай стаялі дубы-волаты. З горкі выбівалася чыстая, бы крышталь, крынічка. Прабегшы некалькі дзесяткаў сажняў краем даліны, крынічка зноў хавалася ў зямлю. І толькі буйная сакавітая трава зялёным шырокім кустом разрасталася на месцы зьніканьня крынічкі.

Трошкі вышэй, у тым пункце, дзе крынічка, дабегшы да даліны, рабіла паваротак управа, перасякаліся дзьве дарогі: на Загор'е і на Трасьцянку. На гэтым перасеку дарог і быў „сьвяты калодзеж“.

За апошнія гады калодзеж трохі заняпаў. Драўляны зруб яго пачарнеў і падгніў зьнізу. Высокі крыж з расьпяцьцем хіліўся на бок.

Пачарнеў і пагнуўся дашок на чатырох слупкох над крыжам. Сівая старажытнасьць захавала яшчэ свой сьлед каля „сьвятога калодзежа“, і дух глыбокай старасьвецкасьці веяў над гэтаю збуцьвелаю „фігуркаю“.

Маладыя бязбожнікі спыніліся каля „фігуркі“. Маўклівая чорная ноч агортвала мрокам зямлю. Было ціха. Дзесь у лузе над рэчкаю нейкая бяссонная ці патрывожаная пташка закрычала два разы: „кі-і-і-вік, кі-і-і-вік“ і змоўкла.

— Ну, хлопцы,—сказаў Мікітка Дудзік:—давайце рабіць сухоты папу.

Мікітка першы памацаваў зруб „сьвятога калодзежа“.

— Падаецца, браткі,—радасна прамовіў ён.

— А ну, возьмемся комунальна,—скамандваў Макар.

Рванулі гуртам. Здрыгануўся падгнілы зруб, за другім разам адарваўся зусім і, пад сьмех бязбожнікаў, перакуліўся нізам дагары.

— Занесьці яго куды-небудзь,—сказаў Гуга.

— Занясем у кусты. Ну, бярэцеся!

Раман Аўсейчык, Цішка Гулак, Сьцёпка і Мікітка паднялі зруб і панесьлі. Адышліся крокаў дзесяць, песьню засьпявалі:

„А мой-жа ж ты, Мікалаю,
Дзе-ж я цябе пахаваю.
Пахаваю пад вярбою
Ды паплачу над табою“.

Старшыня з сакратаром і яшчэ тры хлопцы гэтым часам завіхаліся каля крыжа. Крыж хістаўся, але стаяў яшчэ моцна. Агульнымі сіламі расківаўшы крыж, узьнялі яго, зрушылі з месца. Крыж моцна нахіліўся, прыгнуўся над зямлёю. Вярнуліся другія хлопцы і гуртам паваліլі яго на зямлю.

Ноч яшчэ больш пацямнела. З захаду надыходзіла вялізарная хмара. Паблісквала маланка, нібы дзесь над берагам зямлі павейваў агнявы віхор, ціха пагойдваючы зацяты мрок ночы. З пярэдняе грамады хмар выкаціўся кучаравы цёмна-палавы клуб, грозны і страшны. З яго калматай галавы бліснула яркая, чырвона-крывавая бліскавіца. На адно мгненьне з цёмнага мроку вынікла—„сьвяты калодзеж", як чорная дзірка ў зямлі, група захопленых работаю хлопцаў і крыж, паваленьі на зямлю. Сьцёпку кінулася ў вочы дзервяное расьпяцьце, выразанае рукамі невядомага разьбяра. Адна рука „фігуркі" была зломана. Гэтае расьпяцьце, відаць, угледзіў Мікітка Дудзік. Ён намацаў яго рукамі.

— Годзі табе памагаць папом чмуціць тут людзей,—сказаў Мікітка пачаў зрываць расьпяцьце з крыжа.

Крыж завалаклі на той бок даліны і кінулі ў тоўстых дубох.

Праз поўгадзіны паліўся дождж.

Бязбожнікі кончылі сваю работу і пашлі дамоў. Каля „сьвятога калодзежа" было цяпер пустое месца.

XII.

Расчасаўшы бараду і паднядзеліўшыся, як і належыць у такі ўрачысты дзень, заборцаўскі поп накіраваўся на цьвінтар, каб пачаць раньнюю службу. Цяжка жылося цяпер а. Ціту. Народ адкаснуўся ад царквы, даходу было мала і разгону аніякага. Сядзі цішком, як-бы цябе і на сьвеце няма. Можа сёньня каля „сьвятога калодзежа" ці не палапіцца трохі. Лета было добрае, пагода спрыяла ўраджаю і рабоце. Народ падхадзіўся. Фрукты і розныя плады пасьпелі.

А ў ночы і дождж прашоў добры. Неба яснае, пагода адлічная,—усё гэта хіліла думкі а. Ціта ў найлепшы бок. І калі ён уваходзіў на цьвінтар, то паціхеньку пасьпеўваў 103-ці псальм:

„Благослави, душе моя го-о-о-о-о-о-спода".

Падняўшы галаву, а. Ціт раптам зарваў свае сьвятыя сьпевы: на цьвінтары каля царкоўных усходаў стаяў „папячыцель", Язэп Дзыгун. Відаць, ён чакаў тут бацюшку, каб сказаць яму нешта, вельмі важнае. Від у „папячыцеля" быў заклапочаны.

— А ці ведаеш, бацюшка, што?

Ад тону гэтага пытаньня павеяла страхам. А. Ціт стаяў, як слуп.

— А што такое, Язэп?

— Разбурылі, бацюшка, „сьвяты калодзеж" і „фігурку".

А. Ціт ад нечаканасьці аж назад адкінуўся.

— Ня можа быць,—здушаным голасам выкрыкнуў ён, а на твары яго адбіўся жах.

— Усё паламалі і пазносілі, каб іх хвароба паламала і самых на могілкі пазаносіла! Вось паглядзеце, бацюшка, што зрабілі паскуднікі.

Язэп Дзыгун дастаў з-за пазухі кусок пасівелага дрэва ад рукі „фігуркі".

А. Ціт узяў гэты кусочак дрэва, паглядзеў на яго і, трасучы галавою, прамовіў:

— Госпадзі многаміласьцівы! дакуль тваё доўгацярпеньне... Сволачы, сволачы. Сукіны, сукіны сыны... „Осквернены олтари твои, господи сил“... Прахвосты, прахвосты. Ляснула процэсія...

Пятрусь Кравец, званар, сядзеў на званіцы, дзержучы ў руках вяроўку, і зрэдка біў у звон ды прыслухваўся да гутаркі „папячыцеля“ з а. Цітам. Гэтае здарэньне са „сьвятым калодзежам“ яму было ўжо вядома.

А. Ціт падняў вочы на званіцу і сярдзіта падаў рукою знак Пятрусю-званару.

— Кінь званіць!—у абурэньні крыкнуў яму а. Ціт і ціха дадаў:—Н чорта лысага ня вызваніш там.

Пятрусь выпусьціў з рук вяроўку і зьлез са званіцы.

— Служыць, бацюшка, трэба,—нясьмела сказаў „папячыцель“.

А. Ціт махнуў рукою.

— Ї праўдзіва прыказка:—згадзілі абедню, спаскудзілі, шэльмы!—ня мог супакоіцца а. Ціт.

Да іх далучылася некалькі мужчын. Кучка жанок стаяла асобна. Старэнькія бабкі гаротна ківалі галовамі і цяжка ўздыхалі.

— Божачкі, божачкі, якая распуста пашла!

Ї каля царквы і на сяле вяліся гутаркі аб злачынстве, і разам з гэтым рабілася саматужнае сьледзтва. Ўсе вінаватыя былі выяўлены. Нават беднага Сьцёпку падгледзіла чыёсь зоркае вока.

— Расколы, расколы,—трос галавою дзед Марцін:—ня хочаш ты богу маліцца, маліся чорту лысаму, але навошта гэты зьдзек над сьвятыняю?

— Параспускаліся, гадаўё, як старэцкія пугі. Палавіць-бы, разбойнікаў, ды галовы паадкручваць к чортавай матары—тыды асьцярагаліся-б,—сказаў нізенькі Пятрусь-званар.

Калі выявіўся дух опозыцыі проціў бязбожнікаў, а. Ціт адмяніў свой загад не званіць. Пятрусь Кравец зноў палез на званіцу. А. Ціт пашоў служыць абедню. У часе службы яму сказалі, што крыж паставілі новы, і такім чынам процэсія павінна адбыцца.

Скончыўшы службу і падлічыўшы даходы, а. Ціт зьзяў, як тое сонца. З хрысьціянскаю пакорлівасьцю ён гатоў быў цяпер памаліцца за бязбожнікаў. Ї тым ня меней, спаткаўшы Міхайлу Баруту, Сьцёпкавага бацьку, ён сказаў:

— Добрага сынка маеш, Міхале.

## XIII

Вярнуўся Сьцёпка з паходу на досьвеце, ціхенька адчыніў адрынку, дзе спалі двое меншых яго братоў, Алесь і Юрка, і, не разьдзяючыся, мокры да ніткі, залез пад коўдру. Лежачы, разважаў аб падзеях гэтае ночы і аб выніках гэтых падзей. Сьцёпка адчуваў, што ён пераступіў

нейкі нязвычайна важны рубеж. Тыя мысьлі, што вынікалі цяпер, яшчэ некалькі гадзін таму назад былі яму зусім незнаёмы, і сам ён у той час быў другім чалавекам. А ў вогуле-ж было такі няпрыемна. Праўда, Сьцёпка стараўся ўпэўніць сябе, што нічога благога ў яго паступку ня было. Ніякага бога няма, так цяпер усюды па школах кажуць, аб гэтым лекцыі чытаюць, аб гэтым па мітынгах крычаць. Бог, рай, той сьвет— усё гэта выдумкі, каб дзяржаць народ у страху і паслушэнстве.

Сьцёпка сагрэўся пад коўдраю і заснуў моцным сном. Ён спаў тады, калі на сяле пранеслася нязвычайная навіна. Яго бацька яшчэ раненька паехаў да вол'іспалкому па сваёй гаспадарскай справе.

Сьцёпку ўжо разы два будзілі яго браты. І толькі калі маці дачулася, што і яе Сьцёпка мае нейкае дачыненьне да „сьвятога калодзежа“, яна сама пашла ў адрынку і за справу абуджэньня ўзялася належным чынам.

— Дзе ты быў у ночы, гад ты?

Сон Сьцёпкаў прашоў у момант. Па тону пытаньня ён пачуў, што на яго насоўваецца нейкая навала. Пачухваючы чупрыну, Сьцёпка прыкінуўся, што нічога ня цяміць, а сам думае, як адказаць мацеры, якую наогул выбраць лінію павядзеньня, і дзівіцца, што так скора раскрылася іх бязбожніцкая дзейнасьць.

— Дзе ты быў і што ты рабіў у ночы, пытаюся?

— Нідзе ня быў!—груба адказвае Сьцёпка, сеўшы на пасьцелі.

— Праўду кажы, абібок!—насядае маці.

— Чаго ты расхадзілася, як тая квахтуха?!. Дзе быў?—гуляў з хлопцамі.

— І не разьдзяваўся, валяч нягодны!.. Кажы, быў каля „сьвятога калодзежа?“

— Ці раз я там быў,—спакойна адказвае Сьцёпка.

— Ды ты мне зубы не загаварвай, бамбіза...

Маці траціць усякае цярпеньне.

— Прызнавайся, гад, што рабіў каля „сьвятога калодзежа“?

Узяўшы пэўны тон, Сьцёпка вядзе яго і далей. І цяпер ён ужо так кажа:

— Што рабіў? комплексы і сухоты папу.

Маці аж чырванее ад злосьці: выяўна насьмяхаецца з мацеры, гіцаль. Яна ў абурэньні кідаецца на сына і таўчэ яго ў бок.

Сьцёпка таксама ўваходзіць у злосьць, але стрымлівае сябе і, каб больш дапячы мацеры, сьмяецца і кажа:

— Вось якраз тут сьвярбела, а ты мне пачухала.

— Гэрад ты, бязбожнік, кат. І ты катаваў Язуса, ручачку зламаў яму, а цяпер мяне ты катуеш... Ня будзе-ж табе дабра...—жорсткія словы кідала яму маці.

Сьцёпку няпрыемна было слухаць гэта, але тон вытрімлівае да канца, і калі маці пагразіла яму страшнымі карамі на тым сьвеце і на гэтым і, плачучы, выходзіла з адрынкі, ён кажа ёй:

— Заплакала, падумаеш—продналог за цябе аддаў Езус твой!

Сьцепка астаўся ў адрынцы адзін. Да сьлёз матку давёў. Э, да ўсё ўжо роўна.

Ён падняўся, вышаў з адрынкі, пастаяў трохі на прыгуменьні, а потым пералез цераз засаўкі і пасунуўся ў поле.

XIV

Адно для Сьцёпкі было ясна: цяпер ён за парогам бацькавай хаты. Таго, што зрабілася, назад не адробіш. Але трэба было нешта прыдумаць, знайсьці выхад з гэтага стану.

Ён адышоўся вярсты дзьве ад сяла, сеў на камень каля хвойніку і стаў думаць. Зайсьці яму дадому ці лепей на вочы бацьку не паказвацца, бо ўсё роўна бацька яго прагоніць? І яшчэ думаў Сьцёпка аб горадзе. Горад далёка—каля ста, а можа і сто вёрст з хвосьцікам. Па машыне не паедзеш: дзе грошы ўзяць? Астаецца адно: пяхотам па шпалах. Хоць можа і далей, але па чыгунцы ня зблудзіш. На дарогу трэба прыкінуць тры дні часу. Астаецца два вольных дні. Дакументы, праўда ёсьць. Вось толькі ад ячэйкі ўзяць пасьведчаньне. Яго цяпер напэўна дадуць з ахвотаю. Але ці браць яго? Пасьля ўсяго таго, што здарылася, гэтае пасьведчаньне ня хіліць яго. Яно набывае характар нейкага дакору. Успомніў ён матку сваю. За што пакрыўдзіў яе?.. А ў горадзе дзе ён прыткнецца? Гораду ён ніколі ня бачыў. У яго ўяўленьні горад прадстаўляецца нейкім бясформенным відам, дзе лёгка прапасьці.

Сьцёпка падняў вочы ў бок сяла і стаў углядацца: па іржышчы борзда да яго рухаліся дзьве фігуркі вясковых хлопцаў. Гэта былі яго меншыя браты, Алесь і Юрка. Алесь бег бяз шапкі, шапка была ў руцэ. Відаць, Алесь штосьь нёс у шапцы. Калі браты дабеглі да Сьцёпкі, то яны моцна затаміліся ад шпаркага бегу, але твары іх былі вясёлыя. Яны былі рады, што знашлі Сьцёпку. У шапцы аказаліся дзьве грэцкія пухаўныя аладкі, зложаныя папалам, а між іх была досыць дзябёлая скварка.

Сьцёпка павесялеў, убачыўшы братоў. Можа з тае прычыны, што ён быў у такім адзіноцтве.

— Гэта вы самі іх узялі?

— Не,—адказалі браты.

— Маці дала?

— Не.

— Дык скуль-жа вы ўзялі іх?

— Аленка Андрэевых прыслала,—разам сказалі хлопцы.

Для Сьцёпкі гэта было поўнаю нечаканасьцю, і ён пранікся нязвычайнаю падзякаю да Аленкі. У ім узьнікае моцнае жаданьне паба-

чыць Аленку і падзякаваць ёй за гэта. Аленцы асталося пабыць апошні год у сямігодцы, і яна скора паедзе. Калі сёньня-заўтра не пабачыць яе, то калі сустрэне яе і ці сустрэне?

Сьцёпку хочацца распытаць аб Аленцы, але яму было трохі нейк сорамна. І усё-ж такі ён запытаўся:

— А дзе-ж вы яе бачылі?

— Яна сустрэла мяне на вуліцы,—сказаў Алесь:—і спытала, дзе ты і што з табою было... Комсамольцы, брат, паўцякалі—біць іх хацелі.

— А бацька прыехаў?

— Прыехаў.

— А ён ведае... пра „сьвяты калодзеж“?

— Маці сказала, і ўсе сказалі.

— А ён што?

— Нічога. Сярдзіты.

Сьцёпка адламаў кусок аладкі і стаў есьці.

— Можа вы па кусочку зьелі-б?

— Не,—разам адказалі меншыя браты і галовамі затрэсьлі.

Сьцёпка падзакусіў, распытаўся аб вясковых навінах.

— А ты, Сьцёпка, дадому прыдзеш?—запытаў Юрка.

Алесь і Юрка ўставілі вочы ў Сьцёпку і чакалі, што ён скажа.

— Сёньня я дома начаваць ня буду. Заўтра прыду—не надоўга, але прыду. Так і скажэце дома бацьком.

— А дзе-ж ты начаваць будзеш?

— Глупства! зайду дзе-небудзь у клуню і пераначую ў сене.

Алесь і Юрка заспакоіліся.

Усе тры браты змоўклі. Кожны штось думаў сам сабе.

— Ну, мы пойдзем дадому,—нарушыў гэтую маўклівасьць Юрка.

— Ідзеце, ідзеце,—азваўся Сьцёпка:—бо ўжо вечар. Вось што, браткі калі ўбачыце Макарку Лагуновых, то няхай ён мне паперку напіша—ён ведае, якую... Не, лепш ня трэба—абыйдзецца.

Сьцёпка крыху замяўся.

— Пабачыце Аленку, падзякуйце яе ад мяне за аладкі.—І, памаўчаўшы яшчэ, сказаў, ня гледзячы братом у вочы:

— Я заўтра буду ў Рэмусавай луцэ,—з раніцы, калі раса ападзе. Скажэце Аленцы, няхай яна прыдзе туды... ну, кнігу мне прынясе. А вы мяне ня шукайце: я сам прыду дадому.

— Добра,—сказалі браты.

На гэтым яны разышліся.

## XV

Раненька вышаў Сьцёпка з Дзямянавай клуні. Прашоў загуменьнем у хвойнік, павярнуў і хвайнякамі пашыбаваў у Рэмусаву луку. Выбраў там добрую позыцыю і стаў чакаць Аленку.

Сонца падымалася нейк марудна, раса ападала паволі. Можа яна ў гэтую раніцу ападала-б і вельмі доўга, каб Аленка ня прышла раней тэрміну.

Сьцёпка заменіў яе здалёк. Ішла яна борзьдзенька, паглядаючы па бакох. Цяпер яна была ўжо ладненькая дзяўчынка на шаснаццатым годзе. Яна ведала, што на яе пачынаюць заглядацца, і гэта надавала ёй пэўнай гордасьці.

Добраю, прыветнаю ўсьмешкаю спаткала яна Сьцёпку.

— Ну, як маешся, богаборац?

Як зразумець такое прывітаньне?

Няўжо-ж і яна процiў яго?

Але Сьцёпка даведаецца з далейшае гутаркі.

Ён хоча захаваць сур'ёзнасьць, нават значную жорсткасьць, як і належыць усякаму, хто пашоў адзін процiў ўсіх. І ён панура адказвае:

— Да вось, цягаюся, як воўк, адзін.

— Бедны ты, Сьцёпка, мне так цябе шкада.

Сьцёпку з аднаго боку прыемна, што Аленка пашкадавала яго, але калі на справу глянуць з пункту гэройскасьці, то гэтае шкадаваньне траціць усякаю цану, і яно тут зусім не на месцы. Ён выступіў процiў бога і процiў людзей, а яго шкадуюць. Не шкадаваць—спачуваць толькі можна тут. І нават учарашнія грэцкія аладкі, што прыслала яму Аленка, паказваюцца цяпер Сьцёпку да некаторай ступені абразаю для яго бунтарскага духу.

І Сьцёпка адказвае:

— А чаго тут шкадаваць, Прапашчы я, ці што? І ўміраць яшчэ я ня зьбіраюся.

Гаворыць Сьцёпка і на Аленку не глядзіць, каб па вачох яго не пазнала, што ён трохі туману напускае.

— А што-ж ты далей рабіць будзеш?

У Сьцёпкі ёсьць адказ і на гэтае пытаньне, але ён хоча фасон дзяржаць і трагічна заяўляе:

— У бандыты пайду.

Аленцы страшна робіцца ад гэтых слоў. Яна пужліва глядзіць на Сьцёпку, а Сьцёпка на Аленку зірнуў. Ён бачыць, што ў яе прыгожыя бровы і такія слаўныя вочы, як-бы ён іх першы раз убачыў. Ад гэтага погляду Аленчын страх праходзіць. Яна адгадвае больш, чым ён сказаць ёй хоча.

— А каго-ж ты забіваць будзеш?—Умее прыкінуцца і Аленка.

А Сьцёпка і не падумаў, каго-ж, і праўда, забіваць ён будзе.

— Тых, хто ўпоперак дарогі мне стане,—яшчэ больш панура адказвае Сьцёпка.

Аленка перамагае ўсьмешку, гатовую закрасаваць на яе сьвежанькіх губках. Хіліць троха на бок русавую галоўку і пытае:

— Ну, а калі-б я стала ўпоперак твае дарогі?

Аленка стараецца захаваць сур'ёзнасьць, губкі яе строгі, а ў вачох сьмех руніць.

Мімаволі і Сьцёпкавы губы расчыняюцца для сьмеху. Ну, што-ж бы яму рабіць з ёю, каб яна яму ўпоперак дарогі стала? І ня гэта хацеў сказаць Сьцёпка Аленцы. Ён чуе фальшывы тон, які ён сам даў іх гутарцы. І ці можна думаць, што Аленка проціў яго, калі яна прышла сюды.

А Аленка весела засьмяялася, зрывае з яго галавы шапку, кудлачыць яму валасы.

— Ой, які-ж ты, Сьцёпка, сьмешны! А ці ты ведаеш, што каля „сьвятога калодзежа“ паставілі новы крыж? І зруб новы паставяць. А каб вы не чапалі яго, то ён. напэўна, збуцьвеў-бы там, і ніхто-б яго не аднаўляў. Ну, і што-ж вышла? Твой бацька казаў пры людзях, што ня пусьціць цябе ў дом.

Апошнія словы балюча кальнулі Сьцёпку, хоць гэтага ён і спадзяваўся ад бацькі.

Аленка глядзіць на Сьцёпку спачувальна.

— Трэба падумаць, што рабіць табе.

— Я ўжо думаў. Сёньня я пайду ў Менск.

— Пяхотам?

— Так, на сваёй пары паеду.

Аленка засмучана апускае галаву.

— Ну, а як-жа... А грошы ў цябе ёсьць?

Бяз грошай пайду.

— А дадому ты зойдзеш?

— Зайду.

Аленка штось думае.

— Ня пусьціць цябе бацька—прагоніць.

— Вось дзеля гэтага я і пайду, бо калі не зайду, то выйдзе, што я сам кінуў бацькоў.

— А ты як-небудзь паладзь з бацькам.

— Потым паладзім, а цяпер ладу ня будзе.

— Як гэта ўсё нядобра зрабілася,—прамовіла Аленка.

— А што-ж тут нядобрага? Разбурылі ўсё і ніякі бог не пакараў. А што з старымі нелады вышлі—глупства, паладзім.

Некаторы час Аленка і Сьцёпка маўчалі.

— Ну, што, Аленка: пойдзем,—сказаў Сьцёпка.

Прашлі яны хвойнікам, баравікоў трохі знашлі, а недалёка ад сяла разьвіталіся.

Аленка пашла адна. Канцы расплеценых кос на ветры калыхаліся Сьцёпка глядзеў на яе, каля хвойніку стаяў. Аленка прашла крокаў дваццаць, азірнулася і сказала:

— А той верш гэта я пра цябе напісала.

І не азіраючыся болей, борзда-борзда ў сяло пашла.

---

Счакаўшы некаторы час, пашоў і Сьцёпка. Перелез цераз засаўкі і з пругменьня ў хату пашоў.

А бацька чакаў яго ў хаце—меншыя сыны папярэдзілі. Строгі і цьвёрды чалавек Міхайла Барута, але трохі затраслося ў ім, калі непакорны бацькавай волі сын на парозе паказаўся. А маці за хвіліну перад гэтым маліла яго не рабіць калатні.

Пераступіў парог Сьцёпка, шапку зьняў.

„Прасіцца будзе",—думае Міхайла, і гнеў, што быў улёгся ў ім зноў пачаў падымацца. Спакойна запытаў сына:

— У комсамол запісаўся?

— Не, не запісаўся,—сьмела зірнуўшы ў вочы бацьку адказвае Сьцёпка.

— А бацьку ты паслухаў?

На гэта пытаньне Сьцёпка прамаўчаў.

— А проціў бога ты не пашоў?

— З богам вышлі нелады.

— Дык чаго табе трэба?

— Пачуць ад цябе, што ты мяне выгнаў.

Такога адказу бацька ніяк не чакаў. Чуе бацька, што сын адольваць яго пачынае.

— Ты сам сябе выгнаў,—кажа бацька, і сэрца яго баліць па сыне.

Сьцёпка зьбірае свае сякія-такія рэчы, дакуманты.

— Куды зьбіраешся?—пытае Міхайла.

— Пайду навукі шукаць, на рабфак ці не паступлю.

Прыпамінаецца Сьцёпку яго размова з бацькам аб рабфаку.

— Ну, ідзі, павучыся: паразумнець табе трэба,—спакойна адзываецца бацька.

Слухае маці і нічога ня яміць, як-бы ёй розум засланіла.

Сьцёпка нешта хоча ўзяць, але не адважваецца—ці варта. Хлеба ў людзей папросіць.

Бацька маўчыць, на покуць пазірае.

Маўчаць, баязьліва паглядаюць Алесь і Юрка.

Сьцёпка сабраўся. Ідзе,—спыняецца каля дзьвярэй, акідае поглядам хату.

— Ну, то бывайце здаровы.

Ніхто нічога ня кажа яму.

Сьцёпка ступае крок, на парозе затрымліваецца.

— Я, мама, вінаваты перад табою... Ну, да ты ня гневайся.

Маці кідаецца да яго, кладзе яму на плечы рукі, а галавою да грудзей прынікае...

Плача ў голас і Юрка. Алесь крэпіцца, маўчыць зацята, зрэдка на бацьку ваўчком паглядае.

На вуліцы перад акном людзі зьбіраюцца.

— Адстань ты ад яго—прыліпла!—крычыць на жонку Міхайла.

Сьцёпка вызваляецца з матчыных рук. Выходзіць на вуліцу. Яму няма чаго людзей сароміцца. Пазіраюць людзі на Сьцёпку, а ён высока падняў галаву, глядзіць на сваю дарогу.

— Куды-ж гэта ты?—пытае нейчы голас.

Сьцёпка не абарочваецца, кідае на хаду:

— Рабіць новы зруб на новы калодзеж.

Міхайла Барута за сталом сядзіць.

На вуліцу праз аконца глянуў.

Дзьве сьлязы з вачэй выкаціліся. Выкаціліся і высахлі.

— Добры хлопец!—кажа ён сам сабе і потым дадае:

— І чорт яго ня возьме.

# НА КРЭСАХ[1])

**Алесь Гародня**

РАЗЬДЗЕЛ VI

**Абвінавачаны прызнаўся?**

* * *

Вось ужо другі дзень, як Янэк Глямбоўскі прыкомандыраваны да варты ў астрог.

Два дні ён ходзіць, як ачумелы.

Два дні ня можа сабрацца з думкамі.

Мазгі варочаюцца, як жорны ў ручным млыне.

Борзда-борзда.

Траскуча.

Цікава:

Ці-ж памятае ён яшчэ казаньні красамоўцы-ксяндза з касьцёлу ў роднай вёсцы?

Ці гэтак сама, як даўней, мае ён натхненьне служыць на карысьць „нявесты хрыстусовай“—маткі „сьвентэй ойчызны,“—у якой пануюць: бог, праўда, справядлівасьць?

Ці не разьвеяўся яшчэ ў яго маладой галаве дурман, навеяны красамоўствам айца Канарскага?

* * *

У першы-ж дзень Янэк заняў пост у калідоры. З каморы № 9 быў чуцён ціхі стогн.

Там на гнілой, вільготнай падлозе, у гразі, ляжаў настаўнік з Пяшчанкі.

Першым парадкам Янэк увашоў да яго і, падняўшы рукамі яго гарачую галаву, уліў яму ў горла некалькі глыткоў чыстае сьцюдзёнае вады.

Потым—

пашоў глядзець, што робіцца ў іншых каморах.

* * *

У вечары—прышла зьмена.

Янэк пашоў да хаты,

лёг на ложка,

але ня мог заснуць.

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 6.

Бо ў начной цемры ўвесь час здаваліся яму:
стогны замучаных арыштантаў,
пах гарэлага чалавечага мяса,
сьвіст бізуноў,
заравы пажараў,
буханьне вінтовак,
п'яны разгул,
жандарскія рабункі—
і г. д.

Што яшчэ?

Можа хіба заплаканыя, вялізарныя, чорныя вочы дзяўчыны з Дзятлава?

Эх, Янэк, Янэк!

* * *

Тымчасам па бальшаку ехала хурманка. Цяжар яе складаўся з некалькіх мяшкоў, наваленых у задняй палавіне калёс. Што было злажана ў гэтых мяшкох—разглядзець ніяк нельга было. Але між імі было некалькі клуначкаў ня так старанна запакованых і зьвязаных. З іх высоўвалася дзіравая галоўка старых парваных ботаў. Хурман выгодна разьлёгся на мяшкох і ехаў памалу, не сьпяшаючыся.

* * *

Вось ужо і Пяшчанка...
Хурман затрымаў каня на сярэдзіне вуліцы.
Зьлез з возу,
раскілзаў каня,
скруціў цыгарку,
закурыў...

* * *

Па вёсцы панёсься зычны крык.
— А—ну—чы!
—А—ну—чы!
—А—ну—чы!
І ўраз—
з хат пачалі выходзіць:
мужчыны, кабеты,
дзяўчаты, дзеці.
Сяляне несьлі апошнія манаткі:
— Грошы трэба!
у гміну...

* * *

Наўкола анучніка—натоўп.
У паветры—
едкі дым ад тытуну-самасейкі.

Хлапец грае на гармоніку.
Бабы сварацца.
Гутаркі, сьмех.
Адным словам—
паходны сялянскі клюб.

* * *

Быў час, калі анучнік ня толькі што сам купляў у сялян усялякую дрэнь і рваніну.

Не!—
Ён пры сабе вазіў усялякую краму.
Усё, што селяніну патрэбна,—
усё можна было купіць у анучніка.
Ня трэба было і ў мястэчка ехаць.
Хурманка анучніка—
была чымсьці накшталт магазыну Мосторгу...

* * *

Але гэта было даўно.
А цяпер?
Нашто анучніку вазіць з сабою краму, калі:
ніхто,
нідзе,
нічога—
ня купляе?
Дый нашто купляць?
На якія грошы?

Калі апошнія порткі селянін прадае, каб толькі як-небудзь вылезьці з падаткаў.

* * *

Анучнік моўчкі пускаў дым і пляваўся.
Адрыўкамі кідаў словы:
— Больш ня варта.
— Зусім благое.
— Сем грошы.
Сяляне:
гандлявалі.
Сварыліся.
Спрачаліся.
Лаяліся.
Але анучнік іх ня слухаў.

Задуменна стаяў ён, разглядаючы якія-небудзь дзіравыя брудныя спадніцы ці порткі.

На твары застыгла халодная байдужасьць.

А вочы?—

Калі-б ня цёмныя акуляры—не адзін селянін, зьдзіўлена змоўк-бы, пакінуўшы на дарозе да роту руку з цыгаркай і запытаўся-б:

— Чаму яны гэтак цікава бегаюць ва ўсе бакі?

* * *

Гутаркі вярцеліся наўкола сялянскага жыцьця,
ўраджаю,
падаткаў,
падзей апошніх дзён.

* * *

Нейкая баба вельмі шкадавала заарыштаванага настаўніка:

— Добры хлопец!
— І жаласьлівы.
— Каму чым толькі мог—
дапамагаў:

Каму—добрую раду дасьць.

Каму—ліст ці заяву якую напіша.

Каму—сына дарма грамаце вучыў: ня ў кожнага-ж хопіць грошай за дзіця ў школу плаціць.

— Ведама—падаткі.

* * *

— Вольнага часу мала меў.

— Гарэлкі ня піў.

— Скандалаў не заводзіў.

— Толькі й адпачынак яму быў, што на сенажаці, у стагу сена кніжку пачытаць.

— Ці ў вечары пойдзе ў лясок, на гадзінку-другую, на шпацыр.

* * *

— А ў ляску яго з дзяўчынаю бачылі...
— Марылька Лашкевічава,
што з Дзятлава!
— Кахала яна яго!

— Як-жа ёй гэта цяперака...
аднэй,
у самоце...

— А шкада:
добрая дзяўчына!

* * *

Анучнік крыва ўсьміхнуўся.

Торг скончыўся.

— Ну, бывайце здаровы, добрыя людзі!..

Мне трэба пасьпяшацца...

— Паеду ў Шылін...

Можа там нешта куплю...

* * *

Ён закілзаў каня, зьвязаў і паправіў мяшкі на калёсах.

Ускочыў сам на хурманку.

— Ё! Ё! Халера!

* * *

Анучнік выехаў за вёску.

Ад'ехаў з поўвярсты

і—

павярнуў каня ня ў Шылін, але ў другі бок, мінуючы Пяшчанку.

* * *

Асадніцкі фальварак.

Анучнік распрог калёсы, выцягнуў з мяшкоў новыя боты, вопратку, картуз, сядло,—

зашоў у хату, пераадзеўся.

Вышаў, асядлаў каня і—

галопам паляцеў у Картуз-Бярозу.

* * *

Зранку—

даглядчыкі зноў вывелі Васіля на допыт.

Сьледчы ў цывільным сядзеў на сваім месцы.

— Ну, што, Гарбацэвіч, надумаўся?

— Ня варта запірацца.

— Прызнавайся, хто ў цябе быў падручным у тваёй падпольнай працы?

— Усё-ж роўна: ці рана, ці позна—даведаемся.

— Але чыстасардэчнае прызнаньне павядзе да памякчэньня прыгавору суду...

— Што?

— Табе яшчэ ахвота запірацца?

— Вельмі добра...

Сьледчы крыва ўсьміхнуўся:

— Ну, дык, можа, ты скажаш, з кім ты блізка што ня кожны дзень бачыўся ў лясочку, ля Стэфанполю?

* * *

Васіль і так ледзь стаяў на нагах.

У меру таго, як сьледчы гаварыў, твар яго

зьбялеў, як палатно;

потым—пачырванеў;

потым зноў зьбялеў;

раптам—

ногі адмовіліся

служыць

і...

Васіль як сноп паваліўся на зямлю.

Чаму?

Можа ён часам адчуў сябе вінаватым?

* * *

Доктар хутка прывёў яго ў прытомнасьць.

Потым—допыт.

Пыталіся яго дзьве гадзіны.—

Дарэмна.

Ніколі, нідзе і нікому ён не раскажа,

з кім бачыўся ў лесе...

* * *

Каты ўтаміліся.

Васіль ізноў блізкі да няпрытомнасьці.

Ледзь жывога два жандары—

сэржанты З'арэмба і Пясэцкі—

падводзяць да стала сьледчага.

Можа падносяць?—

Ці-ж ня ўсё роўна...

* * *

На стале—чысты ліст паперы.

Сьледчы бярэ пяро, макае яго ў атрамант.

Міхась Гарбаты падымае анямеўшую руку арыштанта. Укладвае ў яе пяро, падносіць да стала.

Цэпка трымае яе ў абедзьвюх сваіх руках і водзіць ёю па паперы.

* * *

Мутна глядзяць Васілёвы вочы.

Ён хоча выцягнуць сваю руку.

Але змагацца

няма сілы...

* * *

Праз хвіліну—

унізе чыстага аркушу паперы красаваліся ва ўсе бакі раскіданыя, крывыя літары:

„Васіль Гарбацэвіч".

* * *

Рэшта—было справаю пяці хвілін. Начальнік дэфэнзывы ведаў, што трэба пісаць у протоколе допыту.

Ваенна-палявому суду ня прыдзецца доўга разглядаць гэтую справу—

Усё ясна, усё лёгічна.

Прыгавор будзе скоры і справядлівы...

* * *

Васіль сядзеў у крэсьле.

Галава апусьцілася на грудзі.

Рукі, як папала, зьвісалі да долу, датыркаючыся пальцамі да падлогі.

* *
*

— Адвясьці арыштанта да каморы!

Жандары падхапілі Васіля.

Яны хацелі дапамагчы яму ўстаць.

Яны паднялі яго,

але, ня ўтрымаўшы,

выпусьцілі з рук, і—

нярухомы, ён ляжаў пластом на падлозе.

* *
*

— Зноў у няпрытомнасьці?

— Дзіўна...

— Пане доктар, будзьце ласкавы...

* *
*

Доктар—нахіліўся, выняў гадзіньнік, узяў пульс, прыгатаваўся лічыць, але зьдзіўлена выпусьціў руку арыштанта.

* *
*

Доктар прылажыў вуха да Васілёвых грудзей, потым—дастаў з кішэні люстэрка, прыставіў яго да адчыненага роту.

* *
*

Усе з цікавасьцю глядзелі на пана доктара.

Раптам—

доктар устаў

і коратка адрэзаў:

— Сэрца ня вытрымала.

— Памёр.

## РАЗЬДЗЕЛ VII

**Аб тым, як часам паляўнічы сам робіцца дзічынаю.**

* *
*

А чацьвертай гадзіне—

Янэк Глямбоўскі зноў на сваім пасту.

Заглядае ў камору № 9.

Яна—пустая.

* *
*

Янэк ходзіць удаўжкі калідору.

Уперад і назад.

Назад—і ўперад.

* *
*

Раптам—

гучны сьмех.

Той сьмех, ад якога ў нормальных людзей падымаюцца валасы, і застывае ў жылах кроў.

Янэк зьдзіўлена прыслухаўся.—

Зноў тыя хваравітыя лятуценьні, што не давалі спаць яму ў начы?

Шпаркімі крокамі падыходзіць ён да дзьвярэй каморы № 14.

Цокае засаўка, якая засланяе „вочка".

Янэк прыпаў да дзіркі.—

Яна!

Не, ён, пэўна, звар'яцеў!—

Чорныя вочы!

Тыя самыя!

Але чаму яны гэтак дзіка глядзяць?

І чаго яна сьмяецца?

гэтак страшна?..

Янэк крыкнуў і ледзь ня ўпаў у няпрытомнасьць.

* * *

Старшы даглядач дакладае начальніку астрогу:

— Так што, паночку, з жандарам Глямбоўскім нешта нядобрае. Захварэў хлапец. Ледзь стаіць. Дазвольце яго зьмяніць іншым, а то хтонебудзь з арыштантаў уцячэ, ці можа яшчэ што здарыцца... Нядобра будзе...

* * *

Праз дзесяць хвілін Янэк выходзіў з астрогу.

Хістаючыся, ён ледзь ішоў у напрамку да казармаў.

Потым павярнуў назад

і пашоў—

у карчму Моўшы Шмулевіча.

* * *

У карчме, апроч Шмулевічавай жонкі Хайкі і пяці жандараў з сэржантам Пясэцкім на чале, нікога ня было.

Янэк сеў у другім канцы пакою і ўзяў сабе цэлую кварту гарэлкі.

Піў чарку за чаркаю, закусваючы маленькім кавалачкам чорнага хлеба.

* * *

У хуткім часе ў карчму ўвашоў яшчэ нехта. Фігура, апранутая досыць элегантна. На носе—пэнснэ.

Незнаёмы прысеў за суседні столік.

Каб Янэк крыху больш часу праслужыў у жандармэрыі і калі-б ён уважлівей прыглядзеўся да твару ўвашоўшага, дык напэўна пазнаў-бы— пана Міхася Гарбатага.

Але сёньня Янэк яшчэ менш, чымся звычайна, цікавіўся Моўшынымі гасьцьмі...

* *
*

Раптам
Янэк пачаў слухаць.
Там, у тым вугле, ішла размова.

Пясэцкі і Зарэмба хваліліся, як „прывялі да прызнаньня“ галаву бальшавіцкае банды, настаўніка з Пяшчанкі; шкада толькі, што, гэткая сволач, мінуў суд і здох, падлюга.

— А як яго памоцніца, маладая дзяўчына з Дзятлава, прышла да начальніка дэфэнзывы... прасіла, каб яго выпусьцілі...

— Ну, гэтым яна сама сябе выдала.

* *
*

— А пекная дзяўчына... Пан начальнік дэфэнзывы быў вельмі рад Пазабавіўся... І яшчэ ў яго ў той час некалькі паноў афіцэраў было

— Госьці ўсе былі вельмі задаволены.

* *
*

Адным глытком—
Янэк дапіў рэшту гарэлкі
і вышаў з карчмы.

* *
*

Ці доўга швэндаўся ён па вуліцах Бярозы—нямаведама.
Але, нарэшце,
у яго зьявілася гэткае пачуцьцё, нібы-та ён пачаў задыхацца.
Месточковае паветра, распаленае гарачымі праменьнямі яшчэ высока стаяўшага сонца,
сьціскала яму грудзі,
прымушала сэрца біцца няроўна,
апаляла горла і лёгкія,
расплаўляла мазгі,
пазбаўляла якой-бы то ні было энэргіі.

* *
*

Гэтак, прынамсі, яму здавалася.
І вось—зьявілася думка:
— туды,
за межы пыльнага і гаварлівага мястэчка,
туды—
дзе няма гэткіх, як ён сам—
блакітных мундзіраў,
конфэдэратак,
ожэлкаў
і ўсяго іншага,
што можа нагадваць яму пра існаваньне
роднай вёскі пад Кёльцамі,

ксяндза канарскага,

касьцёлаў,

кляштараў,

астрогаў,

начальства

і...

яшчэ пра што?—

Пра чорныя вочкі дзятлаўскае дзяўчыны, арыштанткі з каморы № 14, памоцніцы „галавы мясцовых бальшавікоў"—настаўніка з Пяшчанкі.

* * *

Янэк Глямбоўскі ішоў па бальшаку.

Янэк Глямбоўскі дашоў да маёнтку Зьдзітава.

Тутака ён пашоў улева.

Чаму?—

Хто-ж можа сказаць, чаму чалавек пашоў улева, а ня ў другі які-небудзь бок,

калі яму ўсё роўна куды ісьці,

абы толькі

ісьці...

Уцячы як мага далей ад...

Ну, хаця-б ад самога сябе...

* * *

Янэк Глямбоўскі затрымаўся:

Рака.

Далей ісьці няма куды.

Няма куды.

Назад?

Не, уперад, уперад!

Што, па вадзе і па балоце нельга?

Нічога—

Тут, на прыстані, чаўноў хопіць!

* * *

Пераехаць на той бок рэчкі справа ня гэтак простая.

Рэчка вузенькай крывою стужкаю ўецца сярод балота, шырынёю вярсты ў дзьве.

На працягу амаль што дзесяці вёрст—да цьвёрдага грунту можна прыстаць толькі ў трох мясцох.

Ад'ехаць вёрст сем у верх, супроць цячэньня ракі—Бяроза.

Вярсты тры ўніз па цячэньні—

Галавіцкая прыстань.

Янэк паехаў уніз па рацэ.

* * *

Ехаў крыху больш за поўгадзіны.
Лёгка выскачыў з чаўна.
Прывязаў яго і пашоў па дарозе.

* * *

А насустрэч яму, збоку Бярозы, шоў вэнгер.

Бачылі вы калі-небудзь вэнграў—вандроўных гандляроў з іх вялізарнымі кошыкамі за плячыма?

Соткі іх даўна ходзяць па Заходняй Беларусі, з вёскі ў вёску.
Чаго толькі ў іх няма?!

Ї хусткі, і люстэркі, і кніжачкі,
і грабеньчыкі, і кашалькі, і гузікі,
і блёкноты, і цукеркі, і шпількі,
і забаўкі розныя дзіцячыя,
і йголкі,—
адным словам,
усё—для ўсіх.

* * *

Звычайна гэтыя вэнгры—
здаровыя, высокія хлапцы.
Гэты-ж—якісьці плюгавы.

Янэк зьвярнуў на яго ўвагу і пачаў пільна ўглядацца ў ішоўшую насустрэч фігуру.

Неяк дзіўна:
паходка вельмі зморанага чалавека.
А тымчасам—
на ўсім сьвеце няма гэткіх хадуноў, як вэнгры.
Да таго-ж—
ён ідзе з Бярозы.
Ня можа быць, каб ён там не затрымаўся, каб не адпачыў у карчме
Адсюль-жа Бяроза ня гэтак далёка...

* * *

Відаць, вельмі цяжкі яго кошык.
Але вэнгер—прызвычаены да кошыка.
Кошык нельга аддзяліць ад вэнгра.
Яны зрасьліся разам і складаюць нешта органічна-суцэльнае.

Напрыклад, як торба на чэраве аўстралійскага кэнгуру. Тая, у якой гэты зьвярок носіць сваё дзіцянё.

А гэты вэнгер—ён, як відаць, не прызвычаіўся яшчэ да свайго кошыка...

Дзіўна неяк...

* * *

А што гэта за цёмныя акуляры?
Вэнгер падышоў зусім блізка.
— Што за знаёмы твар?
Дзе я яго бачыў?
Га!
Прыпомніў:
у карчме Моўшы Шмулевіча,
гадзіны тры таму назад...
Але тады
ён быў у гэткай элеганцкай вопратцы...
А на носе меў пэнснэ. Выглядаў модным франтам.
Нейкі дзіўны вэнгер...

* * *

Раптам—
Янэк падняў руку і стукнуў сябе па лобе.
— Шпік!
Але чаго яму тут трэба?—
Пэўна, у Снораўскіх лясох шукае паўстанцаў:
Тых самых 14 хлапцоў з Дзятлава, што пакралі ў нашых вінтоўкі...

* * *

— У нашых?
Янэк зьдзівіўся.
Неяк дзіка гучэла ў яго вушах гэтае слова.
А праўда!
Што-ж супольнага можа быць між ім, Янкам Глямбоўскім, і тымі грабежнікамі, катамі і злачынцамі ў блакітных мундзірах?

* * *

Першы раз прышла Янку ў галаву гэткая думка.
Але гэта
яго ўжо ня зьдзівіла.

* * *

Вэнгер прашоў міма Янкі.
Вэнгер пашоў сваёю дарогаю,
а Янка—сваёю.

* * *

Раптам—
Янка рашуча абярнуўся і паглядзеў усьлед шпіку.
Той адышоў ужо даволі далёка, так што быў ужо ледзь відзён.
Хаваючыся час-ад-часу ў хмызьняку, што ўзрастаў паабапал дарогі, Янка пашоў сьледам за ім.

## РАЗЬЗДЕЛ VIII

### „Пан“ Янэк і „пан“ Міхась.

* * *

Вэнгер ішоў памалу, не сьпяшаючыся.
Старэнна аглядаў рэчку,
нібы спадзяваўся нешта на ёй убачыць.
Раптам—
спыніўся.
Зьняў цёмныя акуляры.
Прыставіў далоні да ілба,
каб сонца не сьляпіла вочы.
Паглядзеў яшчэ раз на рэчку,
і зьняўшы кошык,
хаваў яго ў капе сена, што стаяла збоку каля дорогі
Сам—прыгнуўся і пачаў сачыць вачыма за берагам. Ледзь-ледзь выдаваліся з хмызьняку яго цёмныя акуляры.

* * *

Па рэчцы—плыў човен.
У чаўне—
хлапец і дзяўчына.
Янэк прыглядзеўся:
твары знаёмыя.
Дзесьці бачыў...
— А!.. Дзятлаўскія!..

* * *

Човен праплыў прыстань. Праплыў далей.
Яшчэ з поўвярсты.
Там, на багністым поплаве густа рос высокі чарот. Толькі мясцамі на выгарах тырчэў хмызьняк, як бародка-эспаньёлка бяроскага багатыра—мільянэра Сімхэ Лапідуса.

* * *

Хлапец саскочыў на бераг.
Дзяўчына прывязала да носу чаўна вяроўку.
Другі яе канец яна кінула хлопцу.
Той злавіў, расставіў ногі, упёрся, пацягнуў...
Праз хвіліну човен згінуў.

* * *

Нават калі-б вэнгер ці Янэк падышлі да самага чаўна крокаў, напрыклад, на дзесяць, мо' нават на пяць,—
яны-б яго ня ўбачылі.—
Ён схаваўся ў густым, высокім чароце.

* *
*

Вэнгер яшчэ ніжэй прыгнуўся ў хмызьняку.
Хціва глядзелі пранырлівыя яго вочы.

* *
*

Хлапец з дзяўчынай выбраліся з хмызьняку. Як відаць, тут была цьвёрдая сьцежка, ледзь прыметная, можа быць невядомая нават мясцовым жыхаром, але, у кожным выпадку, не занесеная ані на адну карту. Нават на сакрэтнай карце, выданай топографічным аддзелам Гэнэральнага Штабу Рэчы Паспалітай, нават на гэтай карце сьцежкі ня было.

Вэнгер гэта добра ведаў.

* *
*

Хлапец з дзяўчынай перасеклі дарогу і пашлі проста ў лес. На плячох яны несьлі нейкія клумкі.

Што?

Хто-ж іх ведае!..

Вэнгер асьцярожна пашоў сьледам.

* *
*

Углыбіліся ў лясную цемру.
Ішлі доўга, моўчкі.
Аглядаліся ва ўсе бакі.
Але раптам—
затрымаліся.

* *
*

Хлапец адчыніў рот.
Але замест чалавечых слоў—па пушчы паняслося кукаваньне зязюлі
Янэк падлічыў:
зязюля пракукавала сем раз.

* *
*

І блізка што зараз-жа—
як-бы ў адказ—
недзе засьпяваў салавей.
Сьпеў абарваўся.
Потым—
пачуўся зноў.
І зноў спыніўся.
І зноў пачуўся.
Нездалёку пахла гарэлым.

* *
*

Праз хвіліну Янэк убачыў:
каля агню чатырнаццаць чалавек.
Хмурыя. Сур'ёзныя.
Каля кожнага—вінтоўка.

Моўчкі падняліся дзьве фігуры.
Узялі ад хлопца і дзяўчыны іх рэчы, што яны купілі.
Потым—пачалася ціхая размова.

* * *

Пашапталіся насьпех. Разьвіталіся.
Хлапец і дзяўчына пашлі назад.
Да рэчкі.
Вэнгер ня стаў больш за імі глядзець,—
Шпаркімі крокамі пашоў ён у бок Бярозы.

* * *

А што-ж з кошыкам?
Вэнгер пакінуў яго ў хмызьняку.
Янэк падышоў да гэтага месца. Знашоў кошык. Падняў яго—
вельмі цяжкі!
Але што ў ім?
Янэк разьвязаў рэмні.
Адчыніў—
і выняў:
вялікія каменьні, загорнутыя ў анучы.

* * *

У вечары ў Снораўскіх лясох, каля патушанага агню спала дванаццаць чалавек.
Два вартавалі.
Раптам—зязюля. Пракукавала сем раз.
Адзін з вартаўнікоў запяяў салаўём.
Тры разы абрываўся яго сьпеў.
Потым ён пачаў ціха і асьцярожна будзіць спаўшых.
Другі—пашоў да таго месца, адкуль чулася кукаваньне зязюлі.

* * *

— Хто тут?
— Свой. Прыяцель.
— А хто ты?
— Я... Ня пытайся. Ушыстко едно. Вядзі да вашага начэльніка.
— Паляк...Вораг значыць...—
меркаваў вартаўнік.
Месяц выбраўся з-за хмаркі.
І ўраз з начное цемры выплылі:
блакітны мундзір,
канфэдэратка,
рэмні,
кобур.
Каля твару паўстанца блішчэў халодны наган.

* * *

— Ня крычы. Я адзін. Прыяцель ваш. Прышоў папярэдзіць. Кідай вінтоўку, а я кіну рэвольвэр.

Паўстанец меркаваў:

— Чаму ня кінуць абрэз?

Усё роўна— вораг занадта блізка.
Вінтоўкаю нічога ня зробіш.
А мо' й праўда—ня вораг?
Мо' праўда—кіне наган?—
Моўчкі скарыўся.

* * *

Паўстанец і жандар, абодва бяз зброі, падышлі да стану.

— Я жандар—Янэк Глямбоўскі.

Хачу вас папярэдзіць.

— У чым справа?

— Вас высачыў шпік. Ноччу, а трэцяй гадзіне з Бярозы высылаецца супроць вас атрад. Трынаццаць чалавек. Коньнікі. На чале—ротмістр Заблоцкі.

— Калі хочаце, каб цэлай засталася скура,—уцякайце ў другое месца...

* * *

Паўстанцы выплюшчылі вочы.

Першы раз бачылі яны такога жандара.

Яны не маглі зразумець, як...

* * *

— Ну, вось. Я вас папярэдзіў. Але за гэта вы павінны мне дапамагчы.

— Марылька, з вашае вёскі, з Дзятлава,—ведаеце яе?

Сёньня быў суд. Заўтра яе расстраляюць...

Ну, дык трэба яе адбіць...

* * *

Сьпярша па тварах паўстанцаў прабегла гіронічная ўхмылка:

— Вось табе і ваяка!

— Укахаўся?

Потым—пашкадавалі:

— Спрытная дзяўчына!

— Лоўка жандару галаву закруціла...

* * *

З чвэрць гадзіны Янэк выкладаў свой плян.

Скэптыцызм зышоў з твараў паўстанцаў.

Слухалі з увагаю, напружана.

Потым—разьвіталіся.

Моцна патрэсьлі жандару руку.
Ад шчырага сэрца...

* *
*

Ледзь ня бегам вяртаўся Янэк у Бярозу.

* *
*

Але што гэта за цень ідзе ўвесь час сьледам за ім? Асьцярожна, як кот за мышкаю?

Хаваецца ўвесь час:

то за дрэва якое,
то за хмызьняк...

* *
*

Міхась Гарбаты—спрытны хлапец.

Калі ён учора сачыў за хлапцом і дзяўчынаю, што з вёскі носяць паўстанцам харчы,—

ён бачыў вельмі добра, што за ім з свайго боку сочыць малады жандар.

* *
*

Гэта яму не перашкаджала ў яго працы.

Гэта яго не турбавала.

І ня дзіва:

Жандар—свой чалавек. Вэнгер выглядаў падазрона. А сачыць за падазронымі людзьмі просты абавязак кожнага добрага жандара.

* *
*

Міхась Гарбаты чакаў, што Янэк адрапартуе начальству пра ўсё, што бачыў у лесе.

Але не дачакаўся.

Тады Міхась расказаў усё начальніку дэфэнзывы і атрымаў прыказ:

пільна сачыць за жандарам.

* *
*

Янэк падышоў да рэчкі.

Якраз вось тут ён схаваў свой човен.

Знашоў. Адпіхнуў. Ускочыў. Узяўся за вёслы.

* *
*

— Стой, прадаўца!—

У човен ускочыў яшчэ нехта.

* *
*

Янэк азірнуўся. І сваячасова.

Настаўлены на яго браунінг у вадзін момант паляцеў у ваду.

* *
*

У чаўне—пачалася барацьба.

Не на жыцьцё—на сьмерць.

Абодва—моцныя.

Чыя возьме?

* * *

Раптам—

плюм-бум!

Човен перавярнуўся.

Па вадзе ўва ўсе бакі пашлі хвалі.

Пляск...

Здавалася, што там, на дне, усё яшчэ ідзе змаганьне.

Але хутка ўсё сьціхла.

Твань зрабіла сваю справу.

## РАЗЬДЗЕЛ IX

### У пана ротмістра весела...

* * *

Шампанскае іскрыцца ў бокалах. У „шыкарных“, пазычаных у Моўшы Шмулевіча, варшаўскага срэбра пасудах—крушон: у сэкце—плаваюць кавалкі ананасаў і іншае дарагое садавіны, спэцыяльна прывезенай з Берасьця.

А на сталох—

чаго, чаго, толькі там няма!

* * *

У пана ротмістра Заблоцкага баль. Баль, якога даўно ня бачылі панове афіцэры з бяроскіх казармаў.

І вельмі сваячасова:

Толькі што пан ротмістр атрымаў ад пана начальніка дэфэнзывы загад:

А трэцяй гадзіне ў ночы выступіць супроць бандытаў, што хаваюцца ў Скораўскіх лясох.

Тых самых, што ў жандараў зброю пакралі. І Трэмбацкага падпалілі.

Справа рызыкоўная:

Бойка ў лесе.

Дарогі дрэнныя.

Сьцежкі—малавядомыя.

Вялікай колькасьці людзей захапіць з сабою нельга.

Галоўнае—захапіць неўспадзеўкі.

Рызыкоўная штука.

— Можа заб'юць?

* * *

— Што-ж!

Калі служыць у жандарах,

ды яшчэ ў польскіх,

ды яшчэ на ўсходніх крэсах,

ды яшчэ ў 1924 годзе,—

трэба быць гатовым спаткаць сьмерць кожную хвіліну.

Яна вартуе ваяку ўсюды:

Ноччу—у хаце.
У дзень—на вуліцы.
У горадзе— з-за вугла.
У лесе—з хмызьняку.
У балоце,
у рэчцы—з высокага чароту.
У полі—з-за капы сена.
На шляху—з-пад моста.
Адным словам,—усюды, з усіх бакоў.
А калі едзеш па чыгунцы,
дык будзь гатоў:

Можа яна выскачыць з-пад рэльсаў ці шпалаў,—касою зловіць паравоз за комін, а потым—так пхне ўвесь цягнік сваімі моцнымі кастлявымі рукамі, што ён перавернецца і паляціць пад адкос.

І здарыцца гэта абавязкова на такім высокім месцы, што потым нават варона тваіх костак не зьбярэ...

* * *

Але вельмі своечасова зрабіў баль пан ротмістр: перад гарачай справай трэба крыху пазабавіцца.

* * *

Весела гавораць, перабіваючы адзін аднаго, п'яныя госьці.
Паненкі—этуалі з Варшавы, з „Otel Polonia" скачуць фокстрот.

* * *

Паненкі вельмі пералякаліся, калі быў пажар у Трэмбацкага.

Дзякуючы гэтым праклятым паўстанцам, яны ледзь ня страцілі лепшых сваіх вопратак.

На шчасьце—пажар пачаўся не з палацу, і яны мелі час вынесьці свае рэчы з пакояў на двор.

Было вельмі страшна.

Добра яшчэ, што бандыты дагадаліся падпаліць двор у вечары, а не раніцаю на другі дзень.

З п'яных паноў і паненак бадай ніхто-б і падняцца ня змог. Ніхто-б ня ўцёк. Усе згарэлі-б.

* * *

Што там—згарэлі-б!

Няхай сабе.

Наогул усе гэтыя пузатыя провінцыяльныя паны мала цікавілі Адэльку.

Галоўнае—гэта атрымаць грошы,
добры куш грашанят.

Тады—вярнуцца ў Варшаву.

Там у Адэлькі прыяцелі.

Вось, хоць-бы Ўладэк. Той малады афіцэрык. Такі пекны хлапец!

* * *

Бедны...

Меў і ён калісьці таксама маёнткі.

Там недзе ў Меншчыне, у бальшавікоў...

Усё адабралі хлопы.

А цяпер—

Усё, што толькі зарабляла Адэлька, усё, што заставалася ў яе пасьля расплаты з краўцамі, ювэлірамі і гэтак далей,—усё аддавала яна яму...

Шкада-ж хлопца!

* * *

А выдаткі ў Адэлькі вялікія:

вопратка дорага каштуе,—

а бяз шыкарных туалетаў—

у „Otel Polonia“ нельга.

Асабліва вельмі добра, што ад пажару не згарэла яе вопратка,

хоць, папраўдзе кажучы,

неяк дзіўна падумаць, што Адэлька гэтак цікавілася адзеньнем.

Паглядзеўшы на яе, можна было падумаць наадварот.

Усе стараньні ўжывала яна дзеля таго, каб абыйсьціся бяз вопраткі, каб паказаць сваё голае цела.

* * *

Бэзавыя, рыжаватыя панчохі.

Зборчатыя чорныя падвязкі.

Куафюра—

брасьлеткі, пярсьцёнкі, брошачкі, кулёны...

Золата, плятына, крышталёва-чыстыя дыямэнты, каралі з малочна-белых, ледзь-ледзь пабліскваючых, матавых пэрлаў.

Зялёныя, як сьвежая сенажаць у траўні месяцы, смарагды. Блакітныя, як неба, аквамарыны. Сінія, яскравыя сапфіры. Чорныя, напрасьвет—чырвоныя, як кроў на жандарскіх шаблях, рубіны-крывавікі.

Жоўтыя, як асеньняе лісьце, амэтысты.

Усё гэта

замяняла Адэльцы і яе таварышкам

вопратку.

* * *

Нават абуцьцё, здаецца, ёй было непатрэбным, бо з залацістае яе пантоплі, з модным вузкім наском, ад лепшага варшаўскага шаўца,

„сам“ пан палкоўнік

піў „дэмі-сэк Мумм“...

* * *

Бедная Адэлька!

Пэўна ня было-б табе гэтак весела, калі-б ты магла ўбачыць, хоць-бы адным з двух тваіх аквамарынавых вочак, у Варшаве—

у „Otel Brystol“—

у асобным габінэце тваю-ж таварышку, Ванду Гласеўскую,

і—з пантоплі, зьнятае за хвіліну перад тым з яе малюсенькае ножкі, п‘ючага

свайго Ўладзіка!

* * *

Нічога. Весяліся.

Ты гэтага ня бачыш.

„Отэль Брыстоль“, на шчасьце, далёка!

* * *

А пан ротмістр нешта прыпомніў: уранку быў ваенна-палявы суд.

Бальшавічку з Дзятлава прыгаварылі да сьмерці.

Заўтра—расстрэл.

* * *

А пекная дзяўчына!

Прападзе нізашто.

Адны толькі вялікія чорныя вочы чаго варты...

* * *

— Панове госьці!

Уношу пропозыцыю.

Можа каго-небудзь з вас гэта пазабавіць... Зараз я прыкажу прывесьці вельмі пекную дзяўчыну.

Калі вы абразіцеся, даражэнькія мае паненачкі,—дарэмна.

Яна—хамскае пароды.

З вамі спрачацца ня можа.

Да таго-ж—арыштантка.

Мне прышла ў галаву думка, што абстаноўку сёнешняга вечара можна выкарыстаць для аднэй вельмі цікавай службовай справы. Злучыць, значыць, прыемнае з карысным.

Слова гонару, гэткае красулі, колькі ні езьдзіў па белым сьвеце, яшчэ нідзе ня бачыў.

* * *

Госьці зацікавіліся.

Паненкі не спрачаліся.

* * *

Рэшта было справаю пяці хвілін.

Жандар Антэк, які быў у ротмістра за лёкая, пабег у турму з запіскаю...

# РАЗЬДЗЕЛ X

## Марылька

* * *

Баль ішоў сваім парадкам.

У віне недахвату ня было.

У куце ля вакна пан палкоўнік, знашоўшы сабе партнэраў, організаваў віст. У другім куце, значна слабей асьветленым, начальнік дэфэнзывы ўзасос цалаваўся з нейкай паненкай.

Адэлькіна таварышка, Ванда Маляўская, вышла ў суседні пакой.

Праз некалькі хвілін пан павятовы стараста падняўся і пашоў усьлед.

* * *

Духавы оркэстр заграў нешта накшталт „карапэту“.

Адэлька ня вытрымала—саскочыла з каленяў маладога, бязвусага хорунжага, графа Піонткоўскага, і, узьлезшы на стол, пачала танцаваць.

* * *

Сярод бутэлек віна,
сярод поўна налітых бокалаў,
сярод ваз з садавіной—
лоўка перабірала яна
сваімі малюсенькімі,
рэдкай пекнасьці,
ножкамі—
у бэзавых панчохах,
у чорных зборчатых падвязках.

* * *

Весела дзьвенькалі ў яе на руках і нагах брасьлеты,
чароўна згібаўся стан,
і рукі, гібкія, як гадзіны,
плавалі ў паветры.

* * *

Раптам—
адчыніліся дзьверы, і Адэлька, як зачарованая, засталася стаяць нярухома на стале.

Госьці азірнуліся.

* * *

У дзьвярох,
між двума жандарамі, стаяла дзяўчына.

Дзіўныя чорныя вочы.

Валасы—колер смалы.

Няпрыбраныя, раскіданыя ўва ўсе бакі, аздаблялі яны твар.

Рэдкая правільнасьць рыс твару.

Антычны носік.

Шыя...

А колер твару?

Брудная, пашматаная вопратка даводзіла, што твар гэты не нашчыкатураны жаднымі космэтычнымі спэцыямі.

Але ніколі ня думала Адэлька, што шчокі без дапамогі шмат-каштоўных загранічных бяліл могуць мець гэтакі белы водцень і, што, мажліва, не нахварбованая дзяўчына мела гэткія вялізарныя сінякі пад вачыма...

* * *

Марылька бязуважна глядзела на гасьцей.

Рукі ў кайданох былі апушчаны да долу.

У вачох—поўная байдужасьць.

* * *

Госьці стаялі, як зачарованыя.

Першым апамятаўся начальнік дэфэнзывы. Галантна падышоў ён да дзяўчыны і, голасна гаворачы ёй розныя „прыемныя“ рэчы, узяў за руку і падвёў да стала. Пакорна прашла Марылька праз пакой. Як і сьпярша—няпрыязна глядзелі яе вочы.

Ёй падставілі крэсла.

Яна моўчкі села.

* * *

Пан ротмістр Заблоцкі элегантным рухам паправіў белую манжэтку пад рукавом мундзіра і многазначна міргануў вокам з-пад моноклю.

* * *

Начальнік дэфэнзывы адказаў яму на гэта маўклівым нахіленьнем галавы.

Большасьць гасьцей прыкмеціла гэтую бясслоўную размову. Паненкі зьдзіўлена паглядзелі на сваіх кавалераў. Твары мужчын перакасіліся ледзь прыкметнай задаволенай ухмылкай.

Справа зрабілася яснай.

Гэты жартаўнік, пан Заблоцкі, зноў прыдумаў дзеля пацехі гасьцей нешта цікавае.

* * *

Пан ротмістр ласкавым голасам зьвярнуўся да Марылькі:

— Я меў размову з панам начальнікам дэфэнзывы. Я вельмі цябе шкадую і прасіў яго, каб ён цябе выпусьціў. Я яго ўгаварыў. Ён згадзіўся, але толькі пад тэй умовай, каб ты дакладна і шчыра сказала, хто і як дапамагаў вам у вашай бунтарскай працы.

* * *

Марылька маўчала.

Дый што-ж магла яна сказаць? Пакуль былі сілы, пакуль магла яна гаварыць,—

яна гаварыла,

прасіла,

плакала,

маліла,

але ўсё было дарма.

* * *

І звыш таго:

яна добра ведала, што ніякай „бунтарскай“ працы яна не вяла, як ня вёў яе і Васіль, ані хто іншы яшчэ з вядомых ёй людзей.

Вось усе гэтыя паны вайсковыя і ўрадаўцы, дык хіба што яны і вядуць бунтарскую агітацыю.

Гэта яны зьдзекуюцца над людзьмі, яны, і толькі яны, сваімі злачынствамі прымушаюць сялян брацца за зброю і змагацца за свае чалавечыя правы.

У гэтым Марылька даўно пераканалася.

А цяпер, пасьля арышту Васіля, пасьля таго, як і сама яна даведалася на ўласнай скуры аб тым, што такое „дэфэнзыва“,—

пасьля ўсяго гэтага, каб ёй толькі вырвацца на волю—

о, яна-б ведала,

што ёй рабіць!

* * *

Усё гэта Марылька ўжо даўно перадумала.

Цяпер—яна нічога не сказала.

Можа падумала?

Хто-ж яе ведае...

* * *

Марылька маўчала.

Тады „сам“ пан палкоўнік выступіў з прамоваю.

Выпітае ў працягу вечара віно не давала яму сядзець спакойна і рабіла яго вяртлявым.

* * *

— Пане, начальніку дэфэнзывы, і вы ўсе, панове! Мы мужчыны ня можам дапусьціць, каб сьвет страціў гэткую красулю.

Гэта-б было цэлым няшчасьцем.

Ганьба дзеля ўсяго польскага афіцэрства і рыцарства.

Панну трэба абавязкова вызваліць з-пад стражы.

* * *

Начальнік дэфэнзывы хмурна павёў брывамі.

— Гэта будзе дрэнны прыклад дзеля хлопаў, калі яны ўбачаць, што яна бяскарна зьвернецца ў родную вёску. Але ўсё-ж такі я згодзен.

Няхай толькі яна скажа, што трэба.

* * *

— Мы возьмем яе з сабою ў Варшаву,—запрапанавала Адэль.

Яна там зробіць кар‘еру!

* * *

Марылька, не зьвяртаючы ўвагі, сядзела за сталом. Вочы яе пацiху перабягалі з аднаго госьця на другога. Можна было подумаць, што размова ідзе зусім не аб ёй, не аб тым,—

ці забіць яе,

ці дараваць ёй жыцьцё...

Начальнік дэфэнзывы ўзяў яе за руку.

— Панна Мар'я! Што-ж вы маўчыцё?

Вяльможныя паны і паненкі просяць, каб я адпусьціў вас на волю.

Заўтра ўранку вы паедзеце з гэтымі паннамі ў Варшаву. Яны дадуць вам пекныя вопраткі і багатыя прыкрасы. Яны навучаць вас зарабляць вялікія грошы,—вы будзеце жыць сапраўднай паняй.

Пры вашым харастве—

вас чакае бліскучае, лёгкае і прыемнае жыцьцё.

А дабіцца яго вы можаце ўсяго толькі дзесяткам шчырых слоў.

* * *

Марылька маўчала.

Марылька нічога не гаварыла ў адказ.

На твары яе не крануўся ні адзін мускул.

* * *

Начальнік дэфэнзывы падумаў і дадаў крыху цішэй:

— Я разумею, вы ня маеце ахвоты выяжджаць з родных месц. Але што-ж зрабіць, калі іначай нельга. Дый шкадаваць вам тут няма чаго. Я чуў, што вы вельмі кахалі гэтага...

Ну, як яго...

Настаўніка, Васіля Гарбацэвіча.

Цяпер, калі ён памёр...

* * *

Далейшыя словы застралі ў пана начальніка дэфэнзывы ў горле. На яго наставіліся палкія вочы дзяўчыны.

Адразу можна было прачытаць на іх—

зьдзіўленьне,

жах,

нянавісьць.

* * *

Раптам—

дзьвенькнулі кайданы.

Марылька ўскочыла. Закованыя рукі схапілі са стала ножык.

Пан начальнік дэфэнзывы, крыху падвыпіўшы, толькі дзякуючы нейкаму цуду здалеў адхіліцца ад удару.

* * *

Два жандары падскочылі да Марылькі.

Яна адбівалася і крычала:

— Зладзеі! Гэта вы забілі яго!

Падлюгі! Праз вас, толькі праз вас, льлецца кроў! Гэта-ж ваш зьдзек гоніць нашых хлапцоў у паўстанцы! Гэта вы—галоўныя бунтары! Забойцы вы! Зьвяры лютыя!

* * *

З натоўпу перапужаных гасьцей пачуўся крык:

— Вар'ятка!

* * *

Элегантным рухам начальнік дэфэнзывы паправіў сабе прабор на галаве.

— Адвесьці арыштантку назад у вастрог!

## РАЗЬДЗЕЛ XI

### Не канец, але канчатак кніжкі

* * *

А чацьвертай гадзіне рана, проста з балю, пан ротмістр, Заблоцкі і харунжы, граф Піонткоўскі, ускочылі на коняй і паляцелі ў казарму.

* * *

Сэржант Зарэмба падскочыў з дакладам.

— Данашу, што ўсе людзі сабраны.

Не хапае толькі жандара Янкі Глямбоўскага, які ўвечары на пераклічку не зьявіўся.

* * *

Ротмістр моцна паціснуў плячыма:

— Няпэўны хлапец.

Дэзэртыраваў.

Нічога!

Далёка не ўцячэ. За ім сочыць сам пан Міхась Гарбаты...

* * *

Атрад у трыццаць чалавек выступіў з Бярозы.

Платы былі прыгатаваны з вечара.

Пагрузіць людзей і коняй было справай пяці хвілін.

Пераправа праз рэчку прашла без усялякіх здарэньняў.

* * *

Дробным трушком праехалі каля Галавіцкіх фальваркаў. Уехалі ў лясок. Ротмістр курыў цыгару і размаўляў з ехаўшым побач з ім харунжым і сэржантам Зарэмбай.

Крыху далей ехалі жандары.

Па пяць чалавек у рад.

Ззаду ўсіх ехаў Пясэцкі.

* * *

— Да галоўнага масыву Снораўскіх лясоў, даражэнькі пане хорунжы, яшчэ вёрст з пяць.

Як пад'едзем,—падзелімся на дробныя атрадзікі, аб'едзем стан гэтых бандытаў з чатырох бакоў.

Наступленьне пачнем ўсе разам, як толькі пачне сьвітаць,

зразумела, сьпешыўшыся.

* * *

— Дзіўная публіка ўсё-ж-ткі гэтыя хлопы, пане ротмістру.

Хаваюцца ў лясох, нібы-та й сапраўды можна там схавацца. Ніяк не зразумеюць, што агэнтура ў нас добрая, усюды іх знойдзе.

* * *

А звыш таго:

чаго яны яшчэ змагаюцца?

Сьмешна нават падумаць, што гэткія невялічкія банды ў дзесяцьдваццаць чалавек могуць процістаяць польскім рэгулярным....

* * *

Стрэлы з чатырнаццаці вінтовак спынілі хорунжага, графа Піонткоўскага, на поўслове. Пачалася беспарадкавая страляніна. Ува ўсе бакі паляцелі перапуджаныя, узмыленыя коні без седакоў. Жандары, што засталіся ў жывых, кінуліся наўцекі.

* * *

Нейкая даўгавязая фігура, заблытаўшыся нагою ў стрэмені, валачылася сьледам за панёсшым, ашалеўшым перапуджаным канём.

Каўнер блакітнага мундзіру замызгаўся ў чалавечых мазгох:—

Жоўтых, клейкіх, агідных.

Пан ротмістр Заблоцкі не атрымаў ордэну Белага Арла.

* * *

А ў Бярозе зранку можна было бачыць цікавае здарэньне.

У парадных мундзірах, у белых замшавых пальчатках на конях ляцелі панове-афіцэры.

Сьледам за імі—оркэстр музыкі.

Потым—між двох аддзелаў коньнікаў, на сялянскай хурманцы, ехала рэдкага хараства дзяўчына.

Рукі й ногі яе былі закуты ў кайданы.

Ледзь-ледзь усьміхаліся яе вялікія чорныя вочы.

Ззаду беглі ўсе абывацелі мястэчка—

ад малога да вялікага.

* * *

Кортэж вышаў з мястэчка.
Затрымаўся на полі.
Тутака—быў пабудаваны плот.

* * *

Натоўп сьцішыўся.
Усе слухалі.
Сухі, рэзкі, бязьлітасны голас прэзаса вайскова-палявога суду чытаў прыгавор.
На дыямэнтавых кропельках расы весела гулялі залацістыя праменьчыкі сонца.
Бадзёра чырыкалі птушкі.

* * *

А там, далёка,
 каля ружовага небасхілу,
высокім сталом падымаўся дым.
Недзе гарэў панскі двор.

* * *

Сухі, траскучы залп.
Мужчыны моўчкі зьнялі шапкі.

## Асеньнія чары

### А. Гурло

Парыжэў ты, мой лес сінякудры,
Увабраўся у белы туман
І абсыпаўся роснаю пудрай,
Як калісьці у росквітны май.
Парыжэў ты і лісьце па ветру
Пазалотай пусьціў ў белы сьвет.
Не састарыўся-ж сам, о, павер ты—
Ў іншым бачу цябе харастве.
Што квадранец мяняецца жыцьце,
І зьмяняецца хваль чарада,
Нібы іх чарадзей які выцяў,
Каб шпарчэй пралятаді у даль.
Але ўперад, назад павароты
Ў каляінах жыцьцёвасьці ёсьць—
Дачакаешся ў росквіт звароту,
Тады буду я твой новы госьць,
Тады новай вясноваю песьняй
Я адзначу твой росквітны май,
А цяпер я засяду ў кут цесны—
Хай сьпявае мне песьні зіма.
Хай іграе наўкол завіруха,
Разьбівае і мары, і сны—
Я у гэтым, у гэтым я руху,
Адчуваць буду солодзь вясны.
І ня тэй ўжо вясны, што мінула,
А другое, што будзе яшчэ,
Бо ня дарам радзіўся я чулым—
Кроў ня дарам у жылах цячэ.

## ПЕСЬНІ ЗУРНОВЫЯ

### А. Гурло

Песьні зурновыя—песьні мае вы,
Вы—майго сэрца званы,
Вы—маіх думак і мар перапевы.
Ў вас я падслухаў і росквіт вясны,
І бур векавыя маланкі, грымоты,
І ціхую радасьць, і ўзбураны гнеў—
У вас я знаходзіў прастор для самоты
І разам я з вамі дзікаркай зьвінеў.
І разам я з вамі пад горныя ўздыхі—
Далёкі, нязнаны, чужы
Да прыкрасьці, можа, наіўны і ціхі—
Я рваўся душою ў свае рубяжы:
Пад шум векавечнага, цёмнага бору,
Ў балотныя шыры, на ўлоньне лугоў,
Каб слухаць жалейчыных струн пераборы
У цені высокіх, як горы, стагоў.

## ПРАПЛЫЎ Я ШМАТ

**А. Гурло.**

Праплыў я шмат жыцьцёвай плыні,
Прашоў я шмат шляхоў-дарог—
Ў чужых краёх, ў сваёй краіне
Хадзіў з парогу на парог.
Мой правадыр—мае надзеі
За мной ступалі крок за крок,
Сябе я думкай абнадзейваў,
Што я зьвястун, што я прарок.
Прароцтвы, праўда, ня збыліся
Калі-ж збыліся, дык ня ўсе.
Але ня дарам я маліўся
Сустрэчнай праўдзе і красе.
Хоць шлях пяройдзены забыты
Для новых шляхаў і красы,
Вітаю дзень я новы—збытнасьць
І новых песьняў галасы.
Прашлі гады, як карагоды;
Ў іх расквітаў, ападваў май,
Але з іх кожная прыгода
З жыцьця ня сходзіла дарма.

## З ПОЭМЫ „СІРАТА АЛЕСЯ“

**Паўлюк Трус**

* * *

Як золак вечара з-за клёну,
Хварбуе чырваньню заход,—
Глядзіць Алеся задумённа
На цёмна-сіні небазвод.

Глядзіць,
як смуткам верасьнёвым
Ў палёх кудзеліцца смуга,
Як сьпіць над возерам дуброва,
Не загамоніць,
дрэмле гай...
А там—
далёка недзе ў лесе
Сякера глуха празьвініць,
І ўспамінаюцца Алесі
Пажоўклай моладасьці дні.

Журбой агорнутыя вочы,
Цярэбяць чорную касу.
На дне душы яе дзявочай
Ўсплывае ціхі, ціхі сум.

То сум маўклівасьці над борам
Адбіўся водгульлем ў душы,—
Сама з сабой яна гаворыць,
А дзесь,
у лузе—на прасторы
Ракіты вецер варушыў . . .
. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .

А ў тым гаі цякла крыніца
І завіваў галіны дуб,—
Туды Алеся смуглаліцая
Хадзіла позна па ваду.

Як толькі зьмеркнецца,
Алеся,
прыкрыць ня ўсьпее галавы,
На стан вядзерцы перавесіць,
Бягом бяжыць праз паплавы.

Ды там,
пры беразе крыніцы,
Дзе вербы журацца ў вадзе,—
Яна ў прыпол свае спадніцы,
Зьбірае ягады-брусьніцы,
І песьня вырвецца з грудзей:

Ой, ляцелі гусі,
Над садком вішнёвым
гусанькі...

Над садком вішнёвым,
З крыкам верасьнёвым
гусанькі...

Ой, ляцелі гусі,
Селі на вазёрах
гусанькі...

Селі ў непагоду,
Памуцілі воду
гусанькі...

Да ляцелі гусі
За сіняе мора
гусанькі...

З мілаю вясною
Вяртайцеся скора
гусанькі!...

Зальлецца песьняй,
а лагчыны
Заснуць у шэрані-імгле,
І ўспамінаюцца дзяўчыне
У стройнай постаці Алесь.

Ды так,
забавіцца дзяўчына...
Узыдзе месяц залаты,
Рассыпле пацеркі ў даліне,
Акропіць золатам кусты.

А там—
у высі срэбра-зорнай
Плывуць шнурочкам журавы,
Пераклікаюцца ў прасторы,
Махаюць крыльлямі з-за гораў
Пад сумны гоман баравы.

Як цень купаецца ў крыніцы
І пахне вільгацьцю ў палёх
Тады яна,
лазою ніцай
Махае вольным журавом.

Яны закружацца над пожняй
Вышэй,
ніжэй...
вышэй,
ніжэй...
І ўжо
за пожняй
жораў кожны,
Кружыў
вышэй,
вышэй,
вышэй...

Ляцеце, жоравы, за мора!
Ляцеце, мілыя,
туды,
Дзе усьміхаюцца азёры
Гульлівым сьмехам маладым!

А я пайду...
Ой, позна, позна
Вады зачэрпаю са дна. . .
. . . . . . . . . . . . .
У лузе гнуцца вербалозы,
Яе няма,
і сыпле сьлёзы
Ў гаі крынічанька адна.

*
* *

Танула ў сінь туману сетка.
А сонца чаркай за акном
На прошву шоўкавых палеткаў
Цадзіла хмельнае віно.

Тады у млявасьці санлівай,
Пад гул сасновы—
буйны гул,
Алеся журыцца маўкліва—
Яна запасвае чаргу.

Ня раз у тон цымбалам смутку
Душы дзяўчыны маладой
Пастух сьпяваў пад ліру-дудку,
Як статак гнаў на вадапой.

Жывая сьведка успаміну!..
— Чаму я ўспомніў пастуха?
Як плыў туман ды па даліне
Край неба ціха патухаў,

А цені плавалі ў аблоньні
І ткалі кужаль на мяжы...
Віном упоены сасоньнік
З асеньнім ветрам варажыў;

А там—
у лузе, пад калінай,—
Дзе дываном мурог-трава,
Пастух засмучанай дзяўчыне,
Легэнды ў песьнях напяваў.

Яшчэ адно ў тых успамінах!..
— Чаму я ўспомніў пастуха?
Бо з ім у вольнае дзяцінства
Я думкі ў песьнях калыхаў.

Бывала,
сядзем на кургане
(курган высока над ракой),
Ён дудку звонкую дастане,
Прамые чыстаю вадой,

І чуеш—
дудка замірае,
Плывуць у сэрцы пералівы...
Ячменю шоўкавыя грывы
Да долу хіляцца маўкліва,
А дудка весела,
гульліва,
То смутна-ціха
І тужліва
Пераліваецца, іграе:

Ты, каліна мая,
разаспаная,
не расою—сьлязьмі
паліваная.
Ой, калі ты ўзышла,
распусьцілася,
на зялёны чарот
пахілілася.
Ты, каліна мая,
кучаравая,
зашумі над ракой
новай славаю!..
Ну, чаго ты стаіш
задумёнаю?
Ўскалыхні гэту плынь,
воды сонныя!..

Ня сумуй, што ў палёх
цені плаваюць;
ўскалыхні ціну-дно
вольнай славаю!..
„Да цябе-ж і вясна
яшчэ вернецца.
Толькі моладасьць-сон
больш ня вернецца!..“

Сядзіш маўклівы,
задумёны,
Журбы ня высеяць з грудзей!..
Як льлюцца тоны-перазвоны
І тонуць
ў тоні—
на вадзе...

А скончыць дзед,
глядзіш у вочы—
Густыя веялкі ў сьлязах!..
І доўга, доўга а поўночы
У лузе журыцца лаза.

Дык вось чаму сягоньня ў песьні
Я ўспомніў дзеда-пастуха.
Падзяку шлю яму заўчасьня,
Ён смутак мой закалыхаў!..

Пад сьвіткай сівай,
саматканай,
Ў грудзёх, ня згоеных сьлязьмі,
Па струнах, горам абарваных,
Плыў тон—
далёкага ўспамін.

Як сонца шлях ружова-сіні,
Павольна слала на гары,
Пастух над Нёманам дзяўчыне
Легэнду-казку гаварыў.

Дзяўчына слухала,
а Нёман
У хвалях зельле паласкаў.
Кацілі воды вольны гоман,
Трымцела золатам луска.

## ПЯСЬНЯР ХАРАСТВА

**Максіму Багдановічу**

**Мікола Лебедзь**

Коўдры жоўтыя... хмары ды просіні...
Чырванее, палае ліства...
— Нешта ўспомніўся ты мне у восені,
Багдановіч, пясьняр Хараства!

Усё здаецца вось праўдай вялікаю,
Бы сяджу тут з табою удвух,
Бы над колераў гэтых музыкаю
Твой лунае сьвятлеючы дух...

— А любіў ты прыроду цудосную!
— Шчырым сэрцам поэты любіў!—
Гэты сум, што вярхліны дравёсныя
Сёньня сном—сінім сном апавіў.

— Травы сінія з срэбнымі росамі,
Золак сьвет, што у небе бліснуў,
Восень з жоўта-чырвонымі косамі
І ў празрыстых адзеньнях—Вясну.

Веснавым ап'яняючысь гоманам,
Ты душою зьліваўся з Вясной,—
І у Царстве сваім Зачарованым
Ціха марыў Дзяўчынкай-Красой.

Так—Дзяўчынкай... Іначай ня хочу я
І казаць, мой поэта, калі
Знаю добра, што вочы жаночыя—
І табе сьветлым раем былі!

Ах! З вачамі блакітна-бяздоннымі
Іх знаходзіў ты—чыстых, сьвятых,—
І калені скланяў прад Мадонамі,
І маліўся ціхутка на іх...

— І Красы прадчуваньня нясьмелыя
Ты ў пявучую ткань абалок,—
Нават, воблікі ласкава-белыя
Увянчалі твой сьветлы Вянок..,

Ціха!..—Ноч падышла сінявокая!..
Па-на дрэвах лісты не шасьцяць...
Неба—неба глыбока-глыбокае,
Зоры—зоры зычэюць, зьвіняць

І мігцяць, і сьмяюцца, бязмоўныя...
— Ну, поэце, лятуне,—ляці!—
У натхненьні узьлёты цудоўныя,
Мабыць, радасьць адна у жыцьці!

— І ляціш пад паўночнымі чарамі...
— І ляціш у чароўнай цішы...
І сьвятлеюць блакітнымі марамі
Крыльлі белыя чулай душы...

А ў час іншы,—як неба, ўсё хмурнае,
Ахінулася хусткамі хмар,
І ў садку тваім песьні хаўтурныя
Прасьпяваў бяспуцёвы пясьняр,—

Як асеньнія ветры завыўшыя
Жорсткай сьцюжай спалілі цьвяты,—
І заплакалі астры астыўшыя,—
З імі плакаў, поэта, і ты!

— Плакаў сэрцам пакутным над астрамі...
Ах!—як астры, дрыжала яно!
Ах, поэце! Так плачама часта мы:
Ў нас душа і прырода—адно!

Ах, я ведаю!—ў восень маркотную
Ты затым і стагнаў, і нудзіў,
Што душою—душою гаротнаю—
Сонца—сонца яскравасьць любіў!

Але сонца...—ня зьзяла праменьнямі!..
Хмары, хмары яго абнялі...
Атулілася цьмянымі ценямі
Постаць змрочнай, нядольнай зямлі.

— Змрок, стагодзьдзі нічым непарушаны,—
Жорсткі, жудкі, бязжаласны змрок
На абшары тваёй Беларушчыны
Цяжкай, жудаснай плоймай налёг.

Сыне добры! За Матку балеючы,
Ліў ты сьлёзы на ліру сваю,—
І у песьнях, жальбою зычэючых,
Ты аплакаў Матульку тваю.

Сам ня ведаў ты шчасьця істотнага;
— Мабыць, толькі у марах жадаў.
— У ахвяру народу гаротнаму
Сокі сэрца паціху аддаў...

-— Праца цяжкая... Сьцежкі уюжныя...
Будні шэрыя—морак ды цьма...
Грудзі-ж хворыя, грудзі-ж нядужныя...
Сэрцу-ж холадна... Сонца-ж няма...

Ах, прыстаў ты ад мораку гэтага!
Ах, чмурыла зязюля ў бары!—
Ня убачыўшы сонейка сьветлага,
Закаціўся ты сам... без пары!..

— Там, дзе далечы зьзяюць лагодныя,
Дзе між гор кіпарысы цьвітуць,
Там, далёка ад Захаду роднага,
Абарваўся жыцьцёвы твой пуць.

— Там, дзе мора шырэе бязьмернае,—
Груд магільны ляжыць у Крыму...
Мо‘ зязюля кувае там шэрая...
— Што кувае?.. Аб чым? і—каму?..

— А кувае нябёсам сінеючым,
Што, як плямамі ўспыхне ліства,—
Па-над золатам гэтым зычэючым
Духам веючым, духам сьвятлеючым—
Ты лунаеш, пясьняр Хараства!

## У ДУБРОВЕ

**Падабед Язэп**

Як хмары, даль нахмурыла так бровы.
Ішла ўжо гордаю цыганкай ноч.
А спаць і ня зьбіралася дуброва:
Яна паліла ў сэрцы помсты корч
І грозна хмурыла, як хмары, бровы.

І шум шурпаты ў шыр абшараў
Каціўся-плыў прыбоем морскіх хваль.
Шуршалі ў шопаце балот імшары,
Хмялела ў палкай помсьце галава...
А шум шурпаты плыў у шыр абшараў.

Як-бы дубы кудлатыя, абселі
Паўстанцы масянжовы стог—агонь.
Сыны палёў ячменных і аселіц—
Іх мчаў паўстаньня раскілзаны конь!
Як-бы дубы, яны касьцёр абселі.

⁂

Як рассыпаньне гонтаў—лёстак лёскат
Ня раніў кулямі далёка шыр.
Хатулек шэрых стада—наша вёска—
Цягучым жалем поўніла каўшы,
Хоць і ня трывожыў куляў лёскат.

— Пабітыя на раны ўсе загоны,
А тут і вораг муляе 'шчэ карк...
У рог казіны белыя загоняць!—
Бор цёмны слухаў стогны мужыка,
Глядзелі хмура з ранамі загоны...

⁂

— Ісьці! Няхай на бель-абрус туманаў
Ня льле руччамі вёска срэбра—сьлёз!—
Як волава, упалі словы атамана.
Ніжэй схілілася дзярэў гальлё...
Ня трэ' сьлёз ліць на бель туманаў!

Здавілі розум думкі, як пружыны.
Што крэмень—кожнага душа цяпер...
„Эх, атамане, атамане, не кажы нам,
Мы ведаем: даволі ўжо цярпець".—
Здавілі розум думкі, як пружыны.

А шум шурпаты ў шыр абшараў
Каціўся-плыў прыбоем морскіх хваль.
Шуршалі ў шопаце балот імшары.
Хмялела ў палкай помсьце галава.
А шум шурпаты плыў у шыр абшараў...

# ЗАНЯПАД АНГЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЧАЙ ГЕГЕМОНІІ І ПРОБЛЕМА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

**І. В. Герчыкаў**

Рэволюцыя 48-га году распачала новую экономіку ў гісторыі чалавецтва. Яна ўпяршыню яскрава і выразна выявіла тыя грамадзянскія элемэнты і групоўкі, барацьба паміж якімі на працягу XIX і значнай часткі XX веку вызначыла далейшы ход здарэньняў, які вядзе праз завяршэньне разьвіцьця грамады буржуазнага прамысловага капіталізму к поўнаму яго заняпаду.

Такім парадкам, рэволюцыя 48-га году выявіла існасьць тэй барацьбы, якая, высьпяваючы спачатку XX веку, толькі ў 18 годзе набыла конкрэтныя абрысы. Толькі цяпер зрабілася ясна, што існасьць барацьбы не ў канстытуцыяналізьме, не ў палітычнай дэмократыі, ня ў тых або іншых дасягненьнях ці зьменах, а ў зьмене аднаго грамадзянскага ладу другім. Грамадзянскі парадак, заснаваны на прыватнай уласнасьці на прылады вытворчасьці, сродкі прамысловасьці, павінен замяніцца іншым, заснаваным на падставах дыямэтральна-супроцьлеглых—комунізьме, матэрыяльных і інтэлектуальных падставах прамысловасьці. Усякія відазьмены грамадзянскага парадку, якія могуць узьнікнуць на працягу ад 48-га году да канцовага моманту—комунізму, будуць пераходнымі, нятрывалымі, нядоўгавечннымі ўтварэньнямі, але ўсё больш або менш значнымі сходкамі ў дасяганьні канцовага заданьня сучаснае эпохі.

Усьведамленьне гэтай гістарычнай мэты ў злучэньні з высьвятленьнем тых конкрэтных сіл і акалічнасьцяй, якія вядуць к зьдзяйсьненьню яе і складаюць той пераход ад утопіі да навукі, каторы быў абвешчаны Марксам і Энгельсам.

Вось чаму ўся існасьць сапраўднай, заснованай на даных навукі політыкі з тых часоў складалася з разьвязваньня кордынальнай проблемы—соцыялістычнай рэволюцыі. Так, гэтае пытаньне з усёй яснасьцю—ня толькі тэорытычнай, але і практычнай—было пастаўлена Марксам на другі дзень пасьля рэволюцыі 48-га году. Соцыяльная рэволюцыя—гэта той пункт, каторы яднаў усіх, хто больш або менш знаходзіўся блізка да рэальнай політычнай дзейнасьці, на баку рабочае клясы. Так, Лясаль, які толькі што вырваўся з турмы бэрлінскай контр-рэволюцыі і прабіўся скрозь сетку судовых прасьледваньняў, 24 кастрычніка 49-га году ў

лісьце да Маркса дзеліцца з ім практыкай перажытага рэволюцыйнага часу. З цэлага шэрагу фактаў і „ў зьвязку з гісторыяй Нямеччыны 1848 і 1849 г. г.—піша Марксу,—я набыў тыя веды, што ніякая барацьба ў Эўропе ня можа мець посьпеху, калі толькі з самага пачатку яна ня будзе абвешчана *чыста соцыялістычнай* (падкрэсьлена Лясалем), што ня можа больш быць удачнай ніякая барацьба, у якой соцыяльныя пытаньні зьяўляюцца толькі туманным элемэнтам і стаяць на заднім пляне і якая з надворнага боку йдзе пад сьцягам нацыянальнага адраджэньня або буржуазнага рэспубліканства; што ніякая барацьба ня можа мець посьпеху, калі яна, як у чэрвені 1848 г., не абвесьціць раней за свой пароль бяз усякіх дадаткаў: „праца або сьмерць“ (лісты Ф. Лясаля к К. Марксу і Фр. Энгельсу. Расійскае выданьне 3-яе. Выдавецтва „Литературное дело“ С. Пецярбург).

Маркс і яго таварышы, кіруючы рэволюцыяй 48 году, жывучы ў Нямеччыне, вельмі добра зналі, што ўсякая рэволюцыя, хоць-бы і тая, што разьвіваецца пад лёзунгамі якраз нацыянальнымі, мае ў існасьці характар інтэрнацыянальны,—спаткаліся з дзьвюма сіламі, якія зьявіліся для рэволюцыі 48 г. неперaward можнымі. Адна сіла—на Ўсходзе, паншчынная, напоўфэўдальная Расія Мікалая I; другая—на Захадзе, буржуазная Ангельшчына Пальмэрстона. Абедзьве дзяржавы ўважліва сачылі за ходам рэволюцыі ў контынэнтальнай Заходняй Эўропе. Пільна чакалі таго моманту, калі трэба будзе кінуць ужо мобілізаваныя сілы, на які хацясэктар гэтай рэволюцыі для абароны прынцыпаў тае ці іншае дзяржавы, зафіксаваных у розных умовах паміж дзяржавамі. У адносінах да Нямеччыны гэта быў прынцып партыкулярызму і легітымізму, г. зн. захаваньне раздробу Нямеччыны, захаванага ў трактатах 1815 г. Аб'яднаньне Нямеччыны зьяўлялася асноўным і самым моцным пунктам рэволюцыі. А таму змагацца супроць яго—значыла змагацца супроць рэволюцыі. Аб'яднаньне-ж Нямеччыны, г. зн. зьнішчэньне перажыткаў фэўдалізму ў цэнтры Эўропы, зьяўлялася пытаньнем ня толькі выключна нямецкага, але агульнаэўропэйскага прогрэсу. Значыцца, вядучы барацьбу супроць зьнішчэньня старанямецкага фэўдалізму, Ангельшчына і Расія змагаліся, галоўным чынам, супроць рэволюцыі ў эўропэйскім маштабе. Вось якія дзьве сілы сталі на шляху к зьдзяйсьненьню першага конкрэтнага кроку эўропэйскай рэволюцыі.

У зьвязку з Крымскай кампаніяй і завастрэньнем ангельска-расійскіх адносін, на якое эўропэйскія рэволюцыянэры пакладалі надзвычайныя надзеі, Лясаль пісаў Марксу ў сьнежні 53 г.: „Мы на контынэнце зробімся цяпер касавокімі,—адным вокам мы пазіраем на Ангельшчыну, а другім на Ўсход“, але касавокасьць дыктуецца не 53-ім, а 48 годам.

Так „Новая Рэйнская Газэта“ аднача сна пісала і пра цара, які стаіць пад весьніцамі Торну, і пра другую „найбольш рэакцыйную дзяржаву Эўропы“—Ангельшчыну.

Ужо ў навагоднім артыкуле ад 1 студзеня 49 г., падлічаючы вынікі рэволюцыйнага руху 1848 г., „Новая Рэйнская Газэта“ піша:

„Краіна, якая зьмяніла цэлыя народы ў сваіх пролетараў, якая сваімі вялізнымі рукамі ахапіла ўвесь сьвет, якая ўжо раз аплаціла сваімі грашыма выдаткі эўропэйскай рэстаўрацыі[1]), краіна, у якой клясавыя супярэчнасьці выліліся ў найбольш выразныя і бессаромныя формы,—гэтая краіна, Ангельшчына, стаіць нібы-та гара, аб якую разьбіваюцца ўсе рэволюцыйныя хвалі. Яна хоча задушыць новую грамаду яшчэ ў жываце маткі. Карэнная зьмена экономічных адносін у якой-небудзь краіне эўропэйскага контынэнту, на ўсім эўропэйскім контынэнце,—без Ангельшчыны, зьявілася-б завірухай у шклянцы вады“ (Д. Разанаў. Контр-рэволюцыйная роля Ангельшчыны і Расіі ў 1848-49 г. г. Д. Разанаў—„Нарысы па гісторыі марксызму“. Выд. „Маскоўскі Рабочы“ М. 23 г., ст. 421). У тэй самай „Новай Рэйнскай Газэце“ ў прадмове к сваяму артыкулу „Наёмная праца і капітал“, зьмешчаным у нумары ад 4-га красавіка 49 г., Маркс гаворыць аб тым, што „Ангельшчына—гэты дэспот сусьветнага рынку—спакарае і эксплёатуе ў гандлёвых адносінах буржуазныя клясы розных эўропэйскіх нацый“ (ст. 492). Вывучаючы экономічныя прычыны рэволюцыі і контр-рэволюцыі Эўропы 48-50-х гадоў, Маркс паказвае на тое, што ўсякая палітычная рэакцыя ў Эўропе трымаецца на экономічным панстве ангельскай буржуазіі і называе Ангельшчыну „Дэміургам буржуазнага космосу“.

Калі пакінуць у баку кароткі пэрыод 48-50 гадоў надзеі на магчымасьць разьвіцьця рэволюцыйнага руху ў Ангельшчыне ў зьвязку з рухам „чарцістых“, дык Ангельшчына за ўсю гісторыю XIX веку аж да цяперашняга часу зьяўлялася моцнай апорай буржуазнага панства і асяродкам буржуазнай рэакцыі супроць соцыялістычнай рэволюцыі. Цэнтр рэволюцыйна-соцыялістычнага руху, які з 1848 году быў у Францыі, з 70-х гадоў перанёсься ў Нямеччыну, а з пачатку сусьветнай вайны 1914 г.—у Расію. Цэнтр-жа контр-рэволюцыі ўвесь час і цяпер знаходзіцца ў Ангельшчыне. Моцным-жа гэты цэнтр зьяўляецца да тых часоў, пакуль Ангельшчына сапраўды зьяўлялася гегемонам у сусьветнай экономіцы, панам над буржуазіяй іншых краін, панам і гвалтаўнікам вялікай колькасьці абшараў па-за Эўропай. Але соцыялістычная думка ўжо з вельмі раньняга часу высьветліла, што сусьветнае панства Ангельшчыны павінна скончыцца. І ня толькі пад ціскам сіл рэволюцыі. Канец ангельскай гегемоніі хаваецца як у процэсе, так і ў выніку росту самой буржуазнай Эўропы. Што іменна гэты рост буржуазнай Эўропы зломіць гегемонію Ангельшчыны, разьвяжа спачатку рэволюцыйныя сілы ў сярэдзіне самой Ангельшчыны, а потым злучыць іх з рэволюцыйнымі сіламі эўропэйскага маштабу. Тады і створыцца адзіны фронт соцыялістычнай рэволюцы ісупроць адзі-

[1]) Напольеоноўскія войны, рэстаўрацыя Бурбонаў.

нага фронту эўропэйскай буржуазіі. Заканчваючы сваю працу пра палажэньне рабочай клясы на Ангельшчыне, напісаную ў 1844 годзе, Ф. Энгельс піша: „Як вялікі шансы ангельскай буржуазіі? Замежная прамысловасьць, асабліва амэрыканская, здолее вытрымаць ангельскую конкурэнцыю, нават пасьля адмены хлебнага мыта. Нямецкая прамысловасьць праяўляе вялікія намаганьні, амэрыканская-ж—разьвіваецца вялізнымі крокамі. Амэрыка з сваімі нявычарпанымі дапаможнымі сродкамі, з сваімі нязьмернымі пакладамі вугалю і жалеза, з сваім вялікім багацьцем на водную сілу і суднаходныя рэчкі, асабліва з сваім энэргічным, дзейным насельніцтвам, у параўнаньні з якім ангельцы ўяўляюцца млявымі флегматыкамі,—Амэрыка стварыла меней, чымся ў 10 год, прамысловасьць, якая ў грубых баваўняна-папяровых таварах (галоўнай галіне ангельскай вытворчасьці) ужо цяпер конкуруе з Ангельшчынай, выціснула ангельцаў з паўночна-амэрыканскага і паўднёва-амэрыканскага рынку і знаходзіць збыт поруч з ангельскімі продуктамі ў Кітаі. Ня меншых посьпехаў дасягла Амэрыка і ў другіх галінах вытворчасьці. *І калі якая-небудзь краіна мае шансы на монополізацыю прамысловасьці, дык гэта—Амэрыка* (падкрэсьлена мною—І. Г.). І калі, такім чынам, ангельская прамысловасьць вытрымае крах, што абавязкова здарыцца *ў бліжэйшыя 20 год...*" (Ф. Энгельс—„Становішча рабочай клясы на Ангельшчыне", стар. 233).

„Усякае палітычнае прароцтва—кажа Франц Мэрынг—ёсьць дзяцінная гульня, калі яно спрабуе прарочыць будучы ход рэчаў ува ўсіх яго конкрэтных падрабязнасьцях". Нібы, каб ілюстраваць пададзенае, Франц Мэрынг падае думку Лясаля, каторы і лічыў сваёй задачай толькі „з ведаў мінулага выкрываць веды сучаснага і прарочыць абрысы будучага" (Увагі да „Литературное наследство" К. Маркса, і Ф. Энгельса, т. І, стар. 308, Выд. Т-ва „Мир", Масква, 1907 г.). Такім чынам, зусім ня важна тое, што Энгельс, прабуючы намаляваць будучы ход здарэньняў ува ўсіх яго конкрэтных падрабязнасьцях, памыліўся вызначыць тэрмін заняпаду ангельскай гегемоніі на дваццаць год. Істотным для нас зьяўляюцца ня тэрміны, а выключна тэндэнцыі гэтага будучага, якія Энгельсам вызначаны надзвычайна правільна. Энгельс у прадмове да апошняга выданьня, пры сваім жыцьці, сваёй кніжкі на нямецкай мове ў 1892 годзе, амаль цераз 50 год пасьля яе зьяўленьня, зноў зварачаецца да гэтага прароцтва: „Я не дазволіў сабе выключыць з тэксту шматлікія прароцтвы—дзіўна, што шмат якія з іх спраўдзіліся і што крытычнае становішча ангельскай прамысловасьці, з прычыны контынэнтальнай і асабліва амэрыканскай конкурэнцыі, якое я прадбачыў тады ў вельмі блізкай будучыне, сапраўды прышло". У тэй-жа прадмове Энгельс зазначае, што „Францыя, Нямеччына і, паперш за ўсё, Амэрыка—вось грозныя супраціўнікі, якія ўсё больш і больш парушаюць прамысловую монополію Ангельшчыны, як я прадбачыў у 1844 годзе". Да гэтага-ж пытаньня Энгельс зноў зварачаецца ў спэцыяльным сваім артыкуле, які

зьявіўся 1-га сакавіка 1885 г. ў лёндонскім „Comonwealts“ на ангельскай мове, а ў „Neue Zeit“—у чэрвені таго самага году на немецкай мове. Праз 7 год пасьля зьяўленьня гэтага артыкулу, у 1892 г., Энгельс зноў зьмяшчае яго ў вышэйпамянёнай прадмове да гісторыі рабочае клясы ў Ангельшчыне, ня лічачы патрэбным рабіць у ім якія-небудзь зьмены і ў зацьвярджэньне правільнасьці тых тэндэнцый у экономічным і гістарычным разьвіцьці Ангельшчыны, якія ён вызначыў у 1844 г. Калі параўноўваеш вынікі і прогнозы 24-х гадовага Энгельса з тымі, якія пісаліся ў тагочаснай ангельскай літаратуры ў зьвязку з гэтым пытаньнем, дык дзівішся беднасьці думкі і ўбогаму таптаньню на месцы гэтых пісьменьнікаў, каторыя займаліся ў сапраўднасьці толькі выхаваньнем свайго выабражэньня, але ні ў якім разе ня рэальным вывучэньнем становішча рэчаў. Адначасна з тым, як 24-х гадовы юнак Энгельс пісаў сваю кнігу „Становішча рабочай клясы на Ангельшчыне“, 48-мі гадовы Томас Карлейль, які тады ўжо ўславіўся сваімі працамі (паводле выразу аднаго нямецкага профэсара—„ein wirklicher Seher der grosse und wunderliche Schatte“ (ісьцінны прарок, вялікі, дзівосны шотляндэц[1]), апублікаваў сваю слынную кнігу „Цяпер і раней“. Гэта збор „рапсодый“ (выраз Энгельса) і сэнтэнцый па розных пытаньнях ангельскага жыцьця таго часу. У Deutsche-Französische Jarbücher“ у 1884 годзе Энгельс надрукаваў даволі вялікую рэцэнзію на гэтую кнігу, у якой ён кажа: „Сярод мноства таўстых кніжок і ценкіх брошур, якія зьявіліся ў мінулым годзе на Ангельшчыне для вясёласьці і навучаньня „адукаванае грамады“, „вышэйадзначаны твор—адзіны, які варта прачытаць“. „Колькі-б вы ні шукалі, кніжка Карлейля—адзіная, якая закранае чалавечыя струны, гаворыць пра чалавечыя справы і адчыняе сьляды чалавечага сьветапагляду“[2]). І вось у гэтай выключнай для таго часу ў ангельскай літаратуры кніжцы, якая разглядае мінулы і будучы лёс Ангельшчыны, Карлейль прыпыняецца на пытаньні аб пагрозах ангельскай гандлёва-прамысловай гегемоніі. „Жыхары контынэнту, кажуць, вывозяць нашыя машыны, пачынаюць самі прасьці для сябе бавоўну і вытвараць мануфактурныя тавары, адразаць нас то ад гэтага, то ад таго рынку. Весткі бясспрэчна сумныя, але не непапраўныя“. Усьлед за гэтым няма паказаньняў на тое, як выйсьці з такога становішча, якое ствараецца, а толькі паказаньні на тое, што гэта яшчэ „ніякім разам ня самыя сумныя весткі“. „Самая сумная вестка—працягвае Карлейль, гэта тое, што мы лічым, нібы-та нашае нацыянальнае існаваньне, як часамі можна пачуць, залежыць ад продажы напрадзенае бавоўны на фартынг за фунт таней ад усіх іншых народаў“. Карлейль абураецца, што гэтыя гандлярскія меркаваньні павінны быць адзінай асновай для разьвіцьця ангельскай нацыі і выказваецца рапсодыяй супроць мамонізму, супярэчнасьцяй шалёнага імкненьня да нажывы, з аднаго боку,

[1]) Fritz Endres „Der britische Imperialismus“ Süddeutsche Monatshefte August, 1918 j.
[2]) Энгельс—„Положение Англии“. „Литературное наследство“, т. I, стр. 407.

зьдзіўляючай беднаты—з другога. З пункту погляду Энгельса, Карлейль вязьне ў сваіх рапсодыях і высока моральных сэнтэнцыях, не дадумваючы ўсіх акалічнасьцяй да канца. „Якім парадкам думае ён (Карлейль)—кажа Энгельс—зьнішчыць „конкурэнцыю“, попыт і посул“, „служэньне мамоне“ і г. д. раз існуе корань усяго гэтага—прыватная ўласнасьць?“ Перахопліваючы ад француськіх утопічных соцыялістых цьмяны лёзунг—„організацыя працы“, Карлейль заклікае к разумнай організацыі працы, якая кіруецца геніямі і гэроямі. „Організацыя працы тут не паможа; бяз пэўнай тожсамасьці інтарэсаў яна нават ня можа быць зьдзейсьнена“. „Чаму не абдумаць пасьлядоўна, ня прызнаць тожсамасьці інтарэсаў адзіна вартным чалавека становішчам і тым прыпыніць усе цяжкасьці, усе неазначанасьці і цьмянасьці?“ пярэчыць Энгельс (ibid. стар. 431). Але дзіўна, як гэта Энгельс, адзначыўшы тое, што Карлейль не прадумвае сваіх думак да лёгічнага канца ў адзін бок, не заўважвае, што Карлейль дадумвае іх да лёгічнага канца ў другі бок, што Карлейль не застаецца толькі ў плоскасьці сэнтэнцый шматлікіх вынікаў і практычных паказаньняў. У другой частцы кніжкі Карлейль знаходзіць практычнае выйсьце. Вялікі маралісты бачыць яго ў эміграцыі і колёнізацыі, і пашырэньні замежнага гандлю, і захопе рынкаў, калі трэба, дык нават з дапамогай... гармат. Вось гэта ідэал у орыгінальным намаляваньні.

„Перасяленства... Усякі добрадзейны рабочы, каторы знашоў для сябе Ангельшчыну занадта цеснай, а „організацыю працы“ не даволі перадавой, мог-бы знайсьці мост, пабудаваны для таго, каб перанесьці яго ў новыя Заходнія краіны, каб ён „організаваў“ там з большай для сябе прасторай якую-небудзь працу. Гэта зьявілася-б сапраўдным благаславенствам, *зборам для нас новага хлеба, набываньнем ад нас новых тканін і сякер;* пакіданьнем нас, прынамсі, у супакоі замест таго, каб нам быць *чарцістымі фізычнай сілы*“. Не дарма шмат хто, асабліва нямецкія гісторыкі лічаць Карлейля ідэолёгічным роданачальнікам і натхненцам сучаснага ангельскага імпэрыялізму. Колёнізацыя павінна адцягнуць перавышак насельніцтва і зьменшыць для ангельскай буржуазіі націск рэволюцыйных элемэнтаў у сярэдзіне краіны. Гэта колёнізацыя для ангельскага рабочага павінна быць чымсьці накшталт напоўдобраахвотнай, напоўпрымушанай ссылкі. І, як-бы сьмяючыся над рэволюцыйным лёзунгам працы, Карлейль бярэ ў чужаслоўі слова організацыі і прапануе рабочым праяўляць свой рэволюцыйна-організацыйны тэмпэрамант па-за Ангельшчынай, але так, каб усё-ж такі заставацца об'ектам эксплёатацыі ангельскага капіталу, але не ў якасьці рабочага, а—селяніна-спажыўца продукцыі ангельскай прамысловасьці. Ангельшчына—фабрыка для дастаўкі ўсяго патрэбнага земляробскім колёніям—вось ідэал Карлейля.

„Наша маленькая выспа зрабілася занадта цеснай для нас, але сьвет яшчэ досыць вялікі. У Ангельшчыне будуць надзейныя рынкі ў новых ангельскіх колёніях ва ўсіх частках земнае кулі. Усе людзі ган-

длююць з усімі людзьмі, калі гэта для людзей карысна; *рабіць гэта абавязаў людзей нават сам стварыцель* (новае эвангельле, якое выпраўдвае гвалт—І. Г.). *Нашы сябры ў Кітаі, якія злачынна адмаўляліся гандляваць пры гэткіх умовах*—хіба нам ня прышлося гутарыць з імі ўрэшце нават гарматнымі стрэламі (1840—42 г. г., вайна з Кітаем, выкліканая тым, што кітайскі ўрад не дазволіў увозіць опіум і тым пазбавіў Ост-Індыю самага буйнога рынку для гэтае атруты. Дзякуючы гэтай вайне Кітай абавязаўся ня сьціскаць гандаль опіумам, адчыніў пяць прыстаняў для эўропэйскага гандлю і аддаў Ангельшчыне Гонконг) і праконваць іх, што яны павінны гандляваць". Гэтак, Карлейль пачаў з адмаўленьня капіталістычнае Ангельшчыны, а скончыў моральна-рэлігійным, надзвычайна догматычным выпраўдваньнем колёнізацыйных ідэалаў ангельскае буржуазіі і найболей подлае і агіднае вайны, якую толькі ведае гісторыя,—вайны за права труціць кітайскае насельніцтва опіумам, ня гледзечы на моцныя перашкоды кітайскага ўраду. Гэтак, стоячы на грунце прыватнай уласнасьці, Карлейль ня можа выйсьці з дрэннага кола „мамонізму", „вольнае конкурэнцыі", з якімі ён змагаецца. Гэтак, спрабуючы нешта піхнуць наперад, ён таўчэцца на адным месцы.

Сам Энгельс у сваей працы „Становішча рабочае клясы ў Ангельшчыне" гаворыць аб выдатнейшым тэорэтыку ангельскае буржуазіі 40-х гадоў—Мак-Кулохе, які даводзіў, што Амэрыка толькі тады пяройдзе да прамысловасьці, калі вырабіць усю зямлю ў Амэрыцы. Энгельс ужо ў 44 годзе расчыняе ўсю глыбіню супярэчнасьцяй, якія разьдзіраюць ангельскі капіталізм, якія рана або позна, цераз пэрыоды ўпадку і росквіту, павінны абавязкова прывесьці к заняпаду ангельскай гегемоніі. Праца Энгельса шмат шырэйшая, чым гэта можна было чакаць, чытаючы яе назву. Канчаючы сваю рэцэнзію на кнігу Карлейля, Энгельс яшчэ да зьяўленьня ў друку свае працы аб становішчы рабочае клясы ў Ангельшчыне піша: „Я маю замер у бліжэйшых кніжках нашае часопісі больш падрабязна спыніцца на становішчы Ангельшчыны і існасьці яе—становішчы рабочае клясы". Такім чынам, калі Энгельс пісаў нібы-та на абмежаваную тэму, ён сапраўды абхопліваў ва ўсю шырыню проблему далейшага лёсу Ангельшчыны. І ў той час, калі Карлейль, фальшыва выслаўляючы працу, марыў аб высяленьні з Ангельшчыны рабочых, нездаволеных організацыяй буржуазнай прамысловасьці, Энгельс у тэй-жа самай рэцэнзіі піша: „Толькі невядомая контынэнту частка ангельскае нацыі, толькі рабочыя Ангельшчыны, беднякі, сапраўды рэспэктабэльны, ня гледзечы на ўсю іх грубасьць і ўсю іх дэморалізацыю. Ад іх прыдзе збаўленьне Ангельшчыны: у іх яшчэ хаваецца прыгодны для творчасьці матэрыял, у іх ёсьць яшчэ моц для вялікае нацыянальнае справы, у іх ёсьць яшчэ будучына". Разумеючы так значэньне рабочае клясы ў Ангельшчыне, Энгельс у сваёй працы аб ёй малюе лёс усяе ангельскае нацыі.

У адзначаным намі вышэй артыкуле 1885 г., Энгельс паказвае на два тэрміны, якія адзначаюць пераможны ход ангельскае буржуазіі ў яе панаваньні над нацыяй. Выбарная рэформа 1832 г.—перамога буржуазіі над зямельнай арыстократыяй, і 1848 г.—перамога буржуазіі над рабочай клясай. З 1848 г. пачынаецца уздым вытворчасьці, ня гледзечы на гандлёва-прамысловыя крызісы 1857—1866 г. г., але „з 1876 г.—гаворыць Энгельс—мы знаходзімся ў стане хранічнага застою ўва ўсіх галоўных галінах прамысловасьці. Ня прыходзіць канчатковы крах, але і ня прыходзіць час росквіту, на які мы мелі права спадзявацца і ў якім мы знаходзімся амаль што дзесяць год. З чаго гэта так робіцца?“ (Энгельс—„Становішча рабочае клясы ў Ангельшчыне“. Прадмова аўтара да другога дапоўненага выданьня, стар. 12). І адказваючы на гэтае пытаньне, ён зазначае той факт, што Ангельшчына магла захаваць сваё панаваньне, як выключна прамысловы асяродак „земляробскага сусьвету“, і гэта сваё значэньне яна губляе з павялічэньнем тэхнікі ў Эўропе і асабліва ў Амэрыцы.

„*Капіталістычная вытворчасьць (Ангельшчыны) забегла ў тупік. Кожны год прыводзіць Ангельшчыну да альтэрнатывы: або нацыя, або капіталістычная вытворчасьць разьдзіраюцца на часткі*. Якое з іх павінна рыхтавацца да гэтага?“ (Ibid., ст. 13).

„Чым больш сьціскаецца становішча Ангельшчыны знадворку, тым больш загострываюцца ўзаемаадносіны ў сярэдзіне. У часе эксплёатацыі сьвету ангельскай буржуазіяй сёе-тое перападала і ангельскім рабочым, асабліва кваліфікаваным вярхом, хоць, у параўнаньні з ростам нацыянальнага багацьця, дабрабыт рабочае клясы рос вельмі нязначна, цяпер-жа, калі становішча ангельскае буржуазіі на сусьветным рынку пагоршала,—становішча рабочае клясы зробіцца зусім дрэнным, і перад ёю паўстане пытаньне аб соцыяльнай рэволюцыі“.

„З зьніштажэньнем гэтай (сусьветнай прамысловай) монополіі згубіць сваё прывілейнае становішча і рабочая кляса. У вадзін які-небудзь дзень рабочая кляса—не выключаючы і прывілейнае меншасьці—убачыць сябе на адным роўні з рабочымі іншых краін. А гэта прычына, з якой у Ангельшчыне ізноў пачне разьвівацца соцыялізм“.

Для азначэньня становішча ангельскае прамысловасьці Маркс і Энгельс, як і шмат іншых экономістых таго часу, каб упросьціць задачы, орыентаваліся на аснове становішча ангельскае баваўняна-папяровае вытворчасьці. Для таго часу пры тэй ролі, якую грала баваўняна-папяровая прамысловасьць у вагульнай сыстэме гаспадаркі, гэта быў мэтодолёгічна магчымы спосаб. Нават цяпер, калі значэньне бавaўняна-папяровае прамысловасьці ў агульнай сыстэме ангельскае гаспадаркі значна зьнізілася ў параўнаньні з 50-мі, 60-мі і нават 70-мі гадамі,—і то яшчэ лічаць магчымым орыентавацца на бавaўняна-папяровую прамысловасьць для высьвятленьня тэндэнцый усяе ангельскае гаспадаркі. В. Е. Матылёў у

артыкуле „Ангельшчына на сусьветным тэкстыльным рынку“, напісаным у 1924 г. („Плянавая гаспадарка“ № 6, чэрвень 25 г.), гаворыць: „Бяручыся за высьвятленьне становішча Ангельшчыны на сусьветным тэкстыльным рынку, мы маем мэтай высьветліць на паасобным прыкладзе тэкстыльнае прамысловасьці некаторыя імкненьні разьвіцьця ангельскае гаспадаркі. Тэкстыльная прамысловасьць зьяўляецца найстарэйшай асноўнай галіной прамысловасьці Ангельшчыны. Імкненьні, якія мы знойдзем у гэтай галіне будуць адбіваць імкненьні разьвіцьця ўсяе ангельскае прамысловасьці“. І калі, такім чынам, орыентавацца на тэкстыльную вытворчасьць, дык дапушчэньне Энгельса пра адносны застой у ангельскай гаспадарцы знаходзіць сабе сьцьвярджэньне. Артыкул В. Е. Матылёва, зложаны на падставе апошніх даных ангельскае статыстыкі, дае наступны малюнак.

Абсолютная каштоўная велічыня экспорту (вывазу) тэкстыльных тавараў да 1873 г. павялічвалася, пасьля гэтага—хісталася на трохі паніжаным роўні; наглядаецца ўпадак тэкстыльных тавараў і асабліва баваўняна-папяровых тканін у экспорце; павольны рост экспорту баваўняных тканін in natura. Пачынаючы-ж з 90-х гадоў, экспорт прадзева зьніжаецца, гэтаксама падкрэсьліваецца застой у экспорце ваўняных, ільняных і джутавых тавараў з імкненьнем да ўсё большага скарачэньня яго.

Тое, што Энгельс прарочыў у 1844 годзе і пацьвердзіў у 1885 г., ён мог бачыць, як яно ажыцьцяўлялася ў 1892 г. „Жуд з усіх жудаў—соцыялізм уваходзіць у моду“ (у Англіі)—піша ён у гэтым годзе. Растуць новыя трэд-юніёны, якія ахопліваюць ня толькі кваліфікаваныя вярхі рабочае клясы, але і галоўныя масы „нявывучаных“ рабочых. Усходні (рабочы) Лёндон абуджаецца, у ім разьвіваецца клясавая сьвядомасьць, і з нетраў яго вырастае свая рабочая партыя, і рабочая кляса пачынае ажыцьцяўляць сваю ўласную політыку і перастае быць болей падвескам да двух старых ангельскіх буржуазных партый—лібэралаў і консэрватараў. „Згінула вера ў „вялікую лібэральную партыю“, вера, якая ўладала розумам рабочых амаль што сорак год“. Такім чынам, Энгельс прароцтвуе няўхільны захад лібэральнае партыі ў Ангельшчыне, партыі, якая дзесяткі гадоў была кіраўніком у самыя бліскучыя пасьля рэволюцыі часы ў гісторыі Ангельшчыны.

Гэта той факт „заняпаду лібэралізму“, які цяпер, пасьля выбараў у ангельскі парлямант у 1924 г. і першае спробы рабочага ўраду, выклікае вялікую цікавасьць усіх політычных тэорэтыкаў і гісторыкаў і ацэньваецца, як найважнейшы факт сучаснага гістарычнага пэрыоду.

„Ангельская рабочая партыя—піша Энгельс у 1892 г.—будзе досыць добра організаванай, каб палажыць канец гушканьню абедзьвюх партый, якія зьмяняюць адна адну ва ўрадзе і тым узмацняюць панаваньне буржуазіі“.

Здарэньні разьвіваліся, хоць і ня гэтак хутка, але якраз так, як вызначаў Энгельс.

У нашы дні гегемонія (верхаводзтва) Амэрыкі—бясспрэчны факт. Пытаньне збыту ангельскае продукцыі стаіць перад Ангельшчынай, як неразьвязальная проблема, якая з кожным днём усё болей і болей заблытваецца.

„Беспрацоўе—гэта тая „балячка“ (як сказаў Л. Д. Троцкі), якая падцінае організм Англіі“. І політыкі, і практыкі, і тэорэтыкі бясьсільна б'юцца над разьвязаньнем пытаньня аб беспрацоўі. А над усімі імі ўзвышаецца стары, зроблены Энгельсам у 44 годзе надпіс: „Большасьць пролетарыяту зробіцца назаўсёды „лішняй“ і павінна будзе выбіраць нешта адно паміж галоднаю сьмерцю і рэволюцыяй“.

А рэволюцыя ў Ангельшчыне—ёсьць заканчэньне соцыялістычнае рэволюцыі ў сусьветным маштабе.

# ЛЮТЫ—КАСТРЫЧНІК НА БЕЛАРУСІ

**Л. Каган**

## I

Прышла, урэшце, жыватворчая бура Лютаўскай рэволюцыі. У нашую задачу не ўваходзіць выўчэньне Ўсерасійскага Лютага, але каб лепш зразумець істоту Лютага на Беларусі, мы на ім усё-ж сьцісла спынімся.

Усерасійскі Люты—дзіцянё вайны 1914 году. У сваю чаргу, вайна 14 году — выдумка нашай айчыннай буржуазіі ў саюзе з царызмам. Справа ў тым што ў пачатку XX веку расійская баваўнянапапяровая прамысловасьць—важнейшая галіна нашай прамысловасьці наогул—зрабіла вялізазныя посьпехі. Яе продукцыю ўжо ня мог больш паглынаць уласны рынак, дзеля таго што селянін—галоўны спажывец паркалю—багатшым не зрабіўся. Ён мог-бы больш купляць толькі ў тым выпадку, калі-б павялічылася плошча яго ральлі, а ў 1905-6 г. г., як вядома, селянін замест зямлі, дзеля якой ён паўставаў, атрымаў карныя экспэдыцыі.

Такім чынам, у сувязі з прамысловым уздымам (з 1908-9, прыблізна, гадоў гэты ўздым адчуўся амаль ува ўсіх галінах прамысловасьці[1]), а не ў аднэй толькі баваўнянапапяровай расійскай буржуазіі робіцца цесна на айчынным рынку, і яна пачынае шукаць збыту для сваіх тавараў па-за межамі краіны.

Спачатку нашыя буржуі кінуліся на рынкі Далёкага Ўсходу: у Манголію, Манджурыю. Але яны былі і далёка, і ня досыць ёмістыя.

---

[1]) Колькасьць рабочых, пачынаючы з 1909 году, няўхільна павялічваецца. У 1909 годзе рабочых у прамысловых прадпрыемствах, падлеглых нагляду фабрычнай інспэкцыі, было, у круглых лічбах 1.800 т. ч.; у 1910 годзе—ужо 1950 т. ч.; у 1911 г.—2.050 т. ч. і ў 1912 г.—2.150 т. ч.

Аб росьце вытворчасьці можна меркаваць з наступных лічбаў: да прамысловага ўздыму ў 1910—12 г. г. бавоўны пераапрацоўвалася, у сярэднім, за год 23 міл. пудоў, у гады ўздыму—24.600 т. п. за год. Чыгуну вытапліваласся: у 1907 г.—172 м. п., 1910—185 м. п., 1911 г.—219 м. п., 1912—256 м. п. Такім чынам, вытапка чыгуну за 3-4 гады павялічылася на 45 проц. Надзвычайна павялічылася агульная сума ўкладаў і бягучых рахункаў у расійскіх крэдытовых установах: з 3 мільярдаў рублёў у 1908 годзе да 5200 мільёнаў рублёў у 1913 г. *К. І. Шэлавін.*—„Рабочый класс і его партия", стар. 361.

Тады ўвагу расійскіх прамыслоўцаў прыцягнуў Бліжэйшы Ўсход (Бальканскі поўвостраў, Турцыя, Малая Азія, Пэрсія і суседнія краіны). Тутака, натуральна, інтарэсы нашых буржуяў сткнуліся з інтарэсамі капіталістых іншых краін Эўропы. Як было гэтага ўнікнуць? Проста далучыць да Расіі Турцыю і Пэрсію, зразумела, было немагчыма. Заставаўся другі спосаб—захоп Дарданэль, гэтага ключа да краін Бліжэйшага Ўсходу.

Зьдзейсьніць гэты захоп можна было толькі шляхам вайны з другім буйным імпэрыялістычным драпежнікам—Нямеччынай, якая таксама даўно вастрыла зубы на бліжэйшаўсходні рынак (таму вось ужо ў пачатку XX веку нямецкая буржуазія марыла аб тым, каб праклясьці чыгунку Бэрлін—Багдад—Пэрсыдзкая затока). Адгэтуль—расійска-нямецкая вайна 1914 году.

Такім чынам, расійская буржуазія хацела вайны,—гэтае жаданьне ўладна дыктавалі ёй экономічныя інтарэсы, і царызм, які быў у яе на повадзе, вайну абвясьціў. Гэта быў момант, калі сяброўства буржуазіі і царызму дасягло вышэйшай ступені, тое сяброўства, якое пачалося яшчэ ў 1905 годзе перад тварам агульнага ворага—бунтуючага пролетарыяту краіны.

Але царызм ужо дагніваў, і ў гэтым хутка праканалася буржуазія. Перамогі за перамогамі над расійскімі войскамі, якія былі выкліканы здрадамі вышэйшага камандваньня, казнакрадзтвам, агульнай недарэчнасьцю ўрадавай сыстэмы (як узор наўзьдзіў недарэчна наладжанай дастаўкі і транспорту, можна ўспомніць такі, проста камэдны прыклад: голад у арміі і сталіцах, у той час як у Сібіры дзесяткі тысяч пудоў мяса гнілі на вакзалах, а сьметанковым маслам мазалі колы ў драбінах)—усё гэта, з аднаго боку, падтрымвала глыбокае нездаволеньне мас рабочых і сялян, забраных у армію, з другога—стварала рэзка опозыцыйныя настроі і сярод буржуазіі. Гэтак званы „прогрэсыўны блёк“ Дзяржаўнай Думы, у якім ядналіся дэпутаты буйной, сярэдняй і часткай дробнай буржуазіі, дабіваецца з думскай трыбуны зьмены старога ўрадавага самаўладна-бюрократычнага ладу і стаіць за стварэньне адказнага перад Думай міністэрства, складзенага „з лепшых грамадзянскіх дзеячоў“. Ужо ў 1916 годзе сыплецца дождж проклямацый з лёзунгамі: „Далоў самаўладзтва!“, „Вайна да пераможнага канца!“, „Патрабуем адказнага міністэрства з лепшых грамадзянскіх дзеячоў!“. Гэтак Мілюковы і Радзянкі настойліва яшчэ за год да рэволюцыі рэкомандавалі сябе „ў міністры“. А калі ўсё ўзрастаўшы харчовы крызіс выклікаў у канцы лютага 1917 году вулічныя непарадкі ў сталіцы, і з гэтай іскры разгарэлася полымя пераможнай усерасійскай рэволюцыі,—буржуазія здолела, карыстаючы з палітычнай нясталасьці рабоча-сялянскіх мас краіны, надаць гэтай рэволюцыі буржуазны характар. Самаўладцу зьмяніў буржуазны Часовы Ўрад, і асноўнымі лёзунгамі гэтага новага ўраду зрабіліся: „Вайна да перамогі!“, „Да Ўстаноўчага Сойму—ніякіх буйных соцыяльных рэформаў, накшталт перадзелу зямлі,

6*

зьмены рабочага законадаўства, перагляду права ўласнасьці!," і г. д. Яно й зразумела: экономічная неабходнасьць штурхнула буржуазію на вайну, а калі царызм выявіў сябе дрэнным памоцнікам у барацьбе за рынкі— яна-ж падштурхнула буржуазію скінуць царызм. Масам-жа рабочых і сялян здавалася, што раз буржуазія супроць царызму, то іх інтарэсы зусім аднолькавы з інтарэсамі буржуазіі, – вось чаму буржуазны ўрад падмяняе самаўладзтва, вось чаму спачатку воража і з недавер'ем спатыкаюць бальшавіцкую агітацыю працоўныя масы.

Патрэбна было восем месяцаў кіраваньня буржуазіі з наступленьнем 18 чэрвеня, з ліпнёвымі днямі, Карнілаўшчынай, каб політычна асьвядомілі сябе працоўныя масы Расіі, скінулі ўрад Керанскага і ўстанавілі сваю дыктатуру ў краіне.

Што адбывалася ў гэты час на Беларусі?

З першых-жа дзён рэволюцыі 1917 году беларускі нацыянальны і рэволюцыйны рух разьвінаецца з вялікім размахам і глыбінёй. Але, дзякуючы розным умовам, гэты рух надзвычайна пярэсты, багаты на розныя „орыентацыі".

Каб лепш зразумець гэтыя „орыентацыі"—некалькі слоў аб нацыянальнай і соцыяльнай структуры насельніцтва Беларусі.

Беларусь, якая займае, прыблізна, 30 мільёнаў дзесяцін, насяляюць, ня лічачы больш дробных, пяць нацыянальнасьцяй: беларуская, польская, расійская, яўрэйская і літоўская. У кожнай з гэтых нацыянальнасьцяй, зразумела,—featured рознастайнасьць соцыяльных груп, але адна якая-небудзь група абавязкова пераважае. Гэтак, палякі ў краіне—кляса памешчыцкая, шляхецкая, складаючая верхнюю праслойку, замкнёную ў сваіх вузкіх станавых рамках. У сваю чаргу, гэтую клясу можна падзяліць на меншую лікам частку буйных і сярэдніх зямляўласьнікаў, патомкаў старога беларускага магнацтва, якія маюць мэтай „захаваньне зямель" у сваіх руках, і шматлікавую дробную шляхту, былы служылы стан. Шляхта, хоць і падобна да палякаў, але ў культурна-побытавых адносінах яна стаіць бліжэй да беларусаў і літоўцаў, акружаючых яе, чым да палякаў[1]).

У процілегласьць палякам, беларусы—выключна сярэдняе і безьзямельнае (батрацкае) сялянства. Тут прычына адсутнасьці ў іх яскрававыяўленых соцыяльных груповак і клясавай барацьбы. Аб соцыяльным

[1]) Паводле падліку найноўшага польскага дасьледцы Вакара, польскае прыватнае зямляўладаньне на Беларусі раскладалася такім чынам: у Віленскай губэрні – маёнткаў польскіх паноў, з плошчай звыш 330 гэктараў (адзін гэктар—каля дзесяціны)—71,1 проц., ад 165 да 330—70,5 проц., ад 65 да 165—59,7 проц., менш 65—50,7 проц.

У Горадзенскай губэрні процант польскіх маёнткаў сярод самых буйных (330 гэктараў і больш)—52,9 проц., сярэдніх—49,7 проц.—51,3 проц., дробных—40,9 проц.; усяго ў паноў—55,7 проц. усёй зямельнай уласнасьці.

У Менскай губэрні паном належала 65,6 проц. ўсёй зямлі. Толькі ў Магілеўскай губэрні процант панскай зямлі ніжэйшы—35 проц. *Ор. С. Турук*—„Белорусское движение" стар. 25.

складзе беларускага насельніцтва мы можам меркаваць з наступнай табліцы[1]).

| НАЗВА ГУБЭРНІ. | Да 5 дзес. на двор. | Ад 5 дзес. да 10 дз. | Ад 10 дзес. да 15 дз. | Ад 15 дзес. да 20 дз. | Звыш 20 дз. на двор. |
|---|---|---|---|---|---|
| Віленская . . | 3,9 проц. | 28,5 проц. | 29,9 проц. | 25,3 проц. | 14 проц. |
| Віцебская . . | 2,2 „ | 46,6 „ | 29,6 „ | 7,5 „ | 14,8 „ |
| Горадзенская . | 4,5 „ | 10,6 „ | 31,6 „ | 30,2 „ | 22,9 „ |
| Менская . . . | 11,5 „ | 61,9 „ | 13,8 „ | 6,9 „ | 5,6 „ |
| Магілеўская . . | 9,9 „ | 68,5 „ | 17,0 „ | 2,0 „ | 2,0 „ |
| Смаленская (бяз 4 вялікарасійскіх паветаў) . . | 6,13 „ | 71,5 „ | 19,0 „ | 4,5 „ | 1,9 „ |
| Чарнігаўская (5 паўночных паветаў) . . . . . | 40,5 „ | 51,7 „ | 6,8 „ | 6,9 „ | 0,4 „ |

Яўрэі ў краіне—гандлёвая гарадзкая мяшчанская кляса з нязначнай праслойкай індустрыяльных рабочых і параўнаўча вялікім—звыш паловы—процантам рамесьнікаў.

Расійцы—часткай зямляўласьнікі, часткай праваслаўнае духавенства, больш усяго—урадоўцы—адміністрацыя краіны (справа йдзе аб лютым 1917 году).

Урэшце, літоўцы—паводле свайго соцыяльнага складу блізкія да беларусаў, але з больш моцным інтэлігенцкім ядром.

З прычыны слаба разьвітай у краіне прамысловасьці, рабочая кляса ў Беларусі была вельмі малой у момант рэволюцыі: процант гарадзкога насельніцтва ў Беларусі ў 1915 годзе складаў 13,8.

Гэткім чынам, „орыентацый“ на Беларусі ў лютаўска-кастрычнікавы пэрыод вынікла шмат, розных як па сваім зьмесьце, так і па сваім значэньні. Але адзіна правіловай была орыентацыя народжанай Лютым Комуністычнай партыі Беларусі. Іменна яна заваявала масы сялянства, рабочых і шматлікага рамесьніцкага люду ў краіне, яна сваёй бязупыннай барацьбой паклала аснову Савецкай Беларусі.

Якія-ж гэта былі „орыентацыі“? Як стварылася, расла і змагалася Комуністычная партыя Беларусі?

Вось пытаньні, да вырашэньня якіх мы цяпер пяройдзем. Найбольш левай, але ўсё-ж меншавіцкай і згодніцкай па сваёй сутнасьці, была ад-

[1]) Лічбы ўзятыя з дакладу А. Л. Бурбіса комісіі па падрыхтоўцы мірнага дагавору з Польшчай—„Белоруссия и ее экономическое положение“.

ноўленая зараз-жа пасьля лютаўскага перавароту Беларуская Соцыялістычная Грамада. Яе організацыі вынікл і ў абедзьвюх сталіцах, Менску, Саратаве, Віцебску, Бабруйску, цэлым шэрагу гарадоў Сібіры і Украіны, куды былі закінуты лёсам беларускія ўцекачы. Некаторую вагу набыла Б. С. Г. і ў арміі, асабліва ў XII і VIII арміях, якія знаходзіліся на румынскім фронце. Праўда, у арміі гэты ўплыў Б. С. Г. быў нядоўгавечным,—ужо з чэрвеня-ліпня 1917 году салдат-беларус орыентуецца на бальшавікоў таксама, як і ўся рэшта шматмільённай салдацкай масы.

Програма Б. С. Г. у гэты пэрыод—„амаль" бальшавіцкая. Вось найбольш істотныя яе пункты:

§ 1. Свабода слова, друку, сходаў, саюзаў, незачэпнасьць асобы, мяшканьня, перапіскі, права свабоднага перамяшчэньня [1]). § 2. Роўнапраўе ўсіх грамадзян як мужчын, гэтак і жанчын, ня лічачыся з нацыяй, рэлігіяй, *маемасьцю* (!). § 3. Усеагульнае, простае, роўнае і таемнае выбарчае права для кожнага, даросшага да 18 год грамадзяніна—мужчын і жанчын—пры выбарах ва Ўстаноўчы Сойм, а таксама парлямант і органы мясцовага самакіраваньня. § 4. Удзел самога народу ў выданьні законаў; права законадаўчай ініцыятывы і ўжываньня рэфэрэндуму для вырашэньня найбольш важных спраў. § 5. Устанаўленьне ў Расіі Дэмократычай Фэдэрацыйнай Рэспублікі. § 6. Аўтономія тэрыторыяльная і пэрсональная для ўсіх нацый, а таксама аўтономія абласьцей з побытавымі асаблівасьцямі. ...§ 8. Скасаваньне вайсковай павіннасьці і ўтварэньне, замест войска, усенароднай міліцыі. ...§ 10. Выбарнасьць урадоўцаў мясцовымі жыхарамі; адказнасьць іх перад судом і зьмена, калі гэтага патрабуе народ. ...§ 13. *Забарона куплі-продажы зямлі*. § 14. *Адабраньне ўсёй зямлі*—удзельнай, манастырскай, царкоўнай, памешчыцкай—і пераход яе ў карыстаньне ўсяго працоўнага народу. § 15. Конфіскацыя зямельнай рэнты. ...§ 17. Пераход бяз выкупу ўсіх лясоў, рэк, азёр і нетраў ва ўсенароднае ўладаньне—да Краёвай Рады. ...§ 21. Забарона дзіцячай працы (да 16 гадовага веку); максымальны шасьцігадзінны працоўны дзень для рабочых ад 16 да 18 год. § 22. Забарона жаночай працы там, дзе гэтая праца шкодная для жанчыны. Звальненьне жанчын ад працы на працягу 4-х месяцаў да родаў і 6-ці тыдняў пасьля родаў з захаваньнем заробку за гэты час. Звальненьне жанчын ад працы ў час кармленьня дзіцяці.

Па нацыянальным пытаньні ў програму Б. С. Г. уваходзілі такія пункты: 1) шырокае разьвіцьцё беларускай культуры, як адзіны шлях да разьвіцьця грамадзянскасьці і агульнага-культурнага ўздыму мас на Беларусі; 2) нацыяналізацыя школ; 3) поўнае самакіраваньне Беларусі з законадаўчым органам—Краёвай Радай, выбранай на аснове ўсеагульнага, простага, роўнага і таемнага галасаваньня,—на чале (для распра-

---

[1]) Пункт гэты—з катэгорыі выключна „дэмократычных". Але побач з падобнымі, чыста дэклярацыйнымі пунктамі, увашлі ў програму і пункты рэволюцыйныя (пад націскам мас). Гэтыя пункты мы падаем ніжэй.

цоўкі мясцовага законадаўства, распрацоўкі і разьвіцьця законаў, выданых расійскім парлямантам); 4) скасаваньне мытных граніц паміж Беларусьсю і іншымі часткамі Расійскай Фэдэрацыі; 5) поўныя палітычныя і эканомічныя правы для ўсіх нацый, якія жывуць на Беларусі.

Програму гэтую Б. С. Г. прыняла на II сваім зьезьдзе (пасьля Лютага). Тут, як гэта відаць з пададзеных асобных пунктаў програмы, тыповае для прамежных элемэнтаў таго часу блытаньне пустых дэклярацыйных момантаў з лёзунгамі актуальна-рэволюцыйнымі.

Былі тады на Беларусі і іншыя організацыі і партыі, апрача Б. С. Г. На некаторых з іх мы для поўнасьці малюнку спынімся.

Беларуская Народная Грамада. Цэнтр яе быў у Маскве. Групавала наўкола сябе, галоўным чынам, прогрэсыўныя слаі беларускіх уцекачоў. Мэта організацыі—дапамога ўцекачом у звароце на бацькаўшчыну. Але патрэбна была і палітычная програма, і Беларуская Народная Грамада яе мела. Праўда, складалася гэтая програма з звычайных для большасьці дэмократычных партый пустазвонных лёзунгаў: „Найшырэйшае разьвіцьцё асноў народапраўства“, „Адмена паволі ўсіх ускосных падаткаў і устанаўленьне прогрэсыўнага падатку на даходы, маетнасьць і спадчыну“. Беларуская Народная Грамада мела каля чатырох організацый—у Маскве, Калузе, Арле і на Маскоўскім чыгуначным вузьле. Усяго яднала яна каля 1.000 членаў.

Беларускі Нацыянальны Комітэт у Магілеве. Пэўнай програмы ня меў. Аб палітычнай фізыономіі Комітэту можна меркаваць з выступаў яго членаў на зьездах і сходах. І выступы гэтыя кажуць за тое, што Нацыянальны Комітэт меў характар кадэцка-русыфікатарскі. Асноўны лёзунг Комітэту: „Мы цьвёрда павінны памятаць, што мы—беларусы, а не белаляхі“.

Сапраўдным чорнасотніцкім духам нясло ад Саюзу Беларускай Дэмократыі ў Гомлі. Мэта Саюзу—„Поўнае ядпаньне Беларусі з астатняй Расіяй, з шырокім самапарадкаваньнем на дэмократычных пачатках“; „Захаваньне цэласьці тэрыторыі Беларусі з горадам Вільняю, як галоўным яе культурным цэнтрам“; „Прызнаньне дарэмнае аддачы ў карыстаньне беларускага жыхарства паводле выпрацаваных Устаноўчым Зборам правіл усяе дзяржаўнае, манастырскае, царкоўнае, царскафамільнае і прыватнае зямлі“. Апошні пункт—уступка настроям часу, тым больш, што зьдзяйсьненьне перадачы зямлі ўскладалася на „Устаноўчы Збор“, які ўсё зьбіраўся, зьбіраўся, а сабрацца ніяк ня мог. Навучаньне, на думку членаў „Саюзу“, павінна адбывацца ў Беларусі на расійскай мове— „мове, зусім зразумелай для ўсіх беларусаў“. Профэсар Карскі надзвычайна прыхільна адносіўся да гэтага „Саюзу“.

Шмат было і на Беларусі, і па-за яе межамі сярод уцекачоў з Беларусі яшчэ іншых грамадзянскіх організацый, але паколькі буйной ролі (таксама, як і ўжо апісаныя організацыі, за выключэньнем толькі Б. С. Г.) яны ў рэволюцыйным руху не адыгралі, мы на іх спыняцца ня будзем.

## II

Цяпер, калі мы ў агульных рысах з чыннасьцю розных беларускіх організацый і партый пазнаёміліся,—аб бальшавіцкай працы на Беларусі ў гэты пэрыод і аб процэсе ўтварэньня Савецкай улады на Беларусі. Папярэдняя істотная агаворка—Комуністычную партыю Беларусі стварылі закінутыя сюды выпадкова, вайной і рэволюцыяй, працаўнікі з старой бальшавіцкай гвардыі Масквы, Ленінграду, Іванава-Вазьнясенску. Яны-ж знашлі тут шырокае і ўдзячнае поле для рэволюцыйнай працы сярод сялянства, рабочых і салдат, у той час, як мясцовыя організацыі—як беларускія, так і яўрэйскія—доўга яшчэ далей дробна-буржуазных програм і лёзунгаў ня йшлі.

Весткі аб лютаўскіх падзеях у Ленінградзе атрымалі ў Менску толькі 1-га сакавіка. Не адразу адгукнуўся на падзеі Менск—перашкаджала адсутнасьць рэволюцыйнага організацыйнага цэнтру. Ініцыятыву праявіла група старых бальшавікоў з Земскага і Гарадзкога Саюзаў (Фрунзэ, Любімаў, Ландзер, Позерн): яны організавалі раззброеньне поліцыі, скасаваньне старых органаў улады. Толькі пасьля гэтай папярэдняй працы, імі зробленай, мог формальна прыняць уладу назначаны камісарам Часовага Ўраду па Менскай губэрні кадэт Самойленка.

Счакаўшы некалькі дзён, гэтая-ж група бальшавікоў організуе Менскі Савет Рабочых Дэпутатаў на ўзор Піцерскага. (Было гэта 4-5-га сакавіка). Ня пільнуючыся пэўнага модусу прадстаўніцтва, скліканы быў сход прадстаўнікоў ад партый—бальшавікоў, с.-р., Бунду і ад шэрагу буйнейшых прадпрыемстваў; гэты сход і абвясьціў сябе Менскім Саветам. Ужо стварыўшыся, Савет папаўняецца дэпутатамі, абранымі на прадпрыемствах, якія раней у выбарах ня ўдзельнічалі.

Сьпярша Савет здаваўся організацыяй нязначнай і напоўлегальнай, але ўжо на лібэральна-„рэволюцыйнай“ дэмонстрацыі 6-га сакавіка прамова бальшавіка Позерна, старшыні Савету, аб тым, што рэволюцыя толькі пачынаецца, што яна з буржуазнай павінна абярнуцца на пролетарскую,—для „рэволюцыянэраў“ з Гарадзкога і Земскага Саюзаў прагучэла пагрознай перасьцярогай і прыцягнула к Савету сымпатыі шматлікавых салдат і рабочых, якія былі на дэмонстрацыі. 6-га-ж сакавіка, у вечары, пасьля дэмонстрацыі, адбыўся першы сход прадстаўнікоў ад часьцей Менскага гарнізону ў будынку Савету з удзелам, сярод іншых, бальшавікоў—Магілеўскага[1]), Крывашэіна, Кнорына, меншавікоў—Фішгендлера і Хварова, с.-р. Старобінца. Тут заснована была салдацкая сэкцыя Савету, і апошні, такім чынам, абярнуўся ў Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

---

[1]) Магілеўскі ў 1925 годзе трагічна загінуў у Арменіі ў часе аварыі самалёту, разам з другім выдатнейшым рэволюцыйным беларускім дзеячом і бальшавіком—А. Ф. Мясьніковым.

Характэрны факт: бальшавікі ў Менскім Савдэпе сьпярша былі далёка ня ў большасьці, у краіне і на фронце існавалі досыць моцныя організацыі Бунду (з лідэрамі—Камінскім, І. В. Гедміным, Е. А. Гурвіч), с.-р. (з відным працаўніком Несьцеравым, пазьней кіраўніком Самарскага Комітэту Ўстаноўчага Сойму); але ў гэтых партыях была поўная дэзорганізованасьць, і гэтым тлумачыцца факт абраньня старшынёй Савету міжраёнца (а праз кароткі час—бальшавіка) Позерна, а яго намесьнікам—бальшавіка І. Е. Любімава, што з першых-жа дзён існаваньня Савету надало апошняму яскрава-рэволюцыйную ахварбоўку. З першых-жа дзён свайго існаваньня Менскі Савдэп не абмяжоўвае толькі горадам сваю чыннасьць, а пашырае сваю працу і ўплыў на фронт і на провінцыю: актыўна дапамагае організацыі на фронце вайсковых комітэтаў у палкох, дывізіях, арміях, што зьяўляецца пачаткам „пораженческих" настрояў у арміі; па ініцыятыве Менскага Савету склікаецца губэрскі сялянскі зьезд, на якім абіраецца Выканком на чале з старшынёй Фрунзэ (тады Міхайлавым).

Загад № 1 Піцерскага Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў—гэтая грамата праў і вольнасьцяй салдата—паклаў пачатак усё глыбейшаму антагонізму на фронце паміж салдатам і афіцэрам, а таксама—актыўнаму імкненьню салдацкай масы да выхаду з вайны. Самай важнай задачай бальшавікоў у гэты момант было падтрыманьне і паглыбленьне гэтых настрояў сярод салдат, у той час, як урад і буржуазныя грамадзянскія організацыі, накшталт Гарадзкога і Земскага Саюзаў, увесь свой уплыў і сродкі трацілі на барацьбу з гэтымі настроямі. Дзеля гэтага фронт і Менск навадняюцца агітатарамі „для заспакаеньня арміі". Па фронце езьдзяць Радзянка, Шчэпкін, Масьленьнікаў, „*сам*", ваенны міністар кадэт Гучкоў—з заклікамі к патрыотызму і барацьбе „да пераможнага канца". Аб'яжджае фронт і саюзьніцкая дэлегацыя ў складзе ангельцаў—Сноудэна, О' Грэдi і французаў—Марсэля Кашэна (цяпер комуністага, тады яшчэ соцыял-дэмократа), Мутэ,—аб'яжджае з мэтаю пропаганды сумеснай барацьбы. У процівагу ўсім гэтым агітатарам Менскі Савет пасылае на фронт Крывашэіна, Магілеўскага і іншых, і ў гушчы змучанай вайной арміі агітацыя гэтых бальшавікоў знаходзіць сабе самы жывы водгук.

Але выконваць працу і па фронце і па вобласьці Менскі Савет ня мог, бо ня меў на гэта ні формальнага права, ні сіл. Вось чаму перад ім, як самай буйнай рэволюцыйнай організацыяй у краіне, паўстала пытаньне аб скліканьні зьезду рабочых, сялянскіх, салдацкіх і афіцэрскіх дэпутатаў Заходняга фронту й бліжэйшага тылу (губ. Менскай, Магілеўскай, Віцебскай і Смаленскай).

Франтавы зьезд сабраўся ў сярэдзіне красавіка. Гэта быў першы на ўсім неабсяжным тэатры вайны франтавы зьезд, і значэньне яго, галоўным чынам, у тым, што ён памог канчаткова самаазначыцца салдату,

вызваліў салдата з-пад уплыву афіцэра і фронт з прылады імпэрыялістычнай вайны абярнуў на рэзэрвуар рэволюцыйных сіл для надыходзіўшага Кастрычніка. А набыў такое значэньне зьезд дзякуючы таму, што на ім вялізную вагу, на гледзячы на надзвычайна пярэсты склад зьезду, мелі бальшавікі.

Часовы Ўрад і Стаўка Галоўнакамандуючага вельмі добра разумелі, што ў Менску на фронтавым зьезьдзе вырашаецца лёс арміі. Вось чаму сюды для паядынку з бальшавікамі паслана была ўся цяжкая артылерыя шматлікавых тады ўрадавых партый. У Менск прыехалі: камандуючы Заходнім фронтам гэнэрал Гурко, кадэты і акцябрыстыя—Радзянка, Родзічаў, Шчэпкін, меншавікі—Чхэідзе, Цэрэтэлі, Скобелеў, Гвазьдзёў. Прыехала „падмога“ і да бальшавікоў: Бадаеў, Лашэвіч, Ногін.

Старшыня зьезду бальшавік Позерн дабіўся таго, што пануючая роля на зьезьдзе перашла да соцыял-дэмократычнай фракцыі, а ў апошняй, у сваю чаргу, устанавілася ідэйнае верхаводзтва інтэрнацыяналістых. Зьезд, наперакор надзеям ураду, ухваляе пастанову, што ў Выканком Заходняга фронту могуць быць абраны толькі с.-д. і с.-р. Ад бальшавікоў туды абіраюцца, апрача працўанікоў Менскага Савдэпу—Позерна, Любімава, Крывашэіна, Магілеўскага і інш., беспасрэдна ад сялянскай масы—Мясьнікоў, Фамін, Селезьнеў, Алібегаў, Антэр, Шчукін і інш. Такім чынам, у выніку: калі не інтэрнацыяналістычна-бальшавіцкае кіраўніцтва ў Выканкоме Захфронту—яно прышло пазьней,—то, прынамсі, бальшавіцкая опозыцыя ў самым Выканкоме Захфронту і мажлівасьць барацьбы за бальшавіцкую большасьць.

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб утварэньні бальшавіцкай партыі на Беларусі. Люты гэткай партыі на Беларусі не засьпеў—і стварэньне яе для політычнага кіраўніцтва краінай і фронтам зрабілася самай актуальнай задачай старых бальшавікоў, якія апынуліся на Беларусі. Аднак, процэс гэты зацягнуўся, дзякуючы некаторым абставінам, на некалькі месяцаў. Галоўная прычына зацяжкі—нежаданьне бальшавікоў да часу, з прычыны сваёй невялікай колькасьці, парываць з меншавікамі. Вось чаму, калі па ініцыятыве меншавікоў быў скліканы 11—24-га сакавіка першы вялікі адчынены сход Менскай організацыі РС-ДРП, дзе бальшавікоў было толькі 10 працантаў, апошнія згадзіліся з пастановаю сходу стварыць аб'яднаную організацыю, якая не прылягала-б ні да бальшавіцкага, ні да меншавіцкага цэнтраў. Каб змагацца за ўплыў на масы і лепшую частку організацыі прыцягнуць да сябе, бальшавікі ўвашлі ў „об'единенку“ і ў склад яе комітэту ўвялі Магілеўскага і Дзьмітрыева. Такая тактыка бальшавікоў дала вельмі добрыя вынікі: у Менскі Савет другога скліканьня бальшавіком, пад аб'яднаным с.-д. сьпісам, удалося правесьці вялікую групу сваіх дэпутатаў. Выканком Савету ў пераважнай большасьці складаўся цяпер з бальшавікоў (гэта было ў траўні 1917 г.),

а Прэзыдыум Савету—з 4-х бальшавікоў і 1 с.-р.; меншавікоў у Прэзыдыуме ня стала зусім.

Лічбова вырасшы і ўмацнеўшы, бальшавікі пачалі думаць аб расколе. Яшчэ ў траўні пачалі адбывацца ў сьценах Менскага Савету пад кіраўніцтвам бюро фракцыі сходы ўсіх бальшавікоў, на якіх прысутнічала да 50 чалавек. 2-га чэрвеня было абрана бюро бальшавіцкай фракцыі з Мясьніковым на чале, і гэтае бюро ў далейшым кіравала працай па стварэньні партыі. Фактычна, бальшавіцкая партыя Беларусі нарадзілася ўжо 2-га чэрвеня, формальна—на тыдзень пазьней, калі раскол зрабіўся ўжо фактам, і на сходзе бальшавікоў быў абраны пастаянны Комітэт у складзе Мясьнікова (старшыні), Фрэймана, Кузьняцова, Галкіна, Фаміна, Пікеля, Кнорына, Рэйнгольда.

Перш за ўсё Комітэт выступае з маніфэстам, які выкладае асноўныя бальшавіцкія лёзунгі: „Далоў вайну!“, „Далоў згодніцкі Часовы Ўрад!“, „Зямля селяніну, не чакаючы Ўстаноўчага Сойму!“, і інш. Комітэт арганізуе ячэйку партыі ў часьцях гарнізону і сярод рабочых, разьвінае вялізазную агітацыйна-пропагандысцкую працу, наладжвае сувязь з іншымі гарадамі Беларусі з мэтаю дапамагчы ім стварыць свае ўласныя бальшавіцкія організацыі.

Чэрвень 1917 году застае, такім чынам, у цэнтры Беларусі—Менску—дзьве буйныя рэволюцыйныя організацыі, якія адыгралі вялізазную ролю ў падрыхтоўцы Кастрычніка ў краіне: Комітэт партыі і Менскі Савет. Першае галоўнае пытаньне, з якім гэтыя організацыі стыкаюцца—чэрвеньскае наступленьне. Выканком Захфронту, у большасьці сваёй эсэраўскі, сьпярша супроць наступленьня, потым выказваецца за яго. Ня тое Менскі Савет, да голасу якога фронт ужо прывык прыслухоўвацца: Савет (зразумела, пры ўстрымаўшыхся меншавіках, якія былі ў меншасьці) ухваліў бальшавіцкую пастанову, у якой зганьваў наступленьне, заклікаў да братаньня і г. д. З моманту прыняцьця гэтай пастановы Савет яшчэ больш цесна зьвязваецца з фронтам[1]), дзе ўплыў Выканкому Захфронту канчаткова пахіснуўся пасьля загаду Керанскага аб наступленьні. У дзень 18 чэрвеня адбылася ў Менску дэмонстрацыя супроць наступленьня, і на вуліцах гораду ўпяршыню на Беларусі зьявіліся бальшавіцкія сьцягі з запатрабаваньнямі Савецкай улады, рабочага контролю, незабаўнага міру. Меншавікі пазьдзіралі бальшавіцкія сьцягі, але гэта яшчэ больш павялічыла популярнасьць бальшавікоў сярод салдат гарнізону і рабочых гораду.

18-е чэрвеня, як вядома,—пачатак канца „свабод“ першых месяцаў рэволюцыі. Керанскі робіць патугі „падцягнуць“ фронт і „дысцыплінаваць“ краіну, пачынаецца яўнае перасьледваньне і нават цкаваньне бальшавізму, на фронце організуюцца розныя „ўдарныя“ формаваньні: баталь-

[1]) Сувязь гэтая, аднак, і не парывалася: фронтавікоў не магла задаволіць згодніцкая позыцыя Выканкому Захфронту, і яны з усімі патрэбамі зьвярталіся да Менскага Савету. Савет-жа дастаўляў фронту бальшавіцкую літаратуру: „Правду“, „Социал-Демократа“.

ёны сьмерці, жаночы батальён і г. д. Менскі Савет стае ў рэзкую опозыцыю ўсім гэтым мерапрыемствам „Галоўнаўгаварваючага“, у прыватнасьці, катэгорычна выказваецца супроць стварэньня на Захфронце ўдарных часьцей.

Але гэтыя часьці ўсё-ж формуюцца, некаторыя з іх разьмяшчаюцца ў Менску. Савету пачынае пагражаць небясьпека, і ён змушаны думаць аб самаабароне. Яе ён знаходзіць у арміі. Савет прапануе часьцям фронту выступаць толькі з яго згоды, а таксама зьяўляцца па першым запатрабаваньні для яго абароны. І часьці з ахвотай выконваюць гэты загад свайго прызнанага рэволюцыйнага кіраўніка. Гэтак, Менскі Савет, першы ў шэрагу другіх саветаў краіны, стае на шлях яўнага конфлікту з урадам і камандваньнем Заходняга фронту.

Менскі Комітэт РС-ДРП (бальшавікоў) у ліпні месяцы пашоў яшчэ далей Савету. Ён бачыць нарастаньне контр-рэволюцыйнай хвалі, якое выяўляецца ў назначэньні новага галоўнакамандуючага—гэнэрала Карнілава, утварэньні ўдарных часьцей, цкаваньні бальшавізму,—і пачынае дзейна рыхтаваць адпор контр-рэволюцыі. Адзін з бліжэйшых удзельнікаў руху, Кнорын, кажа наступнае аб гэтым пэрыодзе чыннасьці Менскага Комітэту партыі: „Менскі Комітэт пачаў думаць аб організованым узброеным змаганьні з магчымымі бонапартысцкімі спробамі і контр-рэволюцыйнымі выступленьнямі як з боку гэнэралаў, так і з боку Керанскага,—улічваючы ўсё гэта, Менскі Комітэт бальшавікоў распачаў зьбіраньне вестак аб узброеных часьцях, аб колькасьці верных штыхоў, становішчы ўзброеньня, колькасьці стрэльбаў, набояў і г. д. Пасьля агульных сходаў Савету зьбіраліся асобныя консьпірацыйныя сходы, на якіх прадстаўнікі ўзброеных часьцей рабілі даклады аб політычным становішчы часьцей, абгаварвалі пытаньні аб баявой моцы рэволюцыі і г. д. Вызначаўся парадак выкліку часьцей. Вызначаліся месцы збору, паролі... Калі разыгралася Карнілаўшчына, кіраўніцтва ліквідаваньнем гэтага выступленьня знаходзілася ў руках Фронтавага Комітэту, які на гэты раз дзейнічаў сумесна з Менскім Саветам. З фронту былі зьняты часьці і перакінуты пад Магілеў, каб пехатой рушыць на Стаўку. Быў сформаваны першы грамадзянскі штаб грамадзянскай вайны з членаў абодвух савецкіх органаў. Гэты штаб паслужыў прыкладам для далейшых такіх формаваньняў [1]).

Канец лета—пачатак восені 1917 году—пэрыод найбольш бурнага росту бальшавізму як ува ўсёй Расіі наогул, так, у прыватнасьці, і на Беларусі. Ужо 27 ліпня (8-га жніўня новага стылю) Менскі Комітэт распачынае выданьне свайго штодзеннага органу—газэты „Звезда“ і тым самым уваходзіць у другі этап сваёй чыннасьці па распаўсюджаньні бальшавіцкіх ідэй на фронце і ў краіне. „Звезда“ разьвінае вялізазную агітацыйную працу. І вынікі ўплыву „Звезды“ хутка адчуваюцца. Менскі Комітэт на першае верасьня назначае першую бальшавіцкую конфэрэнцыю

[1]) *Б. Кнорын*—„1917 г. в Белоруссии и на Западном фронте“, стар. 28-29.

фронту і вобласьці. Якраз напярэдадні конфэрэнцыі выбухнула карнілаўскае паўстаньне, якое шмат каму з бальшавікоў перашкодзіла пакінуць часьці і ехаць на конфэрэнцыю ў Менск. Усё-ж зьехаліся прадстаўнікі ад 2.530 організованых членаў партыі. Конфэрэнцыя абвешчана была нарадай, на якой ухвалілі некаторыя асноўныя палажэньні па організацыйным пытаньні і вызначылі задачы агітацыі. Дэлегаты разьехаліся з тым, каб праз два тыдні зьехацца на І-ю Паўн.-Зах. Абласную Конфэрэнцыю РС-ДРП (бальшавікоў). На гэтай конфэрэнцыі прысутнічала ўжо 67 дэлегатаў з пастаноўчым і 21 дэлегат з дарадчым голасам; яны зьяўляліся прадстаўнікамі ад 9.190 організованых членаў партыі (з іх 6.548 членаў партыі ў арміі і 2.642—у тыле) і прыблізна, ад 25 тысяч спачуваючых. Ад Менску было 11 дэлегатаў, Гомлю—3, Бабруйску—2, Слуцку—2, Івянца—2, Замір'я—2 і г. д.

На 5 кастрычніка назначана была ІІ-я конфэрэнцыя.

Прамежак паміж І і ІІ конфэрэнцыямі—пэрыод колёсальнага лічбавага росту партыі ў Беларусі. На ІІ-ю конфэрэнцыю зьехалася ўжо 247 дэлегатаў з пастаноўчым і 106 з дарадчым голасам; яны зьяўляліся прадстаўнікамі ад 28.508 організованых членаў партыі і 28 тысяч спачуваючых, а ўсяго ад 56½ тысяч чалавек.

Роўналежна з ростам партыі і яе ўплыву на Беларусі ідуць зьмены і ў складзе Менскага Савету. У верасьні месяцы адбыліся перавыбары яго. Усяго абралі 337 чалавек, з іх бальшавікоў—184 ч., с.-р.—62 ч., меншавікоў—25 ч., бундаўцаў—25, с.-с.—5 і беспартыйных, у большасьці ішоўшых за бальшавікамі,—41 ч. Выканком склаўся з 23 бальшавікоў, 7 с.-р., 4 бундаўцаў, 2 меншавікоў, 1 п. ц. і 1 с. с. Прэзыдыум-жа Савету склаўся выключна з бальшавікоў.

Гэтак з невялікай жменькі выпадкова закінутых у краіну старых бальшавікоў на працягу 6-7 месяцаў стварылася на Беларусі магутная партыйная організацыя, моцна зьядн аная з сялянствам, пролетарыятам і арміяй краіны і прызначаная гісторыяй стварыць тут кастрычнікаўскі пераварот.

Аб Кастрычніку на Беларусі ў наступным нумары.

# СЯЛЯНСКІ РУХ 1905—1907 г. г. І СОЦЫЯЛ-ДЭМОКРАТЫЯ

Е. Марахавец

## Беларусь і Літва

У Менскай губэрні, па словах корэспондэнта Вол. Эк. Таварыства, агітацыя с.-д. мела вялікі ўплыў.[1]) У Менскім павеце, у раёне м-ка Стоўбцы, з вясны 1905 г. ў шэрагу мясцовасьцяй пашыралася с.-д. літаратура (м. Задвор'е, в. Заямы, в. Стэчкі і інш.); проклямацыі з цікавасьцю чыталіся сялянамі, хаця-ж і не падабалася ім, што пішуць „супроць цара“. Пад кіраўніцтвам с.-д. улетку 1905 г. было праведзена некалькі стачак сельска-гаспадарчых рабочых і рабочых-плытагоншчыкаў (у Стоўбцах, у Заяме, у Старым Сьвержані, у Мікалаеўшчыне)[2]). Халомецкая організацыя (Рэчыцкага павету) у той-жа час праводзіць стачку наймітаў у маёнтку Сіткава (50 чалавек). Сяляне аколічных вёсак аднесьліся да забастоўшчыкаў спрыяюча і адмовіліся працаваць у экономіі, ня гледзячы на пагрозы прыстава. У выніку—плата за працу была значна павышана, рабочы дзень скарочаны[3]).

Таварышы з Мазырскай групы Палескага комітэту ў чэрвені м-цы організавалі забастоўку сельска-гаспадарчых рабочых у вёсцы Дудзічы каля Мазыра; на сходзе былі апрацованы запатрабаваньні для прад'яўленьня абшарніку; тут-жа прамоўца з Мазырскай групы вёў гутарку і на палітычныя тэмы, заклікаючы не плаціць подаці, не даваць рэкрутаў і запасных. Сяляне ўважліва слухалі і выражалі ўхвалу[4]).

Капыльская група Паўночна-Заходняга комітэту (Слуцкага пав.) у 1905 годзе пашырала сярод сялян лісткі ў часы кірмашу ў мястэчку, наладжвала палітычныя дэмонстрацыі з удзелам сялян; адна дэмонстрацыя была наладжана ў студзені, пры провадах эмігрантаў у Амэрыку, другая—14 (1) сакавіка, з удзелам каля 300 чалавек. 20 (7) чэрвеня быў наладжаны мітынг у лесе, на якім прысутнічала каля 200 чалавек „крестьян и евреев“; зьвярталіся яны ў мястэчка са сьпевамі рэволюцыйных

---

1) „Аграрн. движ. в России 1905-1906 г. г., т. I, ст. 373.

2) „Искра“ № 109, ст. 5.

3) „Искра“ № 107, ст. 6.

4) „Пролетарий“, 1905, № 14, ст. 5.

песень[1]). У чэрвені м-цы 1905 году група выдала лістоўку на гэктографе — „Да сялян“, у якой заклікае іх „далучыцца да РС-ДРП і выставіць гаспадаром-абшарнікам свае запатрабаваньні[2]). У другой лістоўцы—„Да расійскага сялянства“, выдадзенай гэтак сама ў чэрвені, Капыльская група заклікае сялян да барацьбы, сумесна з рабочай клясай, за дэмократычную рэспубліку. У вадносінах да абшарнікаў лістоўка імкнецца ўтрымаць сялян ад тэрорыстычных выступаў: „Ня трэба рабаваць і руйнаваць. Нельга рабіць гвалтоўніцтва над абшарнікамі і іх маёнткамі— трэба паказаць, што селянін ня дзікі які-небудзь, а такі-ж самы чалавек, як і ўсе. Трэба імкнуцца, каб зямля перашла да селяніна на аснове закону; да тых-жа часоў ніхто ня мае права стаць на работу, пакуль усе запатрабаваньні ня будуць задаволены“[3]) У той-жа час групай былі апрацованы і запатрабаваньні для сельска-гаспадарчых рабочых, датычныя велічыні платы за працу і тэрмінаў выдачы яе, увядзеньне 12-ці гадзіннага рабочага дня, адмаўленьне ад ужываньня закону 12-га чэрвеня 1886 г. пра наняцьце с.-г. рабочых, адказнасьць абшарнікаў за няшчасныя здарэньні ў часе працы, далікатнае абыходжаньне з рабочымі і інш.[4]).

У 1906 годзе ў Менску пры комітэце існавала Акруговая сялянская організацыя, якая мела вялікія сувязі ў вёсцы. Амаль што ўва ўсіх гарадох і мястэчках былі невялічкія групы ці асобныя таварышы, якія працавалі сярод сялян: яны пашыралі літаратуру, ладзілі мітынгі, організоўвалі сялянскія комітэты. У некаторых мясцовасьцях былі організованы валасныя комітэты з сялян, якія зьбіралі грошы, выпісвалі літаратуру, запрашалі агітатараў. На працягу цэлага лета было наладжана ня менш 50—60 мітынгаў, пашырана па некалькі тысяч „выбаргскай адозвы“, „маніфэсту да ўсяго сялянства“, адозвы „Да арміі і флёты“ і розных легальных брошур, організованы шэраг сялянскіх комітэтаў. Успрыняцьце сялянскіх гушчаў с.-д. агітацыі, па словах менскага корэспондэнта „Пролетарыя“, было надта вялікае: монархічныя забабоны ўжо выжыты, ідэя поўнаўладнага ўстаноўчага сходу і дэмократычнай рэспублікі карыстаецца вялікай популярнасьцю, на мітынгі, пры ўмовах папярэдняй падрыхтоўкі, зьбіраецца да 1.000-2.000 чалавек. Аднак, сувязь між асобнымі групамі, а гэтак сама між імі і комітэтам, надта слабая, з прычыны чаго Менск, акруговы комітэт парашыў устрымацца ад правядзеньня рэкруцкай кампаніі[5]).

Аб працы РС-ДРП у Магілеўскай губ. ў 1905 г. вядома вельмі мала. Капыльская група Палескага комітэту (Горацкага павету) улетку 1905 г. пашырала сярод сялян проклямацыі, ладзіла ў аколічных вёсках

[1]) „Социал-Дэмократ“, 1905, № 9, ст. 12.
[2]) Архіў Гістпарта № 8873.
[3]) Архіў Гістпарта № 8875.
[4]) „ „ „ 8876
[5]) „Пролетарий“, 1906. ст. 8.—„Социал-Демократ“, 1906, ст. 6.

масаўкі, на якіх прысутнічала да 200 чалавек. Было організована супраціўленьне продажы маемасьці мясцовых сялян за нядоімкі; продаж не адбылася; гэты выпадак падняў прэстыж групы на вачох сялянства[1]). У м-ку Лядах Горацкага павету 28 (15) жніўня 1905 г. была наладжана масаўка, на якой прысутнічала да 150 сялян. Выступаў прамоўца ад Смаленскага комітэту, які вёў гутарку пра становішча сялян, пра думу, пра соцыялізм. Была прынята рэзолюцыя з патрабаваньнем звароту адрэзаў; пастаноўлена выгнаць папа і старшыню, абраць сялянскі комітэт, не плаціць падаткаў і не даваць рэкрутаў[2]).

У канцы 1905 ці ў пачатку 1906 году ў вёсцы Жгуні Гомельскага павету ўзьнік невялікі с.-д. гурток, які складаўся з рабочых Дабрускай фабрыкі, чыгуначнікаў і будаўнічых рабочых, меўшых цесную сувязь з зямлёй. Гурток трымаў сувязь з Палескім комітэтам; сябры яго чыталі агітацыйную літаратуру на вячорках і сходах мясцовых сялян і рабочых, распаўсюджвалі лістоўкі ў суседніх вёсках, выступалі на вясковых сходах. У першую думу ад сялян в. Жгуні быў пасланы наказ за подпісам і пячаткай старасты, складзены ў меншавіцкім напрамку. У часы выбарчай кампаніі ў другую думу в. Жгунь высунула кандыдатуру Аўчарова, беспартыйнага, спачуваючага с.-д., аднак, ён быў „раз'яснен“, як жыхар Пецярбургу, патраціўшы сувязь з зямлёй; гэта падарвала прэстыж гуртка сярод сялян. З разьвіцьцём рэакцыі шмат сяброў гуртка адышло ад працы, некаторыя павыяжджалі; у часы выбараў на Лёндонскі зьезд, найбольш актыўныя сябры гуртка (у якім у той час налічвалася 36 чалавек) былі арыштаваны[3])

Пры Магілеўскім акруговым комітэце ў 1906 годзе была асобная колегія па працы ў вёсцы. Сяляне адносіліся спачуваюча да с.-д.; організацыя беспартыйных сялянскіх комітэтаў праходзіла з посьпехам; ладзіліся сялянскія конфэрэнцыі. Пасьля роспуску першай думы пашыраліся „выбаргская адозва“ і лістоўка „Да сялян“, выдадзеная Магілеўскім акруговым комітэтам, праводзілася агітацыя сярод навабранцаў за адмаўленьне ад яўкі на прызыў[4]). У восень 1906 году ў аднэй з вёсак Аршанскага павету адбылася сялянская конфэрэнцыя, якая была склікана мясцовай групай РС-ДРП, сабраліся дэлегаты з чатырох валасьцей, абраныя на сельскіх сходах. З дакладу з месцаў выявілася, што на вёсках маюцца с.-д. і с. р. гурткі; уся ўвага сялян за апошні час аддаецца выбарам у думу. На конфэрэнцыі апрацаваны плян дзейнічаньня на валасных, павятовых і губэрскіх выбарчых сходах, прынята рэзолюцыя, ма-

---

1) „Пролетарий“, 1905 г., № 16. ст. 5 — „Искра“, № 110, ст. 6.

2) „Социал-Демократ“, 1905, № 14, ст. 6.

3) М. Прокопцов. „Из воспоминаний старого большевика“. ст. 11—21. „Кандыдатура Аўчарова высоўвалася, як мы бачылі, і на выбарах у трэцюю думу (глядзі ст. 77) „мабыць“ у тым-жа сяле Жгуні“.

4) „Социал-Демократ“, 1906, № 5, ст. 8.

ючая надзею, што дума „дапаможа народу з'арганізавацца дзеля далейшых дзейнічаньняў"[1]). Сувязь з вёскай захавалася ў магілеўскай арганізацыі і ў 1907 г. у перамайстраваным ахранкай лісьце з Магілева ў Пецярбург ад 1-га чэрвеня (19 мая) 1907 г. за подпісам Голіонка, паказваецца 22 вясковых адрасы для дасылкі лістоў с.-д. фракцыі думы да жыхарства[2]).

Пры віцебскай групе Паўночна-Заходняга комітэту яшчэ ў 1904 г. была сялянская с.-д. арганізацыя; якая налічвала ў восень 1904 г. 75 арганізаваных сялян; чытаючых літаратуру было звыш 200[3]). З пачатку 1905 г. па вёсках Віцебскай губэрні раскідваліся проклямацыі Паўночна-Заходняга комітэту[4]). У сакавіку полацкая арганізацыя выдала гэктографаваную лістоўку „Да сялян", якая заклікала да барацьбы з царскім урадам за спыненьне вайны, адмену выкупных плацяжоў, зварот адрэзкаў, аслабаненьне беднаты ад падаткаў, увядзеньне свабод і скліканьне ўстаноўчага сходу[5]).

Па засьведчаньні корэспондэнта „Искры"; у вадным з мястэчак Віцебскай губэрні (мястэчка не названа) была з'арганізавана амаль што ўся жыдоўская і сялянская моладзь (90 чалавек); працавалі 3 пропагандыцкіх гурткі, была ўтворана баявая дружына. Смаленскі комітэт даваў літаратуру і час ад часу дасылаў прамоўцаў. На масаўкі кожны раз прыходзілі сяляне з аколічных вёсак за 5—8 вёрст ад мястэчка; слухачоў зьбіралася да 150 чалавек. Сяляне з ахвотай чыталі с.-д. лістоўкі, разносілі па вёсках проклямацыі і брошуры і чыталі іх усёй вёсцы. Арганізаваных сялян па вёсках было каля 60. 22 (9) ліпня ў мястэчку была наладжана дэманстрацыя ўва ўспамін 22 (9) студзеня, з рэволюцыйнымі сьпевамі; за асяродкам сьвядомых рабочых і сялян ішоў вялікі натоўп кабет, старых і дзяцей. Ураднік арыштаваў аднаго з дэманстрантаў, але натоўп зруйнаваў яго кватэру і аслабаніў арыштаванага. 10-га верасьня (28 жніўня) прыехалі два прамоўцы з Смаленскага комітэту, вялі гутарку пра дзяржаўную думу і, па просьбе сялян, пра с.-р. і лібэралаў, прапаноўвалі бойкотаваць думу і абіраць заместа царскіх урадаў сялянскія рэволюцыйныя комітэты[6]).

12-га сьнежня (29-га лістапада) на валасным сходзе ў мястэчку Скурдаліне, Дзьвінскага павету, які адбыўся пры ўдзеле прыехаўшых з Дзьвінску прамоўцаў с.-д., была прынята рэзолюцыя, у якой сяляне выказвалі рашучасьць: 1) далучыцца да барацьбы гарадзкіх рабочых, 2) рых-

---

[1]) „Смоленский Вестник" ад 24-XII—1906 г. (Выразка ў Архіве Асобага Аддзелу Дэпарт. Поліцыі, 1907. 5 ч., 33, л. 17).

[2]) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Поліц. 1907. 5 ч., 33, л. 24.

[3]) „Искра", № 78, ст. 8.

[4]) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Поліц. 1905, 5 ч., 37. passim.

[5]) „ „ „ „ „ 1905, 5 ч., 23 л. 19а, 37, л. 119.

[6]) „Искра". № 112 ст., 6.

таваццa да ўзброенага паўстаньня, 3) пачаць паўстаньне з адмаўленьня ад выплаты падаткаў і пастаўкі рэкрутаў і захапленьня ўсяе зямлі[1]). Наогул-жа ў Дзьвінскім павеце, па засьведчаньні корэспондэнта „Пролетария“, у 1905 г. праца сярод сялян абмяжоўвалася распаўсюджваньнем літаратуры; актыўная праца пачалася ўсяго толькі пасьля разгону думы: па вёсках ладзіліся мітынгі-бяседы, там-сям узьнікалі сялянскія групы, па 12—20 чалавек, якія імкнуліся разабрацца ў програмных пытаньнях; запатрабаваньне літаратуры ў гэты час было надта вялікае[2]).

Надта мізэрныя весткі маюцца пра працу с.-д. у Смаленскай губэрні. У 1905 годзе Смаленскі комітэт выдаў „Ліст селяніна—соцыял-дэмократа да сялян“, які заклікае сялян аб'яднацца і ўзбраяцца дзеля барацьбы за ўстаноўчы сход, адмаўляцца ад выплаты подацяй, не даваць рэкрутаў і запасных, бойкотаваць начальства і абіраць сялянскія комітэты[3]). У Смаленскім павеце, па вестках корэспондэнтаў Вольна-Экономічнага Таварыства, с.-д. вялі актыўную працу сярод сялян; пасьля кастрычнікавага маніфэсту зьбіраліся мітынгі, прымаліся рэзолюцыі, ладзіліся дэмонстрацыі з чырвонымі сьцягамі. „Сяляне,—піша адзін з корэспондэнтаў, студэнт-зямляўласьнік,—ня надта разумелі прамовы, і на адным мітынгу маглі прызнаць соцыялізацыю зямлі, а на другі дзень абяцаць змагацца пад штандарам адзінай соцыял-дэмократычнай партыі[4]). Пасьля роспуску думы Смаленскі комітэт пастанавіў агітаваць за складаньне прыгавораў аб няяўцы і скрывацельстве навабранцаў. У Дарагабускім павеце адбыўся зьезд валасных старшынь, які пастанавіў (магчыма, не бяз уплыву с.-д.) не даваць рэкрутаў. У другім павеце (павет не названы) такая-ж пастанова была прынята сялянскім зьездам[5]).

Пры Віленскім комітэце РС-ДРП у другой палове 1905 г. склалася акруговая організацыя, у задачы якой уваходзіла кіраўніцтва партыйнай працай у шэрагу павятовых гарадоў і мястэчак, а гэтак сама праца сярод сялян. З мясцовых організацый Віленскага комітэту значную працу сярод сялян праводзілі смаргонская (Ашмянскага павету) і падбародзкая (Віленскага павету) групы. Час-ад-часу акруговы комітэт склікаў конфэрэнцыі, на якіх абгаварваліся як агульна-палітычныя пытаньні, так і пытаньні мясцовага значэньня[6]). У канцы студзеня 1906 году ў Вільні адбылася конфэрэнцыя, на якой удзел прымалі смаргоньская, сьвянцянская, гародзен-

[1]) „Сев. голос“, 1905, № 1, ст. 4.

[2]) „Пролетарий“, 1906, № 10, ст. 7.

[3]) Арх. Гістпарту, № 7953.

[4]) Агр. движ. в России 1905-1906 г. г. Т. I, ст. 363 і 382.

[5]) „Пролетарий“, 1906, № 4, ст. 6.—„Социал-Демократ“, 1906. № 3. ст. 6.

[6]) И. Юренев. Работа РС-ДРП в Северо-Западном крае. „Прол. Рев.“, 1924. № 8-9 ст. 186-187.

ская, ашмянская і лідзкая групы. Конфэрэнцыя ўхваліла ніжэйшую рэзолюцыю аб працы ў вёсцы:

„Конфэрэнцыя прызнае, што ў сучасны політычны момант перад с.-д. ў вёсцы стаяць ніжэйшыя задачы: а) організацыя пад штандарам РС-ДРП усіх пролетарскіх і напоўпролетарскіх адзінак з мэтай: 1) абароны іх клясавых інтарэсаў і 2) найвялікшага рэволюцыянаваньня дэмократычных адзінак вёскі; б) узмацненьне рэволюцыйнага дэмократычнага руху ў вёсцы; в) прыдаць стыхыйнаму руху ў вёсцы сьвядомасьць і організованасьць, адхіліўшы ад яго рэакцыйныя прымешкі і бунтарскія адзінкі. Дзеля ажыцьцяўленьня гэтых задач конфэрэнцыя лічыць неабходным: 1) імкнуцца організаваць вясковых пролетараў і напоўпролетараў у самастойныя соцыял-дэмократычныя групы; 2) організоўваць рэволюцыйныя сялянскія комітэты, якія павінны зьяўляцца баявымі організацыямі рэволюцыйнага сялянства: а) дзеля пашырэньня і кіраўніцтва рэволюцыйным рухам у вёсцы, аж да ўзброенага паўстаньня сялянства і б) дзеля правядзеньня конфіскацыі манастырскіх, габінэцкіх, удзельных, прыватна-ўласьніцкіх і іншых зямель; 3) шырока пропагандаваць ідэю рэволюцыйнага самакіраўніцтва, падкрэсьліваючы, аднак, што практычнае правядзеньне гэтай ідэі ў жыцьцё павінна быць строга організована і памагчымасьці прыстасована да агульнага рэволюцыйнага ўздыму; 4) выдзеліць з існуючых організацый найбольш актыўныя сілы, склаўшы з іх мясцовыя і цэнтральныя сялянскія групы з мэтай плянавага правядзеньня ўсіх партыйных лёзунгаў і ажыцьцяўленьня пастаўленых намі задач у вёсцы; 5) конфэрэнцыя прызнае, што найлепшым спосабам колектыўнага правядзеньня захопу зямель і пераходу да новых формаў зямляўладаньня зьяўляецца заворваньне грамадой захопленай зямлі, якую конфэрэнцыя ўпарта рэкамендуе, як сыстэму, якая не замацоўвае захопленыя землі за асобнымі грамадзянамі; 6) у мэтах найвялікшага посьпеху працы ў вёсках, конфэрэнцыя лічыць неабходным выданьне нелегальнага популярнага сялянскага органу. Рэдакцыя павінна стаяць на пункце погляду рэзолюцыі конфэрэнцыі, але разам з тым пажадана адкрыцьце дыскусыйнага аддзелу популярнага характару“ [1]).

У чэрвені 1906 году адбыўся правал акруговай конфэрэнцыі; большасьць актыўных працаўнікоў акруговага комітэту была арыштована і ў канцы 1906 году акруговая організацыя ледзь-ледзь існавала [2]). Смаргоньская організацыя, самая моцная з організацый Віленскага комітэту, працягвала, аднак, актыўную працу і пасьля правалу. У сярэдзіне жніўня адбылася конфэрэнцыя Смаргоньскага раёну, на якой прысутнічалі дэлегаты ад 5-ці мястэчак і валасьцей, прадстаўляючыя сабою каля 650 сяброў партыі.

Конфэрэнцыя прыняла ніжэйпаданую рэзолюцыю: „У мэтах аслабленьня правіцельства і рэволюцыянаваньня шырокіх гушчаў народу, у асаблівасьці, сялянства, імкнуцца ўсімі сіламі да правядзеньня ў жыцьцё

---

[1]) „Партийные Известия“, 1906, № 1, ст. 9-10. Перадрукована ў „Пролет. Рэв“ 1924, № 8-9, ст. 204-205.

[2]) И. Юренев. Цыт. тв. ст. 187.

пастаноў выбаргскае адозвы аб адмаўленьні ад платы подацяй і пастаўленьня рэкрутаў. З гэтай мэтай організацыі павінны пашырыць сярод жыхарства шырокую як вусную, так і пісьменную агітацыю, пабуджаць сялян да складаньня прыгавораў на валасных і сельскіх сходах у адпаведным напрамку, пры раскладцы подацяй адмаўляць у асыгнаваньні на ўсе патрэбы, за выключэньнем тых, якія служаць інтарэсам народу (школы і інш.)“ [1]).

Пра працу с.-д. у Віленскай губэрні ў 1907 годзе ў архіве дэпартаманту поліцыі маецца сводка агэнтурных вестак па Віленскім, Вілейскім, Сьвяньцянскім і Дзісьненскім паветах. Згодна гэтых вестак, у траўні м-цы з Новавілейску ў акольнічныя вёскі (Міцкуны, Варняны, Табурышкі, Грыгойцы, Лозьнікі, Стрэльчукі, Рукойны) прыяжджалі агітатары с.-д., пашыраўшыя нелегальную літаратуру, пераконваючыя сялян устрымлівацца ад куплі зямлі праз банк і ад перасяленьня ў Сібір і запэўняўшыя, што дзяржаўная дума хутка разьедзецца па тэй прычыне, што народ не настолькі організованы, каб падтрымліваць думу, а правіцельства патрабаваньняў думы выконваць не жадае. У Віленскім павеце ў гэты час былі с.-д. організацыі, акрамя г. Вілейкі, у м. Курынец, у Маладэчне, Даўгінаве, Ільле, Лебедзеве і Дунілавічах, зьвязаныя з Віленскім комітэтам. Дзісьненская група, зьвязаная з Дзьвінскім комітэтам, вяла працу ў Лужках, Глыбокім, Паставах, Германовічах, Шаркаўшчызьне і Друе; у сярэдзіне траўня Дзьвінскі комітэт быццам даў дырэктыву ўстрымлівацца ад сутычак з поліцыяй і ўстрымліваць сялян ад аграрных непарадкаў да „канчатковага вырашэньня“ аграрнага пытаньня ў дзяржаўнай думе. У м. Новасьвяньцянах у ліпні м-цы існавала сялянская організацыя РС-ДРП, якая праводзіла моцную агітацыю і пашырала сялянскую літаратуру [2]). Акрамя пахаджэньня гэтых вестак, самы характар паведамленьняў прымушае адносіцца да іх з вялікай асьцярогай: у сьпісе літаратуры, якая быццам пашыралася ў Віленскім павеце соцыял-дэмократамі, побач з літаратурай соцыял-дэмократычнай, паказана і літаратура эсэраўская. Дзісьненская група яднала быццам ня толькі сяброў РС-ДРП і Бунду, але й нават с.-р.; падобная-ж блытаніна адносна партыйнасьці маецца і ў вестках па Віленскім павеце, і да т. п. Праверыцьгэтыя весткі пры адсутнасьці іншых матэрыялаў, немагчыма.

У канцы сакавіка 1906 г. адбыўся зьезд організацый Паўночна-Заходняга саюзу РС-ДРП, які констатаваў налічча цэлага шэрагу акруговых організацый, якія зьяўляюцца асяродкамі працы сярод сялян. У некаторых мясцох існуюць „сялянскія асяродкі, абхопліваючыя цэлы шэраг вёсак, а часам і цэлыя акругі, як у Менскай губ., часткай у Віцебскай і Віленскай“ [3]). Допіс у № 9 „Волны“ лічыць, аднак, працу сярод сялян

[1]) „Социал-Демократ“, 1906, № 1, ст. 8.
[2]) „Социал-Демократ“, 1906, № 1, ст. 8.
[3]) „Волна“, 1906, № 8, ст. 4.

Паўночна-Заходніх губэрань „вельмі нездавальняючай". Прычыны гэтаму, па думцы аўтара, допісу ніжэйшыя: 1) недастача працаўнікоў і сродкаў: сяляне зьвяртаюцца з просьбай даць агітатараў і лістовак, аднак здаволіць іх няма чым; 2) непадрыхтованасьць партыйных працаўнікоў да працы сярод сялян, якая патрабуе асобных мэтодаў і прыёмаў, спэцыфічных навыкаў; 3) разрозьненасьць працы, адсутнасьць згаворанасьці організацый між сабою, непагоджанасьць лёзунгаў. Чарговымі задачамі аўтар допісу лічыць: 1) склíканьне спэцыяльнай конфэрэнцыі аграрнікаў усяе краіны і 2) пабудаваньне асобнага краявога сялянскага асяродку, які-б яднаў усю працу [1]).

Конфэрэнцыя організацый Паўночна-Заходніх губэрань, якая адбылася пасьля выбараў у другую думу (дакладнай даты ўстанавіць не ўдалося) прыняла ніжэйшую рэзолюцыю, якая пабочна характарызуе становішча вясковай працы ў часе выбараў.

„Рэкомандуецца ўсім організацыям адразу ўзвысіць агітацыю сярод жыхарства (асабліва сярод сялян) з прычыны адбыцьця і вынікаў выбараў у Паўночна-Заходнім краі. Гэта агітацыя мае мэтай растлумачыць сялянам, што выбары далі дэпутатаў, варожых інтарэсам сялянства, што прычынай гэтаму зьяўляецца абыходжаньне сялянскіх выбаршчыкаў. У вадозвах, якія выдаюцца ў кожнай губэрні, павінны быць паказаны ўсе памылкі і праступкі сялянскіх выбаршчыкаў кожнай губэрні, тактыка гарадзкіх выбаршчыкаў і абшарнікаў у вадносінах да розных нацыянальных організацый і г. д. Разам з тым, мяркуючыся з мясцовымі асаблівасьцямі, пажадана ўзвысіць сярод сялян кампанію, у мэтах выразу недавер'я выбаршчыкам, якія дапамагалі выбару абшарнікаў, якія былі падкуплены і г. д. Дзеля організацыі пролетарскіх гушчаў вакол соцыял-дэмократычнай фракцыі ў дзяржаўнай думе і ўплыву на ўсю дзейнасьць думы, конфэрэнцыя організацыі Паўночна-Заходняга краю прызнае пажаданым усюды, дзе магчымасьць дазволіць, організоўваць рабочых і сялянскіх ўпоўнаважаных і выбаршчыкаў, прычым мысьліць, што організацыя рабочых ўпоўнаважаных павінна пайсьці асобна ад організацыі сялянскіх ўпоўнаважаных... Організацыі павінны прыкласьці ўсе патугі да пабудаваньня кампаніі ўпоўнаважаных і выбаршчыкаў ад сялянства. Лічачыся з фактычнымі цяжкасьцямі выкананьня гэтае працы сярод сялянства, конфэрэнцыя рэкомандуе організацыю зьездаў па найбольш дробных тэрыторыяльных адзінках [2]).

Сярод літоўскага сялянства працу праводзіла, галоўным чынам, Соц.-Дэм. Партыя Літвы. У значнай меры пад яе кіраўніцтвам адбываўся тут сялянскі рух, які вызначыўся ў наладжаньні адчыненых мітынгаў і дэмонстрацый, протэстах супроць правіцельства і ксяндзоў, зачыненьні манаполек, зьмене мясцовай улады і забастоўках сельска-гаспадарчых рабочых [3]).

---

[1]) „Волна", 1906, № 9 ст. 4.

[2]) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Пол., 1907. 5 ч. 6, лл. 14 аб.—15 аб.

[3]) Агр. движение в России 1905-1906 г. г. т. I, ст. 363, 397—399. В. Мицкевич Капсукас), 1905 г., в Литве. „Прол. Рев.", 1922, № 11, ст. 63—68.

У 1904 і 1905 г. г., як піша В. Міцкевіч, партыя апіралася пераважна на заможнае сялянства, якое наймала рабочых на пастаянную працу; гэта быў тады самы сьвядомы і самы рэволюцыйны элемэнт літоўскай вёскі, які ўжо здаўна адчуваў цяжкасьць бяспраўя, поліцэйскага ўціску і нацыянальнага прыгнечаньня. Заможнае сялянства было ў большасьці і сярод тых 2000 дэлегатаў ад валасьцей, якія прысутнічалі на ўселітоўскім зьезьдзе ў Вільні 4-5 сьнежня (21-22 лістападу) 1905 года. Кіраўнічая роля на зьезьдзе належала да СДПЛ, хаця-ж яна і ня прымала ўдзелу ў скліканьні яго. Зьезд прыняў прапанованую ёю рэзолюцыю, якая заклікала, між іншым, „не плаціць подацяй, зачыняць манапольскі, ня пушчаць дзяцей у расійскія пачатковыя школы, у Ковенскай, Віленскай і Горадзенскай губэрнях ня йсьці ў валасны суд і іншыя царскія правіцельственныя ўстановы, ня пушчаць сваіх братоў у вайсковую службу, і, у выпадку патрэбы, баставаць усім працоўным гораду і вёскі“.

У 1905 г. ў СДПЛ зьяўляецца опозыцыя, якая высоўвае на першы плян працу сярод сельскага пролетарыяту; пад кіраўніцтвам опозыцыі адбываецца шэраг забастовак панскіх рабочых, уздымаецца нават у трох вёсках забастоўка батракоў, працуючых у шматзямельных сялян; але пакуль забастоўкі сялянскіх батракоў адбываліся ў нязначным ліку, гэта не адхіліла ад партыі заможнае сялянства.

Да канца 1905 г. рух сярод сялянскіх батракоў і сялян—напоўпролетарыяў значна пашыраецца, між тым, як заможнае сялянства, пад уплывам уціску правіцельства і дзейнасьці карацельных экспэдыцый, а гэтак сама растучага руху сельскага пролетарыяту, мала-па-малу адыходзіць ад рэволюцыі і нават пераходзіць у лягер рэакцыі. У зьвязку з гэтым у шэрагах СДПЛ узмацняецца ўплыў опозыцыі, які адбываецца і ў рэзолюцыях партыйнай конфэрэнцыі, якая адбылася ў студзені 1906 г. Падагульваючы рэволюцыйны рух 1905 году, які праходзіў, у значнай меры, пад кіраўніцтвам партыі, конфэрэнцыя зазначае яго значныя посьпехі. „Амаль што ўсюды ўдалося выгнаць з валасьцей старую ўладу, пастаўленую царскімі чыноўнікамі: поліцыю, земскіх начальнікаў, валасных пісароў і старшынь, валасных судзей і настаўнікаў-расійцаў. Сяляне не плацілі подацяй царскаму правіцельству, зачынялі манапольскі, не давалі рэкрутаў. У шэрагу мясцовасьцяй сяляне, зьніштожыўшы стары ўклад, уводзілі новы. Да выбараў прыцягваліся ўсе жыхары воласьці, без разьлічча становішча і пахаджэньня, абраныя ставіліся для выкананьня валасных абавязкаў амаль што ўсюды рэволюцыйным парадкам“. Але разам з тым конфэрэнцыя прызнае і налічча дробна-буржуазнага ўхілу ў працы партыі на вёсцы. „Узмацняючы рэволюцыйнае пачуцьцё ў самых шырокіх гушчах, жадаючы прыцягнуць іх да ажыцьцяўленьня зьмены ўва ўкладзе мясцовага жыцьця, нашы таварышы часта не зьвярталі ўвагі на агітацыйную працу сярод сапраўдных сельскіх пролетарыяў і не заўсёды стаялі на пункце погляду клясавай барацьбы, хаця-ж у шэрагу мясцовасьцяй, асабліва за

апошні год, ясна выявілася супярэчнасьць інтарэсаў пролетараў і буйных сялян і абшарнікаў. Пры пабудаваньні новага ўкладу, самымі актыўнымі і сьмелымі працаўнікамі аказаліся пролетары і сялянская галота, якія працуюць у абшарнікаў і сялян ці валакуць сваё гарапашнае жыцьцё на маленькіх кавалках зямлі".

Пасьля конфэрэнцыі партыя зьвяртае найбольшую ўвагу на працу сярод пролетарскіх і напоўпролетарскіх слаёў вёскі, робячы перагляд свае програмы і тактыкі. Верасьнёўская конфэрэнцыя 1906 г. апрацавала проэкт аб'яднаньня СДПЛ з РС-ДРП, але амаль што поўнае зруйнаваньне партыі ў канцы 1906 г. перашкодзіла ажыцьцяўленьню гэтага проэкту [1]).

Працу сярод сялян Літвы і Беларусі праводзіў гэтак сама і Бунд [2]). Корэспондэнты Вольна-Экономічнага Таварыства з Аршанскага і Рагачоўскага паветаў Магілеўскай губэрні паведамляюць пра значную ролю ў сялянскім руху „жыдоў-агітатараў", „агентаў с.-д.", „якія высылаюцца ад Бунду" [3]). У верасьні 1905 г. ў м. Любавічы Аршанскага павету і сярод аколічных сялян пашыраліся проклямацыі Бунду пра Булыгінскую думу [4]). Пашырала проклямацыі ў 1905 годзе сярод сялянства і прапойская організацыя Бунду (Быхаўскі павет [5]).

Ігуменская [6]) організацыя Бунду (Менск. губ.) паведамляе, што сяляне з аколічных вёсак часта зьвяртаюцца да яе за літаратурай і просяць прысланць ім агітатараў дзеля правядзеньня агітацыйных сходаў [7]). У Рэчыцкім павеце Менскай губ., як паведамляе дэлегат лістападаўскага зьезду сялянскага саюзу, „жыды (мабыць, бундаўцы) з'організавалі сялянскія „дэмокрацкія" гурткі і папярэдзілі пагром" [8]).

У Люцыне (Віцебскай губ.) у часы кірмашу 19 (6) студзеня 1905 г. сярод сялян было пашырана 850 экз. розных проклямацый; сяляне засталіся вельмі здаволенымі, шкадавалі, што мала. 15 (2) лютага люцынская організацыя пашырыла сярод сялян ліст Гапона да рабочых [9]). Невельская організацыя (Віцебскай губэрні) у студзені 1905 г. выдала гэктографаваную лістоўку „Браты-сяляне", якая заклікала патрабаваць на сходах спыненьня вайны і рыхтавацца да паўстаньня супроць царскага самадзяржаўя [10]). У сакавіку выдадзена надрукованая ў друкарні лістоўка „Сяляне!"—падпісаная „Групай сялян соцыял-дэмакратаў", з пячаткай

1) В. Міцкевіч (Капсукас) цыт. тв. ст. 68—72.

2) Агр. движ. в России 1905-1906 г. г., т. 1., ст. 363.

3) Ibidem ст. 375—378.

4) „Посл. Известия". 1905. № 253 ст. 4.

5) „Посл. Исвестия". 1905. № 243 ст. 4.

6) Чэрвеньская. Заўвага перакладчыка.

7) „Посл. Изв." 1905. № 252 ст. 8—Параўнай таксама Агр. движение в России 1905-1906 г. г., т. 1. ст. 373—374.

8) Мат. к крест. вопр. ст. 36.

9) „Посл. Изв." 1905. № 220. ст. 2.

10) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Пол.. 1905. 5 ч. 37 л. 95 ж.

невельскай організацыі Бунду. Лістоўка датыркаецца, між іншым, пытаньня аб паклёпах на жыдоў і заклікае сялян далучыцца да рабочых, каб разам скінуць ярмо царскай улады і выйсьці на змаганьне супроць абшарнікаў і чыноўнікаў за народную волю[1]). Другая (гэктографаваная) лістоўка, пад тым-жа загалоўкам выдадзеная невельскай організацыяй у красавіку 1905 г., кажа пра ўзрастаючы сялянскі рух у Расіі і заклікае невельскае сялянства да барацьбы! „Досыць чакаць і пакутваць!“[2]).

З Краслаўкі (Дзьвінскага павету) у сакавіку 1905 г. паведамлялі, што бундаўскія лістоўкі вельмі популярныя сярод сялян, сяляне бяруць іх на расхоп, прапаноўваюць за іх нават грошы. Пры організацыі была ўтворана асобая комісія дзеля працы сярод сялян. 5-га сакавіка (20 лютага) у Краслаўскім валасным праўленьні меўся адбыцца вялікі сход сялян, на які прыехаць павінен быў губарнатар.

Прыехаўшыя сяляне зьвярнуліся да організацыі за парадай: як трымацца на сходзе. Організацыяй былі надрукованы на гэктографе лістоўкі з формулёўкай сялянскіх патрабаваньняў, праведзены два мітынгі на вуліцы, на якіх прысутнічала каля 300 чалавек: прамоўцы вялі гутарку пра вайну і заклікалі да політычнага змаганьня. Чакаючы губарнатара, бундаўскі прамоўца зноў выступіў з прамовай; прамова выклікала вялікую ўхвалу з боку сялян[3]). „У кастрычніку 1905 г.,—піша корэспондэнт Вол. Экон. Таварыства, з чорнасотніцкімі поглядамі,—на рынку м. Краслаўкі сабраліся жыды (Бунд) у колькасьці некалькіх сотак і, у прысутнічаньні народу, разьвеялі чырвоныя і чорныя сьцягі, выступілі з прамовамі супроць монарха, улады, рэлігіі і ўласнасьці. Да гэтага спэктаклю прыслухоўваліся і прысутнічалі, без найменшага супярэчаньня, асобы мясцовай улады, што і дало повад сялянам разважаць так, што з гэтых часоў можна рабіць усё“[4]).

Пружанская організацыя Бунду (Горадненскай губ.) гэтак сама мела сувязь з аколічнымі вёскамі, але праца мела заваду ў тым, што не хапала належнай літаратуры[5]).

Як бачым, усе соцыял-дэмократычныя партыі Паўночна-Заходняга Краю—РС-ДРП, СДПЛ і, у меншай меры, вядома, Бунд—вялі вялікую працу ў вёсцы. Праца вялася як сярод многалічнага тут сельскага пролетарыяту, так і сярод сялянства наогул. Соцыял-дэмократыя кіравала забастовачным рухам сельскіх рабочых, утварыла сярод іх партыйныя ячэйкі, організоўвала політычныя выступленьні сялянства, будавала

[1]) Ibidem, л. 177.

[2]) Ibidem, л. 123.

[3]) „Посл. Изв.„ 1905. № 223 ст. 3.

[4]) Агр. Движ. в России 1905-1906 г. г. т. I, ст. 368.

[5]) „Посл. Изв.“ 1905, г. № 245, ст. 3—Агр. Движ. в России. 1905-1906 г. г. т. I, ст. 394.

беспартыйныя сялянскія організацыі. Посьпеху соцыял-дэмократычнай працы ў гэтай краіне, паміма значнага разьвіцьця тут капіталістычных адносін, дапамагаў вялікі лік мясцовасьцяй гарадзкога тыпу, якія маюць цесную сувязь з акружаючымі вёскамі. Рэдка, у якім-небудзь горадзе ці мястэчку, ня было хоць-бы маленькай соцыял-дэмократычнай групы, якая была рэволюцыйным фэрмэнтам дзеля аколічнага сялянскага жыхарства. У Літве, акрамя гэтага, рэволюцыянаваньню сялянства дапамагаў цяжкі нацыянальны ўціск, пад уплывам якога сялянскі рух хутка здабыў політычную ахварбоўку, і соцыял-дэмократычная агітацыя знаходзіла сабе, такім чынам, ужо падрыхтованы грунт.

Пераклаў з расійскай мовы **Іл. Барашка.**

# СЯЛЯНСКІ РУХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ Ў 1905 г. [1])

## М. Мялешка

Беларускае сялянства Віцебшчыны з даўніх часоў вызначалася сваёй асаблівай рашучасьцю ў рэвалюцыйнай барацьбе з сваімі прыгнятацелямі, абшарнікамі і царскім ладам. Цяпер, калі надышоў 1905 г., калі гром рэволюцыі ўдарыў па спарахнелым царызьме, сяляне Віцебшчыны рашуча паўсталі на барацьбу за вызваленьне працоўнага люду ад абшарнікаў і капіталістых, на барацьбу з царызмам. Бязупынныя забастоўкі, дэманстрацыі, протэсты—у гарадох, захоп дворнай маемасьці, зямлі, сенажацяй, стыхійная высечка панскіх лясоў, разбураньне манаполек, адмаўленьне ад выпаўненьня ўсякіх павіннасьцяй—у вёсцы былі настолькі моцнымі, што поліцэйскія і жандарскія агенты былі бясьсільны спыніць рэволюцыйны ўздым і ўстанавіць парушаны парадак па гарадох, сёлах і мястэчках Віцебшчыны.

Пад напорам рэволюцыі, здаваўся, прышоў канец нявольнаму стану сялян, стала блізка магчымасьць заўладаць сваёй зямелькай, лясамі і азёрамі, і гаротны селянін пацягнуўся за сваім дабром. Стан сялянства ў гэты час на Беларусі быў вельмі цяжкі. Расійска-японская вайна адарвала шмат каго ад родных хат і закінула на далёкі ўсход. Поўнае безьзямельле вёсак, пры шырокіх панскіх абшарах, бясхлебіца, вялікія падаткі і павіннасьці, адсутнасьць лесу, поўнае бяспраўе і пры гэтым цемната і дзяржаўны ўціск нацыянальных меншасьцяй, усё гэта варушыла думку нашага селяніна і штурхала яго на барацьбу.

Многалікія віды вонкавай апекі і ўсякія прыцясьненьні настолькі прасякалі жыцьцё селяніна, што ён абсолютна пазбаўлен быў магчымасьці праявіць якую-небудзь уласную ініцыятыву,—гэты неабходны грунт, дзеля колькі-небудзь самастойнай творчай дзейнасьці. Селянін ня меў ніякай мажлівасьці распараджацца сам сабой, бо на кожным кроку

---

[1]) Артыкул гэты напісаны, амаль што, выключна па справах сакрэтнага стала Віцебскага губарнатара. Адміністрацыйны падзел губэрні ў нарысе застаецца такім, якім ён быў у час 1905 г. Матэрыяламі служылі цыркулярныя загады, даклады губарнатара, поліцэйскія данясеньні, паведамленьні земскіх начальнікаў, проклямацыі мясцовых політычных партый і іншыя дакуманты.

быў уціснуты амаль што нічым не абмяжованай апекай і цэлым шэрагам размаітых забарон для сялян.

Адсутнасьць значных прамысловых заработкаў у гарадох, нізкая сельска-гаспадарчая культура пры стаўшым малазямельлі прыводзілі сялян у поўны разор. Да гэтых цяжкасьцяй селянін вымушан быў яшчэ плаціць значныя мірскія падаткі і адбываць цяжкія земскія натуральныя павіннасьці, якія вяліся ў нас на падставах часоў прыгону.

Такі стан сялян быў ня толькі на Беларусі, але і ўва ўсёй Расіі, хаця становішча сялян Беларусі вельмі адрозьнівалася ад сялян іншых народаў. Расійскі ўрад яшчэ да 1905 г. быў заняты пераглядам законадаўства аб сялянах. Царскім указам ад 8 студзеня 1904 г. былі складзены „Губернские совещания для дальнейшей разработки и согласования с местными особенностями, оконченных в первоначальном изложении Министерства Внутренних Дел, проэктов новых законоположений о крестьянах“. Складзеныя на падставе гэтага губэрскія нарады з вышэйшых чыноўнікаў і абшарнікаў ня мелі ў сваёй дзейнасьці ніякага посьпеху. З аднаго боку, паны адчувалі патрэбу зрабіць некаторую зьмену ў палажэньні сялянства пасьля „рэформы“ 1861 г., а з другога боку, рабіць палёгку для сялян было нявыгодна для абшарнікаў.

Рэволюцыя 1905 г. застала сялян у поўным бязладзьдзі. Па ўказу 18 лютага 1905 г. маглі заяўляць цару аб сваіх патрэбах ня толькі грамадзянскія ўстановы і організацыі, але і прыватныя асобы. Як у старыну, так і цяпер знаходзіліся яшчэ па нашых вёсках прастачкі, якія ўскладалі надзею на цара, сьпяшылі выказаць яму сваю скаргу і прасіць зьмілавацца над імі і памагчы ім у іх гаротным жыцьці.

Так, сяляне Пылдзенскай вол. Люцынскага павету ў сваёй пэтыцыі да цара даводзілі, што яны зусім абяднелі, што зямлі ў іх стала вельмі мала, што сэрвітуты, як паша для скаціны, страцілі сваю значнасьць дзеля таго, што паны іх распахалі, рашчысьцілі і адбудавалі фольваркі. У зьвязку з беспрацоўем сельскага люду разьвілася конкурэнцыя, якой карыстаюцца паны і зусім танна бяруць парабкоў і дорага здаюць сваю зямлю ў арэнду. Скардзіліся на сваю няпісьменнасьць, што яны па сваёй беднасьці ня маюць магчымасьці адчыняць школы і што ў існуючыя школы ня ўсе сяляне могуць пасылаць сваіх дзяцей. Не здавальняла іх царская школа. „Нам патрэбны яшчэ школы, дзе мы маглі-б навучыцца якому-небудзь рамяству... Нам патрэбна такая рамеская школа, каб з яе выходзілі праўдзівыя майстры: сталяры, кавалі, сьлесары і інш., адным словам, каб чалавек мог зарабіць сабе сумленна кавалак хлеба“. Апрача гэтага, сяляне паказвалі на цяжкія падаткі: „Празьмернае аблажэньне нас падаткамі як грашыма, так і натурай, параўнаўча з другімі клясамі, асабліва бяручы пад увагу нярухомую маемасьць апошніх. Так, апроч мірскога збору на свае сялянскія патрэбы, мы яшчэ трымаем стойку ко-

няй для праежджых чыноўнікаў, а другія клясы ад гэтага вольны. Мы павінны выбіраць і плаціць соцкім.

„На кожныя дзесяць хат ад нас кожны год патрабуюць дзесяцкіх, якія абслугоўваюць і паноў, нават па справах дворных яшчэ больш ходзяць, а служым мы адны. Мы павінны правіць вялікія шляхі, а па іх езьдзяць усе і ніхто нічога ня плаціць. Праўда, з двароў даецца лес на масты, але ён звычайна даецца настолькі дрэнны, што мы павінны правіць масты кожны год“. Апроч гэтага, калі ў нас увялося ўпрошчанае земства, да нас залічылі па судовых справах і ўсіх іншых грамадзян (апроч дваран). У выніку гэтага ў нас павялічыліся выдаткі па ўтрыманьні канцылярыі, старастаў, судзьдзяў, старшынь, на апал, асьвятленьне, на падтрыманьне чыстаты і інш. і ўсё гэта лажыцца на нас адных“[1]).

Голас абяздоленага сялянства Віцебшчыны заяўляў цару аб сваіх патрэбах. У гэтых простых словах народ выказваў сваю скаргу цару, выказваў свае пажаданьні. Сяляне Сялішчынай вол. Гарадзецкага пав. ў сваёй пэтыцыі пісалі цару: „Выслухай нас, гасудар, бедных і цёмных людзей, будзь міласэрдны, памажы нам! Мы бедныя і нам няма з чаго больш жыць, як толькі з зямлі, а зямлі гэтай нам даўно не хапае. Мы браліся за арэнды, але цана на зямлю падвысілася, а мы зьбяднелі і вольная зямля дастаецца толькі багатым. Мы бедныя, але нам нічога дарма не дастаецца. Мы дорага плацім за тую зямлю, якой нас надзялілі, мы плацім самыя вялікія налогі, на нас ложацца цяжкасьці мірскія і царкоўныя зборы. На нашы грошы ўтрымліваюцца розныя ўстановы, ад якіх нам карысьці мала, а карыстаюцца імі і тыя, якія ня плацяць. У нас нічога свайго ня стала, і мы, каб адратаваць сябе ад пагібелі, сталі пасылаць сваіх дзяцей на працу ў розныя канцы Расіі, але ўмовы жыцьця працоўнага так сталі цяжкімі, што і з гэтага боку нам цяпер ня стала дапамогі.

„Мы цёмная людзі, гасудар! Наша бядота злучылася з цемнатою і губяць нас! Цёмнай хмарай павісла над намі няпраўда людзкая. Шмат ёсьць людзей, якія маюць уладу над намі, але яны ня думаюць аб нашай нядолі, яны карыстаюцца нашай цемнатою і беднасьцю і, забыўшы хрыстовы запаведзі, служаць толькі сабе і свайму сасловію... Нам сьвет патрэбен, гасудар! Для нашых дзетак ёсьць школы, але іх вельмі мала, вучаць у іх мала і не таму, чаму трэба; а тыя школы, якія гэтак сама трымаюцца на народныя грошы і дзе людзі дастаюць шмат вед і моц розуму, недаступны для нас, дзеля таго, што туды бедных не дапускаюць. Пры нашай беднасьці і цемнаце нам страшна шкодзіць п'янства; патрэбна, цар, законам удаліць яго ад нас і нашых дзяцей“. Далей сяляне ў гэтай пэтыцыі просяць цара зрабіць усіх падданых роўнымі перад законам, каб ня было абяздоленых і пазбаўленых праў ад нараджэньня.

[1]) Газ. „Право“, № 20. 1905 г.

Каб цар даў асьвету цёмным людзям, не дапусьціў іх у крыўду, устанавіў праўду ў людзях. Просяць даць ім права выбіраць выбарных людзей ад народу бяз усякіх абмежаваньняў простай, роўнай і тайнай падачай галасоў і каб кожны быў роўны і вольны [1]).

У сваім „Усепадданейшым хадайніцтве о-ва віцебскіх сельскіх гаспадароў указвае, што існуючы цяпер парадак не забясьпечвае Расіі законнасьці і пазбаўляе край вольнай дзейнасьці і зьвязанага з гэтым экономічнага дабрабыту. Абасобленасьць сялянства ў прававых адносінах, пры поўнай адсутнасьці добрых народных школ, давяла сялянства да матэрыяльнага разору, што ў зьвязку з няправільнымі чуткамі аб царскіх указах, штурханула ў многіх паветах Віцебскай губ. да масавых беспарадкаў, злучаных з разбураньнем панскіх двароў. Далей сельскія гаспадары Віцебшчыны зазначаюць, што: політыка русыфікацыі, якая разумеецца бюрократыяй, як шэраг мер, накіраваных супроць мовы, веры і нацыянальнага духу, прыводзіць, не да аб'яднаньня асобых частак Расіі і, значыцца, да моцы расійскай дзяржавы, а, наадварот, да ўзаемнай чужаніцы і нацыянальнай варожасьці.

„У вадносінах да Паўночна-Заходняга (Беларускага) краю о-ва лічыць, што ў адноўленай рэформамі Расіі край гэты зойме аднолькавае месца з другімі часткамі дзяржавы, прымаючы роўны ўзел у політычным жыцьці". Да ажыцьцяўленьня рэформаў о-ва сельскіх гаспадароў Віцебшчыны, у мэтах падрыхтоўкі глебы для будучага росквіту краю як у культурных, так і ў экономічных адносінах, лічыць неабходным:

I. Безадкладнае ўвядзеньне ў краі земскіх і гарадзкіх устаноў на агульна-выбарных падставах.

II. Усеагульная народная асьвета з увядзеньнем выкладаньня ў пачатковых школах на родных мовах мясцовых насельнікаў і ўключэньнем у абавязковую програму народных школ курсу сельскай гаспадаркі.

III. Адмена ўсіх законаў і загадаў, якія абмяжоўваюць нацыянальныя правы насельнікаў краю ў адносінах да веры, мовы, самакіраваньня, набыцьця нярухомай маемасьці, зямляўладаньня і паступленьня на дзяржаўную службу, з прадастаўленьнем асобам усіх нацыянальнасьцяй праў поўнага расійскага грамадзянства.

VI. Адхіліць адміністрацыйна-поліцэйскую апеку і станавую абасобленасьць сялян, што затрымлівае культурнае разьвіцьцё і дрэнна адбіваецца на экономічным стане шматмільённае клясы хлебаробаў.

Але такіх пэтыцый было мала. Сялянства пачало весьці барацьбу за зьмену існуючага ладу рэволюцыйным шляхам. Разьяднанае па вёсках, прымацованае да сваіх хат і загонаў зямлі, будучы зусім неорганізаваным, без політычнага кіраўніцтва, сялянства, вядома, не магло ў сваёй масе ўстанавіць мэтоды барацьбы, вызначыць выразна мэты і пу-

1) „Право" № 23, 1905 г.

цявіны ў сваім змаганьні. Да гэтага, клясавы склад сялянства вельмі нявыразны. Тут мы бачым парабкоў, спашнікаў, арандатараў, бедных і заможных сялян. Адны з іх былі варожы да паноў і да існуючага ладу, другія пазіралі пасыўна, трэція, калі і не супярэчылі сялянам, то ўсё-ж такі заставаліся панскімі прыхільнікамі. Сялянам цяжка было змовіцца, цяжка было зложыць моцную рэволюцыйную сілу. Але беларускай сялянскай беднаце, якая жыла цэлымі вёскамі, нечага было траціць. Для яе вызначаўся адзін шлях—захоп сілком таго, што належала да яе. Пры малым ліку на Віцебшчыне фабрычных і заводзкіх рабочых, гэтага авангарду рэволюцыі, сяляне Віцебшчыны самастойна вымушаны былі ісьці рэволюцыйным шляхам. Партыйныя соцыялістычныя групоўкі, якія існавалі на Віцебшчыне, былі слабыя для таго, каб плянова павесьці агітацыю сярод сялян, і ўзяць на сябе кіраўніцтва ў сялянскіх выступленьях. Хаця выступленьні соцыялістычных агітатараў заўсёды мелі посьпех.

Паўстаньні сярод сялян пашыраліся і віцебскі губарнатар у сваім хадайніцтве ад 27 ліпня за № 2605 перад загадчыкам паліцыі міністэрства ўнутраных спраў аб высылцы на Віцебшчыну трох соцень казакаў або трох соцень драгун, указваючы, што рэволюцыйная пропаганда йдзе на Віцебшчыну з Ліфляндзкай і Курляндзкай губэрань і што рэволюцыйныя эмісары застаюцца неўлавімымі. „Пад уплывам пропаганды,—піша губарнатар,—было ўжо некалькі выпадкаў, калі сяляне захаплялі панскія сенажаці, зямлю, прад'яўлялі бязумоўныя запатрабаваньні павялічэньня даплаты экономічным рабочым усіх катэгорый, самавольнай пашы скаціны і да т. п. Беспарадкі, якія пачыналіся на аграрнай падставе, дзякуючы прынятым з самага пачатку рашучым мерам і выкліку на месца вайсковых камандаў спынены, але ўздым сярод сялян ня ўлёгся. Нездаваленьне сваім станам—выклікае нараканьне на адсутнасьць, быццам-бы, сярод ураду клопатаў аб паляпшэньні быту вясковых насельнікаў, на нароўнамернасьць аблажэньня сялян і асоб другіх станаў і адбываньне абавязкаў поліцэйскіх, дарожных падводных і інш.

„Пры такім становішчы вясковыя насельнікі вельмі ахвоча ўспрымаюць падпольную пропаганду аб неабходнасьці ўласнага ўстройства свайго дабрабыту шляхам захопу і падзелу казённых і прыватных двароў, непаслухмянства ўладзе і адмаўленьня ад выкананьня абавязковых натуральных павіннасьцяй“.

„Па аднагалосным пасьведчаньні прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі і зямляўласьнікаў, настрой сялян у паказаных мясцох Віцебскай губэрні (прылеглых да Латвіі) прымушае чакаць буйных і сур'ёзных беспарадкаў па сканчэньні прац у полі і пасьля таго, як вернуцца дамоў вышаўшыя ў заработкі сяляне, якія, бязумоўна, добра ўразумелі ў буйных цэнтрах ідэі соцыял-рэволюцыйных організацый“.

„Папярэджаньне беспарадкаў, а на выпадак іх узьнікненьня—спыненьне для мясцовых поліцэйскіх сіл фізызна немагчыма. Выклікаваньне

вайсковай каманды з распаложанай у г. Дзьвінску 62 пях. дывізіі, прымаючы пад увагу малую рухавасьць пяхоты наогул, прадстаўляецца ня зусім мэтазгодным, тым больш, што пры недастачы афіцэраў, каманды ня могуць драбіцца на малыя атрады, што часам, па абставінах месца і часу, зьяўляецца больш важным, чымся прысутнасьць у тым і другім пункце буйнай вайсковай адзінкі. Аднэй кавалерыйскай часткай, разьмешчанай у Віцебскай губ. і якая зьяўляецца найбольш падыходзячай для дапамогі грамадзянскай уладзе, ёсьць паўтары сотні казакаў,—з якіх сотня разьмешчана ў Віцебску, а поўсотні ў г. Дзьвінску".

Але доўга праконваць дэпартамант паліцыі было непатрэбна. Віцебская губэрня была ўзята пад узмацнёную ахову парадку, і адміністрацыі давалася поўная магчымасьць распраўляцца з рабочымі і сялянамі [1]). Апрача заўсёдных гарнізонных войскаў, як у Дзьвінскай крэпасьці, Віцебску, былі разьмешчаны вайсковыя каманды і па другіх мясцох, якія пры малейшай патрэбе павінны былі выступаць на дапамогу паліцыі. У жніўні месяцы вайсковыя пункты на Віцебшчыне знаходзіліся ў такіх мясцох:

| Паветы. | Вайсковыя пункты | Лік войска |
|---|---|---|
| Віцебскі | г. Віцебск | Сотня казакаў |
| Дзьвінскі | м-ка Прэлі . . | Узвод драгун |
| | „ Краслаўка . | Узвод драгун |
| | „ Крэйцбур. . | Два ўзводы драгун |
| | „ Дагда. . . | Рота пяхоты |
| | „ Глазманка . | Поўроты пяхоты |
| | „ Левінгоф . | Поўроты пяхоты |
| Рэжыцкі | г. Рэжыца | Эскадрон драгун |
| | Двор Аташына. . | Рота пяхоты |
| | м-ка Варкляны . | Рота пяхоты |
| Люцынскі | г. Люцын | Два ўзводы драгун |
| | Двор Балоўскае . | Два ўзводы драгун |
| | „ Рускулова . | Два ўзводы драгун |
| | „ Баніфацава . | Узвод драгун |
| | „ Александропаль | Узвод драгун |
| | Вёска Ліпна . . | Поўроты пяхоты |
| | „ Корсаўка . . | Поўроты пяхоты |
| Невельск | г. Невель | Рота пяхоты |
| Полацкі | г. Полацак | Рота пяхоты |

[1]) Узмацнёнае палажэньне Віцебшчыны ўстанаўлівалася такім парадкам:

1 сьнежня 1901 г. міністар унутраных спраў данёс Правіцельствуюшчаму Сэнату аб абвяшчэньні ў палажэньні ўзмацнёнай аховы г.г. Віцебску і Дзьвінску.

20 сьнежня 1902 г. цар дазволіў устанавіць з 1 сьнежня 1902 г. агульны парадак упраўленьня ў г. г. Віцебску і Дзьвінску.

25 сьнежня 1923 г. міністар унутраных спраў данёс Правіцельствуюшчаму Сэнату аб абвяшчэньні ўзмацнёнай аховы г. г. Віцебску і Дзьвінску з іх паветамі.

25 чэрвеня 1904 г. цар зацьвердзіў палажэньне Комітэту Міністраў аб астаўленьні г. г. Віцебску і Дзьвінску з іх паветамі на палажэньні ўзмацнёнай аховы па 4 верасьня 1905 г.

16 сакавіка 1905 году міністар унутраных спраў данёс Правіцельствуюшчаму Сэнату аб абвяшчэньні ў палажэньні ўзмацнёнай аховы *на ўсю Віцебскую губэрню.*

11 студзеня 1905 г. Віцебскі губарнатар, на падставе царскага ўказу Правіцельствуюшчаму Сэнату ад 29 лістапада 1905 г. *абвясьціў г. Дзьвінск на ваенным палажэньні.*

Вядома, рухавасьць войска залежала ад сур'ёзнасьці і месца выбухнуўшага паўстаньня. Высунуты плян міністэрствамі ўнутраных спраў і ваеннага аб організацыі „лятучак“ з войска, мусі-быць, ня мелі ў практыцы посьпеху за слабой рухавасьцю пяхоты і недастачай коньніцы. Па гэтаму на Віцебшчыне часта практыкаваліся „вайсковыя прагулкі“ праз тыя мясцовасьці, дзе паўстаньне ўжо было ясна вызначана, або яго можна было чакаць. Пры малейшым супраціўленьні ўладзе пушчалі ў ход аружжа і ўва многіх мясцох, як убачым пасьля, адбыліся крывавыя расправы з народам, які адкрыта пажадаў выявіць сваю волю.

Рэволюцыйны настрой пачынаў прасякаць і ў войска, асабліва ў часткі, складзеныя з мобілізаваных запасных салдат. 9 верасьня пры адпраўцы з Віцебску ў Выбарг 919 салдат адбыліся такія здарэньні: салдаты, едучы ў трамваі па вуліцы, стоячы на плашчадцы, крычалі: „Далоў самадзяржаўе“. Пасьля, калі, сагнаўшы салдат, пад камандай вялі іх на станцыю, то праз усю Вакзальную вул., салдаты і грамада, якая ішла каля іх, крычалі: „Прашчайце, ура! Далоў самадзяржаўе!“ Як толькі са станцыі Віцебску крануўся цягнік з эшалонам салдат, то з дзьвярэй сямі вагонаў былі выкінуты чырвоныя сьцягі з рэволюцыйнымі надпісамі. Эшалон быў застаноўлены і вернуты назад, салдаты сямі вагонаў былі заарыштаваны і накірованы ў асобную казарму.

Пасьля таго, як здарыўся шэраг паўстаньняў па гарадох і вёсках, пасьля таго, як царскі ўрад вымушаны быў абвясьціць народу „свабоду“, з сталіцы даваліся самыя строгія загады па спыненьні сялянскіх паўстаньняў.

2 сьнежня 1905 г. Дурнаво тэлеграфаваў губарнатарам: „Пацьвярджаючы шматлікія свае ўказаньні прашу бязупынна і неаслабна вясьці самым энэргічным парадкам прасьледваньні падбухторшчыкаў, якія заклікаюць сялян да мецяжу і зьнішчэньня права ўласнасьці на зямлю. Гэтых злодумцаў належыць усімі мерамі ўсюды вышукваць, не зважаючы на грамадзянскі стан, і аддаваць бязумоўнаму трыманьню пад вартай. Пры адсутнасьці-ж поўных формальных даных дзеля арышту, у парадку жандарскага дазнаньня або папярэдняга сьледзтва, прадстаўляць у Асабовую Нараду з кароткімі протоколамі, якія сьведчаць вінаватасьць. Дзейнічайце ў гэтым напрамку цьвёрда, бяз усякіх разваг, не зважаючы ні на якія мяцежныя протэсты. Не дапушчайце організаваньня ў вёсках тайных комітэтаў, або саюзаў з сялян і не дазваляйце, так званых, сялянскіх зьездаў. Управляючы міністэрствам П. Дурнаво“.

Віцебскі губарнатар на падставе цыркуляраў міністэрства ўнутраных спраў даваў самыя строгія загады поліцэйскім ісправуінікам. 30 сьнежня ён пісаў: „... Прапаную пры падаўленьні сялянскіх смут і беспарадкаў, якія адбываюцца ў даручанай мне губэрні, у адносінах да мяцежных бандаў і скопішчаў дзейнічаць бяз усякіх разваг, самым рашучым парадкам, зьнішчаючы мяцежнікаў узброенай сілай, бяз усякай міласьці

і ня спыняцца перад ужываньнем самых суровых мер, дзеля падаўленьня мяцежных зьявішчаў у самым іх пачатку, каб устанавіць парушаны парадак“. Далей паліцыі прапанавалася пры ўжываньні аружжа выкарыстаць яго самым рашучым чынам, каб зьнішчыць самы малейшы замер да незадаволеньня.

Мерапрыемствы губарнатара засноўваліся на загадах з Пецярбургу, але ім былі выдадзены некаторыя пастановы самастойна. 22 сакавіка губарнатарам было выдана „обязательное постановление“, дзе „ўсякія зборышчы й сходкі на вуліцах, пляцох, скверах і іншых мясцох грамадзянскага і прыватнага карыстаньня забараняюцца“. Гэтак сама забаранялася зьбірацца на сходках на фабрыках і заводах, у майстэрнях, у публічных будынках. Хто адважваўся парушыць гэту пастанову, таму паграждала турма.

Апрача вайсковых і адміністрацыйна-паліцэйскіх мер па спыненьні паўстаньня, яшчэ былі на Віцебшчыне монархічныя організацыі: як „Першая руская партыя ў абарону самадзяржаўя“. Гэта партыя выдала да красавіка месяца чорнасоценныя лісткі-проклямацыі: „Да рускага народу“, „Да начальства“, „Да вышэйшага начальства“, „Да рускага народу і жыдоў“, „Да духавенства“. У гэтых лісткох заклікаліся грамадзяне да ўзброенага адпору „жыдоўскай смуты“, заклікалася ўлада духавенства аб'яднацца дзеля барацьбы з „жыдоўшчынай“, якая ўжо прыступіла „да зьверскай аблавы на поліцыю“ і публічных дэмонстрацый. Апрача гэтага, гэтай групай была выдадзена проклямацыя „Да стараабрадцаў“, якія запрашаюцца „спасьці рускую зямлю“.

Уся дзейнасьць гэтай чорнасоценнай партыі была накіравана да жыдоўскіх пагромаў, да забіцьця рабочых-соцыялістых і адцягнутасьці працоўных ад іх дамаганьняў патрыётычнымі маніфэстацыямі. Складалі гэтую партыю тыя-ж элемэнты, што пазьней уваходзілі ў „Саюз рускага народу“. Урад трохі баяўся даць поўны размах чорнасоценцам, каб ня выклікаць з боку працоўных актыўнага дзеяньня проці іх, якое лёгка перашло-б у рэволюцыйнае паўстаньне проці ўраду. Але нацкоўваньне хрысьціян на жыдоў ужывалася губарнатарам, каб усьцішыць рэволюцыйны запал і ўнесьці сумяціцу ў шэрагі працоўнага люду. Па гэтым пытаньні Віцебская група Р.С.-Д. партыі зьвярнулася да Віцебскага губарнатара Гершаў-Флётава з адкрытым лістам, які тут падаем:

**Российская Социал-Демократическая Рабочая Партия [1]).**

Открытое письмо

г. Витебскому Губернатору.

Ваше Превосходительство! В нашей правительственной клике Вы не захотели быть исключением. Наша внутренняя политика, основанная на подавлении всякого свободного проявления человеческой личности, на постоянном натравливании одной национальности на другую, будящая худ-

[1]) Т. III, л. 786.

шие инстинкты у подонков общества, нашла в Вашем лице достойного проводника во вверенной Вам царским правительством Витебской губернии.

9-го июля Витебск превратился в военное поле, где казаки, вооруженные всеми своими доспехами, избивали по Вашему распоряжению мирных безоружных граждан-рабочих. И только за то, что они хотели вспомнить своих товарищей, павших под царскими пулями 9-го января Ваши прислужники по Вашему распоряжению обагрили кровью улицы Витебска. Но этим избиением Ваше Превосходительство не ограничивается. Вы решили восстановить отцов против детей. Брата против брата. Вы призвали к себе представителей еврейского купечества и весьма недвусмысленно пригрозили погромом. Правитель Вашей канцелярии, негодяй Кузнецов, в Вашем же присутствии предлагал отцам выдавать царским опричникам своих детей. Чтобы удержать за собою место „покорного слуги самодержавия пока", Вы не брезгаете никакими средствами. Ваши агенты, жандармы в деревнях и городовые в городах открыто заявляют об организуемом полицией погроме.

13-го июля городовой в Дворянском садике заявил, что „мы вам устроим погром". Полицмейстер держит в резерве старообрядцев, готовых по его словам, по первому его зову ринуться в бой.

13-го в 12 часов ночи полиция избивала всех проходящих, Ваше Превосходительство. Не новы нам впечатления бития. Вчера телеграф принес известие из Нижнего-Новгорода, что и там ваш достойный коллега организовал черную сотню для избиения революционеров. Не думайте, Ваше Превосходительство, что этими мерами Вы укрепите рассыпающуюся храмину самодержавия, рабочий класс рвет цепи бесправия и угнетения. Всякая провокационная попытка высших и низших агентов правительства усилит только нашу энергию.

Рабочий люд, как один человек, выступит в бой со всеми темными силами. Из груди каждого из нас вырвется крик: **Смерть насильникам на месте преступления, где бы их не достигла рука мстителя.**

Год 1905.

**Вит. Группа Р. С.-Д. Партии".**

Такім парадкам на месцы ўрадам былі выкарыстаны ўсе сродкі, каб задушыць паўстаўшы працоўны люд.

*(Працяг будзе).*

# ЭПОХА 1905 ГОДУ

**Бонч-Асмалоўскі**

*(Працяг)*

Лістапад і частку сьнежня 1905 г. я пражыў у Маскве; не памятаю добра чым я быў заняты да паўстаньня; але барыкадная барацьба і абарона Прэсьні так замацавалася ў маёй памяці, што й цяпер, ужо дваццаць год таму назад, у маіх вачох стаяць яскравыя малюнкі гэтага змаганьня.

У пачатку сьнежня я жыў на Садовай, супроць Акварыуму; і адна з першых барыкад была зроблена на гэтай вуліцы, якраз каля таго будынку, дзе я жыў. Падзеі адбываліся, здаецца, так: спачатку была спроба чорнасоценных пагромаў; для змаганьня з імі зараз-жа арганізаваліся ўзброеныя групы самаабароны. Мне самому прышлося дзьве ночы начаваць на Мясьніцкай, на кватэры заможных яўрэяў-рэволюцыянэраў, у якіх на гэты час былі дома толькі адны жанчыны; я меў пры сабе браунінг вялікага разьмеру і афіцэрскі наган. Дзеля таго, што паліцыя прымала ўдзел у пагромах, то самаабаронцы пачалі адбіраць ад яе, аружжа, а пасьля гэта перашло ў паляваньне на паліцэйскіх, і іх ужо прыстрэльвалі. Гэта аблава адбывалася перад самым пабудаваньнем барыкад, якімі некаторыя раёны Масквы пакрыліся вельмі хутка, як, напрыклад: частка Садовай, Малая Бронная, Грузіны, Доўгарукаўская, Аружэйны завулак і інш. Уся Цьвярская, здаецца, увесь час знаходзілася ў руках паліцыі.

Што рабілася ў гэты час у Маскве, расказаць словамі немагчыма. Масква, сэрца монархічнай Расіі, цэнтральнае месца ўлады, Масква, у якой, па ўласнай ініцыятыве, ахвотнародцы білі студэнтаў, і гэта самая Масква ўся пакрыта барыкадамі з надзеяй на посьпех; здавалася, што гэта не старая Масква, а нейкая новая, інакшая; здавалася, што мы апынуліся ў другім жыцьці, незямным, у раі; мы забылі пра сон, пра яду... Мне вельмі падабалася ў вечары, калі ўжо наступала цемната, хадзіць па раёнах, каторыя былі абкружаны барыкадамі. Вялікая была розьніца паміж дзьвюма часткамі гораду—часткаю, якая знаходзілася ў руках рэволюцыянэраў, і часткаю, належачай уладзе; у першых—у кватэрах гарыць сьвет, дзьверы, вароты адчынены, па вуліцах ходзіць шмат народу, чуцён сьмех, гутаркі, ласкавыя звароты да незнаёмых са словамі „таварыш“;

у другой—поўная процілегласьць: усюды цёмна, усё зачынена, на вуліцах можна спаткаць толькі некалькі чалавек, усё як-бы замерла; толькі й чуцён голас вартаўнікоў „рукі ўверх“, і ня дай бог, калі знойдуць у каго небудзь аружжа; было некалькі выпадкаў расстрэлаў на месцы за нашэньне аружжа. Дактары, якія спачувалі рэволюцыі, організавалі на сваіх кватэрах некалькі пунктаў чырвонага крыжу, дзе давалі першую дапамогу параненым, але начальства ня лічылася з гэтым рэволюцыйным Чырвоным Крыжам і часамі страляла па ім. У аптэцы, на вуглу Садовай, супроць Малай Броннай, таксама быў організаваны перавязачны пункт; сюды начальства з Цьвярской накіравала пушачны выстрал і разьвярнула частку сьцяны аптэкі.

Артылерыстыя ўсе былі п‘яныя, адміністрацыя плаціла ім па некалькі рублёў у суткі, але й гэта мала дапамагала; патрэбных людзей для абслугоўваньня пушак бралі з добраахвотнікаў розных радоў аружжа. Кадравыя артылерыстыя разьбегліся, шмат вайсковых людзей было ў шэрагах рэволюцыянэраў, а яшчэ больш хавалася па прыватных кватэрах: яны не хацелі йсьці праліваць кроў сваіх братоў. Я напісаў шэраг заметак, часткаю па ўласным уражаньні, а часткаю браў матэрыял з бюлетэняў, якія тады выдаваліся, і цераз „Школьнае дзела“ хутка выдаў невялікую брошуру пад назвай „Декабрские дни в Москве“; але яна не зьмяшчае значнай у сабе часткі ўсяго матэрыялу, бо я з выданьнем вельмі сьпяшаўся.

Праз некалькі дзён ад пачатку паўстаньня я даведаўся і аб паўстаньні на Прэсьні, куды зараз-жа й накіраваўся. Там у гэты час адбываліся многалюдныя (па некалькі тысяч чалавек) мітынгі. На Прэсьне застаў я некалькі чалавек сваіх знаёмых: Яўгеньню Ратнэр, Сакалова-Мядзьведзя, Уладзімера Магурына, Н. І. Рыўкіна і другіх; там-жа быў і „Сядой“, начальнік соцыял-дэмократычнай дружыны. Тут я прабыў два ці тры дні, пакуль занялі Прэсьню сямёнаўцы. Асабліва страшна было, калі, апрача стральбы з вінтовак, пачалі страляць па Прэсьні гранатамі, якія, праўда, былі дрэннай якасьці і большаю часткаю разрываліся несваячасова ў паветры. Большая частка рабочых з Прэсьні ў апошнія дні разьбеглася, засталіся толькі дружыны с.-д., с.-р. і некалькі груп анархістых. З дружын с.-д. і с.-р., здаецца, ахвяр ня было: усе яны ў апошні дзень разьбегліся ўдачна. Некаторыя-ж групы анархістых змагаліся да канца і злажылі свае галавы. У вапошні дзень у вечары гарматныя стрэлы пачаліся загадзя; сямёнаўцы абкружылі Прэсьню жывым ланцугом, наступалі з боку Зоолёгічнага саду і Камэр-Калескага валу. Я з многімі таварышамі начаваў на Прэсьні ў вялікай залі пры фабрыцы; стрэлы разбудзілі нас, калі яшчэ было цёмна: дружыньнікі пашлі на свае месцы на барыкады. З намі на Прэсьні быў малады амэрыканец, корэспондэнт вялікай амэрыканскай газэты і з ім адна дзяўчына-перакладчыца; калі стала вядома, што прадбачыцца вялікая бойка, то парашылі, што амэрыканцу

няма чаго заставацца на Прэсьні, а таксама, што, дзякуючы майму ўзросту, і з мяне дрэнны ваяка,—таварышы прапанавалі мне вывесьці з Прэсьні амэрыканца й дзяўчыну, каторыя самі дарогі ня ведалі. Я згадзіўся і пачаў разьвітвацца з таварышамі, якія ўжо заселі за барыкадамі і пачалі адстрэльвацца. Прыпамінаю, як у вапошнюю хвіліну я ўбачыў Уладзімера Мазурына і сказаў яму: „Валодзя, сьцеражы Мядзьведзя“.—„Добра, добра“, адказаў ён. Гэта было маё апошняе спатканьне з У. Мазурыным.

Я павёў амэрыканца і яго перакладчыцу па дварох упоперак Прэсьні ў кірунку ад Прэсьненскай мануфактуры да Аляксандраўскага чыгуначнага вокзалу. Па вуліцах ісьці было небясьпечна, тут стралялі сямёнаўцы, ішлі мы дварамі, часам прыходзілася пералазіць цераз сьцены й платы (праўда, за апошнія дні ўжо было зроблена ў платох і шмат праходаў); вышаў я з аднаго двара на вуліцу, асьцярожна высунуў галаву з варот і бачу, што па вуліцы расьцягнуўся ланцуг салдат з вінтоўкамі ў руках; адважыцца перабегчы вуліцу пабаяўся—маглі лёгка застрэліць; я пачаў цэліцца з нагана ў бліжэйшага салдата, але выстраліць ня здолеў, не хваціла духу: мне ў галаву прышла думка, што ён вясковы, несьвядомы хлапец, дык за што-ж я яго павінен загубіць (а страляў я добра); салдат мяне ня бачыў, бо вароты былі толькі чуць адчынены; падумаў я крыху і павярнуў назад, пашоў упоперак шэрагу кварталаў; ішлі ўвесь час мы ня вуліцамі, а дварамі. Апынуліся на беразе рэчкі Масквы, паглядзелі і ўбачылі, што па беразе рэчкі, на адлегласьці сажань 100 ад нас, у кірунку ад Дарагамілаўскага маста к Гарбатаму, ціхенька й асьцярожна наступаюць сямёнаўцы. Мы адважыліся спачатку перабегчы праз вуліцу пад абарону каменнай сьцяны кузьні, а адтуль накіравацца ў сяло Дарагамілава, якое знаходзілася на другім баку рэчкі; толькі прашлі мы крокаў трыццаць, як адразу засьпявалі навакол нас кулі—„жыг, жыг“; сямёнаўцы ўбачылі нас, бегляцоў, і пачалі страляць. Я прапанаваў сагнуцца й хутчэй бегчы; на наша шчасьце, высокі бераг на павароце рэчкі перашкодзіў сямёнаўцам страляць у нас, яны пусьцілі на нас дзесяткаў два выстралаў. Дарагамілава ня было занята нашымі ворагамі, і мы з яго спакойна прышлі ў Маскву.

Ад таварышоў, якіх я заставіў на Прэсьні, навакол каторай былі сямёнаўцы, я ня меў ніякіх вестак да 4-х гадзін і пачаў ужо непакоіцца. Спаткаў я аднаго афіцэра, які спачуваў нашаму руху, нанялі мы ліхача (рамізьніка) і паехалі ў Дарагамілава: мы хацелі як-небудзь дапамагчы дружыньнікам. У гэты час стральбы ўжо ня было, а толькі ў некалькіх мясцох відны былі пажары, каторыя выбухнулі ад гарматных стрэлаў, гарэла ў гэтым ліку і фабрыка Шміта; густы дым засьцілаў усю гэту частку гораду. Мы з афіцэрам пастаялі крыху на беразе рэчкі, падумалі і, нарэшце, я парашыў перайсьці на другі бераг, агледзець фабрыку й барыкады з мэтай убачыць каго-небудзь з дружыньнікаў. Дашоў я да мануфактуры, прашоў па некалькіх вуліцах, але нідзе ня ўбачыў жывое

душы, не пачуў чалавечага голасу, толькі шум ад пажару далятаў да маіх вушэй. Нарэшце спаткаў я 2-3 перапалоханых жыхароў, якія сказалі мне, што ўжо некалькі гадзін на Прэсьні нікога няма. Я хутчэй накіраваўся на Садовую, дзе, на вялікую радасьць, спаткаўся з некаторымі дружыньнікамі. Спаткаў і сваю жонку з дачкою, якія прыехалі шукаць мяне. Выявілася, што ўсім абаронцам Прэсьні ўдалося прабрацца па Камэр-Калескаму валу.

Некаторым рэвалюцыянэрам, найбольш вядомым паліцыі, неабходна было найхутчэй выехаць з Масквы. Сакалова-Мядзьведзя загрымíравалі, і у тую самую ноч Марыля Львоўна Ратнэр павезла яго ў свой маёнтак, у глухое месца па Віндаўскай чыгунцы; другія таварышы паехалі, хто куды мог. Калі сямёнаўцы забралі Прэсьню, разбурылі барыкады, то яскрава адчувалася, што Прэсьня—гэта быў самы моцны рэвалюцыйны цэнтр. Настрой мой хутка панізіўся; надзеі на рэвалюцыйны посьпех згінулі; ня было таксама ў мяне надзеі й на Думу, ад якой многія чакалі добрых вынікаў. Той факт, што ні законы, ні „ўчрадзілаўка“, якіх не падтрымліваюць рэальныя сілы народу, ня маюць ніякага сур'ёзнага значэньня,—гэты факт быў для мяне відавочным. І тады і пасьля, у 1917 г., лёзунг „Учредительного Собрания“ у тым сэнсэ й значэньні, якое яму надавалася партыяй у 1917 г., уяўляўся мне нечым падобным на драўлянага ідала-фэтыша. Не учрадзілаўка, а рэвалюцыйны працэс, які павінна праводзіць рэвалюцыйная самадзейнасьць мас, быў для мяне ўвесь час тэй зьвяздой, якая паказвала мне шлях. Для мяне было бясспрэчнай ісьцінай, што ў жыцьці народу й дзяржавы, асабліва ў адносінах эканамічнага ладу, немагчыма спачатку разбурыць, а пасьля будаваць; здаровыя рэвалюцыйныя працэсы могуць быць двухбаковымі: трэба зьнішчаць старое, аджыўшае і ў гэты самы час, у гэтым самым працэсе будаваць новае, больш сучаснае, больш справядлівае.

Павялічэньне партыяй значэньня лёзунгу учрадзілаўкі ў 1917 г. ў значнай меры зьяўлялася вынікам таго, што яна была няўпэўнена і ня верыла ў соцыяльна-рэвалюцыйную творчасьць народных мас.

Падзеі пасьля 1905 г. захаваліся ў маёй памяці ня так добра; часы першай і другой Дзяржаўнай Думы як-бы пакрыты туманам. Я знаёмы быў з многімі трудавікамі й сябрамі фракцыі. Калі выбіралі ў першую Думу, то я ня быў згодзен з пастановай партыі—ня прымаць удзелу ў выбарах; партыя не адчувала сябе такой моцнай, каб дазволіць сабе ўжываць такія сродкі; яна выйграла-б вельмі многа, каб у значным ліку мела прадстаўнікоў сваіх у Першай Думе. Папершае, на мой погляд, у гэты час ідэі соцыяльнай рэвалюцыі яшчэ ў значнай меры патрабавалі такой шырокай катэдры, якую выяўляла з сябе Дзяржаўная Дума; падругое, магло здарыцца, што ў момант разгону Думы, пры існаваньні ў ёй групы актыўных і энэргічных народных прадстаўнікоў, якіх-бы ведала ўся Расія, рабочыя і сялянскія масы мелі-б большую актыўнасьць.

Яшчэ раней, да 1905 г., у мяне былі значныя коопэрацыйныя і сындыкалісцкія напрамкі, а пасьля сьнежня, дзякуючы таму, што я страціў веру ў здольнасьць палітычных партый кіраваць рэволюцыйнай барацьбою народу, гэты ўхіл у бок сындыкалізму яшчэ павялічыўся; у ўмовах расійскага экономічнага жыцьця элемэнты і значэньне сындыкалізму былі, вядома, яшчэ слабыя, а коопэрацыйныя, наадварот,—моцныя, але пра коопэрацыю я буду гаварыць пасьля, а тут пастараюся ўспомніць галоўнае, што захавалася ў маёй памяці пра пэрыод з 1905 па 1911 г.

У гэтую пару я прымаў удзел у першым зьездзе партыі с.-р. на Іматры, затым на зьезьдзе Ўсерасійскага Сялянскага Саюзу ў Гэльсінгфорсе, прысутнічаў таксама і на другім партыйным зьезьдзе ў Тамэрфорсе. На Іматры зьезд у пачатку насіў сур'ёзны й дзелавы характар, а на 2-гі ці 3-ці дзень яго скамкалі, амаль што сарвалі дзякуючы таму, што атрымалі весткі ад Азэфа (ён тут прысутнічаў) аб тым, што з Выбаргу ў кірунку на Іматру зьбіраецца ісьці якая-сь вайсковая адзінка дзеля таго, каб цалком захапіць наш зьезд. Зразумела, як толькі разьнеслася гэтая чутка—спакойнага вырашэньня пытаньняў ужо не магло быць; я прыпамінаю, як на сходзе зусім невялікай групы кіраўнікоў была прынята, каб выгадаць час, такая прапанова: парашылі галасаваць цэлы шэраг сур'ёзных пытаньняў бяз усякага разгляду і мотывіроўкі.

Вельмі цікавым было яшчэ выступленьне больш сярэдніх соцыялістых з групы „Русского богатства"—Аненскага, Пешахонава і трэцяга Мякоціна; яны трымаліся больш сярэдніх поглядаў, чым большасьць партыі. У спрэчках, якія разьвярнуліся, выявілася вялікая нязгода іх з партыяй, і з гэтага часу група „Русского богатства"адкалолася ад партыі і organізавала асобную партыю пад назвай „Народных соцыялістых".

У час спрэчак і гутарак з імі паўстала пытаньне, паміж іншым, програмнае, адносна дыфэрэнцыяльнай рэнты. В. М. Чарноў бараніў наступнае ў програме: пры соцыялізацыі зямлі і пры зраўнальным зямлякарыстаньні патрэбна ўжываць, каб прыраўняць выгады ўсіх сялянскіх гаспадарак, дыфэрэнцыяльную рэнту. Я катэгорычна выказаўся супроць гэтага і давёў, што пры звычайных зраўнальных формах зямлякарыстаньня, пры ўмовах належнага распраўсюджваньня сярод сялян сельска-гаспадарчых вед, якімі абмяжоўваецца магчымасьць ужываньня ў кожным прыватным выпадку належнай інтэнсыўнасьці гаспадаркі—абкладаць дыфэрэнцыяльную рэнту будзе немагчыма, бо яна зусім прападзе. У гэтым пытаньні я быў згодзен з экономістым Бухам, мы былі супроць усіх іншых аўторытэтаў; тады я абяцаў даць дэтальна-апрацованы даклад на гэту тэму, але й да цяперашняга часу гэтага не зрабіў, хоць поглядаў сваіх не пераменіў.

Да групы „Русского богатства" далучылася некалькі яшчэ асоб, галоўным чынам, інтэлігенты і ў тым ліку Мік. Вас. Чайкоўскі.

Усіх пералічаных асоб я добра ведаў і ў гэтым выпадку знаходжу яскравае падмацаваньне ўжо выказанага мною назіраньня: палітычныя дзеячы падзяляюцца па партыях, у значнай меры згодна сваім тэмпэрамантам; усе названыя асобы вельмі мілыя, сымпатычныя, былі ў той-жа час людзі мяккіх характараў, вельмі мала мелі энэргіі.

Выдатным чалавекам па сваім псыхічнам складзе быў Анэнскі.

Па сканчэньні зьезду В. М. Чарноў, Азэф і яшчэ некалькі ўдзельнікаў зьезду зрабілі вечарынку з выпіўкай, песьнямі... Гэта выклікала з боку некаторых таварышоў іронію... Як праходзіў зьезд у Тамэрфорсе, я зусім ня помню, спаткаўся я на ім з Г. А. Гершуні, які к гэтаму часу ўжо ўцёк з катаргі, мы вельмі абрадваліся абодвы й абмяняліся некалькімі цёплымі, таварыскімі фразамі, але для гутаркі матэрыялу ў нас не знашлося. У той час я ўжо амаль што ня прымаў удзелу ў партыйнай працы—ня было ў мяне веры ў посьпех нашай справы. Ад зьезду Ўсерасійскага Сялянскага Саюзу ў Гэльсінфгорсе ў мяне засталіся ў памяці тыя цёплыя, сардэчныя адносіны, з якімі спаткалі наш зьезд рабочыя соцыял-дэмократы; зьезд адбываўся ў іх народным доме.

Яшчэ адзін жывы й цікавы ўспамін, які захаваўся ў маёй памяці. Гэта было скора пасьля ліквідацыі Маскоўскага паўстаньня. Я быў тады ў Пецярбургу і да мяне дашла чутка, што ў Кронштадзе вельмі баявы настрой, што там лёгка вызваць паўстаньне і што партыя зьбіраецца зрабіць гэта.

У Кронштадзе я ня быў, але навокал сябе і, наогул, у Расіі сяро сялян і рабочых, яскрава бачыў, што ўсе ўтаміліся ад барацьбы і яе няўдачы; стомлены былі забастоўкамі, каторыя адбываліся адна за другой і да каторых заклікалі гарачыя галовы рэволюцыянэраў-профэсыяналаў (самі з масамі мала яны мелі сувязі). Я адчуваў і разумеў, што на посьпех ад паўстаньня ў Кронштадзе няма чаго спадзявацца, што яго не падтрымаюць ні рабочыя, ні сяляне, ні вайсковыя часьці. Я ведаў, дзе знаходзіцца Цэнтральны Комітэт і паехаў туды, у Тэрыокі; застаў там Азэфа, Чарнова і, здаецца, яшчэ Натансона; папробаваў я ім давесьці, што несваячасова падымаць рэволюцыйны ўздым у Кронштадзе, што масы патаміліся ім неабходна даць адпачынак, што патрэбна пачакаць, пакуль зьбярэцца належная колькасьць рэволюцыйнай энэргіі ў другіх мясцох, я скарыстаў усе свае сілы, усю сваю здольнасьць, каб пераканаць іх. Больш за ўсіх не згаджаўся са мною Азэф, каторы сказаў, што ўжо позна мяняць, што ў Кронштадт ужо паслалі належныя дырэктывы і паехалі туды таварышы: я-ж, наадварот, быў пераконаны, што справу яшчэ можна паправіць... пасьля мне стала ясна провокацыйная тактыка Азэфа, які ў гэтым выпадку хацеў... па частках падымаць паўстаньне, каб лягчэй было іх падаўляць, каб, такім чынам, ня даць магчымасьці зьбірацца ў значнай колькасьці рэволюцыйнай энэргіі.

Патрэбна прыпомніць яшчэ адзін выпадак з Азэфам. Пра яго расказала Варвары Іванаўне, маёй жонцы Елізавета Мікалаеўна Водавозава, вядомая грамадзкая працаўніца, шасьцідзесятніца, жонка гісторыка В. І. Сямеўскага.

У іх часта начавалі рэволюцыянэры... і вось адзін раз добра знаёмы рэволюцыянэр, Карповіч [1]) прывёў на кватэру Елізаветы Мікалаеўны начаваць аднаго таварыша; селі піць чай; праз пару хвілін Елізавета Мікалаеўна ўстала, вызвала ў суседні пакой Карповіча і тут напала на яго: „Каго гэта вы прывялі? Гэта шпіён, правакатар, калі ласка, забярэце яго з кватэры“. Карповіч пачаў ёй даводзіць, угаварваць, прыводзіць рэволюцыйныя заслугі гэтага таварыша, напомніў пра тую вялікую ролю, якую граў гэты таварыш у баявой організацыі... Елізавета Мікалаеўна дамагалася свайго...і толькі пасьля доўгай просьбы, гарантыі Карповіча, яна згадзілася на тое, каб гэты таварыш прасядзеў на яе кватэры адзін вечар... Гэта быў Азэф. Выпадак гэты адбыўся яшчэ да тэй пары, пакуль за Азэфам пачалі прыкмячаць провокацыйную працу. У тым, што апавяданьне Елізаветы Мікалаеўны носіць характар ня казкі, а такі выпадак сапраўды меў месца, можа быць упэўнен кожны, хто толькі ведае Елізавету Мікалаеўну.

Чым больш высьвятлялася провокацыйная роля Азэфа, тым больш прападала ў мяне пашана да партыйных кіраўнікоў; я ніяк ня мог сабе ўявіць таго, як гэта кіраўнікі партыі маглі быць такімі блізарукімі, такімі нячуткімі да псыхікі і яе станоўчых і адмоўных бакоў аднаго з галоўных сяброў сваіх; я прыпамінаў, як яшчэ ў самую першую пару Г. А. Гершуні з энтузыязмам расказваў мне пра пажылага ўжо інжынэра, каторага ён уцягнуў у рэволюцыйную работу; прыпомніў я і другія памылкі Гершуні. Ён усім захопліваўся, быў гарачым і шчырым рэволюцыянэрам, але ня меў належнай чуласьці і асьцярожнасьці; уцягнуў ён у работу слабахарактарных Мельнікава і рабочага Качуру, каторы страляў у харкаўскага губарнатара кн. Абаленскага; ён-жа назначыў на вельмі адказную пасаду зусім яшчэ маладую Любу Міхайлаўну Клячко. Праўда, яе я добра ведаў і лічыў, што ў будучым з яе выйдзе чэсны працаўнік-рэволюцыянэр, але мне ў галаву не магла прыйсьці тая думка, што Л. М. Клячко адразу можна даручыць такую адказную пасаду. Усе яны трое—Мельнікаў, Качура і Л. Клячко (яна-ж Радзівонава) выявілі сябе, як трусьлівыя, маладушныя і калі папаліся ў лапы жандараў, то пачалі выдаваць усіх.

За ўвесь час жыцьця ў Блоні, а таксама і за той, параўнаўча, кароткі час, які мая сям'я ўзімку 1890 году жыла ў Маскве і Пецярбургу (там вучыліся на гімназычных курсах старэйшыя дзеці), у нас было вельмі многа вобыскаў; мы з жонкаю спачатку іх лічылі, а пасьля зьбіліся з толку

[1]) Карповіч забіў міністра Багалепава за тое, што, па ініцыятыве яго, пачалі браць у войска студэнтаў, якія прымалі ўдзел у беспарадках.

і перасталі лічыць. Большая частка вобыскаў не давала ніякіх вынікаў; ні аднаго разу не знашлі ў мяне якога-небудзь сур'ёзнага адрасу. Усе гэтыя непасьпехі вобыскаў тлумачацца тым, што я практыкаваў сыстэму сакрэтных месц, тайнікоў, у якіх і трымаў заўсёды літаратуру і іншыя забароненыя рэчы. Я ўмеў крыху сталярнічаць, сам рабіў гэтыя сакрэтныя сховы ў рознай мэблі, у пераплётах кніжок. З маіх схоў у часы вобыску была знойдзена толькі невялікая частка іх. Калі я адбываў ссылку ў Белябеі, то, каб хутчэй праходзіў час, я пачаў рабіць такія-ж самыя сакрэтныя полкі для кніжак, маленькія столікі і інш. і ўсё гэта пасылаў, у якасьці падарункаў, некаторым сваім таварышом. Адзін з вобыскаў быў асабліва грандыёзным, здаецца, у 1905 г., калі мяне ня было дома. Азэф паведаміў дэпартамант паліцыі аб тым, што старыкі Кавалік і Бонч-Асмалоўскі адчынілі тайную друкарню ў маёнтку Блоні; начальства наляцела з цэлым атрадам казакаў,ператрэсьлі ўсю кватэру, шукалі на двары, папрабавалі зямлю капаць у садзе, але праца іх была дарэмна: яны нічога не знашлі. Азэф ведаў аб маёй сувязі з друкарнямі, каторыя знаходзіліся ў нашым краі, толькі прыблізна, а драбніцы для яго былі цёмнымі, бо я дэтальна выконваў агульна-прынятыя сярод рэволюцыянэраў правілы, каторыя патрабавалі, каб праўсё консьпірацыйнае, напрыклад, адрас мясцовасьць друкарні, умовы зносін з імі і г. д., маглі ведаць толькі тыя таварышы, якім гэта неабходна ў інтарэсах самой справы—і больш ніхто.

Вясною 1908 г. мяне арыштавалі, а на другі дзень і жонку, Варвару ванаўну; месяцаў праз тры арыштавалі сына Івана, сваяка жонкі—Уладзімера Вахоўскага, фэльчарыцу Марылю Ярмоліну, якая жыла ў нас, і сялян сяла Блоні—Сьцяпана Мігуцкага і Віктара Катка, каторы служыў у мяне за садоўніка. Мікола Цахановіч быў у гэты час у ссылцы, а Максім Лукашык сядзеў у турме; усяго падсудных было восем чалавек; усіх нас аб'ядналі ў адно дзела—„аб Блоньскім сялянскім саюзе“.

Трымалі нас у менскай турме. Умовы былі вельмі дрэнныя: папершае, турма была перапоўнена—удвая больш нормы; усіх сядзела ў турме каля 600-700 чалавек; падругое, яду перадаваць дазвалялі вельмі рэдка, траціць свае грошы таксама не дазвалялі; уся турма загэтым галадала; і толькі тады, калі чалавек у 60 зьявіліся азнакі цынгі, начальства апомнілася і крыху палепшыла становішча. Палітычных вязьняў, як асобую катэгорыю, спачатку не прызнавалі, ніякімі палёгкамі мы не карысталіся і знаходзіліся ў агульных камэрах з крымінальнымі. Камэры былі так перапоўнены, што прыходзілася спаць на адным толькі баку, а легчы на сьпіну ня было ніякай магчымасьці; нечыстата была таксама вялікая: вошы, клапы і блохі не давалі спакою. Праз некаторы час нас, палітычных, пачалі выдзяляць у васобныя камэры. Нягледзячы на тое, што мае сваякі, якія засталіся на волі, мелі значныя сродкі, рэжым у турме быў такі вялікі ў сэнсе харчаваньня, што ў мяне пачалі ўжо калыхацца зубы

і зьявіліся ўсе прыкметы цынгі. Мы прасядзелі каля дзевяці месяцаў да суду, а затым сваякі і знаёмыя ўзялі нас на парукі пад заклад, апрача Максіма Лукашыка і Міколы Цахановіча, каторыя адбывалі ссылку.

У менскай турме ў гэты час, і яшчэ раней да нас, сядзела некалькі дзесяткаў чалавек палітычных вязьняў: анархістыя розных напрамкаў, соцыял-дэмократы, бундаўцы, соцыялістыя-рэволюцыянэры, максымалістыя і іншыя катэгорыі, г. зн., якія не належалі ні да палітычных, ні да крымінальных і якія называлі сябе рэволюцыянэрамі, анархістымі і г. д. і папалі сюды за экспропрыяцыю і вымаганьне; пра апошнюю катэгорыю я ня буду гаварыць. Наступныя характарыстыкі і пералічэньні зроблены мною разам з Фаняй Гурвіч, цяпер сябрам РКП, якая раней належала да партыі с.-р. і адначасова з намі сядзела па справе друкарань; некалькі дадаткаў зрабіў таксама і Аляксей Васільлевіч Ерахаў, каторы быў сябрам партыі с.-р. і сядзеў у турме па справе Рэчыцкай сялянскай організацыі.

У гэты час былі зроблены спробы ўцячы з камэры № 8, дзе сядзелі прысуджаныя на вялікі тэрмін катаржане; у тоўста цаглянай сьцяне прабілі яны дзірку, з якой падкоп ішоў за турэмную сьцяну; у вызначаны для пабегу дзень падкоп быў правален дысцыплінарцам Мухіным. У сувязі з гэтай справай арыштавалі турэмнага надзіраценя Туроля, які дапамагаў арыштаваным, перадаваў іх лісты на волю і наадварот. Сувязь трымала паміж турмою і організатарамі пабегу на волі гімназыстка 19 год, Вера Аляксееўна Холмская, нявеста Аляксея Васільлевіча Ерахава. Холмская жыла на верхнім паверсе на вуглу Захараўскай і Багадзельнай (Савецкай і Комсамольскай), дзе знаходзілася гасьцініца Гарні. Калі да яе прышлі рабіць вобыск, то яна кінулася з 4-га паверху на брукаваную вуліцу і забілася на сьмерць.

З партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў яшчэ сядзелі ў турме наступныя таварышы: вельмі сымпатычны, адзін з самых здольных вязьняў. Левінэ, які пасьля далучыўся да комуністых і загінуў у 1921 г. ў г. Мюнхэне пры падаўленьні комуністычнай рэспублікі. Ён належаў да нямецкіх падданых і толькі пасьля вялікіх клапот удалося яго (ён у гэты час хварэў) узяць на парукі (сядзеў па справе сарванай конфэрэнцыі с.-р., усяго было 6 чал.).

Мотка Альтшуль, сталяр, актыўны партыйны працаўнік з аднэй рукою; другую адарвала выпадкова разарваная бомба; у сучасны момант жыве ў Парыжы.

Майсей Левін—абодвы прымалі ўдзел у вызваленьні К. Ізмайловіч і сядзелі за друкарскую справу. Майсей Каган (цяпер знаходзіцца ў Бэльгіі) таксама сядзеў за друкарню; Фаня Гурэвіч, Гнэся Вэльфман, Саламон—таксама за друкарню.

Эдуард Сакалдынскі (клічка Коля), Анатолі Зяміонка (клічка Жорж)—па справе Менскай сялянскай організацыі, Лэйзар Шостак (кравец), Чапрацкі (пашоў з палякамі).

Галынскі з Бабруйску; цяпер кандыдат у партыю РКП.

Кролік—быў турэмным популярным старастам—цяпер кандыдат у партыю РКП.

Бязьмен.

Маршак, служыў у Пушкінскай бібліотэцы.

Алесь Прушынскі—беларускі поэта, псэўдонім—Алесь Гарун, нядаўна памёр ад сухот.

Міцкевіч—настаўнік, беларускі поэта, псэўдонім—Якуб Колас.

Лявітас Абрам.

Карасёў.

Расін і Рывін (дваюрадны брат Розы), абодвы па справе забойства провокатара Калесьнікава ў Бабруйску; прыгаварылі да сьмярцельнай кары, але замянілі вечнай катаргай,—цяпер сябры РКП.

Сагалаў, кравец.

Шавяльзон (не анархісты, быў другі Шавяльзон—анархісты). Ён, як уцякаў з віленскай турмы, быў забіты.

Селянін Жукаў за забойства провокатара, быў прыгаворан к сьмерці; замянілі вечнай катаргай.

Хаім Прымак—прыгаворан к сьмерці; замянілі 20 гадамі катаргі памёр у Арлоўскай турме.

Максымалісты Сяргей—гарбар з Пінску, прасядзеў два гады, а пасьля выпусьцілі; пры другім арышце забіў аднаго гарадавога, некалькіх параніў; за гэта яго павесілі ў Вільні.

Жанчыны с.-р.: найбольш уражаньне соліднага чалавека выклікала Равека (прозьвішча не маглі ўспомніць). Роза Рывіна (памерла нядаўна яшчэ маладою). Каця Ісаева і Ніна, служачая на пошце.

Ізакава.

У гэты час у Менску знаходзіўся цэнтр анархістых-комуністых і безначальцаў. Кіраўніком групы анархістых быў Бянкоўскі, які прыехаў з Амэрыкі, вучань Крапоткіна; ён організаваў у Менску лябораторыю падрыўных матэрыялаў і друкарню.

Таксама Фэлікс з Слоніму.

Фэлікс з Бянкоўскім, як былі яшчэ на волі, 31 сакавіка 1907 г. зьбіраліся зрабіць напад на памоцніка начальніка турмы Шклярэвіча, але за імі пачалі назіраць шпіёны, і яны пашлі ў розныя бакі. Пры сваім арышце Фэлікс забіў аднаго гарадавога, двух параніў, а Бянкоўскі сам аддаў сваё аружжа.

У гэты вечар арыштавалі ўсіх анархістых гор. Менску, а таксама і шмат выдатных анархістых па ўсёй Расіі; іх у працягу цэлага месяцу пры-

возілі ў менскую турму; падзеі гэтыя адбываліся ў сярэдніх чыслах красавіка.

З Пецярбурскага дэпартаманту паліцыі прыехаў у Менск жандарскі палкоўнік; зьявіўся ён у турэмную кантору і зазваў да сябе Бянкоўскага, а надзірацель памылкова прывёў Фэлікса. Палкоўнік працягнуў Фэліксу руку, а ён сваёй рукі не падаў і сказаў: „я анархісты-комуністы, з вамі нічога супольнага ня маю". На гэта палкоўнік адказаў: „Я знаю, што вы анархісты, але вы абяцалі даць веды пра вашых таварышоў? Фэлікс яго за гэта вылаяў. Падняўся шум. Начальства турмы дагадалася, што прывялі не таго, каго патрэбна было. Фэлікса павялі ў камэру; прывялі Бянкоўскага. Яго пратрымалі там да 8 гадзіны вечара і прывялі назад п'яным.

За гэты час Фэлікс расказаў пра ўсё палітычным вязьням. Калі Бянкоўскага пасадзілі ў вечары ў башню, то восем дысцыплінарцаў (матросы, каторыя сядзелі ў дысцыплінарным батальёне ў Бабруйскай крэпасьці і прысуджаны за забойства провокатара) выбраліся з сваёй камэры на калідор, забілі надзірацеля, які стаяў каля башні Бянкоўскага, увашлі ў башню й забілі Бянкоўскага

Трое з іх прынялі ўсю віну на сябе й былі павешаны ў Менску. Прозьвішчы іх Салаўёў, Фомін, а трэцяга імя Стась—с.-р.

Фэлікса судзілі асобна и загубілі ў Вільні. За друкарню анархістых сядзелі ў турме Копель Саламонаў, Элін Разянцвэйг (апошні цяпер сябра РКП); апрача іх, яшчэ былі тут Залман і Ёсель Савіцкі.

Давід быў арыштован у Менску, атрымаў 4 гады катаргі.

Барыс пасьпеў схавацца, уцёк заграніцу, пасьля вярнуўся, яго арыштавалі, судзілі і загубілі.

З жанчын анархістак трэба сказаць пра Соню Краснашчокую, якая карысталася пашанай сярод маладых арыштантаў; сядзела й Сіма Вайнэр. Усяго анархістых было арыштована каля сямідзесяці чалавек; частка з іх палучыла катаргу, а частка, ссылку. Самай выдатнай асобай сярод усіх анархістых была Саша Таратута, цяпер сябра РКП. Соцыял-дэмократы бальшавікі:

Шклоўскі з Бабруйску, цяпер сябра РКП, служыць, здаецца, у поўнамоцным прадстаўніцтве ўва Францыі. Быў выслан у Янісейскую губ., адтуль уцёк у Амэрыку. Сялянін Васіль, па аднэй справе са Шклоўскім, Міхаіл Штэйн быў прыгаворан да ссылкі.

Антось Бальзоўскі (клічка Сьцёпка).

Алесь Самахвалаў, актыўны працаўнік, пасьля турмы жыў вельмі бедна, напісаў да ўласьніка друкарні Тасьмана ліст, у якім патрабаваў грошай; атрымаў за гэта катаргу, бо ліст быў напоўнен пагрозай. Крапасьнік Саша. Калі вялі яго з акружнога суду ў турму, то хтось з балькону назваў яго імя „Саша"; ён павярнуў галаву ў той бок і атрымаў ад канваіра па мордзе.

Вольга, працавала, ў Бабруйску сярод салдат, прысудзілі да ссылкі; пасьля ўцякала і за гэта далі ёй чатыры гады катаргі.

Вярбіцкі, народны вучыцель з Барысава, атрымаў ссылку.

Бундаўцы:

Па Мазырскаму процэсу чатырнаццаць чалавек бундаўцаў прасядзелі па тры гады.

Геня Гарэлік, Кечкер, які памёр у 1908 г., Бягун і другія. З іх Гарэлік, Бягун і яшчэ некалькі чалавек палучылі катаргу, а іншыя—ссылку.

Афроім Левін, сталяр з Ігумену; да суду прасядзеў два з паловай гады, а па дзелу маглі даць толькі адзін год; сядзець яму надаела, і ён хацеў палучыць ссылку. Вось зачым, па прапанове абаронцаў, на судзе ён трымаў сябе сьмела, груба; але ён кепска ўладаў расійскаю мовай і перасаліў; заместа ссылкі далі яму чатыры гады катаргі.

Казёл, актыўны працаўнік, раней быў казённым рабінам, палучыў ссылку. Хаім Левін з Пінску, яго абвінавачвалі за забойства жандара і ня гледзячы на тое што начальства ведала, што ён не вінаваты, яго ўсё-ж такі загубілі; павесілі ўжо памершага, бо ён перад гэтым прыняў цыяністы калі.

Апрача іх, сядзелі яшчэ Бэйненсон, Левінбух, Сьцяпан Сапега, жанчына Эйг з сынам; апошнія сядзелі ў турме або па чарзе, або разам абое.

Асобна патрэбна сказаць і аб Алесі Ойцы. Ён быў крымінальны, сядзеў шэсьць год; першы раз быў арыштаваны ў 13 год за пакражу з паломам замкоў, прасядзеў за гэта тры гады; другі раз арыштавалі таксама за пакражу.

У турме політычныя вязьні зрабілі ня яго ўплыў; ён працаваў у турэмнай пякарні і дапамагаў ім хлебам, мукою і г.д.; цераз яго перадавалі лісты на волю й наадварот; грошай за гэта ён ня браў.

Начальнік турмы Славінскі быў сапраўдным зьверам; асабліва ён прыгнятаў політычных. Калі скончыўся тэрмін адсідкі, Бацька пакляўся аддзякаваць яму. Але яго ня выпусьцілі ў Менску, а па этапе паслалі на родзіну, у Пінск, і там пусьцілі. Тут ён прадаў тры рубашкі к,аторыя яму пашылі політычныя арыштанткі у падзяку за яго дапамогу, і за гэтыя грошы прыехаў у Менск, дзе й забіў Славінскага; прысудзілі Ойца к сьмерці, якая адбылася ў Вільні. Выдаў яго паліцыі чыгуначны тэлеграфісты Гайдукевіч, які к гэтаму часу адбыў ужо сваю кару ў крэпасьці за распаўсюджваньне с.-р. літаратуры.

Вось выпіска з абвінавачаньня па нашай справе:

„Акт абвінавачаньня па дзелу аб Блоньскім сялянскім саюзе“.

Пры Менскай Губ. Жандарскай Управе яшчэ ў 1901 г., на падставе закону аб дзяржаўнай абароне, было зроблена дазнаньне „о тайном кружке саморазвития“ сярод сялян сяла Блоні, Пухавіцкай воласьці, Ігуменскага павету, які насіў назву „Свабода й Воля“.

„Як відаць, маёнтак Блонь, які належыць памешчыку Бонч-Асмалоўскаму, зьяўляецца для сялян месцам пастаянных сходаў, на якіх разглядаюцца пытаньні, праціўныя ўладзе. Дапамагалі Бонч-Асмалоўскім у рэволюцыйнай справе мясцовыя сяляне: Максім Лукашык, Мікола Цахановіч, Сьцяпан Мігуцкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

8 красавіка 1908 г. ў маёнтку Блонь прыставам 4-га стану Ігуменскага павету Храпавым у доме Анатолія Восіпава Асмалоўскага зроблен быў вобыск, прычым знойдзена была вялікая бібліотэка, якая складалася з розных выданьняў, зьмест каторых дапамагаў распаўсюджваньню праступных задач і мэт, насіў рэволюцыйны характар.“ . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па гэтай самай справе хацелі прыцягнуць да адпаведнасьці й другога сына, Радзівона, але ўжо ён быў засуджаны і адбываў кару. Вось выпіска з нашага акту абвінавачаньня, якая датычыць Радзівона:

„З копіі прыгавору відаць, што 24 сакавіка 1907 г. Кіеўская Судзебная Палата разглядала дзела аб дваранінe Радзівоне Бонч-Асмалоўскім і другіх абвінавачваемых у праступках перад 1 ч. 126 ст. уг. ул.. З прыгавору відаць, што Радзівона Бонч-Асмалоўскага прызналі віноўным у тым, што ў пачатку сьнежня 1905 г. ў Кіеве прымаў удзел на другім вобласным зьезьдзе Украінскай партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў, прычым, у якасьці дэлегата на пасяджэньні гэтага зьезду вырашаў пытаньне аб тактыцы і далейшым будаваньні гэтай партыі, рабіў даклад аб дзейнасьці організацыі, аб разьвіцьці пропаганды партыяй, прычым, з мэтай распаўсюджваньня, склаў проэкты „кіраўніцтва для організацыі рэволюцыйных дружын“ і „інструкцыі па тактыцы рэволюцыйнага руху“; з гэтых твораў кіраўніцтва па сваім зьмесьце ёсьць інструкцыя й програма дзейнасьці агітатараў партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў сярод сялян з мэтай організаваць сялянскі саюз з баявымі дружынамі пры ім і падрыхтаваць сялян да адкрытага ўзброенага бунту.

Інструкцыя-ж гаворыць пра тое, што галоўная мэта працы сярод сялян—організаваць іх ня толькі для барацьбы, але й для пабудаваньня новых парадкаў, а не чакаць, пакуль яны будуць устаноўлены ўчрадзіцельным сходам, што неабходна захапіць зямлю і організаваць мясцовае самакіраваньне, што трэба ігнараваць мясцовае начальства, распаўсюджваць сярод сялян думку аб тым, што яны павінны адмовіцца плаціць падаткі і даваць сыноў у войска, што трэба выступіць з аружжам, калі ўлада ня згодзіцца з іх запатрабаваньнямі. Палата прыгаварыла Радзівона Бонч-Асмалоўскага, які меў 21 год, у крэпасьць на тры гады“...

У акце абвінавачваньня пасьля зьместу вынікаў дазнаньня, вобыскаў і дапросаў падсудных, было сказана: „На падставе ўсяго вышэйзьмешчанага, дваране Смаленскай губ. Анатолі Восіпаў—51 году, Варвара Іваваўна—50 год і Іван Анатольлевіч—28 год Бонч-Асмалоўскія, дваранін

Падольскай губ., Ўладзімер Георгіяў Вахоўскі—27 год, пачотная грамадзянка Марыля Яфімаўна Ярмоліна—46 год, сяляне сяла Блоні, Пухавіцкай воласьці, Ігуменскага павету, Менскай губ., Максім Сямёнаў Лукашык—32 год, Віктар Максімаў Каток, ён-жа Федарынчык,—26 год і Сьцяпан Іванаў Мігуцкі—46 год, абвінавачваюцца ў тым, што з 1905 па 1908 год у маёнтку Блонь, вышэйназванай воласьці, павету й губэрні, організавалі праступнае савобчаства, якое насіла назву „Мясцовы сялянскі саюз“ і якое ўваходзіла ў склад організацыі партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў, і якое сваёю бліжэйшаю мэтаю дзейнасьці лічыла неабходным, шляхам прымусовага й узброенага паўстаньня скінуць існуючую ўладу, пазбавіць гасудара імпэратара вярхоўных правоў, склікаць усенародны ўчрадзіцельны сход, якому надаваліся поўныя правы й даручалася ўтварэньне ў Расіі дэмократычнай рэспублікі, разбурыць існуючы парадак і замяніць яго соцыяльным, а дзеля гэтага ў програму сваёй дзейнасьці ўнясло пункт—выклікаць нездавальненьне ў народных мас існуючым дзяржаўным ладам і грамадзкім бытам, высьвятляць ім неабходнасьць узброенага паўстаньня, як сродкаў для зьнішчэньня монархіі і замены яе дэмократычнай рэспублікай, вясьці пропаганду ідэй соцыялізму, заклікаць народ адмовіцца плаціць падаткі й выконваць вайсковыя абавязкі, бойкотаваць дзяржаўныя ўстановы і асоб, якія займаюць у іх пасады, да замены апошніх выбарнымі ад народу, організаваць народныя масы і, наогул, клапаціцца аб шырокай падрыхтоўцы рэволюцыйных сіл да ўзброенага паўстаньня. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтыя ўчынкі ў адносінах да ўсіх абвінавачваемых прадбачаны 1 ч. 102 ст. уг. ўл.

За гэтым і на падставе 1 ч. 102 ст. уг. ўл. і 2 п. 1.032 і 1,047 ст. уст. ўг. суд., Анатолі, Варвара й Іван Бонч-Асмалоўскія, Уладзімер Георгіеў Вахоўскі, Марыля Яфімаўна Ярмоліна, Максім Сямёнаў Лукашык, Віктар Максімаў Мігуцкі падлягаюць суду Віленскай Судзебнай Палаты з удзелам станавых прадстаўнікоў.

Акт складзен 2 лютага 1910 г. ў г. Менску; падпісаў таварыш прокурора Чысьцякоў“.

Я паклапаціўся запрасіць харошых абаронцаў, а іменна: Грузэнбэрга, Скараціна, Ужосека, Пятрусевіча. Віленская Судзебная Палата для разгляду нашай справы прыяжджала ў Менск тры разы. На першым пасяджэньні высьветлілася, што акт абвінавачаньня жандары й прокурор значна раздулі: сьведкі з боку ўлады—селянін Пятрусь Астаўчык і Мікола Швэдаў—адмовіліся на судзе ад таго, што яны раней сказалі і пры гэтым зазначылі, што поліцыя прымусова іх заставіла раней гаварыць так як ёй гэта патрэбна было; другія сьведкі—поп Яжгуновіч і настаўнік Пасюк—далі спрыяючыя для падсудных веды. Абаронцы стараліся з усіх сіл, і ў выніку Судзебная Палата ў гэты раз нас усіх апраўдала але прокурор не згадзіўся з пастановай палаты і давёў аб гэтым да

ведама Сэнату. Апошні прапанаваў разглядзець нашу справу ў другі раз у тэй-жа самай Палаце, але пры іншым складзе судзьдзяў. Калі праз некалькі месяцаў Палата прыехала ў Менск, то Грузэнбэрг, які ў судовых колах меў добрую сувязь, катэгорычна заявіў, што склад судзьдзяў у гэты раз надта дрэнны і што напэўна жорстка нас засудзяць. Паўстала пытаньне аб тым, каб якім-небудзь чынам сарваць пасяджэньне Палаты, адцягнуць разгляд справы; прадбачыўся дзеля гэтага толькі адзін шлях: мне захварэць. Каб захварэў хто-небудзь другі з падсудных, то гэтым мы мэты не дасягнулі-б, бо яго справу пакінулі-б на далей, а нас усіх судзілі-б; але пры адсутнасьці мяне, як галоўнага падсуднага, Палата не магла вясьці суд і прымушана была яго адлажыць. Я адчуваў сябе зусім здаровым і, наогул, мне не хацелася прытварацца хворым, але іншага шляху ня было дзеля таго, што суд мог жорстка пакараць усіх падсудных. Я рашыўся на сымуляцыю. Я зараз-жа паехаў у Блонь і адтуль паслаў у Палату паведамленьне аб сваёй хваробе. Палата хутка вызначыла судова-доктарскую комісію для высьвятленьня характару маёй хваробы (Палата западозрыла сымуляцыю). З першым цягнікам комісія прыехала ў Блонь; з гэтым-жа цягнікам прыехаў і малодшы сын мой Глеб, гімназысты, і доктар Кодыс, хірург, наш добры знаёмы, соцыялісты, які згадзіўся дапамагчы нам у гэтай справе. Палата паслала тэлеграму мясцоваму станавому прыставу аб тым, каб ён прырыхтаваў хурманку, якая павінна была прывезьці комісію са станцыі Пухавічы ў Блонь. У склад комісіі ўваходзіў і таварыш прокурора Чысьцякоў; на станцыі комісію спаткаў прыстаў, пасадзіў яе й сам паехаў па сьлядох за ёю. Па дарозе комісія прымушана была застанавіцца на нейкі час дзеля таго, што збруя папсавалася; прыстаў пакінуў комісію і паехаў адзін да мяне ў Блонь. Сын мой Глеб саскочыў з цягніка перад самай станцыяй, сеў на нашу хурманку, якая тут была, і адзін (не чакаў нават і хурмана) прыляцеў да хаты раней прыстава і аб усім папярэдзіў мяне сваячасова. Прыехаў і доктар Кодыс. Я лёг ужо на дыван з павышанай тэмпэратураю. Пачынаем чакаць комісію, якая павінна была прыехаць з хвіліны на хвіліну; адлегласьць ад ст. Пухавічы да маёнтку Блонь усяго 4 вярсты. Але комісіі няма, прыстаў пачынае непакоіцца ўсё больш і больш; час праходзіць; прыстаў не знаходзіць сабе месца; мы самі пачалі думаць аб тым, што магло здарыцца на дарозе. Прыстаў паслаў паліцэйскіх, каторыя былі з ім, шукаць комісію; прашло больш за гадзіну часу; нарэшце, прыстаў пытаецца ў маёй жонкі, ці не організавалі мы якога-небудзь нападу на комісію; прыстаў ня верыць словам жонкі, пачынае больш непакоіцца, пасылае агледзець мост (жонка выказала думку, што ён мог паламацца)... нарэшце, пачулі стук калёс і паказалася комісія; спазьнілася яна гадзін на дзьве.

Сябры комісіі былі злыя, як чэрці; хутка мяне агледзелі й знашлі сымуляцыю; грунтаваліся яны на тым, што я ляжаў не на тым баку, як-

бы гэта патрэбна было; я сказаў ім, што ў мяне хвароба знаходзіцца ў раёне сьляпое кішкі...Комісія паехала, паехаў і доктар Кодыс, а з чарговым цягнікам ён ужо быў у Блоні з доктарам Ульлянавым, таксама нашым добрым прыяцелем; яны ўзялі з сабой неабходныя прылады. Яны зрабілі мне апэрацыю—разрэзалі пахавую вобласьць, зашылі, як належыць і паехалі ў Менск; зараз-жа паслалі тлумачэньне да свайго начальства й прылажылі пры гэтым сьвежы кусочак адрэзанае сьляпое кішкі. Начальства ў Менску навяло спраўкі ўва ўсіх больніцах, ці ня было ў іх гэтымі днямі опэрацыі па апэндыцыту; як выявілася, такое опэрацыі ніхто не рабіў. У той час, калі доктар Кодыс паслаў сваё тлумачэньне начальству, Жандарская Ўправа прыняла пастанову аб арышце яго й аддачы пад суд. Мэдыцынскае начальства, у тым ліку і доктар Урванцоў, які й цяпер яшчэ жыве, пачало бараніць доктара Кодыса (Урванцоў быў тады інспэктарам па мэдыцынскай часьці й спачуваў нашай справе). Спрэчкі паміж комісіяй і доктарам Кодысам дашлі да Мэдыцынскага Дэпартаманту ў Пецярбург. Апошні пачаў бараніць доктара Кодыса і... небясьпека згінула. Палата засталася з носам, справу адлажылі да наступнага чарговага разу (тады аднаго самага жорсткага сябра палаты не павінна было быць: ён зьбіраўся ў водпуск). У Менску знаёмыя таварышы прокурора Чысьцякова жартавалі над ім, як гэта ён у працягу 2-х гадзін ня мог праехаць 4 вярсты ад ст. Пухавічы да маёнтку Блонь. Цікава, чаму комісія апазьнілася?—Калі яшчэ на станцыённым двары сапсавалася збруя, і хурман пачаў зьвязваць пастромкі, прыстаў на сваёй пары коняй пакінаў комісію і паехаў у напрамку да Блоні. Хурман, які вёз комісію, ня бачыў, куды паехаў прыстаў; а дзеля таго, што такое вялікае начальства, як комісія, звычайна, езьдзіла ў Ігумен, то хурман і комісію павёз туды. Было цёмна. Ехалі, ехалі, нарэшце надаела; комісія і пытае ў хурмана:—Ці скора даедзем?—Хурман адказвае: Не, яшчэ далёка!—А вам куды трэба?—У Блонь, такі-сякі!—Чаму-ж вы не сказалі? Я думаў, што ў Ігумен.

Тыдняў яшчэ за тры да тэрміну, на які быў назначан суд, мяне арыштавалі: хадзілі чуткі, каторыя ня мелі ніякай падставы, што я зьбіраюся эміграваць; арыштавалі мяне ў Блоні, а дзеля таго, што Блонь знаходзіцца ў Ігуменскім павеце, то мяне й накіравалі ў Ігуменскую турму, з якое ўжо па этапу трэба было ехаць у Менск. Сядзеў я ў Ігумене трое сутак у маленькай камэры ($2^{1}/_{2}$ аршына на 2); тут я праступдзіўся, бо печка была напалена вельмі горача; з Ігумена прышлося ехаць праз Клінок да ст. Пухавічы 40 вёрст (як хвораму, мне далі хурманку); этапу належала праехаць гэтую адлегласьць у два дні і начаваць у Клінку. Сюды ноччу прыехаў мой сын Радзівон, прывёз з сабою харчы, пачалі мы частаваць канваіраў, агітаваць сярод іх: з дазволу канваіраў ноч правялі на арыштанскіх лаўках, а на чарговы дзень я ўжо апынуўся ў Пухавічах, дзе йзноў да мяне прыехалі родныя. Цікава вельмі тое,

што Блонь ад ст. Пухавіч знаходзіцца на адлегласьці 4 вёрст, але арыштаванага з Блоні павезьлі ў Ігумен, адкуль праз некалькі дзён (у этапныя па раскладу дні) накіравалі праз Пухавічы ў Менск.

Сэсія Судзебнай Палаты на гэты раз прашла бяз усякіх здарэньняў; а дзеля таго, што Міністэрства Юстыцыі дало пэўную дырэктыву— Бонч-Асмолаўскіх абавязкова прызнаць віноўнымі,—то мяне і ўсіх другіх падсудных і засудзілі да адсідкі на наступныя тэрміны: Марылю Ярмоліну і Віктара Катка на адзін год; Максіма Лукашыка заставілі ў турме (у яго яшчэ былі другія, больш сур'ёзныя справы); Мікола Цэхановіч ужо памёр у ссылцы; усё гэта адбывалася ў 1910 г. Нас толькі прызналі віноўнымі, а фактычна вызвалілі.

Чым-жа тлумачыцца недарэчнасьць паміж такім сур'ёзным абвінавачаньнем і параўнаўча мяккім прыгаварам. А прычына знаходзіцца вось у чым.

Пра агульны характар маёй палітычнай дзейнасьці жандары ведалі. але грунтоўнай падставы ў іх ніякай ня было; мая рэволюцыйная праца распаўсюджвалася, галоўным чынам, на організацыю сялян у некалькіх частках Расіі, а не Беларусі (Менску й Блоні); да гэтай працы Азэф ня меў ніякіх адносін, а другіх провокатараў у партыі, блізкіх да ЦК, ня было, пра друкарні ў нашым краі Азэф трохі ведаў і данёс аб гэтым каму належыць, але пэўных сьлядоў ён ня мог знайсьці. Мая больш сур'ёзная дзейнасьць была для начальства незнаёмай, і судзілі мяне за тое, да чаго я ў сапраўднасьці меў мала дачыненьня. Радзівон папаўся на Кіеўскім зьезьдзе, на які паехаў заместа мяне; у часы нашага процэсу ён сядзеў (ня ўвесь час) па гэтай справе. У рэволюцыйнай працы ў Блоні з яе ваколіцамі й у Менску ён прымаў большы ўдзел, чым я. Што-ж належыць да рэволюцыйнай працы ўсіх нас падсудных, то хоць мы й прымалі значна большы ўдзел, чым аб гэтым напісана ў акце абвінавачваньня, але..., як бачым мы, мясцовыя сяляне і еўрэі, як больш, так і менш сьвядомыя, былі ўжо на такім узроўні разьвіцьця, што ўлада знашла сярод іх толькі 2-х даносчыкаў, Астапчыка й Швэдава і каторыя толькі пад пагрозай далі жартлівыя, большаю часткаю падказныя весткі; ад сваіх слоў на судзе, часткаю пад уплывам удачных пытаньняў абароны, часткаю й затым, што сумленьне пачало іх мучыць, Астапчык і Швэдаў адмовіліся.

Аб агульным уражаньні ад нашага процэсу дае нам уяўленьне наступная выпіска з чорнасоценскай газэты „Менскае слова“ ад 27 студзеня 1911 году № 1196.

„Процэс, які ўчора дакончыўся, такі вялікі па сваім зьмесьце, калі можна так сказаць, што пра яго можна гаварыць і гаварыць... Паперша,е некалькі слоў аб гэроях процэсу Анатолі й Варвары Бонч-Асмалоўскіх. Гэтыя асобы ўладаюць прыгожым маёнткам Блонь у Ігуменскім павеце; маёнтак застаўся бацьку Анатолія ў пэрыод ліквідацыі польскага паў-

станьня. Па іроніі судзьбы, як-бы ў падзяку рускаму цару за падарунак гэтага маёнтку бацьку, дзеці й унукі заўсёды вялі ўпартае змаганьне з уладай рускага цара. Маёнтак Блонь стаў у пэўным сэнсе гэтага слова рэволюцыйным гняздом. Зразумела, рэволюцыйных гнёзд у Расіі было й ёсьць многа. Але гняздо Бонч-Асмалоўскіх асабліва зьвяртае на сябе ўвагу ўсіх чытачоў. Чым, якім культрэгэрствам займаецца рускі памешчык Бонч-Асмалоўскі! У той час, калі польскі пан працуе над тым, каб павярнуць твар беларуса да сябе, рускі памешчык Бонч-Асмалоўскі займаецца тым, што разбурвае стары політычны погляд рускага народу: распаўсюджвае проклямацыі, чытае рэволюцыйныя кніжкі, зьбірае мітынгі з несьвядомай вясковай моладзі.“ . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось яшчэ выпіска з прамовы прокурора, якая надрукавана ў тым-жа нумары газэты.

„Сваю прыгожую прамову прокурор закончыў так: „Цьвярдой рукою правіцельства рэволюцыя падаўлена ў 1905 г., але іскра рэволюцыі ў сяле Блоні засталася. Вам належыць цяпер патушыць гэту іскру, каб яна не разгарэлася з новай сілай і не запаліла гэту мясцовасьць новым рэволюцыйным полымем“.

Застанаўлюся крыху на падсудных па нашым процэсе. Максім Лукашык з сяла Блоні; ён быў самы выдатны рэволюцыянэр з усіх мясцовых таварышоў: ён кінуў зямлю і гаспадарку і ўсяго ахвяраваў сябе рэволюцыйнай працы яшчэ ў 1900 г., у гэты час яго арыштавалі першы раз па аднэй справе з Л. М. Клячка (друкарня ў Пецярбургу) і выслалі ў Сібір на пяць год; вярнуўся з сылкі па амністыі ў 1914 г. увосень і йзноў з захапленьнем прыняўся за рэволюцыйную справу. Пасьля маныфэсту 1905 г. я даў яму пасаду ў Пецярбургу пры кнігарні „Школьное дело“; тут ён набыў сабе шмат знаёмых з працаўнікоў легальных друкарань, каторыя дапамагалі друкаваць нелегальную літаратуру; у гэтай справе Лукашык значна дапамагаў партыі і працоўнай групе ў часы першай і другой Дзяржаўнай Думы. Другі раз быў арыштован і прыгаворан, здаецца, на тры гады ссылкі, затым што яго судзілі за дзьве справы, за агітацыю і пропаганду разам з намі ў Блоні і яе ваколіцах і за працу ў Пецярбургу; папаў ён у вельмі дрэнныя ўмовы на поўначы ў Янісейскай губ.: цярпеў голад, моцна быў пабіт стражнікамі за тое, што хацеў уцячы, захварэў сухотамі. Лукашык прышоў к пераканаьню, што жыць ня варта, але перад сьмерцю захацелася яму пабыць у родных мясцох, пабачыцца з дамашнімі, яму ўдалося ўцячы й дабрацца да Блоні хвораму, з павышанай гарачкай; у глухую вясеньнюю ноч ціхенька прабраўся ён у сяло Блонь і схаваўся ў хляве з сенам сваёй сястры. На другі дзень сястра расказала аб гэтым Варвары Іванаўне; становішча яго было небясьпечна: лёгка мог убачыць хто-небудзь з суседзяў. Я зараз-жа паехаў у Гомель, згаварыўся з прысяжным паверанным

Куляба-Карэцкім, які жыў у сялібе каля Гомеля. Апошні ахвотна згадзіўся ўзяць Лукашыка да сябе. Я прыехаў у Блонь, забраў Максіма й завёз яго ў Гомель, а сам накіраваўся ў Вільню да беларусоў, братоў Луцкевічаў, якія выдавалі „Нашу Ніву“, каб парадзіцца з імі, што рабіць. Пры дапамозе іх і знаёмага ім доктара, які спачуваў рэволюцыянэрам, удалося ўстроіць Лукашыка часова ў санаторыі для грудных хворых пад Вільняй. Прабыў ён там некалькі месяцаў, паправіўся мала. Я парашыў пераправіць яго ў Галіцыю на курорт, дзе Лукашык пражыў хоць значны час, але хвароба разьвівалася усё больш. Пасьля гэтага прабыў ён яшчэ два месяцы ў Італіі на беразе мора, адкуль перабраўся канчаткова ў Давое ў Швайцарыю. Увесь час мая жонка вяла з ім перапіску й пасылала яму грошы, у часы вайны ён памёр.

Мікола Лявонаў Цэхановіч, вельмі здольны ад прыроды рэволюцыянэр, з выдатнымі організацыйнымі навыкамі; каб дабіцца сваёй мэты, ён асабліва ня стрымліваў сябе ў выбары сродкаў... Рэволюцыйны тэмпэрамант часта штурхаў яго на протэсты, на орыгінальныя ўчынкі. Першы раз яго саслалі ў Архангельск разам са мною і Іванам у 1902 г. за адну з намі справу. Вярнуўся назад у 1904 г. па амнэстыі і адразу йзноў прыняўся за рэволюцыйную працу. Ён быў харошым садоўнікам, браў у мяне прывітыя дрэўцы і хадзіў з імі па ваколічных вёсках і хутарох засаджваць сады; у гэты час, вядома, ён энэргічна вёў агітацыю сярод сялян. Падгаварыў сялян напісаць прашэньне ў Жандарскую Ўправу аб тым, каб адняць зямлю ў двух мясцовых памешчыкаў, якія займалі вялікія дзяржаўныя пасады. У 1905 г. ўгаварваў сялян, але посьпеху ня меў, сабрацца і пайсьці ў Менск, дзе і зрабіць паўстаньне. Калі адбываліся выбары ў другую Дзяржаўную Думу, Цэхановіч здолеў абмануць прыстава і атрымаў ад яго візытную картачку з рэкомэндацыяй, якая дапамагала яму зьбіраць у вёсках прадвыбарныя сходы. Прыстаў быў упэўнен у тым, што Цэхановіч будзе агітаваць за акцябрыстых (партыя сярэдніх чорнасоценцаў), але Цэхановіч праводзіў самую энэргічную агітацыю за падзел зямлі. Аб гэтым даведалася Жандарская Ўправа і загадала яго арыштаваць. Прыстаў спачатку баяўся яго арыштаваць, бо ён меў яго картачку. Цэхановіча нарэшце арыштавалі, саслалі ўжо другі раз у Табольскую губ., дзе ён і памёр ад тыфу ў часы нашага процэсу.

Сьцяпан Мігуцкі, чалавек ужо пажылы, гаспадар, меў сваю сям'ю, вельмі памалу выкладаў словамі свае думкі, тып спакойнага флегматычнага праведніка, чалавека ня гэтага сьвету; актыўным рэволюцыянэрам ён ня быў; у свае часы вельмі захопліваўся вучэньнем Льва Мікалаевіча Талстога, любіў прыгожую літаратуру, асабліва нелегальную. Калі блоньская сялянская моладзь пастанавіла організаваць сваю бібліотэку, то я дастаў для іх нелегальнай літаратуры; бібліотэкарам выбралі Сьцяпана Мігуцкага, каторы выконваў свае абавязкі вельмі акуратна. Яшчэ да агульнага нашага процэсу ён быў два разы арыштован разам з маім сы-

нам Іванам, прасядзеў у турме значны час, але гэта ня зьніштожыла ў ім жаданьня быць рэволюцыянэрам. Памёр Мігуцкі ў Блоні ў 1919 г.

Віктар Каток-Федарынчык—блоньскі безьзямельны селянін; яшчэ хлапчуком прывучаўся ў нас к садаводзтву, пасьля некалькі год вывучаў яго ў Кіеве; вырас разам з маімі дзецьмі, былі яны добрымі таварышамі—гэтыя адносіны існуюць і да цяперашняга часу. Трэба зазначыць, што трое маіх старшых дзяцей вучыліся ў Блоньскай народнай школе разам з сялянскімі дзяцьмі; вось зачым захаваліся ў іх пасьля, у больш рэволюцыйную эпоху, блізкія таварыскія адносіны да блоньскай моладзі. Віктар быў галоўны памоцнік Радзівона ў справе распаўсюджваньня нелегальнай літаратуры ў Блоні і яе ваколіцах. Некалькі раз яму пагражала небясьпека. Пасьля Лютаўскай рэволюцыі жыхарства Ігуменскага павету выбрала яго начальнікам міліцыі. У сучасны момант са сваёй сям'ёй засноўвае гаспадарку на адведзеным яму кавалку зямлі каля саўхозу Блонь; старэйшы сын яго, Радзівон, цяпер ужо комсамолец.

Марыля Яфімаўна Ярмоліна, фэльчарыца; у моладасьці прабавала ўстроіцца з мужам у грамадзе-комуне „Крыніца" на Чорнаморскім беразе, але не магла згадзіцца з іх поглядамі; пазнаёмілася з намі, часта і нават доўга жыла ў нас у Блоні. Належыць да бедных мяшчан г. Адэсы, вельмі сымпатычная, дэмократка з літаратурным талентам, нэрвовая, слабага здароўя. Пры такім руху, як у 1905 г., уся захаплівалася і аддавалася грамадзкай працы; цяжка было ёй перанесьці гадавую адсідку ў адзіночнай камэры; пасьля гэтага працавала большаю часткаю па сваёй спэцыяльнасьці: даглядала раненых, дзяцей. У вапошнія часы служыла ў Самаркандзе ў бальніцы для тубыльцаў-жанчын.

Уладзімер Вахоўскі, пляменьнік маёй жонкі, таварыш маіх дзяцей, юрыст, социял-дэмократ. У 1905 г. прымаў непасрэдны ўдзел у працы сярод сялян спачатку ў Хэрсонскай губ., а пасьля ў Блоні і ваколіцах. Вельмі здольны, сымпатычны, па паходжаньні напалову паляк, цяпер судзьдзя ў польскай частцы Беларусі. Калі ён вёў пропаганду сярод сялян у Хэрсонскай губ., то карыстаўся вялікай популярнасьцю; адзін раз гаспадар хаты, у каторай ён вёў гутарку, залез на страху і ўвесь час з аружжам у руках вартаваў маладога пропагандыстага.

З Марыцам Лазаравічам Саламонавым зжыліся мы, як з сябрам нашай сям'і, ён быў у мяне кіраўніком гаспадаркі, маім галоўным памоцнікам і таварышам; праўда, часамі мы з ім і сварыліся.

У другой палове 90 год мая гаспадарка ў Блоні пашырылася; адзін я ня мог справіцца; апрача гэтага, і грамадзкае жыцьцё ажывілася; мне хацелася быць больш вольным ад гаспадаркі, каб мець магчымасьць прымаць удзел у грамадзкай працы; я шукаў сабе такога памоцніка, які-б праз год-два мог-бы замяніць мяне. Сяргей Філіпавіч Кавалік параіў мне запрасіць да сябе яго таварыша па ссылцы ў Верхаянск (самае халоднае месца, полюс холаду ў паўночна-ўсходняй Сібіры) М. Л. Саламонава.

Саламонаў, як быў яшчэ студэнтам Пятроўска-Разумоўскай С.-Г. Акадэміі ў 80 гадох, прымаў удзел у „Народнай волі“, меў няшчасьце пазнаёміцца з Зубатавым, які толькі яшчэ пачынаў сваю наглую кар'еру і папаў праз яго ў Верхаянск. Пасьля ссылкі нейкі час Марыц Лазаравіч жыў у Елізаветградзе і даваў прыватныя лекцыі. У Блоні пачаў старанна займацца гаспадаркай і хутка апярэдзіў мяне самога. Ён зжыўся ня толькі з маёй сям'ёй, але і з шматлюднай блоньскай сялянскай і інтэлігэнцкай моладзьдзю.

Калі мяне ў 1901 г. арыштавалі і саслалі, увесь цяжар інтэнсыўнай гаспадаркі лёг выключна на Саламонава. У сувязі з блоньскім рухам арыштавалі і яго, завязьлі ў Пецярбуг, але, на шчасьце, прадзяржалі толькі пару месяцаў і выпусьцілі за адсутнасьцю грунтоўнага абвінавачваньня.

З 1905 г. ён пачаў арандаваць пусты маёнтак, каторы не даваў ніякага прыбытку, Ціволкі пад Менскам, і сваёй упартай працай у працягу ўсяго часу аж да рэволюцыі падняў яго на належную вышыню; і ў цяперашні час ён зьяўляецца загадчыкам гэтага маёнтку ад ЦРК; маёнтак у сучасны момант ёсьць прыклад для ўсяе акругі.

У 90 гадох са мной і з маёй сям'ёй быў добра знаём і разы два быў у Блоні Татараў, які пасьля ня вытрымаў турэмнага і ссыльнага жыцьця і зьмяніў рэволюцыйнай справе (за гэта яго забіў у Варшаве Савінкаў). З Татаравым я меў справу адносна транспорту нелегальнай літаратуры, каторай я з ім дзяліўся. Належаў ён да організацыі „Рабочее Знамя“, якое ставіла сваёй мэтай аб'яднаць соцыял-дэмакратаў і народнікаў. Да арышту і ссылкі Татараў выклікаў прыгожае ўражаньне сваёю ўпартасьцю і адвагай. У 1901 г. мне давялося адначасова сядзець з ім у доме „предварительного заключения“ на Шпалернай; адзін раз я ішоў па калідоры ў ванну з надзірацелем, які мне спачуваў; дзьверы ў камору Татарава выпадкова былі адчынены; да майго вуха даляцелі цяжкія ўздыханьні; я падышоў да Татарава, і мы абмяняліся некалькімі славамі; уражаньне ў мяне засталося аб ім, як аб чалавеку з хворай нэрвовай сыстэмай, як аб чалавеку з ненормальнай псыхікай. Я думаю, што гэтым і тлумачыцца яго пераход на бок улады і здрада рэволюцыйнай справе, яго як-бы моральнае вар'яцтва. Больш з ім мне ня прыходзілася сустракацца.

З Маняй Вільбушэвіч я быў добра знаём і да знаёмства яе з Зубатавым, да таго часу, пакуль яна пачала працаваць разам з ім; Маня Вільбушэвіч была энтузыястка з у высокай меры адчыненым духоўным абліччам, натура палкая, якая ўсім захоплівалася; яна ня мела солідната грамадзкага і навуковага выхаваньня і асьветы, тэй моральнай і разумовай падставы, якая зьяўляецца ў моладзі ў той час, калі яна знаходзіцца сярод роўных сабе, паважаных і любімых таварышоў; яна не магла выпрацаваць у сабе тэй крытычнай думкі, таго сьвядомага погляду на розныя соцыяльныя тэорыі й програмы, каторыя дае сыстэматычная грамадзка-навуковая студэнцкая падрыхтоўка. Маня Вільбушэвіч добра ве-

дала мяне, як рэволюцыянэра; я шмат раз спатыкаўся з ёю і ўсімі сіламі стараўся даказаць ёй, угаварыць яе парваць зносіны з Зубатавымі але вынікаў патрэбных ня было. Мне часамі нават было і страшна: Маня Вільбушэвіч адначасова была ў зносінах з менскім жандарскім палкоўнікам Васільлевым і сустракалася са мною (я добра ведаў яе старшага брата Грыгора Вільбушэвіча, сыоністага, інжынэра-будаўніка і выкладчыка пасьля політэхнікуму ў Хайфе ў Палестыне; мы з ім былі таварышамі),

Я верыў Мані Вільбушэвіч і быў перакананы ў тым, што яна мне нічога кепскага ня зробіць; яна магла рабіць памылкі, але душа ў яе была простая і адчыненая.

Фрума Фрумкіна; з ёю я таксама быў крыху знаём і спатыкаўся ў Менску; Фрума Фрумкіна была заядлай тэрорысткай; псыхіку яна мела, бязумоўна, ненормальную, паломаную. Учыніць які-нібудзь тэрорыстычны акт—гэта было для яе вялікае здавальненьне; да плянавай дзейнасьці яна ня мела ніякай здольнасьці; многа каштавала энэргіі мне і яе таварышом, каб адгаварыць яе ад бязмэтных і нават шкадлівых проэктаў; але яна пашла сваім шляхам і загінула за тое, што ўжо ў часы катаржнай адсідкі ў Бутырках задумала зрабіць напад на начальніка турмы.

У 1904 і 1905 гадох, а таксома і ў часы маёй ссылкі, сын мой, Радзівон, распаўсюджваў нелегальную літаратуру пры дамозе садоўніка Віктара Катка, яго сястры Полі і асабліва пры дапамозе ўпартага рэволюцыянэра Андрэя Шчурэвіча, каторы служыў у нас ключнікам і каторы пасьля пераехаў у Бесарабію ў аколіцы Кішынёву.

Трэба яшчэ некалькі слоў сказаць пра Дзяміда Васкабовіча, вельмі інтэлігэнтнага, сымпатычнага, з мяккай душой селяніна; ён паехаў у Амэрыку шукаць лепшага жыцьця, адкуль разы два варочаўся назад і нарэшце ўсё-ж такі застаўся ў Амэрыцы. Яшчэ прыпамінаецца мне каваль Міхаіл і яго жонка Хрысьціна, соцыял-дэмократы; яны пераехалі на заработкі ў Баку і там ужо сталі сьвядомымі рэволюцыянэрамі.

Яшчэ застанаўлюся на сям'і малазямельнага селяніна Васіля Шыбайла. Васіль—сьвядомы рэволюцыянэр, скрыты, асьцярожны, але па сваім характары мала актыўны; увесь свой век ён жыў надзеяй на падзел маёнткаў памешчыкаў і загэтым стараўся не адлучацца далёка ад Блоні на заработкі, хоць дома жыў вельмі бедна, сваім дзецям ён стараўся даць асьвету; аднаго яго сына, калі яму было яшчэ толькі дванаццаць год, мне ўдалося ўстроіць спадручным практыкантам у кнігарні выдавецтва „Школьное дело“ у Пецярбургу. У гэтым выдавецтве часта бывалі вобыскі; адзін раз Федзя Шыбайла сваёю растаропнасьцю й сьмеласьцю спас загадчыка кнігарні; калі зьявілася паліцыя на вобыск, то загадчык сунуў ціхенька ў пасьцель Федзі свой рэвольвэр; Федзя (ён быў маленькага росту) прытварыўся заспаным і не хацеў уставаць з пасьцелі; але калі паліцыя трасла яго пасьцель, то ён хутка перавярнуўся на другі бок і пералажыў рэвольвэр, якога, такім чынам, паліцыя і не знашла. Пасьля

з працягам часу ён добра азнаёміўся са сваёй справай і займаў ужо адпаведныя пасады ў іншых кнігарнях Пецярбургу. Цяпер ён жыве, здаецца, бедна, займаецца сельскай гаспадаркай на тэй зямлі, якую яму адрэзалі пасьля рэволюцыі.

Яскравую індывідуальнасьць уяўляе з сябе Кастусь Базальчук; іх было два браты: ён і малодшы Ваня; бацька іх родам з вёскі Дайнова, якая знаходзіцца ў 6 вярстах ад Блоні, зямлі ня меў, служыў у мяне прыказчыкам, быў слабага здароўя, памёр рана, заставіў пасьля сябе ўдаву з малымі дзяцьмі. Вельмі здольны і энэргічны, з адважным характарам, Кастусь Базальчук яшчэ ў моладасьці далучыўся да анархістых-экспропрыятараў; пасьля некалькіх выступленьняў папаўся, быў засуджан на катаргу, але, калі сядзеў у Бутырках, то за нейкую стычку з начальствам яго прысудзілі да сьмярцельнай кары; каб ня здацца жывым сваім ворагам, ён атруціўся. Малодшы Ваня меў зусім іншы склад: мяккі, спакойны, ён стаў комуністым і гады тры таму назад займаў дзесь адпаведную пасаду у

Многія з блоньскіх жыхароў выбіліся ў рознага роду чыноўнікаў, чыгуначнікаў, тэлеграфістых, пэдагогаў і г. д. Гэты процэс цягнуўся сам сабою: хто раней устроіўся дзе-небудзь, той цягнуў, дапамагаў свайму прыяцелю, сваяку і інш. Наогул, сувязь Блоні ня толькі з ваколіцамі, а нават і з такімі буйнымі цэнтрамі, як Баку, Екацерынаслаў, Крым, Масква, Пецярбург, Сібір, Паўночны Каўказ, Нью-Ёрк і г. д., была вялікая. З Блоні ішла на заработкі ў гэтыя цэнтры моладзь з новым псыхічным складам; яна пападала ў новыя ўмовы, горызонт яе пашыраўся; тыя радыкальна-соцыялістычныя погляды й настроі, якія моладзь несла з сабою, тут знаходзілі падмацаваньне, тлумачэньне і, у выпадку звароту на радзіну, моладзь рабіла ўплыў на сваіх таварышоў, якія засталіся дома. Праваслаўных, яўрэяў эмігрантаў і перасяленцаў з раёну Пухавічы й Блоні ў Амэрыку і другія мясцовасьці трэба лічыць многімі сотнямі. Об'ектыўнымі экономічнымі ўмовамі, якія спрыялі разьвіцьцю гэтых процэсаў, былі наступныя: цесната ў нашым краі яўрэйскага жыхарства, а ў самай Блоні—адсутнасьць неабходнага ліку зямлі для сялян; праўда, пасьля рэформы 1861 г. сяляне сяла Блоні атрымалі зямлі нормальную колькасьць, але знаходзілася яна ў 4-5 вярстах ад самога сяла; наладзіць сельскую гаспадарку на такой адлегласьці селянін ня можа і загэтым на далёкіх кавалках зямлі звычайна пасьвілі жывёлу. На блізкіх да сялібы вучастках сяляне вялі гаспадарку, напалову гародную. Але дзеля таго, што гэтай зямлі мала, а насельнікі з кожным годам павялічваліся, то заставаўся толькі адзін шлях—шукаць заработкаў па белым сьвеце. Я, наколькі гэта было магчыма, стараўся аслабіць гэты крызіс, організаваў больш інтэнсыўную гаспадарку, каторая патрабуе большай колькасьці працоўных рук, але гэта справы ў цэлым не мяняла, заработкі ў маёй гаспадарцы былі, галоўным чынам, сэзонныя, а організаваць якоенебудзь пастаяннае фабрычнае прадпрыемства ў мяне не хапала сродкаў.

# Ф. СКАРЫНА І ЯГО ЭПОХА

**А. Харэвіч**

За ўвесь час самастойнага існаваньня Літоўска-Беларускага гаспадарства ў ім пераважала сталае, як кажа проф. Любаўскі „вячыстае“ зямляўладаньне. Хаця яму былі вядомы і розныя іншыя формы, але гэтыя формы не атрымалі тут значнага распаўсюджаньня. Зямляўласьнікі—князі, паны, баяры—зьяўляюцца старадаўнімі ўладарамі сваіх вотчын: у руках шмат з іх у XVI веку былі тыя-ж самыя маёнткі, якія былі ў іх продкаў у XIII і XIV веку. Літоўска-беларускія паны назьбіралі дзеля гэтага вялізныя фамільныя капіталы. У той час, як самыя буйныя маскоўскія баяры толькі што і жывуць гаспадарчай пэнсіяй і часта даюць у заклад вопраткі сваіх жанок, каб узброіцца на вайну, літоўска-беларускія паны робяць буйныя пазыкі гаспадарчаму скарбу.

Як вядома, першая вунія з Польшчай, якая адбылася пры Ягайле і Вітаўце, не ажыцьцёвілася, але яна дала літоўска-беларускім зямляўласьнікам шмат розных гарантый, якімі абмяжоўвалася вялікакняская ўлада, а самае галоўнае тое, што яна пашкодзіла ўсталяваньню насьледнай улады, аддаўшы замяшчэньне гаспадарчага трону абраньню князёў, паноў і баяр Вялікага Княства.

Поруч з тым утвараецца сувязь паміж Польшчаю, Літвою і Беларусьсю, дзякуючы таму, што большаю часткаю ў таго і другога гаспадарства быў адзін агульны гаспадар, які жыў папераменку то ў Польшчы, то ў Беларусі.

Гэтая жыцьцёвая супольнасьць спрыяла ўплыву польскай дзяржаўнасьці на Беларусь. Польскія правы і вольнасьці паступова пераносяцца на беларускую глебу і дапамагаюць разьвіцьцю і пышнаму росквіту беларускага фэўдалізму, для якога і без таго была добра падрыхтавана глеба.

Але XV і пачатак XVI веку азначаюцца яшчэ значным экономічным уздымам літоўска-беларускіх гарадоў. Такія гарады, як Вільня, Полацак, Горадня, Коўна, Бярэсьце—былі буйнымі гандлёвымі асяродкамі. За імі цягнецца і Менск. У той час, як Полацак плаціць падаткаў у гаспадарчы скарб штогод 400 коп грошай, Менск—толькі 60 коп[1]).

---

[1]) Соловьев. История России, Т. V.

Атрыманьне літоўска-беларускімі гарадамі Магдэбурскага права і шмат розных іншых экономічных палёгкаў яшчэ больш дапамагае ўзросту іх экономічнай магутнасьці. Сярод гарадоў першае месца займае Вільня. Віленскае купецтва карыстаецца значным лікам розных пераваг. Напрыклад, у 1511 годзе кароль Жыгімонт выдае грамату, па якой купцы, што прыяжджаюць у горад Вільню, могуць гандляваць толькі з віленскімі купцамі, за выключэньнем кірмашу, калі ім дазваляецца гандляваць і з чужаземнымі купцамі. Віленскія купцы плацяць вельмі значную суму ў гаспадарчы скарб, выстаўляюць значны лік конных ваякаў, вядуць буйны гандаль і гэтым значна павялічваюць свае ўласныя капіталы.

Што тычыцца хатняга быту як купецтва, так і зямляўласьнікаў, дык на гэтым ня прыдзецца доўга спыняцца. Роскаш, сьпешчанасьць, заўсёдны баль і гультайства—вось найбольш выразныя адзнакі іх жыцьця. „Сьмяюцца татары“, як піша пісьменьнік XVI веку ліцьвін Міхалон: „што ў нас паважныя людзі мякка пакояцца і сьпяць, калі адбываецца царкоўная служба, а людзей беднага стану ня пушчаюць садзіцца; самі прыходзяць у царкву з мноствам павадыроў і ставяць іх перад сабой, каб пахваліцца іх колькасьцю. Гэтыя жальбы Міхалона падтрымоўвае і маскоўскі ўцякач князь Курбскі.

П‘янства, аб якім сьведчыць яшчэ вэнэцыянскі пасол Кантарыні ў XV веку было настолькі распаўсюджанай заганай, што яму аддаваліся і багатыя і бедныя. „У гарадох літоўскіх“, піша Міхалон, „няма больш прыватных заводаў, як тыя, на якіх варыцца з жыта гарэлка і піва. Дзень пачынаецца піцьцём гарэлкі; яшчэ лежачы на пасьцелі крычаць: „гарэлкі, гарэлкі!“ і п‘юць гэты яд мужчыны і жанчыны, і юнакі на вуліцах і плошчах, даходзяць да голаду, зьвяртаюцца да крадзежу і разбою“.

Тое самое творыцца і ў вайсковым стане. „Ворагі нашы татары“, піша далей Міхалон, „насьмяхаюцца над нашай бясьпечнасьцю, нападаюць на нас, калі мы пасьля п‘янства сьпімо: „Ян! ты сьпіш“, кажуць яны-а я, бачыш, турбуюся, зьвязваючы цябе. Цяпер нашых ваяк гіне сярод гультайства ў шынкох, дзе яны забіваюць адзін аднаго, больш, чымся самых ворагаў, якія часта зьнішчаюць нашу краіну, тады як нашы маглі-б знайсьці лепшы выпадак паказаць сваю адвагу ў бойках з ворагам цьвярозымі і дзейнымі“.

Не рабіла выключэньне і духавенства. Яно яшчэ ў большай меры падзяляла шмат з гэтых заган. У манастырскіх сьценах часта пануе разгул і разврат. „Грэцкія манахі,“ кажа той самы Міхалон, „устрымоўваюцца ад жанок, а што папы ў старадаўнія часы жаніліся,—гэта відна ў шмат мясцох сьв. пісаньня. Калі-б нашы рабілі цяпер тое самае, дык было-б менш заганы, чымся ў гэтым фальшывым манастве, у якім яны жывуць, як сьпешчаныя сыбарыты, гараць заўсёды палам і трымаюць наложніц“.

Дзякуючы таму, што манастыры маюць свае ўласныя землі, вядуць сваю гаспадарку, некаторыя з іх пасьпелі нажыць вялізныя капіталы. З

гэтай прычыны яны часта становяцца прадметам нападаў. У жыцьцёпісе Антонія Сійскага чытаем, што аднойчы прышоў на Дзьвіну зборшчык біскупскай дані. Думаючы, што ў Антонія шмат багацьця, наслаў на яго разбойнікаў.

Здараецца, што дзеля даходу манастырамі кіруюць зусім сьвецкія людзі. Так, кароль Сьцяпан даў Менскі Ўзьнясенскі манастыр шляхцічу Невельскаму, а той перадаў яго, з ведама каралеўскага, земяніну Дастаеўскаму, які ня быў нават праваслаўным. Мітрополіт Ільля і менскі кашталян Ян Глябовіч скардзіліся каралю, што Дастаеўскі карыстаецца толькі даходамі і зусім ня рупіцца аб кіраваньні манастыром, а дзеля гэтага прасілі аддаць апошні земяніну-ж менскаму Міколе Рагазе, чалавеку сумленнаму і ў сьв. пісаньні ведаючаму, які зараз-жа пастрыжэцца ў манахі. Кароль выканаў іх просьбу. Гэта было ў 1579 годзе [1]).

Іншая зусім справа жыцьцё працоўных мас. Яны гібеюць у няволі і нядолі. Згодна пасьведчаньню такіх пісьменьнікаў XVI веку, як немец Браун [2]), што вандраваў у той час па Беларусі, і названы вышэй Міхалон, дык экономічнае і соцыяльнае становішча іх надта сумнае. „Мы трымаем у нязьмернай няволі людзей сваіх“, кажа ўжо вядомы нам Міхалон, „якія здабыты не вайною і ня купляю; належаць не да чужога, а да нашага пляменьня і веры; мы дзеля зла ўжываем нашу ўладу над імі, мы зьдзекуемся над імі, калечым, забіваем бяз суду па самым невялікім падазрэньні. Наадварот, у татар і маскоўцаў ні адзін чыноўнік ня можа забіць чалавека нават пры відавочным злачынстве—гэтае права дана толькі судзьдзям у сталіцах. А ў нас па ўсіх сёлах і вёсках робяцца прысуды аб жыцьці людзей. Прытым на абарону гаспадарства бярэм мы падаткі з адных толькі падуладных нам бедных гаражан і з бяднейшых сялян, зусім не чапаючы маёнткаў уласьнікаў, якія атрымоўваюць значна больш з сваіх уладаньняў“.

З устаўных каралеўскіх грамат відна, што сялянства Літвы і Беларусі падзялялася на падданых або цяглых людзей і на чэлядзь нявольную. У ваднэй з такіх грамат чытаем: „Калі мужык супроць загаду дзяржаўцы або яго ўрадніка ня выйдзе на працу адзін дзень, або будзе непаслухмяным, дык узяць з яго за гэта ня болей барана; калі-ж выявіць упартасьць, дык караць яго нагайкай або пугай“.

У статуце сваім кароль Жыгімонт на аснове земскіх прывілей папярэднікаў Казімера і Аляксандра, дае абяцаньне ахоўваць Вялікае Княства і паноў рады ад усякага паніжэньня. Замацоўваючы правы княжатам, паном, шляхце і баярам, кароль адначасна абяцае простых людзей над шляхтай ня ўзвышаць. За пабоі, нанесеныя шляхцічам шляхцічу, вінавайца плаціць дванаццаць руб. грошай; калі-ж вінавайца ніжэйшага стану дык караецца адсячэньнем рукі. Яшчэ лепш азначаны правы „чорных людзей“

[1]) Соловьев. История России. Т. 7.

[2]) Браун Ciwitates orbis Terarum.

у грамаце вялікага князя Аляксандра кіеўскім мяшчанам: „Халопу і рабе ня верыць і ў сьведкі іх ня прымаць; з нявольным чалавекам суду няма“.

Досыць добра дапаўняе гэты сумны малюнак распаўсюджанае ў той час хабарніцтва і прадажнасьць судзьдзяў. Міхалон скардзіцца на судовыя паборы: „Бярэ старшыня суду, бярэ слуга суду, бярэ натарыус, бярэ віж, што назначае дзень суду, бярэ дзецкі, што выклікае падсуднага, бярэ ўраднік, што выклікае сьведак. Кожнаму сьведку верадь бяз прысягі; ад гэтага шмат хто зрабіў сабе промысел з крывасьведцтва. Ваяводы маюць яшчэ сваіх намесьнікаў, якія, гадуючы сваё цела, сядзяць звычайна на судзе пры шуме гасьцей, мала знаёмыя з законамі, але акуратна спаганяючыя свой перасуд“.

Грубасьць, забойствы, самапраўства, прыгнечаньне панамі працоўнага сялянства пад канец XVI веку даходзіць да таго, што тыповы прадстаўнік шляхты, польскі поэта Рэй, ня можа нічога іншага прыдумаць, як зрабіць такое навучаньне: „Калі хочаш паляваць, дык не перабівай нябачліва ўсіх зайцоў, а таксама сьцеражы сваіх сялян, іначай яны перамруць або разьбягуцца, як зайцы, і табе-ж будзе горш.

Але ня лепш жывецца і жыхаром гораду. У 1527 годзе кароль Жыгімонт прымушан быў пісаць полацкаму ваяводзе Пятру Кішцы, каб ён не парушаў Магдэбурскага права, дадзенага гораду: у грамаце гаворыцца, што войт, бурмістры, радцы і ўсе мяшчане ня раз скардзіліся каралю на забойствы, пабоі, рабункі, якія яны цэрпяць ад ураднікаў і слуг ваяводзкіх, што кароль ня раз пісаў ваяводзе з патрабаваньнем спыніць гвалт, але ваявода яшчэ больш пачынаў уціскаць гаражан. Скардзіліся палачане не на аднаго ваяводу, але на князёў, паноў, баяр полацкіх, на ігуменьню і на манахаў. Мяшчан, якія купляюць зямлю ў баяр і ў іншых путных людзей, ваявода загадвае ставіць перад сабою і судзіць іх, шмат каго з рамесных людзей да сябе забраў і прымушае іх на сябе працаваць.

У Вільні і іншых гарадох таксама часта быў неспакой паміж самымі гаражанамі, начальствам іх, бурмістрамі і радцамі.

Аб тым, як небясьпечна было жыць у Вільні, сьведчыць духоўны тэстамант папа Мацея, які трымаў пры сабе некалькі ружжаў і сабляў.

Але працоўныя масы цэрпяць ня толькі нядолю і няволю: над імі яшчэ вісіць непраглядная цемра. Эпоха Ф. Скарыны ня можа пахваліцца і станам асьветы. Праўда, элемэнтарныя школы існавалі пры цэрквах, манастырох, але яны былі слабой падмогай адукацыі.

Адзін пісьменьнік таго часу, аўтар „Перастрогі“, з болем у сэрцы піша аб гэтым у XVI веку: „Былі вялікія абаронцы паміж князямі, якія з вялікімі выдаткамі цэркваў і манастыроў намуравалі і маемасьцю іх даставілі, золатам і серабром іх упрыгожылі, але тое, што было больш за ўсё патрэбна, школ заўсёдных, не будавалі. Ад татарскіх нападаў і княскіх нязгод цэрквы з іх упрыгожаньнямі раскрадаліся, багацьце іх

рабілася здабыткам ворагаў; адно, што магло вытрымаць гэтыя нязгоды,— была асьвета, але яе дык і ня было. І так вельмі шмат зашкодзіла панству, што не маглі школ і навук паспалітых пашыраць і оных ня ўфундавана: бо калі-б навуку мелі, дык тады-б за несьвядомасьцю сваёю ня прышлі да такой загубы.

Пры такім сумным стане адукацыі, беларускае духавенства, зразумела, не магло адпавядаць свайму прызначэньню. Адукацыя яго абмяжоўвалася, звычайна, аднэй толькі царкоўна-славянскай начытанасьцю. Вядомы перакладчык эвангельля на беларускую мову Васіль Цяпінскі гаворыць, што праваслаўныя сьвяшчэньнікі яго часу ня мелі ніякай адукацыі і нават не разумелі славянскай мовы, на якой напісаны сьвятыя кнігі.

Што тычыцца *народнае* асьветы, дык пра яе, зразумела, і гаварыць ня прыходзіцца.

Толькі з другой паловы XVI веку, пад уплывам запатрабаваньняў эпохі—стычкі польскага і літоўска-беларускага капіталаў, барацьбы двух нацыянальных культур, польскай і беларускай, націску протэстантызму,— пачынаецца некаторае школьнае ажыўленьне. На Беларусі зьяўляюцца каталіцкія, вуніяцкія і протэстанцкія школы. Апошнія, дзякуючы вольным адносінам да царкоўных традыцый, значна адрозьніваліся ад школ праваслаўных і каталіцкіх, а гэта зьявілася вельмі важным штурхачом у разьвіцьці вольнай крытычнай думкі. Адчуваецца некаторая зьмена і ў стане праваслаўных школ; асабліва гэтая зьмена тычыцца школ, што адчыняюцца і кіруюцца брацтвамі.

Апошнія ў XVII веку шырокай хваляй разьліваюцца па Беларусі. Яны адчыняюць школы, вядуць нацыянальна-культурную барацьбу, рупяцца аб падняцьці рэлігіі і маралі і г. д.

Вышэй мы ў агульных рысах разгледзім той час, калі жыў і працаваў Ф. Скарына, але і гэтага даволі, каб угледзець у ёй досыць выразныя пярэчаньні ідэалам сярэднявякоўя.

Як вядома, стары сьветагляд цалком узгадаваўся на фэўдальнай будове. Галоўнай яго адзнакай быў аскэтызм у поглядах на прыроду і чалавека, які патрабаваў, каб індывідуальнасьць нішчылася, каб у манастырскай самоце і жабрацтве, ня ведаючы ні здавальненьня, што дае праца, ні сямейных радасьцяй, чалавек аддаваўся-б толькі адным малітвам і калецтву цела. Усё вучэньне тэолёгаў у сярэднія вякі грунтавалася на падставе: „Бог ёсьць дабро, а сьвет ёсьць зло". Адгэтуль склаўся погляд, што зямное жыцьцё мае не самастойную, а адносную каштоўнасьць, што пажаданы момант прыдзе для чалавека толькі тады, калі сьмерць вызваліць яго вечную душу ад ланцугоў праклятага цела. Як вядома, у старажытныя часы ўслаўлялі жыцьцё, а сьмерць лічылася вялікім няшчасьцем; у сярэднія вякі, наадварот, увесь асяродак цяжару бачылі ў загробным сьвеце і стваралі нейкі апотэоз сьмерці. Папа Іна-

кенці III так кажа: „Мы паміраем, покуль жывем, і толькі тады перастаем паміраць, калі перастаем жыць“. Дзеля гэтага вельмі шырока распаўсюджваецца байка аб храстве сьмерці. Казалі, што каля пахаванага цела аднага сьвятога ўзімку зацьвілі кветкі, а з сэрца аднаго паслушніка вырасла надзвычайна прыгожае дрэва з надпісам „Ave Maria“.

„Сьвет пярэчыць богу, а бог пярэчыць сьвету“—вось выраз сьв. Кацярыны Сіёнскай, які ляжаў у васнове сярэднявяковага сьветагляду. У сувязі з гэтым, *адмаўленьне* ўсяго зямнога было, па словах аднаго вучонага, залатым фонам на малюнку сярэднявяковай культуры.

Адмаўлялася ўласнасьць, адмаўлялася вольнасьць думкі і вольнасьць дзеяньня, адмаўлялася асабістая воля і асабістая ініцыятыва. Калецтва цела дахадзіла да такой ступені, што адзін з каталіцкіх сабораў, а іменна Латэранскі, зусім зганіў вывучэньне мэдыцыны. Дый на што лячыць цела, калі ўвесь сьвет—уласнасьць шатана, калі зямное жыцьцё—даліна сьлёз і юдаль плачу, а дзеля гэтага ня мае ніякай каштоўнасьці. „Гіпократ вучыць, як захаваць цела, а Хрыстос вучыць, як яго загубіць“, так зазначае сьв. Бэрнард Клервоскі.

Зразумела, такія суровыя патрабаваньні сярэднявяковай моралі не маглі дакладна выконвацца. Яны сталі выклікаць супроць сябе рэакцыю, пачала паўставаць сама прырода чалавека. Але чым больш зьнявераная на практыцы сярэднявяковага жыцьця чалавецкая прырода заяўляла свае правы, тым больш лютай і нецярплівай рабілася сярэднявяковая мараль. І такая адарванасьць сярэднявяковых ідэалаў ад жыцьця падрыхтавала іх канчатак: яны пачалі губляць аўтарытэт у вачох людзей самага рознастайнага складу думкі.

Эпоха Ф. Скарыны—лепшы прыклад у гэтым. Той заняпад рэлігіі і моралі, аб якім гаварылася вышэй, ці ня ёсьць гэта выразная рэакцыя супроць аскэтычнага ідэалу сярэднявякоўя? Праўда, гэты ідэал і раней на Беларусі высока не падымаўся, але цяпер, у сувязі з зьмененымі эканомічнымі адносінамі, ён зусім у заняпадзе.

Як было зазначана, Беларусь у гэты час пераживае моцны эканомічны ўздым. Фэўдалізм пышна цьвіце, але яго ў значнай меры падмываюць хвалі гандлёвага капіталу. Узрастаюць гарады, як асяродкі гандлю і некаторай большай у параўнаньні грамадзкай вольнасьці, павялічваецца роля грошай, павіннасьці перакладаюцца на грошы, зьяўляецца кляса купцоў-профэсыяналаў. Створаны гэтай эволюцыяй чалавек-купец, гараджанін—ужо новы чалавек. Сярэднявяковыя ідэалы трацяць уладу над ім, у яго зьяўляюцца новыя ідэалы. Высоўваецца на першае месца індывідуальнасьць, моцная ахова праў вольна разьвіваючайся асабістасьці.

Новыя адносіны яшчэ нарадзілі і новы стан, невядомы сярэднім вяком. Гэта—сьвецкая інтэлігэнцыя, людзі навукі і літаратуры, якія маюць буйны ўплыў на грамадзкае зданьне шляхам выпрацаваных імі самымі сродкаў.

На Беларусі буржуазія вылучае з сваіх гушч такіх гуманістых, як Ф. Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, якіх магчыма залічыць у шэраг пачынальнікаў беларускай публіцыстыкі. Сьвятло вольнага досьледу, ня прыгнечанага ні догмай, ні аўторытэтам ведаў, акрыляе іх думку. Усе яны прасякнуты вялікім нацыянальна-політычным пачуцьцём. У той час, калі шляхецкія дзеячы заняты аформленьнем сваіх політычных праў, гарадзкія дзеячы беларускага адраджэньня больш увагі аддаюць народным масам. Родная мова, як сымболь нацыянальнай культуры, як буйны фактар у справе нацыянальна-культурнага адраджэньня, становіцца прадметам іх асаблівай увагі.

У той час, калі нават сярод сучаснага грамадзянства яшчэ здараюцца выпадкі зьняважлівых адносін да мовы тэй ці іншай нацыі, Сымон Будны ў адзін голас кажа: Głupstwo to jest mową jednej krainy gardzić, a drugiej słówka pod niebiosa wynosić.

Урэшце, заўважым, што беларускі гуманізм, як і нямецкі, захоўваючы асноўныя рысы эпохі Адраджэньня, адрозьніваўся перш за ўсё больш моцным патрыотызмам і рэлігійнасьцю яго прадстаўнікоў, а гэта адбудзіла цікавасьць да сьв. пісаньня і жаданьне зрабіць яго даступным для шырокіх мас, даўшы друкаваным на роднай мове. Тут мы падыходзім да надзвычайна вялікай зьявы ў гісторыі Беларусі—гэта пачатак беларускага друку.

## II

Штукарства друкаваньня кніг зьяўляецца і распаўсюджваецца ў XV в., калі ідэі эпохі Адраджэньня вызвалілі поэзію, навуку і штукарства ад путаў схолястыкі і прабудзілі дзейную барацьбу за вольнасьць думкі і сумленьня. Друкарскі станок зьявіўся магутнай падмогай у гэтай справе. Хто першы сьвядома дадумаўся да гэтай вынаходкі—дакладна ня высьнена. Але што ў гэтым пальма пяршынства прыналежыць Майнцу і Іогану Гутэнбэргу—дык гэта факт агульна прызнаны (за выключэньнем Голяндыі) і падмацаваны спэцыяльнымі досьледамі ня толькі нямецкімі, але францускімі, італьлянскімі і ангельскімі. Зьявіўшыся, такім чынам, у Нямеччыне, у сярэднія вякі, штукарства друкаваньня кніг паступова пашырылася і на суседнія старонкі. Яно потым атрымоўвае настолькі вялікае значэньне ў справе сусьветнай культуры, што ў наш час бяз друку цяжка і ўявіць сабе гэтую культуру. Нездарма сам Іоган Гутэнбэрг назваў друкарства: „Штукарства над штукарствам, навука над навукай“. Словам, дзеля важнасьці друкаванага слова першыя друкары, бязумоўна, могуць быць залічаны ў шэраг будаўнікоў і закладчыкаў сучаснай культуры і цывілізацыі. А такім друкаром на Беларусі быў, як зазначана, Ф. Скарына.

Час, калі ён жыў і працаваў, азначаецца найвышэйшым росквітам беларускай нацыянальнасьці і яе культуры. Беларуска-літоўскія гарады робяцца асяродкамі ня толькі гандлю, але і культурнага руху, значна

большага, чым шляхецкі. Сярод іх першае месца займае Вільня, як галоўны асяродак і па матэрыяльных сродках, і па адукацыі. Дзякуючы гандлёвай сувязі з Захадам, насельніцтва г. Вільні складалася з рознастайнага нацыянальнага элемэнту. Прысутнасьць у Вільні немцаў была прычынай збліжэньня Літвы і Беларусі з Нямеччынай і гэтым самым дапамагла прытоку тых рэформацыйна-рэлігійных ідэй, якія ахаплялі нямецкую шляхту і буржуазію ў XV і першай палове XVI веку. Літоўска-беларускія гарады падтрымоўваюць таксама культурную сувязь і з італьянскімі гарадамі, куды езьдзіла вучыцца літоўска-беларуская шляхецкая моладзь. Паміж праваслаўем і каталіцтвам устанаўляюцца добрыя адносіны. Кароль Аляксандар і Жыгімонт сваімі граматамі ня раз падкрэсьлівалі правы праваслаўных, давалі ім некаторыя прывілеі і наогул ня ўціскалі. А кароль Аляксандар у 1503 годзе выдаў цікавую грамату, якая сьведчыла аб сіле праваслаўя на Беларусі: „Которыи будутъ литвинъ або ляхъ крещены были у Витебску въ рускую вѣру, а хто изъ того роду и теперь живетъ, того нам нерушити, правы ихъ хрестіяньского ни въ чем не ломити“ [1]).

Вялікае Літоўскае Княства ў культурных адносінах зьяўлялася беларускім. Беларуская мова была мовай дзяржаўнай. Гаспадарчыя лісты, граматы, соймавыя ўхвалы публікаваліся ў беларускай мове. Апошняя ўжывалася і ў гаспадарчай канцэлярыі, і ў судовых справах. У статуце 1556 году было выразна зазначана: „Пісар земскі абавязан усе лісты і позвы пісаць паруску (так называлася ў тагочасных дакумантах беларуская мова), а не на іншай якой-небудзь мове“. Судзебнік 1468 году і статут 1529 году, розныя прывілеі публікаваліся на беларускай мове. На гэтай-жа мове пісаліся беларускія летапісы, хронікі, жыціі сьвятых і г. д. Як даводзіць проф. У. Пічэта: „Толькі дзякуючы сваёй магутнай культуры, Беларусь мела магчымасьць культурна праглынуць Літву, толькі дзякуючы свайму значнаму разьвіцьцю, беларуская мова здолела зрабіцца мовай дзяржаўнай [2]).

Росквіт беларускай культуры ахапляе ўсё XVI стагодзьдзе, калі багацьце і сіла беларускага духоўнага жыцьця знашла поўнае выяўленьне і дала такога вялікага дзеяча, як Ф. Скарына.

На вялікі жаль, да нас дашлі самыя нязначныя весткі аб яго жыцьцёпісе. Мы дакладна ня ведаем ні году яго нараджэньня, ні году яго сьмерці, ні падрабязных ведаў аб яго жыцьці. Добра ведаем толькі, што ён сын заможных купцоў, якія вялі ў той час гандаль з Вільняю і Рыгаю; родам, як сам ня раз зазначае, „з слаўнага граду Полацку“, дзе і атрымаў першую адукацыю. Далей у рукапісных актах Кракаўскага унівэрсытэту 1504 г. сустракаем: Franciscus Luce de Poloczko, solrit 2 gr— што пабеларуску значыць: Францішак сын Лукаша з Полацку заплаціў 2 грошы. Гэтыя два грошы, як уступная плата, вымагалася ад кожнага

[1]) Акты Зап. России. Т. I. № 204.

[2]) В. И. Пичета. Белорусский язык, как фактор национально-культурный.

паступаючага ў унівэрсытэт студэнта. Але прымаючы пад увагу, што па тагочасных умовах у ўнівэрсытэт прымалі не маладзей 14 год, магчыма думаць, што час яго нараджэньня прыпадае на 1490 год. Такой думкі, прынамсі, трымаецца вядомы дасьледчык Скарыны П. Уладзіміраў [1]).

Менш праўдзівай будзе другая дата нараджэньня Скарыны, якую даводзіць проф. М. Шчэкаціхін у сваім артыкуле: „Калі радзіўся Францішак Скарына“ („Полымя“ № 5—1925 г.).

Грунтуючыся на дапушчэньні (вельмі гадальным), што знак у „гэрбе“ Скарыны тлумачыцца, як знак зацьменьня, ён ставіць гэта ў сувязь з сапраўдным сонечным зацьменьнем (гадана), а гэта апошняе да дня яго нараджэньня (гадана).

Перабіраючы сонечныя зацьменьні за апошнюю чвэрць XV веку і за першую палову XVI, прыходзіць да выватду, што дзень нараджэньня Скарыны: 6 сакавіка 1486 году.

Як бачым, дапушчэньне грунтуецца на дапушчэньні, а дзеля гэтага і вывад яго вельмі спрэчны.

Што тычыцца далейшай адукацыі Скарыны, дык наконт гэтага ёсьць такія весткі. У ліку атрымаўшых першую вучоную ступень бакаляра філёзофіі ў Кракаўскім унівэрсытэце знаходзім імя Скарыны: „Franciscus de Poloczko Litphanus“. У Кракаве выкладаліся тады вядомыя ў сярэднія вякі сем вольных навук, якія грунтаваліся на лацінскіх трактатах з укладаньняў Арыстотэля па рыторыцы, лёгіцы і эстэтыцы. Навукі гэтыя вось якія: граматыка, лёгіка, рыторыка, фізыка з арытмэтыкай і геомэтрыяй, музыка, астрономія, дакладней, астролёгія і навука складаць каляндар. Аддзел мэдыцыны быў пастаўлен слаба і толькі ў 1526 годзе, як даводзіць гісторык Лукашэвіч[1]), быў выпушчаны першы мэдык з Кракаўскага унівэрсытэту. У той час пераважным кірункам у апошнім быў тэолёгічны, бо знаходзіўся ў руках каталіцкага духавенства.

Доктар, выкліканы да хворага, павінен быў перш за ўсё даваць яму раду аб збавеньні душы, а ўжо потым лячыць цела.

Такі погляд на дактароў знаходзім мы і ў Скарыны ў прадмове да „Кнігі Судзей: „Внегда каемся грѣховъ своихъ, то посылаеть нам гдь Бог Пастырей и докторовъ, они же научають насъ противитися бѣсовскімъ покусамъ“. Апрача навукі, Скарына прыглядаўся да культурнага жыцьця Зах. Эўропы і асабліва да друкарскай справы. Апошняя ў той час ужо была добра нарыхтавана. Там у 1491 годзе немцам Швайпольтам Фэолем былі выданы для Літвы і Беларусі першыя, друкаваныя ў царкоўна-славянскай мове кніжкі: „Октоіх“, „Часасловец“, Дзьве трыодзі“ і „Псалтыр.“

Пасьля Кракава Скарына недзе вандруе і невядома дзе здабывае сабе вучоную ступень доктара „eximiarum artium“, што значыць—доктара зазначаных вышэй, сямі вольных навук.

[1]) П. В. Владимиров. Доктор Ф. Скарына, его переводы, издания и язык (1888).
[2]) Historja szkół w Koronie i w wielkim Księstwie Litewskim.

У той час мэдыцынай славіўся Падуянскі унівэрсытэт у Італіі. Як даведваемся з захаваўшыхся там дакумантаў, Скарына і прыяжджае сюды ў 1542 годзе. Прыехаўшы, ён зьвярнуўся да намесьніка прыора, доктара Тадэуша Мусаці, і заявіў, што жадае трымаць экзамен на доктара мэдыцыны. Просьба была заўважана.

У бліскучым біскупскім палацы, перад шматлюднай мэдычнай колегіяй, Мусаці паведамляе, што зараз будзе экзаменавацца дужа вучоны, ужо маючы вучоную ступень доктара „artium", прыехаўшы з далёкага краю, малады грамадзянін па іменьні: „Dominus Franciscuc Scorina de Poloczk o Ruthenus". Экзамен адбыўся, і Скарына аднагалосна быў прызнаны доктарам мэдыцыны.

Гэтак стаў ён першым на Ўсходзе Эўропы доктарам мэдыцыны, або, як сам падпісваўся: „Въ наукахъ вызволеныхъ и въ лекарскихъ докторъ"?

Дужа вучоны для свайго часу, як бачым, поўны энэргіі і сіл, прасякнуты ідэямі гуманізму, Скарына задумаў надзвычайна вялікую і цяжкую справу: „Вырозумения ради простыхъ людей", як сам пісаў, даць ім кнігі сьв. пісаньня ў друкаванай і зразумелай ім беларускай мове.

Дзеля гэтай мэты едзе ў Прагу чэскую, дзе яшчэ з XIV веку існавала сталая літоўска-беларуская колегія, заснаваная Ядвігай пры Праскім унівэрсытэце.

Тут пры актыўным удзеле віленскіх мяшчан—Багдана Онькава, Якуба Бабіча і іншых—закладае друкарню, працуе над перакладам біблейскіх кніг і над іх надрукаваньнем.

З 1517 па 1519 год выходзяць адна за аднэй 22 кнігі Бібліі і Псалтыр.

Па характву друку гэтыя выданьні стаяць вышэй за ранейшыя славянскія (Фэоля), сучасныя ім вэнэцыянскія і нават лепей, чымся нямецкія пачатку XVI веку. Да іх даданы прадмовы і кароткія пасьляслоўі, дзе знаходзім выразы: „Книга выдана повѣленіем, працею и выкладам Скорины". Сустракаюцца і такія выразы: „Казал есмы тиснути". З гэтага відаць, што сам Скарына, калі ня быў складальнікам кніжак, дык ён перакладаў іх на беларускую мову і магчыма сам вёў корэктуру.

Разьмер выданьня—чвэрць аркушу, літары рознай велічыні, прыгожа зробленыя; цікавыя мініятуры на біблейскі зьмест, віньеткі, завітушкі і канчаткі; надзвычайна прыгожыя вялікія літары; ёсьць вялікія застаўкі з чалавечымі фігурамі і гэрбам, а таксама малыя застаўкі з белымі малюнкамі на чорным фоне з красак і лісьця. Гэрб Скарыны, як ужо казалі,—сонца, прыкрытае месяцам у сярэдзіне. Пры аднэй з біблейскіх кніг Скарыны дададзен яго портрэт ва ўвесь узрост, які потым быў адноўлены ў вядомым выданьні Равінскага па гісторыі расійскай іконаграфіі.

Цікава зазначыць, што рукапісная біблія Вецынскага манастыра (Залочаўская акруга ў Галіччыне), якая потым апынулася ў сьвята-Ануфрыйскім манастыры, складаецца з пяці кніг Майсеевых, Кнігі Судзей, Руфь, Царств і Параліпомэнан, што былі перапісаны ці перакладзены ў 1575

годзе. Пры параўнаньні гэтых кніг з адпаведнымі кнігамі, што маюцца і ў Бібліі Скарыны, аказваецца, што яны складаюць часткаю сьпіс, часткаю пераробку перакладу Скарыны, але, апрача таго, сьвята Ануфрыйскай бібліі ёсьць дзьве кнігі „Параліпомэнан“, якіх няма ў Скарыны. Адгэтуль вучоныя робяць правільны вывад, што і гэтыя кнігі былі перакладзены Скарынаю, але ці засталіся ў рукапісе, ці мо' друкаваныя—іх выданьні да гэтых часоў ня знойдзены [1]).

Урэшце, зазначым, што біблія Скарыны ў гісторыі друкаванага пісьменства займае трэцяе па чарзе месца. Першая друкаваная біблія была, як вядома, нямецкая, а другая—чэская.

Але бацькаўшчына пацягнула да сябе гэніяльнага друкара. Як сам зазначае ў прадмове да кнігі Юдыф: „Понеже отъ прироженія звѣри, ходящіе въ пустыни, знають ямы своя; птицы-лётающіе по воздуху, вѣдають гнѣзда своя, рыбы, плывающіе по морю—и во рѣках, чують виры євоя, пчелы и тымъ подобная боронять ульевъ своихъ такожъ и люди, и где зродилися и ускормлены суть по Бозѣ, к тому мѣсту великую ласку имають“. Пад уплывам гэтай „ласкі“, гэтага каханьня бацькаўшчыны, ён забірае з Прагі ўсе свае друкарскія прылады і едзе ў Вільню.

Тут у 1525 годзе: „Въ дому почтивого мужа Якуба Бабіча, найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского“, закладае друкарню і выдае ў гэтым годзе дзьве кнігі: „Апостал“ і „Малую падарожную книжицу“.

Такім чынам, 1525 год—пачатак беларускага друку. Віленскі „Апостал“ Скарыны—першая друкаваная кніжка на землях літоўска-беларускіх і агулам на Ўсходзе Эўропы. Скарына называе яго „выкладам“, гэта значыць залічае, як і біблію, у лік перакладзеных на беларускую мову: „Еже замыкаетъ в собе“, як ён піша: „наипервеи деянія апостольская, потомъ посланеи святыхъ апостолъ, соборных седмь“.

Што тычыцца „Малой падарожнай кніжыцы“, дык у ёй: „Псалтырь зупольная, Часословецъ, Акафисты і Каноны, Шестоденецъ кратки, Светци краткіе и Поскалія на многа лета“.

Віленскія выданьні Скарыны ў параўнаньні з праскімі менш аздоблены, але ўсё-ж і тут тэхніка друку досыць высокая. Шрыфты і розныя друкарскія ўпрыгожаньні адзначаюцца харaством і могуць сьмела йсьці, як і праскія, у параўнаньні з друкарскімі выданьнямі Нюрнбэргу, што ў XVI веку гэтым вельмі славіўся.

На выданьні гэтых дзьвёх кніжак і спынілася далейшая друкарская праца Скарыны.

Аб далейшым яго жыцьці вестак знойдзена мала. Вядома толькі, што ён жаніўся, жыў бедна, меў даўгі, скардзіўся каралю на розныя крыўды. З 1529 па 1532 год судзіўся з сваім братам Янам і быў засуджаны

---

[1]) Чистович. „Очерк истории западно-русской церкви“.

на конфіскацыю маемасьці. Усё гэта, разам узятае, не магло не адбіцца на далейшым працягу яго друкарскай працы. Пашкодзіў гэтаму і пажар у 1530 годзе, ад якога згарела 2/3 гораду Вільні, а ў 1533 годзе страшэннае маравое паветра.

Скарына меў два іменьні: Георг і Францішак. Ёсьць здогад, што спачатку ён быў праваслаўным і меў імя Георга. Гэтая думка (яе трымаецца і П. Уладзімераў) падмацоўваецца тым, што ў Полацку, як вядома з гістарычных дакумантаў, у канцы XV і пачатку XVI веку ня было ніводнага каталіцкага касьцёлу; але каб паступіць у Кракаўскі унівэрсытэт, магчыма, што прыняў каталіцтва і атрымаў імя Францішка.

Апошні раз сустракаецца яго імя ў судовых актах за 1535 год, якія гавораць аб названай яго цяжбе з сваім братам. Такім чынам, яшчэ ў гэты год Скарына жыў, бо ў актах гаворыцца аб ім, як аб жывым. Больш вестак ня знойдзена і калі памёр—невядома.

Рэшткі яго друкарні ў 1575 годзе перашлі да заможных віленскіх купцоў братоў Мамонічаў, якія ўжо далей працягвалі друкарскую працу, пачатую Скарынай і праславіліся сваімі выданьнямі ня толькі на Беларусі, але і за яе межамі. Аднак, гэта ўжо было чыста гандлёвае прадпрыемства, далёкае ад ідэйных імкненьняў Скарыны і ў гісторыі беларускага пісьменства ня маюць асаблівага значэньня, бо ня ўносілі з сабою нічога новага.

## III

Эпоха Адраджэньня, кажучы ўвесь час аб зьнішчэньні гістарычных соцыяльных адгародак, стварыла новыя зусім штучныя. З самага пачатку гуманізм выпрацаваў сабе моцную арыстократычную выключнасьць, якая зрабілася пракляцьцем для далейшай гісторыі. Сярэднія вякі давалі прыступ да сваёй культуры, якой-бы яна ні была, рашуча ўсім, у гэтым стасунку яна была больш дэмократычнай. Паміж усімі станамі грамадзянства існавалі самыя рознастайныя культурныя сувязі і ня было цэху вучоных. Гуманізм зрабіў гэты цэх, і ён з бегам часу атрымаў усё большую і большую выключнасьць. Зьнявага к profanum wulgus, зьнявага да народнага прысуду, якая даходзіла да чыста рэнанаўскай нянавісьці,—вось той настрой, які панаваў сярод гуманістых у адносінах да народу. Гуманізм стварыў сярод народу другі народ, што гаварыў на зусім незразумелай яму мове. Мова, права, рэлігія, адукацыя—усё ў іх было другое. Асабліва шкодным было гэтае адчужэньне ад народу ў межах літаратуры, як, напрыклад, ва Францыі, дзе нібы-клясыцызм цяжэрным каменем прыціснуў гэніяльны ўзьлёт думкі Корнэля і Мольера.

Цураючыся народу, эпоха Адраджэньня была пазбаўлена глебы, што жывіць і не пашла ў глыбіню. Яна вызваліла думку, але, застаючыся ізоляванай кастай, літаратурным цэхам, гуманістыя ня здолелі далучыць да новай культуры шырокія народныя масы. Самыя іх ідэалы былі ары-

стократычны. У іх ня было нічога такога, што здолела-б захапіць народ, а рэлігійны індыфэрэнтызм, зразумела, ня мог зрабіцца такой сувязьзю паміж інтэлігэнцыяй і народам.

І гуманізм застаўся-б мерцьвяковым рухам, калі-б ня ўліўся, за выключэньнем Італіі, у больш магутную культурную плынь, а іменна— у рэформацыю, якая ўжо мела ў параўнаньні большую колькасьць дэмократычных элемэнтаў.

Ф. Скарына стаяў вышэй сваёй эпохі. Праўда, у яго Бібліі мы выразна не адчуваем духу рэформацыі. Няма тут ні полемікі, ні крытычных адносін да тэксту сьв. пісаньня. Дзеля гэтага не датрымоўвае крытыкі думка вядомага расійскага консэрватара князя Курбскага, які ў другой палове XVI веку пісаў: „Переводъ Скорины Полоцкого переведены не въ давних летехъ, аки летъ 50... съ препорченыхъ книгъ жидовскихъ“. Мяшаючы каталіцтва, протэстанцтва і жыдоўства ў адну гэрась, Курбскі дадае, што бачыў у лютэран: „Бібліі Лютеровъ переводъ, согласующе по все съ Скорининским Библіемъ“.

Такі погляд, бязумоўна, памылковы. Але затое, хто першы загаварыў аб сувязі пісьменства з народам? Хто так рашуча расьсек векавечныя путы царкоўна-славянскай схолястыкі перакладам Бібліі і іншых царкоўных кніг на беларускую мову?

Апошняя, праўда, не адзначаецца чыстасьцю. Робячы пераклады, Скарына ня меў магчымасьці карыстацца гэбрайскім ці грэцкім тэкстам і здавальняўся матэрыялам толькі з царкоўна-славянскіх кніжак і чэскай Бібліі. Дзеля гэтага яго мова знаходзіцца пад моцным уплывам царкоўна-славяншчыны. Нават сустракаюцца словы чэскія, польскія і нямецкія. Але ўсё-ж беларускасьць адчуваецца досыць выразна. Тут часта патрапаюцца і такія словы, што за 400 год ніколькі не зьмяніліся і цяпер яшчэ шырока ўжываюцца на Беларусі (борзда, бараніць, вінавацізь, вір, жыта, карагод, пуга, скрыня, віхор і г. д.).

У кожным разе, нельга згадзіцца з думкай названага вышэй П. Уладзімерава, што яшчэ задаўга да Скарыны магчыма азначыць у царкоўна-славянскіх помніках факты, якія прадстаўляюць хістаньне паміж царкоўна-славянскай мовай старадаўніх першатвораў і формамі мовы народнай і што з гэтага хістаньня, пачынаючы з XII і да пачатку XVI веку, паступова ўзрастае пытаньне аб мове народнай, агульна-зразумелай, заместа царкоўна-славянскай. *Гэта ў пэўнай форме выявілася ў працах Ф. Скарыны і поруч з тым тлумачыць яго кірунак.*

Справа ў тым, што ўсе гэтыя хістаньні, усе тыя ці іншыя папраўкі на палёх рукапісаў царкоўна-славянскіх слоў словамі беларускімі (так званыя глёсы) мелі выпадковы, пабочны кірунак. Скарына-ж сьвядома ставіць сабе *мэтай* пераклад Бібліі на беларускую мову і зазначае, што робіць з тэй прычыны: „Иже мя милостивый Бог съ того языка на свѣтъ пустилъ“.

У прадмове да кнігі Эсфір, кажучы аб перакладзе біблейскіх кніг на сваю „прироженую“ мову, ён яшчэ дадае, што малая заслуга нарадзіцца ў тэй ці іншай краіне: „Не толико сами собѣ народжвомся на свѣтъ, но болѣе ко службѣ Божіей и посполитого доброго“. Пад уплывам гэтых думак ён, як кажа: „И поднялся працы тое“.

Няхай „служба Божія“ для нас цяпер здаецца сьмешнай, але „паспалітае дабро“, якое ён паставіў галоўным заданьнем сваёй выдавецкай працы, жаданьне зрабіць карысьць свайму народу, даўшы яму кнігу ў роднай мове,—ці ня мае гэта вартасьці і ў нашы дні і ці ні яно, галоўным чынам, тлумачыць кірунак усёй Скарынінскай працы?

Толькі псалтыр, як падручнік да славянскай граматы, Скарына выдрукаваў на славянскай мове. Але жадаючы, каб народ лепш разумеў і яго, ён і тут уводзіць народныя словы, аб чым і піша: „Положилъ есми на боцѣх (на палёх рукапісу) нѣкоторыі слова для людей простых русским языкомъ (так называў ён тагочасную беларускую мову), што которое слово знаменуеть“.

Так ці іначай, але некаторымі ідэямі ён папярэдзіў сваю эпоху на цэлыя стагодзьдзі. Праз усе яго выданьні чырвонай ніткай праходзіць *ідэя сувязі пісьменства з народам*, тая ідэя, якая жыве і ў нашы дні.

Але Скарына не заставаўся глухім і да запатрабаваньняў сваёй эпохі.

Вышэй мы бачылі заняпад моралі, мы бачылі амаль поўную адсутнасьць народнае асьветы. Скарына *ідзе* гэтаму насустрэчу. Уся яго праца прасякнута ідэямі моральна-асьветнымі. Свой Псалтыр ён прызначае „дѣтемъ малымъ“ як „початок всякое доброе науки, грамоты, еже добре чести и мовить учить“. Яшчэ ясьней піша аб гэтым у прадмове да кнігі Премудрости Ісуса сына Сирахова: „Вся бо Соломонова и Арестотелева, божественная и житейская мудрость въ сей книзѣ краткими словы замкнена есть. Прото ж и я для похвалы Божіей и для посполитого доброго и размноженія мудрости, умѣнія, опатрености, разуму и науки приложилъ есмъ працу выложити книгу сию“. Сьвятыя кнігі, як паясьняе Скарына: „Пожытэчны суть всякому человѣку, наболѣй тымъ, они же хотятъ имѣти добрые абычае и познати мудрость и науку“.

Служыць пашырэньню граматы і асьветы, падымаць народную мораль—вось тыя ідэі друкарскай працы Скарыны, якія ня згубілі вартасьці і ў нашы дні і для служэньня якім ён ахфяроўваў сваё жыцьцё.

Яго друкарня ў Вільні, першая на Беларусі, зрабіла вялікую культурную місію для ўсяго славянскага Ўсходу. Даволі зазначыць, што пазьнейшыя нясьвіскія выданьні 1562 году, а таксама і першыя друкаваныя маскоўскія 1564 г. нясуць на сабе выразны ўплыў скарынінскага друку. У XVI і XVII веку пераклады і выданьні Скарыны знаходзяць сабе шмат прыпадабніцеляў. Нават Астроская Біблія 1581 г. прыпадабняецца ў шмат мясцох працам Скарыны. У Галіччыне яго Біблія была цалкам перакладзена на украінскую мову.

Урэшце, Скарына—першы будаўнік нашай літаратурнай мовы. Як магутны гэні Лютэра, даўшы сваім перакладам Бібліі ўзор нацыянальнай нямецкай мовы, нэўтралізаваў уплыў лацінскай адукаванасьці, так і Скарына зрабіў тое самае адносна царкоўна-славяншчыны, даўшы ўзор беларускай нацыянальнай мовы.

У гэтым стасунку яго постаць мігаціць аднаковымі бляскамі ў сэрыі сусьветных дзеячоў—першых будаўнікоў нацыянальна-літаратурных моў.

## IV

Сёлета прашло 400 год, як ня стала вялікага беларуса.

Буйны вучоны пачатку XVI веку, першы мэдык, друкар і перакладчык Бібліі на ўсходзе Эўропы, сейбіт народнае асьветы, адышоў у нябыцьцё, запісаўшы сваё імя ў „кнігу ўсіх народаў“ вялікай эпохі Адраджэньня.

Неўзабаве пасьля яго прыліў беларускай культуры зьмяніўся адлівам.

Падсечаныя фэўдалізмам, абвальваліся дзяржаўныя слупы, і Беларусь замірае палітычна і культурна. У цемры і нядолі, пад цяжкім крыжам крыўды і няпраўды, праходзіць беларускі народ свой гістарычны шлях.

Але адліў ізноў зьмяняецца прылівам.

Загрымеў вялікі Кастрычнік:

І край магіл, той край дзе жыў *Скарына*,
Зноў парадзіў пракокаў і байцоў.
Ідуць-брыдуць яны, бы Нёман з месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

(З. Бядуля. Верш: „Беларусь“).

У сялянскіх сьвітках і рабочых кашулях ідуць яны „родны край адбудаваць“. А сёлета ў дзень 400-я беларускага друку, ужо пры значным шуме бушуючых хваль адрадзіўшайся культуры, атуленыя цяплом соцыяльнай праўды, *пяюць па праву сваё мінулае ліха і славу*.

Полымя, 7, 1925

# АБ НЕЎСТАНОЎЛЕНЫХ ВЫПАДКАХ НАШАГА ПРАВАПІСУ

*(Адказ на артыкул Я. Лёсіка. Час. „Полымя" № 2, 1925 г.)*

**А. В. Багдановіч**

Пачынаючы гэты артыкул у вадказ на артыкул Я. Лёсіка, зьмешчаны ў час. „Полымя", я павінен адзначыць, што пішу зусім гэта не дзеля таго, каб распачынаць спрэчкі аб нашым правапісе альбо здабыць перамогу „на правапісальным полі бітвы", як думае паважаны аўтар вышэйадзначанага артыкулу адносна свайго рэцэнзэнта.

Але паколькі аўтар сам згаджаецца, што правапіс—рэч спрэчная, бо ў правапісе існуюць як правілы, абапёртыя на законы мовы, так і правілы, умоўна-прынятыя, то і трэба аб гэтых правілах крыху пагаварыць, тым болей, што наш правапіс яшчэ знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі і не зрабіўся, як адзначае і аўтар артыкулу, ува ўсіх сваіх частках сталым, аднолькавым.

Паважаны аўтар сам якраз тым і займаецца, што, каб дапамагчы сталасьці нашага правапісу, уносіць яснасьць альбо папраўкі ў тыя правілы правапісу, якія зьяўляюцца няяснымі альбо няправільна, з пункту погляду аўтара, умоўна прынятымі.

Але, робячы гэтую справу, аўтар, мне здаецца, дапушчае адну вялікую памылку.

Кажучы аб тым, што ў іншых правілах існуе на практыцы неаднолькавасьць напісаньня, аўтар абвінавачвае ў гэтым толькі няяснасьць альбо дрэннае формуляваньне гэтых правіл, ня бачачы другой, больш галоўнай прычыны, якая грунтуецца на імкненьні правапісу на практыцы да большменш аднолькавага напісаньня ў падобных адзін да аднаго выпадках, да правядзеньня прынцыпу, які ляжыць у васнове правіла, да канца.

Карацей кажучы, правапіс ня любіць выключэньняў з правіл, асабліва мала зразумелых і недакладных. Ён згодзіцца хутчэй з правілам, менш адпавядаючым законам мовы, чымся з правілам, якое грунтуецца на дакладных досьледах мовы, але складзена з вялікай колькасьці выключэньняў, якія патрэбна вывучаць напамяць, зусім не разумеючы неабходнасьці гэтых выключэньняў.

Вось гэта практычнае ўжываньне правапісу якраз не дагледжана аўтарам у гэтым артыкуле, а гэта асабліва важна таму, што гэтыя пра-

вілы ўжо ўвашлі ў „Беларускі правапіс“, які выдан дзяржаўным выдавецтвам у 1925 годзе і, такім чынам, зьяўляюцца як-бы афіцыяльна зацьверджанымі для выкладаньня ў школах.

З гэтага боку, галоўным чынам, я і лічу патрэбным зрабіць разгляд тых правіл, якія адзначаны аўтарам, як неўстаноўленыя, у яго артыкуле.

Такога падыходу да правапісу патрабуе як школа ў яе практычнай працы, так і само жыцьцё, тым болей, што гэта зусім ня будзе супярэчыць і прынцыпам правапісу наогул, бо мы ведаем, што дасканалае адпавяданьне правапісу досьледам мовазнаўства ня толькі немагчыма, а нават, шкадліва для правапісу з боку яго практычнага ўжываньня.

Цяпер разгледзем гэтыя правілы паасобку.

**Правапіс гукаў „ў“ і „й“**

Разглядаючы гэтае правіла, як яно формулявана ў правапісе Тарашкевіча, аўтар адзначае, папершае, няяснасьць тэрміну, які маецца ў Тарашкевіча для адзначэньня таго, калі гэтыя гукі бываюць складовымі альбо нескладовымі. Тарашкевіч кажа, што „на пачатку слова дзеля вялікшае складнасьці „у“, „і“ замяняюцца на кароткае „ў“ „й“, калі яны стаяць пасьля галоснага гуку.

Тут аўтар правільна крытыкуе слова „складнасьць“, кажучы аб тым, што гэтае паняцьце—надта індывідуальнае і абвінавачвае гэтае слова ў тым бязладзьдзі, якое зрабілася, дзякуючы гэтаму, у правапісе гукаў „ў“ і „й“, бо кожны разумее гэтую складнасьць так, як яму здаецца, у той час „як на пісьме кожны значок, кожная літара павінна падлягаць пэўнаму цьвёрдаму правілу, каб кожны аднолькава разумеў значэньне й месца гэтых літар на пісьме“ (глядзі артыкул „Полымя“ № 2, стар. 129).

З гэтым я цалком згодзен з аўтарам і лічу патрэбным гэта падкрэсьліць, бо далей аўтар аб гэтым, мусіць, забыўся.

Падругое, аўтар адмяжоўвае правапіс гукаў „ў“ ад правапісу гуку „й“, кажучы аб тым, што гэтыя гукі—розныя па прыродзе і займаюць рознае палажэньне ў мове, чаму яны і ня могуць кіравацца супольным правілам.

Што гэтыя гукі—розныя па прыродзе, ніхто ня будзе пярэчыць, але што іх агульная здольнасьць, стоячы паасобна ці ў пачатку слова пасьля галосных рабіцца нескладовымі, ня можа быць абгаворана ў адным правіле, ня зусім правільна.

Разгледзім гэта падрабязна.

Аўтар кажа, што розьніца паміж гукамі „у“ і „і“, калі яны стаяць асобна, тая, што гук „у“ заўсёды зьяўляецца прыназоўнікам, і адгэтуль знаходзіць, што вышэйпаказанае правіла адносна „ў“ можна лічыць здавальняючым, бо гэтае „у“, у выпадках пасьля галоснага заўсёды будзе нескладовым.

Што датычыцца „і“, то гэтае правіла здаецца аўтару нездавальняючым для яго таму, што „і“ ў іншых разох застаецца пасьля галоснага складовым.

Ня лічачы магчымым асьвятліць гэтую асаблівасьць гукавымі законамі, аўтар знаходзіць тут сынтаксычныя прычыны і, у залежнасьці ад іх, растлумачвае, у якіх выпадках павінна быць „і“, а ў якіх „й“.

Тут аўтар разглядае два моманты: першы—калі „і“ зьяўляецца ў ролі злучніка, і другі—калі „і“ зьяўляецца ў ролі памацняльнага дапаможніка, прычым і ў першым і ў другім выпадку „і“ бывае і складовым, і нескладовым. У першым выпадку „і“ бывае нескладовым, калі яно злучае ў зьлітым сказе дзьве аднолькавыя часьціны сказу непасрэдна, як, напрыклад: „Пуста й гола ўсюды“, „бацька й маці вярнуліся з поля“, „гром гудзе й гудзе бесьперастанку“.

Але калі паміж аднолькавымі часьцінамі зьлітага сказу стаіць паясьняльнае слова, „і“ застаецца складовым. Напрыклад: „Яны разам вучыліся і разам пасьвілі авечкі ў полі“, „ён цяпер мае свой прытулак, жывёлу і свой кусок хлеба“.

У другім выпадку („і“ ў ролі памацняльнага дапаможніка) „і“ бывае складовым толькі тады, калі на яго падае націск, калі-ж націску не адчуваецца, „і“ робіцца нескладовым, як, напрыклад: бяз націску—„прышло й лета“, „сіла й самому ломіць“ і з націскам:—„адны вочы і плачуць, і сьмяюцца“, „лянівому каню і дубіна ня страшна“.

На першы погляд гэтыя правілы здаюцца як быццам правільнымі з боку неабходнасьці адлучэньня правапісу гуку „й“, ад гуку „ў“, якое грунтуецца на немагчымасьці выводзіць гэтыя правілы з гукавых прычын.

Але гэта толькі на першы погляд. Бо па сутнасьці проці гэтых правіл пярэчыць ня можна, тут усё ад пачатку і да канца правільна, але з боку неабходнасьці адлучэньня правапісу „й“ ад „ў“ яны, якраз, няправільны.

Справа ў тым, што, пераносячы гэтыя правілы на грунт сынтаксычных прычын, аўтар праглядзеў тое, што здольнасьць гуку „і“ рабіцца складовым хоць і грунтуецца на сынтаксычных умовах, але паходзіць ад фонэтычных прычын—ад націску.

У вапошнім выпадку, з памацняльным дапаможнікам, аўтар сам аб гэтым і кажа.

У выпадку з злучнікам таксама прычынай таго, што „і“, злучаючы ў зьлітым сказе дзьве аднолькавыя часьціны сказу не непасрэдна, а праз даданае слова, робіцца складовым, зьяўляецца націск.

Гэта мы адразу ўбачым, калі прыгледземся да тых прыкладаў, якія дадае аўтар: „Яны разам вучыліся і разам пасьвілі авечкі ў полі“, „ён цяпер мае свой прытулак, жывёлу і свой кусок хлеба“. Вымаўляючы слова з даданым да яго словам, мы заўсёды павінны падкрэсьліць гэтае да-

данае слова, як адзнаку гэтага слова, а калі перад ім стаіць злучнік, то і гэты злучнік адчувае на сабе націск.

Такім чынам, ня трэба было зусім пераносіць гэтае правіла ў сынтаксычны аддзел, а адзначыць толькі, што „і“ ніколі ня бывае складовым, калі на яго прыходзіцца націск“, як гэта і зроблена ў першым выданьні правапісу.

Гэта будзе лягчэйшым і больш зразумелым дзеля практычнага вывучэньня правапісу гэтага гуку, бо якраз гэты закон пануе ў вершах, і калі мы робім дадатак да правіла, што ў вершах гэтае правіла можа парушацца, то тут і можна растлумачыць сувязь паміж націскам і складовасьцю гуку „і“.

Гэтае правіла, як бачым цяпер, зноў злучае ў адно правапіс „й“ з правілам „ў“, з якім тое самае робіцца ў вершах.

Такім чынам, мне здаецца, практычна больш адпавядаючым было формуляваньне гэтага правіла агульным як для „ў“, так і для „й“, дадаўшы агульную ўвагу, што „калі на „і“ альбо „у“ падае націск, яны ніколі ня бываюць нескладовымі“. Гэта ня будзе выклікаць ніякай блытаніны, бо адчуваньне націску заўсёды магчыма, але затое гэтым будзе зьнішчана тая нязручнасьць, якая выклікана тым, што, для вывучэньня правапісу „й“, аўтар пасылае з § 4 аж у § 30 (альбо, як памылкова надрукавана, у § 23), дзе зусім у іншым аддзеле тлумачыцца правапіс гэтае літары (бач Белар. правапіс 1925 г.). Зразумела, гэтым можна ня зьнішчаць і правіла ў § 30, з якім пасьля пазнаёміцца кожны, як з паўторным правілам.

Як відаць цяпер, пераапрацоўка аўтарам правілу аб правапісе гукаў „у“ і „і“ ніколькі не палепшыла правіла, але гэта яшчэ ня ўсё.

Перарабляючы правіла адносна правапісу „ў“, аўтар палічыў патрэбным дадаць да яго яшчэ папраўкі, якія, мусіць, павінны былі зрабіць гэтае правіла тым цьвёрдым правілам, якое ўжо ня будзе мець ніякай індывідуальнай блытаніны.

Дзеля гэтага ён дадае да правапісу гуку „ў“ выключэньне, у якім адзначае, што „ёсьць асобныя словы, якія мы ўжываем толькі з „у“ (складовым), напр.: увага, уважны, угода, умова, урад, упадак, уціск, уклад, ухвала і некат. іншыя“ (бач Белар. правапіс, § 4, прав. 5, п. 2). У артыкуле сваім аўтар паясьняе, што гэтыя словы лепш заўсёды пісаць з „у“ складовым.

Значыць, ніякага больш грунту, як „лепш заўсёды пісаць“, дзеля ўстаўкі гэтага выключэньня няма, бо чаму гэта „лепш“—аўтар ня кажа.

Што-ж гэта за „лепш“ і чаму яно прымусіла аўтара ўвясьці гэты дадатак, які, як лыжка дзёгцю, папсаваў усю бочку мёду тэй стараннасьці, з якой аўтар імкнуўся зрабіць правіла зусім дакладным? Ці ня будзе гэта тая самая „складнасьць“ Тарашкевіча, проці якой так абурыўся аўтар у пачатку свайго артыкулу, тым болей, што пералічвае тыя словы,

якія „лепш“ пісаць заўсёды з „у“ (складовым), аўтар дадае: „і некатор. іншыя“.

Хіба гэта не дае магчымасьці кожнаму разумець пад гэтым тое, што ён захоча?

Вось такія правілы якраз і выклікаюць тую блытаніну і тое бязладзьдзе, якое паважаны аўтар якраз і ня любіць, бо кожны, абапіраючыся на гэты дадатак, будзе пад „некаторымі іншымі“ разумець тое, што яму здасца.

Але, можа, гэтае выключэньне заснована на якіх-небудзь важных моўных законах? Зусім не.

Тут справа толькі ў традыцыйнасьці (а можа і ў няпісьменнасьці?), якая, мусіць, наглядалася аўтарам дзе-небудзь у нашай практыцы, бо, мне здаецца, нічым вымаўленьне гэтых слоў ня можа адрозьнівацца ад вымаўленьня ўсіх іншых.

Чаму, напрыклад, неадпаведным вымаўленьню будзе напісаньне: „Яна зьвярнула ўвагу“, або „пастанова ўраду“.

Тут, можа быць, гэта „лепш“ якраз і датычыцца тых момантаў, калі трэба гэтае слова падкрэсьліць альбо вымавіць больш выразна. Тады перад гэтым словам будзе зроблен перапынак, і наступнае слова апынецца як-бы пасьля знаку прыпынку. Але гэта датычыцца вымаўленьня, а ў правапісе гэтага і азначаць ня трэба, бо гэта паасобнае, а не агульнае здарэньне.

Адгэтуль мне здаецца патрэбным рашуча выкінуць гэтае выключэньне, як неадпавядаючае патрэбнасьці і толькі заблытваючае правапіс.

Зразумела, я не кажу аб гэтым выключэньні ў чужаземных словах, правапіс якіх грунтуецца на іншых прынцыпах, якія падлягаюць асобным правілам, аб чым будзем казаць ніжэй.

## Правапіс складаных слоў

Гэтае правіла аўтар складае нанова таму, што ў правапісе Тарашкевіча яго зусім няма. Тарашкевіч толькі ў правапісе складаных лічэбнікаў дае агульны прынцып напісаньня складаных слоў: „Лічэбнікі складаныя пішуцца так, як кожная часьць, калі яна ўжываецца асобна (семнаццаць, восемнаццаць, шэсьцьсот, восемсот, семсот)“.

На гэтым агульным прынцыпе аўтар і будуе свае паасобныя правілы правапісу складаных слоў.

Тут аўтар утворвае пэўныя дакладныя правілы, кладучы ў аснову іх напісаньня вышэйпамянёны прынцып для першай часткі складанага слова, а ў другой частцы слова адзначае, што яна падлягае аканьню, калі з яе зыходзіць націск на першую частку або на злучальны гук.

Злучальныя гукі таксама адзначаны, як гукі, якія падлягаюць аканьню.

Але і тут зноў усё правіла псуецца выключэньнямі, якія аўтар дадае да гэтых правіл і якія, на мой погляд, зусім непатрэбны.

Так, кажучы аб тым, што ў складаных словах, калі націск прыходзіцца на другую частку слова, трэба ў першай частцы захоўваць напісаньне „а“ і „е“ безнаціскных, аўтар кажа, што „словы, зложаныя з „поў“— поўгода, поўпята, поўшасты вярсты, поўвасьма, поўсема, поўчвартаста, поўпудовік, зажурыўся малойча ў поўдарожкі едучы; за маладога поўзалатога, але гэтыя словы можна пісаць з „а“, як—палукошык, палудзень, палуднаваць, дзе першая часьць мае форму „палу“, бо і „поў“ асобна рэдка ўжываецца“ (Белар. правапіс, § 19, прав. 4, п. 2).

Тут зноў аўтар не зразумеў, у чым справа. Бачачы тое, што словы, складзеныя з „палу“, як „палукошык, палудзень“, вымаўляюцца і пішуцца з „а“, ён тлумачыць гэта тым, што частка „палу“ паасобна ня ўжываецца, і гэта і лічыць прычынай такога вымаўленьня. За гэта яму хочацца і словы, складзеныя з „поў“, якое таксама, як кажа аўтар, рэдка ўжываецца асобна, падвясьці пад такое-ж правіла.

Але гэта яму зрабіць ня так лёгка, бо такое напісаньне яму здаецца няўдалым. У артыкуле ён, нават, кажа, што „такія словы, як „поўдарож, поўасьміны“, паказваюць, што лепш трымацца літары „о“. (Бач. „Полымя“ № 2. Арт. Я. Лёсіка, стар. 137).

А справа тут зусім ня ў тым, што тлумачыць аўтар.

Тут трэба зьвярнуць увагу, ці існуе ў сэнсе складанага разуменьне двух паняцьцяў, якія знаходзяцца ў каранёх абедзьвюх частак слова ці аднаго, зусім новага. У першым выпадку складанае слова будзе складаным і будзе падлягаць усім законам гэтых слоў, у другім выпадку яно ўжо робіцца нескладаным і, зразумела, не павінна падлягаць гэтым законам. Так, у словах „поўгода, поўасьмінны“ і інш., выразна адчуваецца паняцьце паловы таго, аб чым гаворыць другі корань гэтага слова.

Так „поўгода“=палова году, а „поўасьмінны“-тое, што зьмяшчае ў сабе палову асьміны і г. д.

Такія словы, як „палукошык, палудзень, палуднаваць“, не азначаюць „палова кошыка, палова дня або рабіць што-небудзь у палове дня“, а маюць ужо зусім іншае значэньне: „невялічкі кошык, час у 12 гадзін дня і есьці ў дзень“ і, як відаць, згубілі сваю складанасьць і ня могуць далучацца да складаных слоў.

Такім чынам, першыя словы патрэбна пісаць з „о“, бо яны, як складаныя словы, падлягаюць агульнаму правапісу аб правапісе складаных слоў, а другія ня трэба зусім і далучаць да складаных слоў, і яны павінны падлягаць агульнаму правілу, як і простыя словы, у якіх ненаціскное „о“ заўсёды пішацца праз „а“. Тое-ж непаразуменьне і ў другім выключэньні, якое аўтар робіць у п. 4 таго-ж правіла. „Калі ў тэй ці другой часьці складанага слова адбыліся фонэтычныя (гукавыя) зьмены, то такое складанае слова падлягае аканьню, напр.: „галялёд (з „голалёд“), галялёдзіца (з „голалёдзіца“), санажаць (з „сенажаць“), бадай („бог дай“), сваволя, сваволіць( але „своявольнік“), канавал, канавод

(з „каня вадзіць“), кажамяка (вельмі старое слова, калі „ж“ было яшчэ мяккае), селядоршы (другі пасьля старэйшага брат); этымолёгія (паходжаньне гэтага слова дакладна не дасьледжана), начлег, мядзьведзь або вядзьмедзь“ сюды трэба аднесьці словы: „сяголета, сягодня, сягоньня, сёньня ці сёньні“, бо слова „сей“ цяпер асобна ніколі ня ўжываецца. (Бел. правапіс § 19, прав. 41, п. 4).

Тут зноў справа ў тым-жа.

У такіх словах, як „бадай, сваволя, сваволіць, начлег, вядзьмедзь або мядзьведзь, сяголета, сёньня“, затое і адбыліся гукавыя зьмены, што яны ўжо страцілі сваю складовасьць і маюць ужо іншы сэнс, чым складаньне двух паняцьцяў тых каранёў, з якіх складзена гэтае слова. Калі кажуць „бадай“, то ніхто не зварочваецца тут да бога, або, кажучы „мядзьведзь“, ніхто ня думае ні аб „мёдзе“, ні аб тым, хто яго „ведае“, але толькі аб зьвяры.

Тое, мусіць, робіцца з словамі „галялёд“ і „санажаць“, хоць гэтыя словы, паколькі яны ўжываюцца і з напісаньнем „голалёд“ і „сенажаць“, трэба і захаваць з гэтым напісаньнем, ня робячы дзеля іх спэцыяльнага выключэньня.

Словы „канавал, канавод“ выразна адчуваюцца, як складзеныя з „каня“ (родн. склон адзін. ліку) і дзеясловаў „валіць“ і „вадзіць“, чаму і не выклікаюць непаразуменьняў паводлуг агульнага правілу.

Слова „селядоршы“, або „серадольшы“, як слова малазнаёмае і малаўжыванае, трэба, таксама не далучаць да складаных слоў, тым болей, што нават невядома і яго паходжаньне.

Слова „кажамяка“, мне здаецца, павінна падлягаць агульнаму правілу, як слова, выразна-складовае ў разуменьні таго, хто займаецца гэтай працай, і пісаць праз літару „о“.

Пісацца з „а“ яно стала ў прозьвішчы, у якім, зразумела, страцілася ўсякая складанасьць гэтага слова.

Таксама памылкова аднесена да складаных слоў аўтарам і прозьвішча „Багдановіч“ (выбачайце, кожны аб сабе клапоціцца), якое прапануецца дзеля гэтага пісаць з літарай „о“—„Богдановіч“. Справа ў тым, што гэтае слова паходзіць не ад слоў „бог“ і „дай“, а ад уласнага ймя „Багдан“, у якім даўно ўжо страцілася разуменьне яго складанасьці.

Такім чынам, і гэтае выключэньне можна, не пярэчачы навуковасьці, зьнішчыць, а дакладнасьць правіла будзе ад гэтага больш значнаю.

Трэба толькі добра растлумачыць, якія словы мы павінны лічыць складанымі, разглядаючы гэтую справу ня з боку гістарычнага паходжаньня слоў, а з боку сучаснага іх значэньня.

Толькі тыя словы, якія і цяпер выразна адзначаюцца, як складаныя, могуць лічыцца складанымі. Тыя-ж словы, у якіх гэта складанасьць адзначаецца толькі па гістарычным паходжаньні, ня могуць і лічыцца складанымі, бо, ідучы па гэтым шляху далей, мы павінны будзем прызнаць

складанымі ледзь ня ўсе словы, бо, нават, склонавыя канчаткі з гістарычнага боку зьяўляюцца па паходжаньні асобнымі словамі (займеньнямі), якія потым страцілі сваё значэньне.

## Правапіс чужаземных слоў

Галоўны прынцып правапісу чужаземных слоў таксама адзначан Тарашкевічам у яго правапісе, дзе ён падзяляе ўсе словы, запазычаныя з чужаземнае мовы, на два тыпы такіх слоў: 1) словы, якія ўзяты з чужаземнае мовы даўно і вядомы шырокім народным масам, як свае родныя, як, напрыклад: „літара, аканом, арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, камісія, камітэт, сэкратар, семінарысты“ і г. далей і 2) словы, якія ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дашлі або дашлі нядаўна, як, напрыклад: „тэлеграф, тэлеграма, монолёг, тэатр, інспэктар, рэдактар, дыктаваць, дыктант, дыктоўка“ і г. далей.

Агульна дзеля першых прапануецца захоўваць іх такімі, як яны чуюцца ў народнай мове, а дзеля другіх прапануецца пісаць іх так, як у тэй мове, з якой яны запазычаны.

Аўтар пакідае гэты агульны прынцып такім, як ён быў, і толькі дадае частку слоў да першага тыпу, як „сацыялісты“ і „камуністы“.

Тут адразу чуецца няпэўнасьць гэтага падзелу, бо надта цяжка адзначыць, якія словы трэба лічыць абеларушанымі, вядомымі народным масам і г. далей.

Аўтар сам прызнаецца ў гэтым і кажа, што „разьбіраць іх будзе школа, а крытэрыум установяць людзі навукі—мовазнаўцы, філёлёгі, хто знаецца на гэтай справе“ (бач. „Полымя“ № 2, стар. 142).

Вось гэтага крытэрыуму аўтар пакуль што нам не дае, выпісваючы толькі прыклады да першага і другога тыпу слоў.

Справа тут робіцца яшчэ цяжэйшай таму, што ў мове існуе шмат слоў, якія называюцца „вульгарызмамі“ і якія не павінны мець месца ў літаратурнай мове. Што гэта за вульгарызмы, аўтар нам ня тлумачыць, але толькі дае прыклады і кажа: „Трэба пісаць і гаварыць: „доктар, адвакат, фельдшэр і фельдшар, доктрынэр, гувэрнэр, вакзал, экзамен, аэроплян, вэлёсыпед, інспэктар,—а ня йначай“ (Белар. правапіс, § 30 правіла 42 (35), п. 2, літ. „л“).

Значыць, трэба адрозьніць словы „абеларушаныя“ ад кніжных, або, як называе іх яшчэ аўтар, інтэрнацыянальных, і, з другога боку, адрозьніць і „вульгарызмы“, у той час як ня маецца ніякага крытэрыю дзеля гэтага падзелу, апрача тых прыкладаў, якія дае аўтар.

Але, разглядаючы гэтыя прыклады, можна толькі адзначыць, што якраз у аўтара няма нічога пэўнага ў гэтым падзеле, бо зусім незразумелым здаецца, чаму адны словы папалі ў адзін аддзел, а іншыя—у другі.

Так, напрыклад, адстайваючы слова „леварвэр“, як слова абеларушанае, якое павінна ўвайсьці ў літаратурную мову, ён рашуча адкідае

да вульгарызмаў народныя вымовы слоў „фельдшар, доктар“ (трэба думаць—„фершал“ або „хвершал“ і „дохтар“) і строга забараняе ўжываць іншае напісаньне.

З другога боку, словы „камуністы, сацыялісты“ далучае да слоў, якія ўжо зрабіліся беларускімі, чаму і падлягаюць аканьню, а словы, з якіх яны паходзяць („комунізм, соцыялізм“), далучае да тыпу слоў, якія павінны лічыцца інтэрнацыянальнымі і павінны захоўваць напісаньне чужаземнае, бяз аканьня. А куды-ж тады трэба далучыць слова „камуна“? Як яго пісаць—ці з „а“, ці з „о“?

Тым болей гэта незразумела, што аўтар, не згаджаючыся з Тарашкевічам, абеларушвае слова „літаратура“ (замест „літэратура“) па тэй прычыне, што ў нас ужо маецца абеларушанае лацінскае слова „літара“.

Ідучы ў гэтым напрамку разам з аўтарам, трэба было-б абеларушваць і словы „комунізм, соцыялізм“, затое што ў нас ужо маюцца, як прызнае аўтар, абеларушаныя словы „камуністы, сацыялісты“, але гэтага ў яго мы ня бачым.

Вось як стаіць гэтая справа, і калі ў гэтым лесе заблытаўся, нават, сам аўтар правапісу, то як-жа вывучваць і як кіравацца гэтымі правіламі на практыцы?

Трэба як-небудзь выйсьці з гэтага становішча і пашукаць якіх-небудзь больш-менш пэўных азначэньняў.

Папершае, трэба азначыць, што такое „вульгарызмы“. Да гэтага пытаньня трэба падыходзіць вельмі асьцярожна, бо, як мы ведаем, раней ў расійскай літаратурнай мове кожнае беларускае слова лічылася вульгарызмам і ў тыя часы больш пэўным азначэньнем слова вульгарызм зьяўлялася слова, якое ўжывае „просты народ“.

Але, зразумела, што дзеля літаратурнае беларускае мовы гэта ніяк не падыходзіць таму, што і сама беларуская мова захавалася ў гэтым „простым народзе“, ды і з прынцыповага пункту погляду гэта ня так.

Пад вульгарызмам трэба разумець такое слова, якое зьяўляецца нядобра вымаўленым чужаземным словам таму, што яно мала знаёма і мала патрэбна масам, да якіх яно даходзіць выпадкова.

У зьмене гэтага слова ня будзе пэўных фонэтычных законаў, а будзе выпадковая, часам індывідуальная няўмеласьць справіцца з цяжкім для вымаўленьня і дрэнна зразумелым па зьмесьце чужаземным словам.

Такія словы лёгка адрозьніць ад слоў абеларушаных, калі звараčваць увагу на тое, ці існуюць самыя паняцьці гэтых слоў у масах і ці патрэбны яны ім у іх штодзенным ужытку.

Значыць, тут да адзнакі штодзеннасьці ўжываньня слоў дадаецца і абавязковасьць таго, ці зроблена гэтая зьмена слова па пэўных фонэтычных законах.

Гэта, мне здаецца, і будзе той крытэрыум, які павінна даць мовазнаўства.

Кіруючыся гэтым, мы лепш зможам адрозьніць словы паміж сабою і станем на больш правіловы шлях абеларушваньня патрэбных для шырокіх мас чужаземных слоў у літаратурнай мове, чым і зробім яе больш зразумелай гэтым масам, прычым гэта абеларушваньне будзе таксама і правільным, навуковым.

З гэтага погляду верна зрабіў аўтар, калі аднёс да абеларушаных слоў такія словы, як „камуністы, сацыялісты", і да якіх трэба дадаць і слова „камуна", бо яны ўжо патрэбны масам і зьмяніліся па пэўных фонэтычных законах.

Але памыляецца аўтар, калі адрозьнівае ад гэтых слоў такія, як „хвабрыка, хвершал, каператыў", бо паняцьці гэтыя ўжо патрэбны масам, яна іх ужывае, да і самі словы зьмяніліся згодна фонэтычным законам беларускае мовы.

Тут трэба толькі не абеларушваць чужаземных слоў для тых паняцьцяў, на якія, апрача чужаземнага слова, існуе і сваё беларускае слова, бо гэтым мы толькі будзем засьмечваць мову непатрэбнымі словамі.

Так, напрыклад, слова „доктар" мае адпаведнае беларускае слова „лекар", якім і патрэбна карыстацца, не абеларушваючы слова „доктар" і не даючы яму магчымасьці рабіцца беларускім словам.

Але калі само паняцьце ўжо ўвашло ў масы, і маса ня мае для яго свайго тэрміну, а хоча карыстацца чужаземным словам, якое яна і зьмяняе згодна фонэтычным законам свае мовы, то і трэба гэтае слова ўжываць так, як яно зьмянілася.

Бо ўсё роўна, як-бы мы ні захоўвалі гэтыя словы ад іх абеларушваньня, яны ў вымаўленьні штодзеннага ўжываньня будуць гучэць з гэтымі беларускімі асаблівасьцямі, і само жыцьцё прымусіць увясьці іх у мову, як цяпер мы ўжо і ўводзім частку такіх слоў, як „леварвэр, калідор, шкарлятына" і інш.

Як, напрыклад, ні старалася царква, даючы грэцкія і лацінскія йменьні беларусам, захоўваць іх такімі, якімі яны ўжываліся ў расійскай мове, але жыцьцё патрабавала зьмены іх на беларускі капыл, і, замест „Екатерина, Елизавета, Фекла, Иосиф, Филипп, Феодор", мы маем: „Кацярына, Тэкля, Язэп, Хвёдар, Піліп", і нават сам аўтар падкрэсьлівае неабходнасьць зрабіць гэтыя грэцка-лацінскія йменьні беларускімі.

Зусім іншая справа тыя словы, паняцьці, якія яшчэ не дашлі да масы. Тут трэба захоўваць тое напісаньне, якое існуе ў тых мовах, з якіх яны запазычаны.

Але, каб зрабіць іх больш зразумелымі, падыходзячымі да характару нашае мовы, трэба ім дадаць адпаведныя агульна-характэрныя асаблівасьці беларускае мовы.

Гэта і робіць аўтар у п. 2 правіла (Бел. правапіс, § 20, правіла 35 (42), дзе дае цэлы рад паасобных правіл, у якіх адзначае напісаньне чужаземных гукаў у тых ці іншых выпадках.

Але тут аўтар зноў грашыць тым-жа самым, што ўводзіць цэлы рад выключэньняў.

Так, кажучы (у п. 2, літ. „а") аб тым, што, заместа падвойных літар, у чужаземных словах пішуцца простыя, аўтар дадае, што „толькі ў некаторых словах: астаецца падваеньне: Ганна, манна, ванна, бонна, Мекка, будда, мадонна і некат. іншыя".

У другіх правілах таксама маюцца выключэньні, якія робяць гэтыя правілы занадта цяжкімі для вывучэньня.

Праўда, тут аўтар мала павінен, бо ён, адчуваючы гэта, у сваім артыкуле (час. „Полымя" № 2, стар. 148) у канцы кажа:

„Нарэшце трэба памятаць, што для правапісу чужаземных кніжных (інтэрнацыянальных) слоў устанавіць пэўных, цьвёрдых правіл нельга, бо гэта словы рознага пахаджэньня з套рознымі фонэтычнымі (гукавымі) законамі. Тут могуць быць толькі ўвагі паасобнага, прычым агульнага характару. Разумеецца, для штодзеннага ўжытку гэтага мала, тут патрэбен правапісальны слоўнік".

Гэта бязумоўна правілова, але аўтару і трэба было рабіць так, як ён тут кажа.

Замест тых дробных паасобных выключэньняў, якія толькі блытаюць правапіс гэтых слоў, дадаць агульнае выключэньне, што ніколі ня будзе памылковым, калі ў напісаньні чужаземнага слова, асабліва такога, якое зрэдка ўжываецца альбо мае вузка спэцыяльнае значэньне, як, напрыклад: „манна, бонна, мадонна, Тассо, Гюго, бюро, бюджэт", захаваць іх літаральнае напісаньне, як і ў тэй мове, з якой яны запазычаны, хоць гэта будзе і нязгодна з вышэйдадзенымі правіламі.

Ад гэтага дадатку, мне здаецца, мова нічога ня страціць і не папсуецца, а правапіс гэтых слоў будзе значна лягчэйшым.

У далейшым жыцьцё і навуковая праца дадуць больш сталыя прынцыпы ў гэтым напісаньні.

# СУЧАСНЫЯ КІРУНКІ У ГІСТОРЫЯГРАФІІ РАСІЙСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX—XX СТАЛЕЦЬЦЯЎ

*(1917—1924)*

**Проф. І. І. Замоцін**

У вадным з крытычна-бібліографічных аглядаў, які пасьвечан гісторыка-літаратурным працам за гады рэволюцыі, іменна за пяцігодзьдзе з 1917 па 1922 год, азначаецца цэлы шэраг навуковых дасягненьняў у галіне выўчэньня расійскай літаратуры („Печать и революция“, кн. 7-я, М. 1922: проф. Н. Яфімаў—„История русской литературы в годы революции. Опыт библиографической сводки“). Гэтыя дасягненьні, трэба абмовіцца, прыметныя і часамі нават значныя, галоўным чынам, толькі ў адносінах да навейшай і асабліва да найноўшай літаратуры і амаль што ня маюць дачыненьня галіны выўчэньня народнае вуснае творчасьці, старадаўняе і старое пісьменнасьці. Пры гэтым аўтар агляду мала спыняецца на тэй акалічнасьці, што гады рэволюцыі выклікалі ня столькі далейшае выўчэньне расійскай літаратуры XIX—XX стал. наогул, колькі іменна выўчэньне яе ў новых кірунках. Дзеля гэтага, гаворачы аб паступовым руху ў гісторыяграфіі навейшай і найноўшай расійскай літаратуры за апошнія гады, трэба больш за ўсё мець на ўвазе тыя навуковыя працы і выданьні, у якіх адбіліся гэтыя характэрныя для нашых часоў кірункі.

Першы кірунак, які можна назваць калі ня новым, то ва ўсякім выпадку значна адноўленым і выяўленым за гады рэволюцыі, гэты кірунак соцыолёгічны, узяты ў шырокім сэнсе гэтага слова.

Рэволюцыя выклікала патрэбу фіксаваць з асабліваю ўвагаю соцыяльна-культурную стыхію ў мастацкай творчасьці, і гэтым якраз тлумачыцца перавыданьне некаторых старых гісторыка-літаратурных прац агульнага характару, якія адказваюць гэтай патрэбе. Да гэтых прац належаць, напр., наступныя выданьні: Е. А. Салаўёў (Андраевіч),—„Опыт философии русской литературы“. Выданьне 3-е. М. 1922; Г. В. Пляханаў,—„Очерки по истории русской общественной мысли XIX века“. Петр. 1923 (у склад гэтых аглядаў уваходзяць артыкулы аб Бялінскім, Чарнышэўскім Гэрцэне); Г. В. Пляханаў,—„Литература и критика“, зборнік артыкулаў „Новая Москва“, 1922 (артыкулы аб Бялінскім, Някрасаве, Кароніне, Г. Усьпенскім); Д. Н. Аўсяніка-Кулікоўскі—„Собрание сочинений“, выд. 5.

Дзярж. Выдав. Калі артыкулы Г. В. Пляханава, які палажыў грунт расійскаму матэрыялізму, перавыданы як прыклады марксыцкага падыходу да расійскай грамадзкасьці і літаратуры, то перавыданьне твораў Д. Н. Аўсяніка-Кулікоўскага, з яго грамадзка-псыхолёгічным тлумачэньнем расійскае мастацка-літаратурнае творчасьці, гаворыць, зразумела, ня толькі аб неаслабным, але яшчэ больш узмоцненым інтарэсе да соцыолёгічнага выўчэньня літаратуры, якое цяпер высунута на першае месца як у вышэйшай школе, гэтак і наогул у школьным выкладаньні. Гэтым самым інтарэсам выклікана і перавыданьне некалькі ўжо пастарэлай кнігі Е. А. Салаўёва, якая, як вядома, зводзіць „філёзофію расійскай літаратуры" да аднэй „пануючай ідэі", іменна да „няўтомнай барацьбы за вызваленьне асобы і асабовага начала раней усяго", але, разам з гэтым, выкрывае, хоць, можа, і ня зусім конкрэтна, соцыяльна-культурную стыхію расійскай літаратуры XIX сталецьця. Перавыдана ў пераапрацованым відзе і другая кніга Е. Салаўёва—„Очерки из истории русской литературы XIX ст." (выд. 4-е, М. 1923 г.).

Соцыолёгічны ўхіл вытрыман і ў некаторых аглядах расійскай літаратуры XIX стал., якія маюць характар агульна-даступных нарысаў альбо нават школьных падручнікаў. У якасьці прыкладу можна назваць кнігу акадэміка Н. А. Катлярэўскага—„Наше недавнее прошлое в истолковании художников слова. Опыт школьного изложения истории русской словесности за вторую половину XIX века" (П. 1919). Аўтар вядомых гісторыка-літаратурных монографій—„Декабристы", „Гоголь", „Лермонтов", „Канун освобождения" і інш.—у сваёй новай кнізе ставіць расійскую мастацкую літаратуру XIX стал. ў цесную сувязь з соцыяльна-культурным жыцьцём і ўводзіць у плян сваіх „гутарак" наступныя разьдзелы, якія адпавядаюць соцыяльным тэмам, ілюструемым у літаратуры: жыцьцё памешчыкаў, сялянскі быт, народ і інтэлігэнцыя, быт чыноўнікаў, быт купцоў, быт духавенства і г. д. Тэндэнцыя паставіць „літаратурныя характарыстыкі" на грамадзянска-політычную базу вытрымана часткаю таксама і ў кнізе С. А. Залатарова—„Общедоступные очерки по истории русской литературы", падручнік для самаадукацыі (М. 1924); перад сваімі сьціслымі портрэтамі пісьменьнікаў XIX сталецьця аўтар раней зьмяшчае нарыс „периодов истории литературы в гранях трех эпох" (XVIII ст., першая палова XIX да 60-х гадоў і другая палова XIX да 1905 г.), і гэтыя пэрыоды, уласна кажучы,—надта дробныя (лікам 9!) ставіць у сувязь з умовамі соцыяльнага і політычнага жыцьця данага моманту.

Больш акрэсьленае, і іменна конкрэтнае, выяўленьне нашоў сабе соцыолёгічны кірунак у гісторыка-літаратурных аглядах прадстаўнікоў марксыцкай крытыкі. Гэткімі зьяўляюцца, напрыклад, агляды, даныя П. С. Коганам у яго „Очерках по истории новейшей русской литературы", т. т. I і II, выданьне 4-ае, М. 1923 г. і В. Львовым-Рагачэўскім у кнізе „Новейшая русская литература", выданьне 2-ое папраўленае і з новымі

дадаткамі, М. 1924 г. У першым аглядзе характарызуецца расійская мастацкая літаратура ад 40-х гадоў XIX сталецьця да пачатку XX сталецьця ўключна; у другім, галоўным чынам, літаратура канца XIX і пачатку XX сталецьцяў. Першы твор быў вядомы і дарэволюцыйнаму чытачу, як агульна-даступныя, публіцыстычнага характару нарысы расійскай мастацкай літаратуры XIX—XX сталецьцяў, якія ўстанаўляюць літаратурныя зьявы на падставу грамадзка-політычных адносін. Другі твор больш паказальны для марксыцкага падыходу да выўчэньня мастацкай літаратуры, бо ён дае ня толькі соцыяльна-экономічную базу для расійскай літаратуры, але й будуе адпаведную схэму зьмены літаратурна-грамадзянскіх эпох альбо момантаў.

Аўтар кнігі „Новейшая русская литература“ бачыць марксыцкі мэтод у галіне выўчэньня літаратуры ва ўстанаўленьні сувязі пісьменьніка з соцыяльным асяродзьдзем, якое ў сваіх зьменах залежыць ад гаспадарчых форм. Літаратура—надбудоўка над экономікай, але толькі не беспасярэдна над ёю, а цераз пасярэдніцтва прамежных зьвеньняў. Схэма разьвіцьця літаратуры на соцыяльна-экономічнай базе прадстаўляецца такім чынам: „*экономіка—політычны лад—клясавая псыхолёгія*—згустак клясавай псыхолёгіі, *ідэолёгія—літаратура* з яе барацьбою настрояў, барацьбою на ідэолёгічным фронце“ (курсыў аўтара кнігі, выняткі з якое тут прыводзім). У залежнасьці ад асноўнага пункту погляду аўтар вызначае чатыры пэрыоды ў разьвіцьці расійскай літаратуры XIX—XX сталецьцяў: „Першы мае сувязь з прыгоннаю Расіяй, *з дваранскай сядзібай*, з дваранскай культурай, з пісьменьнікам і яго гэроем з дваранскага гнязда. Другі пэрыод зьвязаны з пасьляхэформеннымі адносінамі, з гарадзкою гарою („чердаком“) і падвалам, *з сялянскаю хатаю*, з пісьменьнікам-розначынцам і каючымся дваранінам, з гэроем, які адмаўляе ўсё і з гэроем-народнікам. Абодва пэрыоды разгортваюцца на фоне вясковай Расіі, хоць у другі пэрыод ужо й прыкметна расьце горад і соцыяльныя супярэчнасьці ў горадзе. Трэці і чацьверты пэрыоды—найноўшая расійская літаратура—намячаюцца на фоне *гарадзкое Расіі*. Яны зьвязаны ня з уладаю зямлі, а з уладаю *капіталу*. Галоўнымі дзеячамі зьяўляюцца пісьменьнікі гораду, а іх гэроямі—жыхары гораду“. Хронолёгічна першы пэрыод вызначаецца гадамі 1812—1855; другі—1855—1881, трэці і чацьверты—з 1881 году да нашых дзён уключна.

Нарысы складаюцца з 3-х частак. У першай частцы разглядаюцца „апошнія могікане дваранскага гнязда“—А. А. Фэт—Шэншын, І. Бунін, Аляксей Талстой, Б. Зайцаў, Н. Гумілеў—„пясьняр і абаронца старога сьвету“. Адным словам, констатуюцца водгукі першага літаратурнага пэрыоду, якія яшчэ гучаць і ў другім пэрыодзе.

„Апошняе слова памешчыка“—слова Л. Талстога. Частка другая прысьвячаецца „новаму мастацкаму слову“. Тут характарызуецца Дастаеўскі, які пісаў аб горадзе і беднаце. Тут таксама „торжествующие ме-

щане"—Суворын і Бурэнін, абрамаўшчына, талстоўства. Апрача гэтага, у склад першай часткі нарысаў уваходзяць В. М. Гаршын, В. Г. Караленка („последний подвижник великой русской литературы"), А. П. Чэхаў („новые пути"), сымболістыя-дэкадэнты, Бальмант. Частка III прысьвечана літаратуры, якая разьвівалася „пад знакам пролетарыяту". Разглядаюцца спачатку „пісьменьнік-інтэлігэнт В. В. Верасаеў, „буревестник" М. Горкі і А. Андрэеў—„Іван Карамазаў расійскай літаратуры". Потым характарызуецца рэакцыйнае пяцігодзьдзе (1906—1910), адзначаецца паварот ад Дастаеўскага да Талстога, „крах" школы сымболістых. Потым абмаляваны паступова Купрын („художник-жизнелюб"), Сяргей Ценскі („перед лицом природы"), І. С. Шмелеў („духовный сын 1905 года"). Наступны нарыс прысьвечаны футурыстым, імажыністым, адамістым. І пасьля гэтага аўтар пераходзіць да поэтаў-сялян і поэтаў-рабочых; асобныя невялікія характарыстыкі, прысьвечаныя „новасялянскаму поэце-сымболістаму", Сяргею Есеніну і Дзям'яну Беднаму. У гэтым месцы таксама „об метущемся поэте" Алякс. Блоку. Апошнія два нарысы—„бэлетрыстыка рэволюцыйнай эпохі" і „будучае расійскай літаратуры" (футурызм ці рэалізм?).

Нарысы напісаны, як і ўсе наогул артыкулы Львова-Рагачэўскага, лёгка і маляўніча і чытаюцца з інтарэсам. На жаль, асобныя зарысы, з якіх складаецца гэтая кніга, пры ўсёй вобразнасьці і маляўнічасьці ўкладаньня, мала распрацованы: як популярныя нарысы, яны конспэктыўны і бедны ілюстрацыйным зьместам; як навуковая спраўка—няпоўны і мала дасьледваны.

Дадаткам да гэтых агульных нарысаў расійскай літаратуры XIX-XX сталецьцяў могуць часткаю зьяўляцца некаторыя зборнікі публіцыстычных і крытычных артыкулаў, што належаць пяру крытыкаў і публіцыстых-марксыстых. Гэткая, напрыклад, кніга Ю. М. Сьцяклова—„Борцы за социализм. Очерки из истории общественных и революционных движений в России" (ч. I, выд. 2-е, М. 1923); гэткі самы зборнік артыкулаў В. В. Вароўскага—„Русская интеллигенция и русская литература" (Харкаў, 1923); у першай з гэтых кніг знаходзім ацэнку Добралюбава, Гэрцэна, Чарнышэўскага і г. д.; у другім зарысе аб Базараве, аб „лишних людях", аб найноўшым романе (Горкі, Купрын, Андрэеў). Цэлы шэраг зарысаў аб расійскіх пісьменьніках XIX і XX ст. чытач знойдзе таксама ў зборніку артыкулаў А. В. Луначарскага пад назваю—„Этюды. Сборник статей". М.-П. 1922 і „Литературные силуэты" (М. 1923).

У гэтым самым мэтодолёгічным кірунку складзены і некаторыя агляды, прысьвечаныя сучаснай расійскай літаратуры; з гэтае групы новых прац можна назваць, напрыклад, кнігі Л. Троцкага—„Литература и революция", М. 1923, П. С. Когана—„Литература этих лет (1917—1923)", М. 1924 г. Г. Гарбачова—„Очерки современной русской литературы" М.-Лен. 1924, В. Львова-Рагачэўскага—„Поэзія новой России. Поэты полей и городских окраин", М. 1919, В. Фрычэ—„Пролетарская поэзия", М. 1919.

Патрэба ілюстраваць на мастацка-літаратурным матэрыяле XIX-XX сталецьцяў асобныя пытаньні грамадазнаўства, у прыватнасьці клясавыя адносіны выклікалі зьяўленьне адпаведных аглядаў літаратуры пад даным пунктам гледжаньня. Такою якраз зьяўляецца кніга І. Н. Кубікава—„Рабочий класс в русской литературе" (Іванава-Вазьнясенск, 1924), што нядаўна вышла ў сьвет, і ў якой даецца падбор і ацэнка адпаведнага тэме літаратурнага матэрыялу, які разьмяркован па пэрыодах разьвіцьця расійскай грамадзкасьці XIX-XX ст.ст. і часткаю па пісьменьніках. Часамі апрацоўка гэткай соцыяльнай тэмы на мастацка-літаратурным матэрыяле бярэцца і ў больш вузкіх рамках, як гэта зроблена, напр., у нарысе С. Сапожнікава—„Почтово-телеграфный мир в русской, художественной литературе" (М. 1923).

Апрача паказаных агульных аглядаў расійскай мастацкай літаратуры XIX-XX сталецьцяў, марксыцкі мэтод у прыстасаваньні да літаратуры праводзіцца і ў цэлым шэрагу артыкулаў, раскіданых па часопісях; гэтыя артыкулы прысьвечаны асобным пісьменьнікам і тым ці іншым літаратурным пытаньням. Дзеля таго, каб карыстацца гэтай крытычнай літаратурай, чытачу дапаможа і адпаведны бібліографічны паказацель,—я маю на ўвазе складзены Р.С. Мандэльштамам (рэдакцыя Н. К. Піксанава) паказацель пад назваю—„Художественная литература в оценке русской марксистской критики" (Выд. 2-е, М. 1923).

Соцыолёгічны марксыцкі мэтод знашоў прыстасаваньне і ў школьных аглядах расійскай мастацкай літаратуры XIX-XX сталецьцяў. За апошнія гады пытаньне аб мэтодзе школьнага выкладаньня літаратурнага матэрыялу вельмі жвава абгаварваецца на старонках пэдагогічных зборнікаў і часопісяй, напрыклад, у зборніку—„Родной язык в школе" і „На путях к новой школе" і інш. Гэтаму-ж пытаньню прысьвечаны цэлы шэраг брошур і кніг пэдагогічна-мэтодычнага зьместу. Думкі розных аўтараў звычайна пагаджаюцца на тым, каб агляды літаратуры XIX-XX ст. у прыстасаваньні да школьнага выкладаньня рабіліся соцыолёгічным мэтодам—часамі соцыолёгічны мэтод сынтэзуецца з формальна-мастацкім. „Усякі слоўны твор зьяўляецца раней усяго *фактам соцыяльным* (курсыў аўтара брошуры, выняткі з якое прыводзім). Яго зьмест і яго форма заўсёды абумоўліваюцца тымі надворнымі фактарамі, якія выклікалі даны твор да жыцьця. Гэтую проблему ў мэтодолёгіі і мэтодыцы творчасьці вырашае *марксыцкі або соцыолёгічны мэтод*. Галоўныя яго палажэньні зводзяцца к наступнаму. Асноўнай базай для духоўнага жыцьця чалавека наогул, і ў прыватнасьці мастацтва, зьяўляецца экономічная і соцыяльная структура грамады. Гэта выяўлена ў вядомай форме: „бытие определяет сознание". У сваю чаргу, экономічныя прадпасылкі данай гістарычнай эпохі вызначаюць панаваньне тэй ці іншай клясы, якая мае сваю асаблівую ідэолёгію і псыхолёгію. Апошнія беспасярэдна і надаюць мастацтву тое, што прынята называць *стылем*. Ілюструю гэта некалькімі прыкладамі. Пры-

водзяцца прыклады з Пушкіна, Тургенева, Ганчарова і г. д. (І. П. Плотнікаў—„Родной язык в комплексе“, Арол 1924, стар. 18 і наст.).

„Выўчэньне поэзіі ў органічнай сувязі з вытворчымі адносінамі, аналіз мастацкага процэсу і яго продукцыі ў беспасярэднай залежнасьці ад вызначаных соцыяльных умоў, разгляд тэхнікі конструяваньня твораў, якія вызначаюцца тымі самымі адносінамі і ўмовамі,—усё гэта належыць бясспрэчна ўнесьці ў плян заняткаў ува ўстановах па падрыхтоўцы настаўнікаў (Анатоль Машкін—„Литература и язык в современной школе, Эскизы“ Дзярж. Выд. Укр. 1923). „Настаўнік навучае чытача крытычна падыходзіць да пісьменьніка, высьвятляць яго грамадзкі пункт гледжаньня, які адбівае заўсёды, хоць нават часамі вельмі ўскосна, пункт гледжаньня тае соцыяльнае клясы, да якое належыць аўтар. Кожны мастак уносіць у свае творы нешта ад свае клясы, ад свайго роднага і блізкага яму быту...Задачаю настаўніка зьяўляецца высьветліць на лепшых узорах характарыстыкі *памешчыцкага, разначыннага, пролетарскага* слова ў іх гістарычнай паступовасьці“ (Фрычэ—„Литературная грамота. Курс литературы в школах грамоты“. Дзярж. Выд., 1920).

Гэты мэтодычна-мэтодолёгічны пункт погляду праводзіцца цяпер і ў школьныя падручнікі—агляды літаратуры XIX-XX ст. Дзеля гэтага к бягучаму вучэбнаму году вышлі ў сьвет цэлы шэраг падручнікаў, якія ажыцьцяўляюць соцыолёгічна-марксыцкі мэтод. У якасьці прыкладу можна назваць кнігі: Н. Назарэнкі пад назваю—„История русской литературы“, П. Д. Жукава—„Век русской литературы“, В. А. Келтуялы—„Очерк истории русской литературы“ ў 3-х частках (ч. ч. 2 і 3—агляд літаратуры XIX-XX сталецьцяў). Гэтыя падручнікі ў водгуках характарызуюцца, як школьныя падручнікі, у якіх выкладаньне „вытрымана па марксыцкім мэтодзе“ і літаратурны матэрыял падобраны, прыстасоўваючы да гісторыка-матэрыялістычнай схэмы разьвіцьця грамадзянскіх формаў і гаспадарчага быту“.

Некалькі з боку знаходзіцца тая група твораў па літаратуры і грамадзкасьці XIX-XX сталецьцяў, якая ставіць сваёю задачаю ня столькі выяўленьне соцыолёгічнага значэньня літаратурнага матэрыялу мінулага сталецьця, колькі вышуканьне нутраное сувязі яго іменна з ідэаламі соцыялізму, і гэтым самым аб'яднае літаратурнае папярэдняе з літаратурвым сучасным у вадну бесьперарыўную лінію разьвіцьця. Сюды трэба раней усяго аднесьці вялікую кнігу П. Н. Сакуліна пад назваю—„Русская литература і социализм ч. І, Ранний русский социализм“ М. 1922, „Як глыбока-жыцьцёвы фактар,—кажа аўтар у прадмове да свае кнігі,—„соцыялізм цікавіў не адных публіцыстых, але й мастакоў слова. Яго ідэёвая прыгожасьць прымушала вібраваць чулыя сэрцы: яго жыцьцё, поўнае неспакойных здарэньняў, давала зьмест для мастацкіх вобразаў і літаратурных мотываў“. „Аб'яднаць творы расійскай мастацкай літаратуры, якія адгукнуліся на мотывы соцыялізму“, і выявіць іх з пункту

погляду „ідэёвай сутнасьці“ соцыялізму і значэньня яго, як „соцыолёгічнай і філёзофскай доктрыны“, для агульнага разуменьня рэчаіснасьці, для раскрыцьця агульнага сэнсу жыцьця“,—задача, якую паставіў сабе аўтар гэтае кнігі. Ува „ўводзінах“ ён дае нарыс гэнэзісу соцыялізму, сьціслы агляд яго разьвіцьця і яго склад („соцыяльная програма соцыялізму“, „яго соцыолёгія“, „філёзофскія асновы соцыялізму, пераважна марксызму“, „этыка і рэлігія ў асьвятленьні марксызму“). Першыя пяць разьдзелаў прысьвечаны агляду „раньняга расійскага соцыялізму“ ад другое паловы XVIII сталецьця да 40-х гадоў XIX сталецьця ўключна. Апошні, шосты, разьдзел характарызуе „галасы не соцыялістых“ ад Пушкіна і Гогаля да Аўдзеева і Пісемскага і адносіны да соцыялізму і разуменьне яго. Кніга багатая конкрэтным зьместам і першая дае сыстэматызацыю літаратурнага матэрыялу ў даным кірунку.

Спроба правесьці эволюцыйную лінію ад ідэёвага зьместу дарэволюцыйнай літаратуры, галоўным чынам, літаратуры XIX сталецьця, да соцыялістычнай ідэолёгіі нашых дзён, робіцца і ў нарысах В. В. Сіпоўскага пад назваю—„Этапы русской мысли“ (Петроград, 1924). Гэтыя этапы вышуканы аўтарам вось якім чынам: хрысьціянскі соцыялізм старадаўняй Русі, рацыяналізм XVIII сталецьця і дваранская лібэральная ідэолёгія, ідэолёгія розначынцаў, пролетарская ідэолёгія; для кожнага этапу прыцягваюцца адпаведныя літаратурныя даведкі, якія ў сваю чаргу ставяцца ў сувязь з агульным соцыяльна-культурным фонам данага моманту. Проф. В. В. Сіпоўскім, апрача гэтага, надрукован нарыс сучаснай пролетарскай поэзіі пад назваю—„Поэзия народа“ (П. 1923).

Другі кірунак, які жвава адчуваецца ў сучаснай гісторыяграфіі расійскай літаратуры XIX-XX ст.,—гэта формальна-мастацкі, г. зн. той, які, як-бы зусім процілеглы соцыолёгічнаму, высоўвае на першы плян не ідэёва-соцыяльнае, а мастацка-тэхнічнае значэньне літаратуры. Кіруючыся лёзунгам „Опоязу“ („Общество изучения поэтического языка“)—„мастацтва ёсьць сума прыёмаў“,—„формалістыя“ даюць за апошнія гады цэлы шэраг зарысаў і дасьледзін па выўчэньні мастацкіх формаў стылю, вершу, композыцыі літаратурных твораў і г. д. У сучасны момант вызначылася і тая група гісторыкаў літаратуры і крытыкаў, якая ў пераважнасьці ажыцьцяўляе ў сваіх навуковых працах формальна-мастацкі мэтод. Гэта Б. Эйхэнбаум, В. М. Жырмунскі, Б. Тамашэўскі, Ю. Н. Тыпянаў, Л. Гросман і іншыя. Інтарэс да гэтага кірунку ў гісторыяграфіі літаратуры падтрымліваецца ня толькі яго сталай навуковай стойкасьцю, але й вядомай жыцьцёвасьцю, паколькі сучаснае культурнае будаўніцтва надае вялікае значэньне мастацкай тэхніцы як у жыцьці наогул, гэтак і ў школьнай практыцы паасобку.

У прыстасаваньні да расійскае літаратуры XIX-XX сталецьцяў формальна-мастацкі кірунак выявіўся ў цэлым шэрагу спроб дэтальнага дасьледваньня мастацкай манеры таго ці іншага пісьменьніка, і нават

асобных літаратурных школ. Сюды трэба аднесьці такія, напрыклад, артыкулы і кнігі, як: Жырмунскі—„Пушкин и Байрон“, „Валерий Брюсов и наследие Пушкина“, А. Слонімскі—„Техника комического у Гоголя“ (П. 1923), В. Гіпіус—„О композиции Тургеневских романов“ (зборнік „Венок Тургеневу“, Ад. 1919), С. Шувалаў—„К поэтике Некрасова“. Сравнения. (Альманах „Свиток“ I, М. 1922), Ю. Тыпянаў—„Стиховые формы Некрасова“ („Летопісь Дома Литераторов“, 1921, № 4), ён-жа—„Достоевский и Гоголь. К теории пародии“, „Сборник по теории поэтического языка“, П. 1921; Л. Гросман—„Искусство романа у Достоевского“ (Альм. „Свиток“, I, М. 1922); у прыстасаваньні да Дастаеўскага і часткаю Тургенева і Някрасава формальна-мастацкае выўчэньне атрымала за апошнія часы асабліва значнае разьвіцьцё. Апрача гэтага, шэраг монографій, выданых „формалістымі“, ня мае дачыненьня спэцыяльна да аднаго якога-небудзь пісьменьніка, а праходзяць „сквозь литературу“ наогул, з пункту погляду яе тэхнікі. Гэткія, напрыклад, кнігі Тамашэўскага—„Русское стихосложение“ (П. 1923), Б. Эйхэнбаум—„Сквозь литературу“. Зборнік артыкулаў (Ленінград, 1924), Жырмунскага—„Рифма, ее история и теория“ (П. 1923), Ю. Тыпянава—„Проблемы стихотворного языка“ (Ленінград, 1924) і іншыя.

Формальна-мастацкі кірунак гэтак сама, як і соцыолёгічны, за апошнія часы проэктуе сябе і ў галіне школьнай практыкі. Так, напрыклад, Ленінградзкае Аддзяленьне Дзяржаўнага Выдавецтва друкуе кнігу Б. Тамашэўскага, пад назваю „Теория художественной литературы“. У сьпісе новых школьных падручнікаў кніга рэкомэндуецца, як „падручнік па тэорыі поэзіі і мастацкай прозы, які прымае пад увагу найноўшыя дасягненьні ў галіне поэтыкі і выўчэньня зьяў мовы“.

Трэці кірунак, які, паміж іншым, чуць толькі яшчэ выяўляецца,—гэта кірунак псыхоаналітычны; выяўляецца ён у працах, напісаных пад уплывам школы Фрэйда. Пераймальнікі проф. Фрэйда, лекцыі і наогул навуковыя працы, якога надрукованы нядаўна (М. 1922-23) у расійскім перакладзе ў зборніках пад агульнаю назваю—„Психологическая и психоаналитическая библиотека под редакцией проф. И. Д. Ермакова“ ставяць сабе задачаю даць прыстасаваньне псыхоаналізу да розных галін творчасьці, у тым ліку і творчасьці літаратурна-мастацкае. Дзеля гэтага, тэмамі іх прац зьяўляецца псыхоаналіз слова, народнае творчасьці (міты, сагі, казкі) і індывідуальнай мастацка-літаратурнай чыннасьці таго ці іншага аўтара.

Трэба, усё-ткі, заўважыць, што расійскія пераймальнікі Фрэйда зыходзяць у сваім псыхоаналізе, галоўным чынам, на адну тэму, іменна,—на тэму аб сэксуальных крыніцах творчасьці данага пісьменьніка. Гэткая, напр., ня вельмі даўно вышаўшая ў сьвет монографія профэсара І. Д. Ермакова—„Очерки по анализу творчества Н. В. Гоголя“ (Масква-Ленінград, 1924). У сваіх нарысах аўтар імкнецца давесьці, што як зьмест,

гэтак і форма творчасьці Гогаля абумоўлены палавою цягаю пісьменьніка. На падставе гэтае палавое проблемы, якую аўтар бачыць у васобе Гогаля, аналізуюцца і творы Гогаля. Крайнасьць гэтага мэтоду, у даным выпадку, крытыка бачыць у ігнараваньні соцыяльнага значэньня творчасьці пісьменьніка. „Аналізаваць творчасьць Гогаля, які высьмейваў цёмныя бакі народнага быту, а, галоўным чынам, агідныя рысы дарэформацыйнага памешчыцка-дваранскага ўкладу,—аналізаваць гэтую творчасьць з пункту погляду фрэйдызму—гэта значыць, нічога не разумець, нічога ня вытлумачыць у ім“ („Правда“ 1924, № 225). Паміж іншым, у прыстасаваньні да Пушкіна, проф. І. Д. Ермакоў выконвае той самы псыхоаналітычны падыход значна шырэй. У монографіі, пад назваю „Этюды по психологии творчества А. С. Пушкина (Опыт органического понимания „Домика в Коломне“, „Пророка“ и маленьких трагедий. М.—П. 1923) ён формулюе гэтак сваю задачу: „Адшукваючы ў творах Пушкіна ня тое, што зьяўлялася характэрным для яго эпохі, для яго клясы, я раблю спробу адказаць на пытаньне аб тым, што даў Пушкін у сваіх трагэдыях, што мае агульналюдзкае значэньне і знаёміць нас са складанымі працэсамі нутранога жыцьця чалавека“ (старонка 8). Разгляд пералічаных твораў Пушкіна сапраўды дае цэлы шэраг цікавых вывадаў у даным кірунку.

У гэтым самым кірунку напісана кніга А. Кашынай-Яўрэінавай пад назваю—„Подполье гения“ (сексуальные источники творчества Достоевского). (Петр. 1923). Кніга пабудована па наступных тэзісах-главах: „Ідэолёгія полу ў сталецьцях. Асабовыя романы Дастаеўскага, як рэшткавая ад творчасьці палавая энэргія. Сэксуальнае ў романах Дастаеўскага. Жорсткасьць і палкасьць“. Опэруючы досыць невялікімі біографічнымі данымі, дзе малюецца сфэра „сэксуальнага“ ў Дастаеўскага,—данымі, часткаю ўзятымі з вядомага твору Л. Ф. Дастаеўскай аб яе бацьку, аўтар праводзіць, па яго ўласных словах, роўналежнасьць паміж „бытием Достоевского и его выдумками в романах“. Гэткі, на першы погляд, соцыолёгічны падыход зьбіваецца якраз на псыхоаналіз у духу фрэйдызму з спэцыяльным ухілам у аналіз сувязі творчасьці пісьменьніка з яго палавою сфэраю. Аўтар жадае на прыкладзе Дастаеўскага даць падмацаваньне таго, наколькі ўласьціва пісьменьніку „цераз творчасьць пераганяць свае эротычныя жаданьні ува ўтвараемыя вобразы“. „Гэткі процэс перагону“—аўтар—„Фрэйд называе сублімацыяй (процэс, дзе эротычныя жаданьні несьвядома пераганяюцца ў душы вышэйшыя, нават, часта знадворку нічога агульнага з сэксуальнасьцю ня маючыя, імкненьні)“ (стар. 35). Свае шуканьні ў творчасьці Дастаеўскага аўтар рэзюміруе ў наступных словах (стар. 92): „Тургенеў сказаў Ціміразеву аб Дастаеўскім: „Гэта самы злосны хрысьціянін, якога я спаткаў у сваім жыцьці“ (К. Ціміразеў—„Наука и демократизм“. Артыкул „Памяці М. М. Кавалеўскага“). А з прычыны таго, што „злоснасьць і хрысь-

ціянства—дзьве рэчы, якія ня можна пагадзіць, бо хрысьціянства якраз і павінна выключаць раней усяго злоснасьць, то нам і трэба прызнаць, што ўсё хрысьціянства Дастаеўскага было толькі, як цяпер прынята гаварыць, „ідэолёгічнай надбудоўкай“ над яго палкім палавым імкненьнем, якое натхнялася злосьцю і жорсткасьцю. Дзеля гэтага ўсё хрысьціянства Дастаеўскага і было гэткім бязладным, дзеля гэтага ўсе яго скончаныя хрысьціяне—Зосімы,—гэткія блядыя і бескалёрныя, што ўсё гэта было прыдумана, а ня йшло ад усяе істоты. А злосныя Іваны Карамазавы, „сластолюбивцы“ Фёдары Паўлавічы, „насекомые“ Міці Карамазавы, „циничные“ Сьвідрыгайлавы—дзеля таго гэткія яскравыя і выяўныя, што нарадзіліся яны з цела і крыві самога Дастаеўскага“.

У вядомай сувязі з псыхоаналітычным выўчэньнем літаратурнае творчасьці стаяць і некаторыя спробы падыйсьці да творчага процэсу з пункту погляду рэфлексолёгіі, якія абяцаюць больш сур'ёзныя вывады. Назавем, для прыкладу, артыкул В. Савіча пад назваю—„Попытка уяснения процэсса творчества с точки зрения рефлекторного акта“ („Красная Новь“ 1922, № 4). Шырокага больш-менш прыстасаваньня гэтага пункту погляду да расійскай літаратуры XIX сталецьця мы яшчэ ня маем.

Вось такія асноўныя кірункі ў сучаснай расійскай літаратурнай крытыцы і літаратурнай гісторыяграфіі. Найбольш паважнае месца сярод іх займае соцыолёгічнае выўчэньне літаратуры ў марксыцкім яе разуменьні. Дасягненьні гэтага мэтоду ў галіне дасьледваньня літаратуры, выяўляюцца ня толькі ў цэлым шэрагу агульных аглядаў літаратуры і падручнікаў, але ў асобных монографіях і артыкулах гісторыка-літаратурнага, мэтодолёгічнага і мэтодычнага характару. Каштоўнасьць гэтага выўчэньня заключаецца ня толькі ў констатаваньні сувязі літаратурнае творчасьці з соцыяльна-культурным асяродзьдзем, што і раней звычайна рабілася ў крытыцы і гісторыка-літаратурнай навуцы, але, галоўным чынам, у выяўным ажыцьцяўленьні асноўнай лініі ад экономікі цераз грамадзянскую псыхіку да літаратурнай ідэолёгіі і мастацка-літаратурнай тэхнікі.

Соцыолёгічна-марксыцкае выўчэньне прыметна выяўляецца і ў дасьледзінах беларускай мастацкай літаратуры і ў беларускай літаратурнай крытыцы. Яно распачынаецца цэлым шэрагам літаратурных артыкулаў і аглядаў З. Х. Жылуновіча і разьвіваецца ў крытычных і гісторыка-літаратурных нарысах У. М. Ігнатоўскага, М. М. Піотуховіча, У. В. Дзяржынскага і інш. Але беларуская літаратура чакае ў гэтым кірунку больш дэтальных дасьледзін, якія павінны быць справаю ня толькі вышэй паданых вучоных і крытыкаў, але і маладое зьмены беларускіх літаратурнікаў, якія праходзяць і часткаю ўжо прашлі, навуковую падрыхтоўку ў сьценах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

# КНІГАПІС.

**А. Аляксандровіч, А. Вольны, А. Дудар.** „*Ваўчаняты*“. Роман беларускіх лясоў. Бібліотэчка „Чырвоная Зьмена“ № 2. Менск, 1925 г.

Роман „Ваўчаняты“ займае пэрыод 1920-21 г. г. Сужэт яго—Балахоўшчына і змаганьне з ёю маладых партызанаў. Гэтыя маладыя партызаны і ахрышчаны аўтарамі імем—„ваўчаняты“. Правадыр „ваўчанят“ сельскі хлопец Алесь выведзен надзвычайным гэроем, з ахварбоўкаю гэрояў авантурных романаў з сэрыі: „Пяшчэры Ляйхтвэйса“, „Нат Пінкертона“ і інш. Яму (Алесю) на працягу ўсяго роману ўдаецца выкінуць многа казачных трюкаў: Алесь пападае к Балаховічу, к яго бандытам, ёмка выкручваецца ад іх, змагаецца адзін ці ў дваіх з цэлымі бандамі балахоўцаў і гоніць іх, дэморалізуе. Надаецца параўнаньне Алеся з пакойным Бавою Каралевічам і іншымі гэроямі казак. Храбрасьць, сьмеласьць і адвага галоўнага гэроя „Ваўчанят“, зьвязваюцца з яго прыпрошчанаю клясаваю сьвядомасьцю: ён ваюе, як „вангард рабочага пролетарыяту“. Праўда, гэтым сказам і вычэрпваецца Алесева сьвядомасьць. Далей яго істота нявыяўная; за вошта ён б'ецца—ясна не прадстаўляецца Алесю. Самі аўтары ад сябе даводзяць, што ўся справа йдзе за вызваленьне Беларусі. Але думка аўтараў відна паміж слоў Алеся. У форме хроніка-апавядальнай яны зьбіраюць у „Ваўчанятах“ усе падзеі нядаўных політычных здарэньняў з гісторыі паяднаньня балахоўшчыны з беларускай белагвардэйшчынай. Жывыя імёны яе гэрояў падносяцца аўтарамі без сукрыцьця: Аляксюк, Дзяргач, Савінкаў і інш. расьсеяны на працягу ўсяго роману. Гэткі характар ды прыёмы пісаніны, пэўна, ня псуюць твору, але праводзяць рэзкі рэзонанс між рэчаіснасьцю і вострай авантурнасьцю, густа павязанай між сабою ў „Ваўчанятах“, а гэта дае штучнасьць, нерэальнасьць. Для прыкрасы апавяданьня ўжыты абразкі з польскага жыцьця ў покаце адносін польскіх урадоўцаў да балахоўшчыны і савінкаўшчыны. Нарысы гэтых момантаў церпяць слабым знаньнем аўтарамі тагочаснай сытуацыі ў Польшчы... Паўней і з большым знаньнем дадзены абразкі пагромаў, якія ўчынялі балахоўцы ў Мазыршчыне. Але гэтыя абразкі кароткія і недаволі выразныя. Наогул роман церпіць ад шчыльнасьці, адрывачнасьці і некаторай несыстэматычнасьці ў складзе здарэньняў. Відаць, што аўтары сьпяшалі пісаць, мала цікавіліся архітэктонікаю і сыстэматыкай, гістарычнымі абставінамі і інш. Іх захапляў процэс колектыўнасьці, якую яны мысьлілі выпхнуць на поверх фактычнасьці, занядбайваючы іншыя бакі дадатнасьці ў творы. Пэўна, трыумвіратам яны думалі стварыць сапраўдны праобраз наступнай колектыўнасьці... Але яны ня ўлічылі таго факту, які дае нам многа прыкладаў двухаўтарнасьці літаратурных твораў, якія ў большасьці... заставаліся няўдачлівымі. „Трыумвіратнасьць“ працы кідаецца ў вочы дужа выразна, чытаючы „Ваўчаняты“. І таму роман ня ўдаўся ды кудыкуды слабей за індывідуальную твор-

часьць кожнага з аўтараў... Узяцьбы заканчэньне „Ваўчанят“; яно зусім не гармонуе з лёзунгам Алеся: „вангард рабочага пролетарыяту“. Лёзунг уносіць адпаведную сур'ёзнасьць асобе Алеся, а ў канцы паказваецца зусім дзіцячы выпадак Алеся й таварышоў яго: гэта сцэна цялеснага наказаньня ваўчанятамі ваяводы і іншых на ўсім ходу цягніка. Гэта сцэна непатрэбная, тым болей, што падносіцца моладзі і зводзіць добра пачаты роман у карыкатуру, у анэкдот... Аўтары мусілі іначай скончыць сваіх „Ваўчанят“ і дарэмна не паразумеліся гэтага зрабіць...

Нарэшце, аб манеры і форме пісаньня: адно й другое адпавядаюць тэме і часу. Напружанасьць, дынамізм—на далоні; гэтым часткаю скрадаецца адзначаная вышэй недастача. Толькі бяда, што з-за дынамізму апушчана ўсякая плястычнасьць. Адчуваецца мулкая сухасьць, у некаторых мясцох нядбайна акрашаная вобразамі на манер: „Сьмяялася васеньняя ноч касымі брызгамі сваіх падсьлепаватых вачэй... Але яна (ноч) ведала (!), чаго сьмяецца, дарма што сьлепаватая“. Ці: „Тры выстралы—знак збору—упіліся (?) ў мокрыя кудры (!) ночы“. Або: „Нібы ртутная рака, каціласся жыцьцё ў мястэчку“ і г. д. Тут ужо проста „нэо-імажынізм“ з нясур'ёзнасьцю перамешаны. Я-б сказаў—удалыя выбрыкі пяра. Да гэтага бракуе „Ваўчанятам“ з боку мовы: аўтары занадта многа перасыпалі свой твор русыцызмамі ў паасобных словах і ў пабудаваньні цэлых сказаў. „Упіліся“ („впились“—парасійску), „ртутная“, „падсьвечнікі“ (замест—„ліхтарнікі“), „знова“ („снова“), замест „ізноў“, „дасада“, „скальзнулі“ і г. д.—па ўсёй кніжцы... Затое малюнкаў дзеля ілюстраванага выданьня—зусім мала: усяго шэсьць штук, ды тыя зьбіты ў кучу наперадзе, у вадно месца, пакінуўшы ўсю кніжку без малюнкаў. Да таго-ж і малюнкі няўдалыя, часткаю карыкатурныя...

„Ваўчаняты“ прызначаны для камсамольскага чытача. Яны прасякнуты романтызмам, да прыкрасьці густым, але мала дасягаюць мэты—вобразнарэальнага выяўленьня гэроічнага вобразу змаганьня за вызваленьне Беларусі ад балахоўцаў. Віною—трыумвірат творчасьці...

Engel.

**Лидия Поляк.** „*Советская Белоруссия*“. Издание „Долой неграмотность“ Москва, 1925 г.

Расійскі чытач амаль нічога ня ведае пра Беларусь. Болей таго, да астатніх часоў мала хто ведаў, што і ёсьць гэткая краіна ды гэткі народ. Рэдкія весткі рэдкіх пісьменьнікаў, як Е. Карскі, Ф. Бацюшкаў, Сапуноў, падаваліся заўсёды ў тэндэнцыйным выкладзе і з іх нічога нельга было ўявіць сабе аб сутнасьці, жыцьці і дзейнасьці цэлай, досыць многалікай нацыі. І апошнія два-тры гады, калі Беларусь вышла на арэну самастойнага палітычнага жыцьця,—аб яе існаваньні і некаторых палітычна-соцыяльных дасягненьнях стала вядома больш шырокаму колу расійскага грамадзянства. Але культурны бок, заваёвы ў галінах літаратуры, тэатру, выдавецтва—застаецца ў цяні па-за межамі Савецкае Беларусі. На гэта маецца шмат прычын, з якіх большасьць крыецца ў нетры гістарычнага лёсу краю і ў процэсе дзяржаўнага разьвіцьця старое Расіі. На грунце іх вырастаюць новыя, але яны куды слабейшыя ад старых і дзень-ада-дня сьціраюцца перад наступам новага жыцьця.

Выданьне кніжкі „Советская Белоруссия“ яскрава сьведчыць у карысьць нашага сьцьвярджэньня. Зьяўленьне яе ў сьвет, бязумоўна, прынясе вялікую карысьць азнаямленьню расійскай савецкай моладзі, хоць у кароткіх, скупых рысах, з Савецкаю Беларусьсю. Складальнікам дзеля гэтага прыложана шмат стараньняў і ўмеласьці. Кніжка вышла ў выглядзе ма-

ленькай энцыклёпэдыі беларусазнаўства. У ёй даюцца веды з галін: этнографічнай, савецкага будаўніцтва, географічнай, літаратурнай і інш. Што гэта за Савецкая Беларусь, які народ у ёй жыве, на якай мове гаворыць, колькі яго; з якіх губэрань складаецца Савецкая Беларусь, яе прамысловасьць, яе прырода, яе гісторыя ў апошнія гады; біографія старшыні беларускага ЦВК, склад сельсаветаў, даўнейшая гісторыя Беларусі і г. д. Таксама аўтарам дадзены кароткія веды аб беларускай літаратуры ў выглядзе пералічэньня беларускіх пісьменьнікаў і ўзораў з іх твораў. У вогуле сьціслы зборнічак, які прадстаўляе нешта накшталт даступнага падручніка, выдае сабою цікавую кніжачку, вельмі патрэбную расійскаму чытачу, ня толькі малаграматнаму, а і добра граматнаму.

Гэты крок выдавецтва „Долой неграмотность“ трэба вітаць, а кніжцы пажадаць шырокага распаўсюджаньня і паўторнасьці выданьня. Да рэчы, яна выдана акуратна, на добрай паперы, чытэльным шрыфтам.

З.

**„Маладняк“**—штомесячная літаратурна-мастацкая і грамадзка-політычная часопісь ЦК ЛКСМБ. Сшытак дзевяты—жнівень-верасень.

„Маладняк“—другая пасьля „Полымя“ часопісь па сваёй усталяванасьці і жыцьцёвасьці; яна налічвае трэці год жыцьця і, як бачым, дзевяты па ліку сшытак. Дзевяць сшыткаў досыць тоўстымі кніжкамі—гэта нямала для яшчэ зусім неакрэпшай беларускай часопіснай літаратуры. Праўда, калі параўнаць лічбу кніжак з цягам часу, то яна як быццам малая; гэта тлумачыцца многімі прычынамі, якія перашкодзілі дагэтуль скласьціся сталай рэдакцыі, якая-б цьвёрда ўзяла справу часопісі ў рукі. Доўгі час часопісь выходзіла з перабоямі ды перапынкамі, часта бяз догляду. І толькі ў апошні час, калі акрэпла маладнякоўская організацыя з боку організацыйнага і грашовага, справа з выданьнем „Маладняка“ палепшылася. ЦК ЛКСМБ выдзяліў пастаяннага рэдактара, каторы пільна аддаўся працы і наладзіў больш-менш нормальнае выйсьце часопісі. Пад новай рэдакцыяй вышла тры сшыткі, з якіх апошні, 9, тутака і мае быць рэцэнзаваным.

Якраз сшытак дзевяты „Маладняка“ вышаў падвойным. Гэта дае нам правы аднесьціся да яго з большымі патрабаваньнямі. Панашаму падвойны нумар мусіў даць матэрыялу ня толькі лікам удвая, а ўдвая і сваёю рознастайнасьцю. На жаль, дзевяты сшытак прадстаўляе сабою асабовы па зьмесьце нумар. Як-ні-як, а калі пры старой рэдакцыі часопісь і кульгала ў пэрыодычнасьці выйсьця, то з боку зьместу ўсё-ж мела рознастайнасьць і адноснае багацьце. Можна было ў часопісі знайсьці, апроч літаратурна-мастацкага матэрыялу, і матэрыял іншага характару, як: політычна-грамадзкі, з гісторыі рэволюцыйнага руху, з галіны тэатру і інш. Апошнія сшыткі і асабліва сшытак дзевяты—чуць не цалком аднастайны па матэрыяле. На працягу 124 старонак тэксту мы маем дзесятак старонак, адведзеных тром дробненькім, хронічнага характару заметкам грамадзка-політычным, а рэшта—аддадзена пад мастацкую літаратуру плюс даўжэзная дысэртацыя А. Бабарэкі крытычнага характару, таксама літаратурная. Гэткі зьмест надае выгляд „Маладняку“ не часопісны, а альманашны, што мяняе адносіны чытача да часопісі. Болей таго, зьмест дзевятага сшытку пагражае „Маладняку“ згладзіць тую розьніцу, якую ён меў, ад тонкіх часопісаў-блізьняцоў „Беларускі піонэр“ і „Малады араты“. Усе тры гэтыя часопісі, калі далей „Маладняк“ ня зьменіць і не ўзбагаціць зьместу, будуць падобны адзін на другі (апроч памеру) усім усенькім. Гэта не ў карысьць ні рэдакцыі, ні

выдаўцу. Каб ня згубіць чытача, якога пакуль мала, рэдакцыя „Маладняка“ павінна падбаць ня толькі аб своечасовасьці выйсьця часопісі, а і аб яе вартасьці і, як кажуць парасійску, „насыщенности“. Толькі тады можна будзе зацікавіць чытачоў і мець моцны козыр для забавы ўсё большага іх ліку праз асабістасьць і самотнасьць часопісі...

Што датычыць зьместу ў літаратурной галіне, то можна адзначыць на першым пляне сцэнку-сатыру „Ня пішы чорт ведае як“ Кузьмы Чорнага і „42“ Зарэцкага—гэтых дваіх здольных маладнякоўскіх рэалістых пісьменьнікаў. Рэчы іншых, а менавіта: Дудара „Шанхайскі шоўк“ поэма прыгнечаным народам Усходу й Захаду, дробныя вершы Я. Пушчы і бэлетрыстычныя вобразы „Бяз рамак і асадкі“ А. Бабарэкі,—як і заўсёды, выпукляюцца ўсвойнаю ім галаваломнаю вобразнасьцю, на манер „узяць сьвет загрудзі“ (Я. Пушча), „Шанхай“ вялікі горад, фабрычных труб пятля“(?)... і г. д, і запазычанаю ад Маякоўскага формаю расстаноўкі слоў, абнесеных нязьлічонымі кропкамі і рыскамі з пералічэньнем дзесяткаў прыметнікаў... Проста—супрэматызм, у якім нагу зломіш. Хацелася-б пажадаць часопісі бліжэй прымаць да сэрца інтарэсы маладога чытача, чытача рэволюцыянэра-рэалістага...

Sib I.

**К. Гарабурда**. „*Як стварыўся сьвет і зямля*“. Сялянская бібліотэка. Выданьне Белдзяржвыдату.

Гэта кніжка нядаўна вышла з друку. Тэма вельмі цікавая і шырокая. Шырокай яе можна назваць не таму, што тут можна пісаць усё, што збрыдзе ў галаву, а таму, што распрацоўка гэтае тэмы вымагае ад аўтара шырокага знаёмства з найноўшымі дасягненьнямі ня толькі астрономіі, а і наагул усяго прыродазнаўства. Па стылі і па зьмесьце, а таксама і па шрыфту відаць, што кніга выдана для простага чытача. У сваёй кароткай рэцэнзіі я пастараюся больш-менш выявіць вартасьць гэтае кнігі.

З боку выданьня няма заган—папера досыць добрая, малюнкі таксама нядрэнныя і шрыфт буйны, толькі корэктарскіх памылак сустракаецца ня мала і часам вельмі недарэчныя, напрыклад, замест слова „грэк“ пішуць „дрэк“ (стар. 12), такую недарэчнасьць селянін бадай што і не расшыфруе.

Стыль брошуры зразумелы, за выключэньнем некаторых тэрмінаў, напрыклад, „небаскляпеньне“. Невядома, як разумець гэтае слова, ці роўназначна яно тэрміну „вселенная“, альбо мае якое іншае значэньне.

Але ўсе азначаныя якасьці маюць другараднае значэньне. Галоўную ролю, па маёй думцы, у гэтай брошуры павінна займаць высьвятленьне навуковых фактаў. І вось гэтыя-то факты аўтар якраз высьветліў няправільна.

На старонцы 37 ён піша: „Адзін вучоны, профэсар Мэндэлееў, заўважыў, што невялікія часткі таго ці іншага элемэнту маюць сталую розьніцу ў вадзе. Вось, гледзячы на тое, колькі важыць азначаная частка вядомых элемэнтаў, гэты вучоны разьмеркаваў на табліцы па гратачках“. Ну пры чым тут вада? Гэта проста недарэчнасьць, але можа гэта корэктарская памылка? Можа аўтар хацеў, каб там стаяла слова не „ў вадзе“, а „ў вазе“. Ну, а хоць-бы нават і гэтак, дык справа хоць колькі-небудзь мяняецца? Не, нісколькі не мяняецца; справа застаецца цёмнаю. Тут аўтар хацеў паказаць, як Мэндэлееў склаў пэрыодычную сыстэму элемэнтаў і гэтым самым угадаў пра існаваньне некаторых элемэнтаў, але аўтару гэтага дасягнуць не ўдалося. Дайце чытачу, які скончыў сямёхгодку, прачытаць гэту брошуру ад пачатку да канца і папрабуйце праверыць, ці зразумеў ён што-небудзь пра табліцу Мэндэлеева, то калі ён раней

нічога ня ведаў пра яе, дык і ў кніжцы Гарабурды ён нічкольні не даведаецца. Няхай будзе вядома аўтару, што Мэндэлееў браў пад увагу не адну толькі вагу, а і рэакцыйную здольнасьць элемэнту. Вага-ж адыграла больш важную ролю. Лепш было-б, каб аўтар ня ўводзіў зусім сыстэмы Мэндэлеева, ад гэтага-б брошура толькі выйграла, бо думка была-б значна выразьнейшай.

На старонцы 55 чытаем: „У сярэдзіне Сонца можа свабодна зьмясьціцца Зямля, забраўшы туды і свайго падарожніка — Месяц. Яму-б там было нічуць ня цесна: ён і тамбы мог вольна бегаць наўкола Зямлі“. Прачытаўшы гэтыя словы, хочацца верыць, што гэта алегорычнае параўнаньне велічыні сонца, і што аўтар ніякае пустаты на сонцы не прызнае, але-ж на ст. 57 аўтар піша: „Уся матэрыя на Сонцы знаходзіцца ў першастковым стане. Яна палае і бушуе, вагаецца, то памерна, то раптам закіпае, бурліць. Ад гэтых віхур на Сонцы зьяўляюцца ямы, упадзіны, якія ў тэлескоп выглядаюць плямамі“. Тут-жа на малюнку паказана чорная пляма. Адсюль ужо бясспрэчна відаць, што аўтар сапраўды разумее быццам у сонцы знаходзіцца нейкі чорны прастор альбо пустое месца.

Сапраўды-ж навука падобныя гіпотэзы даўно ўжо адхіліла, толькі, відаць, аўтар не знаём з апошнімі досьледамі над сонцам і пры складаньні свае брошуры карыстаўся старымі расійскімі крыніцамі. Тое, што сонца бурліць і бушуе, гэта—праўда, але прастору ў сярэдзіне няма ніякага, наадварот, там тэмпэратура вышэйшая, чымся на паверхні сонца. Вось, дзякуючы гэтай высокай тэмпэратуры, жыжа, якая знаходзіцца ў сярэдзіне сонца, вельмі моцна награваецца і з гэтае прычыны пашыраецца і вылятае з вялізарнай сілай на паверхню сонца і адлятае далёка ў прастор. Такую вылецеўшую масу вучоныя завуць протубэрыянцам. За протубэрыянцам з сярэдзіны сонца вылятае вялікая колькасьць цяпла і сьвету. Такія маніпуляцыі на сонцы адбываюцца праз кожныя адзінаццаць год. У гэтыя гады колькасьць сонечнае цяплыні (сонечная інсоляцыя) на зямлі павялічваецца. Протубэрыянцы могуць адлятаць ад сонца досыць далёка, так што ў прасторы яны могуць знаходзіцца каля трох месяцаў. Астыўшы, яны робяцца чорнымі і гэткім чынам здаюцца чорнымі плямамі на сонцы. Далей аўтар піша: „Час-ад-часу з сонечнае масы вырываюцца распалёныя слупы ўпругіх газаў і пары. Страшна шпарка яны імчацца ўгару. Паднімаюцца на тысячы кілёмэтраў, каб распыліцца ў прасторы, але сіла цяжыні зноў цягне іх уніз на Сонца, дзе яны, ахаложаныя, выклікаюць яшчэ большую завіруху“. Праўда, хораша сказана, усё проста, зразумела, як быццам вось перад табою кацёл з газамі. Але адкуль гэта ўзяў аўтар, што на сонцы ёсьць пара?—гэта адно, а другое—паважаны чытач, удумайцеся, якія ёсьць такія газы, каторыя-б, будучы на адлегласьці тысячы кілёмэтраў ад сонца, змаглі-б так ахаладзіцца, што ізноў-бы зваліліся на сонца і там сваім холадам выклікалі-б, буру. Сонца мае на сваёй паверхні тэмпэратуру прыблізна роўную шасьці тысячам градусаў, а на адлегласьці якіх-небудзь пяцёх-шасьцёх тысяч кілёмэтраў няхай будзе роўна палавіне альбо трэцяй частцы. Ну якія-ж гэта газы пры тэмпэратуры ў дзьве тысячы градусаў могуць зрабіцца цьвёрдыя і ўпасьці на сонца? Каб гэта была жыжка, дык яна-б упала, але-ж пры гэтакай тэмпэратуры газы ня могуць зрабіцца жыжкай. Гэтым аўтар яшчэ раз падкрэсьлівае, што ён карыстаўся вельмі старымі крыніцамі. Так, як піша аўтар, думалі раней, але зараз, дзякуючы працам Гартмана, Меч-Над-Саха і інш., гэту гіпотэзу адхілілі і яе ня трэба было-б

выстаўляць, як навуковае дасягненьне. Я ня буду зараз спыняцца на новых дасягненьнях, бо гэта не ўваходзіць у маю мэту, а хто хоча пазнаёміцца з гэтымі дасягненьнямі, няхай зьвернецца да астрономічных журналаў за 1921-22-23 гады. Асобныя выняткі з прац Меч-Над-Саха зьмешчаны ў журнале „Природа и Человек“ за 1924 г. Падносіць-жа чытачу старыя гіпотэзы за новыя навуковыя дасягненьні, памойму, недобрасумленна і не карысна.

Лепш за ўсё ў аутара вышла апісаньне паасобных плянэт і комэт сонечнай сыстэмы. Дрэнна распрацаваны аддзел аб атомах. Аўтар увесь час сіліцца давесьці параўнаньнямі, што атом велічыня „няўяўна малая“ і што гэта „няўяўна малая“ велічыня складаецца яшчэ з меншых вялічыньэлектронаў“ альбо, як аўтар зазначае, „камячкоў энэргіі“, якія вольна носяцца наўкола галоўнага ядра. Адкуль-жа даведаліся вучоныя, што электроны круцяцца, тым болей, што іх ніхто ня бачыў? На гэтае пытаньне аўтар дае адказ, што неадукаванаму чалавеку зразумець цяжка (ст. 132), „але шлях, па якім ішлі вучоныя ў сваіх вылічэньнях, зразумець можа кожны“.

Які-ж гэта шлях? А шлях гэты выяўляецца ў тым, што вучоныя кідалі на ціхую паверхню вады драбнюсенькія пясчынкі, мерылі вышыню хваль, якія былі зроблены гэтымі пясчынкамі, і гэткім чынам вылічалі вагу атома. Зразумела, калі станем на гэткі шлях, дык ня толькі неадукаваны нічога не зразумее, а нават і адукаваны нічога не разьбярэ. Замест таго, каб кідаць пясчынкі на ваду ды вымяраць вышыню хвалі, няхай-бы аўтар лепей расказаў пра Броунаўскі рух, тады-б і неадукаванаму чалавеку было зразумела, што атомы рухаюцца. Атомная гіпотэза стала лічыцца прызнанаю з таго часу, калі Браун адкрыў рух молекул.

Пры апісаньні распаду радыя ня прыведзена фотографічных здымкаў, якія-б дапамаглі яскрава ўявіць мэханізм гэтага распаду. Раз аўтар пачаў гаварыць аб распадзе атому, то яму патрэбна было спыніцца на тэй гіпотэзе, якая вытлумачвае, як ізноў ствараецца гэты атом. Пад гэтай гіпотэзай я разумею гіпотэзу „Нэрста“, якая зьявілася ў расійскай літаратуры. Але відаць, што аўтар пра гэту гіпотэзу яшчэ ня ведае, бо на ст. 127 піша: „Але што такое ёсьць матэрыя, з чаго яна пашла, мы ня ведаем. Шмат чаго мы яшчэ ня ведаем. Але ведаць будзем не цяпер, дык у чацьвер, не цераз год, дык цераз сто...“

Нашто вам, т. Гарабурда, гэтае цікавае пытаньне адкладваць на сто гадоў. Гэта вельмі вялікі тэрмін. Вы лепей зараз ідзеце ўва Унівэрсытэцкую бібліотэку і папрасеце, каб вам далі кнігу Нэрста „Мироздание в свете новых исследований“, пераклад з нямецкае мовы акадэміка Лазарава, выданьне 1923 году. Прачытаўшы гэтую кніжку, вы атрымаеце поўнае ўяўленьне аб гэтым пытаньні.

Наогул у брошуры пытаньне аб матэрыі разьбіраецца па ідэялістычным спосабе. Матэрыялістыя гэтага пытаньня так ніколі ня ставілі, яны заўжды казалі й кажуць, што матэрыя існуе вечная, а профэсар Нэрст вытлумачыў эволюцыю матэрыі ў бясконцым сьветавым прасторы.

На 140 старонках невялікае кніжачкі, напісанае буйным шрыфтам, аўтар зьмясьціў: гісторыю астрономіі, жыцьцё сонечнае сыстэмы, тэорыю Канта-Ляпляса, геолёгію, палеонтолёгію, апісаў склад атому, яго энэргію, закрануў эволюцыю відаў, і чаго яшчэ ён толькі там не напісаў. Такая мешаніна рэдка дзе бывае. Вясковаму чытачу ва ўсім гэтым будзе трудна разабрацца, бо самых элемэнтарных праўдаў ён і не напісаў у сваёй брошуры.

Ну з якога прыкладу селянін альбо наогул чытач, прачытаўшы кні-

гу Гарабурды, можа ўпэўніцца, што зямля круглая і што яна верціцца? А такія факты, і вельмі популярныя, ёсьць і іх трэба было напісаць у брошуры. Мала сказаць селяніну, што зямля круглая і што яна верціцца, гэта трэба яшчэ давесьці, а так ён вам ні за што не паверыць. Вы думаеце, калі скажаце, што Копэрнік 200 год таму назад надрукаваў шмат томаў па астрономіі, дык гэта на яго зробіць вялікае ўражаньне? Абсолютна ніякага.

Хоць і бедна наша популярная прыродазнаўчая літаратура, але й копіроўка старых расійскіх брошур ня зробіць ёй ніякай карысьці.

**Я. Кіпель.**

**М. Гарэцкі, Ул. Дзяржынскі і П. Каравай.** *„Выпісы з беларускае літаратуры“. Частка 1.*

1) Вусная народная творчасьць. 2) Старадаўняе пісьменства. Стар. 303). Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, 1925 г.

Багацьці вуснае беларускае народнае творчасьці, як усім вядома, ужо часткаю сабраны і выданы. Мы маем ужо шмат зборнікаў па нар. твор., як, напр., Шэйна, Раманава, Фэдэроўскага, Нікіфароўскага і інш., але ўсе гэтыя зборнікі даўно разышліся і недаступны шырокім колам грамадзянства. Калі-ж паглядзець, як справа стаіць з старадаўнім пісьменствам, то тут мы ня мелі ніякай магчымасьці знаёміцца з старымі літаратурнымі помнікамі, за адсутнасьцю самых матэрыялаў. Вось гэтая акалічнасьць і прымусіла ўкладчыкаў утварыць такі падручнік, як па вуснай нар. творчасьці, гэтак і па старадаўнім пісьменстве.

Паглядзім-жа цяпер, што прадстаўляе сабою гэты падручнік? У першым аддзеле „Вусная народная творчасьць“ даны па досыць сталым пляне ўсе віды народнае творчасьці: замовы, абрадавыя песьні, бытавыя песьні, духоўныя песьні, гістарычныя песьні, казкі, прыказкі, загадкі, батлейка, прычым перад кожным відам народнае творчасьці аўтары далі, праўда, сьціслыя ўвагі да таго віду творчасьці, выпісы з якога ніжэй прыводзяцца. І кожны, ня маючы пад рукамі зборнікаў па нар. творчасьці, але пажадаўшы азнаёміцца з гэтай творчасьцю, знойдзе ў гэтай кнізе належны матэрыял, хоць і ня поўны, паколькі гэтага зрабіць у падобнай кніжцы і немагчыма.

Для прыкладу возьмем замовы. У выпісах даны замовы пры першым выгане жывёлы, ад зубоў, ад трасцы, ад шалёнага сабакі і інш. Зразумела, гэтыя замовы маюць шмат варыянтаў, але і выпісаных прыкладаў выстарчыць, каб пазнаёміцца з імі. Таксама стаіць справа і з іншымі аддзеламі, прадстаўленымі ў выпісах. Спроба даць такі падручнік па нар. творчасьці зьяўляецца першай і бязумоўна сваячасовай. Калі-ж зьвярнуцца да другога аддзелу выпісаў— „Старадаўняга пісьменства“, то ў нас ужо была падобная спроба. М. Гарэцкі ўлажыў хрэстоматыю яшчэ раней, у якую ўвашло старадаўняе пісьменства, але ўложаная Гарэцкім хрэстоматыя адзначалася, я-б сказаў, пярэстасьцю: там было дано ўсяго па невялічкім кавалачку, і цяжка было па матарыялах, дадзеных Гарэцкім у яго хрэстоматыі, што-небудзь уявіць аб тым ці іншым літаратурным помніку.

Зусім іначай даецца матэрыял у выпісах, уложаных трыумвіратам. Тут няма такога прынцыпу—даць усяго пакрысе, а выбраны матэрыялы па старадаўнім пісьменстве больш характэрныя, і памагчымасьці даюцца яны больш поўна. Напр., з жыцьцяў сьвятых даецца толькі жыцьцё Аляксея, чалавека божага, але затое поўнасьцю. Так што прынцып, палажаны ў аснову ўкладаньня падручніка, досыць добры.

Гэты падручнік, з прычыны недаступнасьці зборнікаў па вуснай нар. творчасьці і хрэстоматый па старадаўнім пісьменстве, папершае, можа быць скарыстаны ў школах, а падругое—дасьць матэрыялы для кожнага інтэлігента, які пажадае пазнаёміцца з беларускаю вуснаю творчасьцю ці старадаўнім пісьменствам.

**А. Слуцкі.**

**„Чырвоны сьцяг“ № 5-6.** *Выданьне ЦБ Пролетарскага студэнцтва і цэнтральнага кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы.*

Цэнтральнае бюро пролетарскага студэнцтва і цэнтральнае кіраўніцтва зямляцтваў гораду Масквы выпусьцілі ўжо 5-6 нумары студэнцкай часопісі „Чырвоны Сьцяг“. З надворнага боку гэта невялікая кніжачка, але досыць ёмкая, зьмяшчае шмат у сабе матэрыялу і пачытаць у ёй ёсьць што, толькі вось бяда ў чым: часам ня можна зразумець таго, што чытаеш. Гэты нумар часопісі, так, як і ўсе папярэднія, выданы ў беларускай мове, але напісаны так, што каб ня ведаў расійскай мовы, дык ні зашто-б не зразумеў таго, што там напісана.

Вось, к прыкладу, возьмем перадавіцу Мік. Шапавалава „Задачы вышэйшае адукацыі ў БССР“. Па зьмесьце артыкул вельмі добры. Што супроць яго можна сказаць?—ды бадай што нічога. Разумныя думкі выказвае т. Шапавалаў, і кожны студэнт В. Н. У. павінен ведаць тыя прынцыпы, якія ставіць сабе вышэйшая школа. Ну, а калі-ж пачнем разглядаць гэты артыкул з боку мовы, то тут справа пастаўлена ня зусім добра. На пятай старонцы чытаем: „Калі да гэтага дадаць неспагаднасьць для яе (БССР) разьвіцьця прыродных умоў: адсутнасьць выхаду да мора, адсутнасьць значных суднаходных рэк, шмат балот, нявыгоднасьць шляхоў зносін і малую ўрадлівасьць глебы, то ўсе даныя, якія азначаюць запытаньні БССР і запінаюць яе разьвіцьцё, выступяць перад намі ў больш выразнай форме“. Ну, вытлумачце, што азначае канец гэтага сказу: „то ўсе даныя, якія азначаюць запытаньні БССР і запінаюць яе разьвіцьцё, выступяць перад намі ў больш выразнай форме“. Шчыра прызнаюся, таварышы, што гэтага сказу я ніяк не магу зразумець. Пасьля гэтага сказу зараз-жа йдзе такі сказ: „Гэтакія ўмовы, якія налажылі адбітак на характар нашай вышэйшай адукацыі“. Памойму, тут трэба напісаць так: „Гэта тыя ўмовы, якія налажылі характар...“, альбо „Вось тыя ўмовы, якія налажылі“ і г. д., але ні ў якім выпадку ня можна пісаць так, як напісаў аўтар артыкулу, бо атрымліваецца нейкая бяссэнсіца. На старонцы шостай чытаем: „І якраз мы заўважваем асабістую стабілізацыю капіталізму, поруч са стабілізацыяй савецкае будовы. Гэта—гнацьцё на прыз існаваньня тае ці іншае дзяржаўнае формы“. Ну, скажэце т. аўтар, якая гэта асабістая стабілізацыя? У нас слова „асабісты“ ў перакладзе на расійскую мову будзе азначаць „лічный“, але-ж вы ня скажаце „лічная стабілізацыя капіталізму“, бо так ня можна сказаць дзеля таго, што капіталізм гэта не асоба (личность). Вы, мабыць, хацелі сказаць „особенная стабилизация“, тады вам трэ' было ўжыць слова „асаблівая“, а не „асабістая“. Ня можна таксама ўжываць і слова „гнацьцё“, такога слова ў беларускай мове няма. Вам трэба было напісаць так: „Гэта пагоня за прызам на існаваньне“, але ні ў якім выпадку „на прыз“. Што-ж датыча слова „пагоня“, дык яно ў нас вельмі пашырана, ёсьць нават і верш Максіма Багдановіча „Пагоня“, паміж іншым вельмі прыгожы. Далей чытаем: „Ніколі так не пакутвалі прынцыпы об'ектыўнасьці, як у перажываемы намі момант“. Як гэта могуць прынцыпы пакутваць?—не разумею, мусіць, па-

расійску было напісана так: „Никогда так не страдали принципы об‘ективности...“, а пабеларуску трэба напісаць: „Ніколі так не парушаліся прынцыпы...“ Слова „пакутваць“ у даным выпадку ўжыта няправільна. Вось, к прыкладу, можна напісаць такі сказ: „Бедная беларуская мова, нідзе ёй так, мусіць, ня прыходзіцца пакутваць, як пад пёрамі супрацоўнікаў „Чырвонага Сьцягу“—то ў гэтым выпадку слова „пакутваць“ ужо больш падходзіць. На гэтай-жа старонцы чытаем: „Тады, калі рэволюцыя магутным парываньнем перабудоўвала на новы лад грамадзкае жыцьцё, за гэтым процэсам формуючагася „існаваньня“ не магло так хутка пасьпяваць азначанае ім (існаваньнем) сузнаньне“. Папершае, гэты сказ напісан паводле расійскага сынтаксу, а падругое, такія дзеяслоўныя прыметы, як „формуючагася“, у нас ня ўжываюцца, ня ўжываецца таксама і слова „сузнаньне“, замест якога ў нас ёсьць чыста беларускае слова „сьвядомасьць“. Гэтакіх памылак у часопісі шмат. Калі гэткія хібы ў мове сустракаюцца ў выданьнях іншых організацый, то да іх можна аднесьціся менш крытычна, для студэнцкай-жа часопісі гэта вялікая загана.

Трэба адзначыць, што ёсьць артыкулы, дзе мова досыць добрая, але такіх вельмі мала, у большасьці-ж мова артыкулаў, як кажуць, кульгае на абедзьве нагі.

У навуковым аддзеле зьмешчаны артыкул двох аўтараў М. Розэнблюма і А. Левіна „—Алькоголізм, як фактар злачынства“. Узяўшы гэтую тэму, аўтары вельмі мала цікавяцца тымі злачынствамі, якія вынікаюць ад п‘янства. На працягу ўсяго артыкулу дадзена толькі адна невялікая справачка, што ў Нямеччыне, па вылічэньнях нейкага Ашафэнбурга, патрабавалася шмат дзён на лячэньне „цялесных псаваньняў“, якія былі роблены п‘яніцамі, таксама зазначана, што лік моральных злачынстваў, зробленых п‘яніцамі, дасягае да 66 проц., а далей ідуць агульныя разважаньні аб шкоднасьці п‘янства. Цікава, чаму аўтары больш падрабязна ня спыніліся на злачынствах ад алькоголю? Ну, к прыкладу, возьмем хоць-бы профэсыянальных зладзеяў, колькі сярод іх алькоголікаў? Вельмі шмат месца аўтары адводзяць на тое, каб выявіць прычыны алькоголізму і на ст. 26 пішуць: „Мы можам сьмела прыйсьці да вываду, што асабовая воля, падражаньне ня грають ужо гэткае выключнае ролі ў лёсе п‘ючых людзей... Асабовыя прычыны, якія мы разгледзілі, не зьяўляюцца рашаючымі і адзінымі фактарамі, якія робяць уплыў на разьвіцьцё ўжываньня алькоголю. Прычыны грамадзка-соцыяльнага значэньня, соцыяльнае асяродзьдзе—вось што корміць і разьвівае алькоголізм“. Адсюль відаць, што соцыяльныя недахопы—грунтоўная крыніца п‘янства. На старонцы 28 чытаем: „Бо алькоголік—гэта чалавек раней усяго хворы, як мы ўперад паказалі; ня злая воля прывяла яго да п‘янства, не асаблівая, адпаведная яму загана, а злучнасьць розных, галоўным чынам, соцыяльных умоў“. Дзе гэта вы ўперад даводзілі, што алькоголік—гэта хворы? Увесь час вы толькі скардзіліся на соцыяльныя ўмовы.

Аўтары нават прыводзяць прыклады, як у Амэрыцы лечаць алькоголікаў.

Вось і зразумей ты тут нашых паважаных аўтараў: і хворы, і ня мае „асаблівых, адпаведных яму заган“, а тое, што ён п‘е, вінаваты соцыяльныя ўмовы, але ўсё-ж такі гэтага чалавека трэба лячыць!

Ну, а калі хворага вылечым, дык соцыяльныя ўмовы застануцца тыя-ж самыя, значыць, яны ізноў яго зробяць хворым, які-ж сэнс ад такога лячэньня? Звычайна пры лячэньні ў першую чаргу стараюцца зьнішчыць галоўную прычыну хваробы.

Не, сябры, справа абстаіць ня так, як вы мысьліце, мусіць, трэба прызнаць, што той, хто п'е мае і асаблівыя, і асабістыя заганы. Праўда, ён у гэтым не вінаваты, вінавата прырода, што падарыла яму гэтыя заганы; карлік не вінаваты, што ён карлікам радзіўся, але карліцтва—загана наогул і для карліка, і для чалавечага роду. Для п'янства соцыяльныя ўмовы маюць значэньне, але не пераважнае. Уявеце сабе: два рабочых працуюць на аднэй фабрыцы. У абодвух соцыяльныя ўмовы аднолькавыя, продкі ў абодвух былі не алькоголікі, і вось адзін з гэтых рабочых прагне да гарэлкі, а другі аб ёй і ня дбае. Гэткіх выпадкаў можна налічыць дзесяткі тысяч. У чым тут справа? А ў тым, што хімічныя процэсы ў іх організмах адбываюцца неаднолькава. Вось выяўленьне гэтых процэсаў і зьяўляецца чарговай задачай навукі. З такім памерам, з якім аўтары падыходзяць да разгляду алькоголізму, раней падыходзілі да людзей, распусных у палавых узаемаадносінах. Шмат пісалася розных рэцэптаў аб гэтым пытаньні, і, урэшце, яно дасканала высьветлілася тады, калі ў гэтых людзей прасачылі фізыолёгічныя функцыі іх цела. Іх прызналі хворымі і пачалі лячыць.

Калі аўтарам хацелася давесьці, што алькоголізм перадаецца ад бацькоў да дзяцей, то навошта ім патрэбна было лезьці да Арыстотэля й Плютарха, запазычаць іхнія думкі адносна перадаваньня алькоголізму ў спадчыну патомкам, а ці ня лепш-бы было зьвярнуцца да сучасных клясыкаў прыродазнаўства—Мэндэля, Вэйсмана, дэ-Фрыза і інш.? Я думаю, што вынятки з іх прац былі-б больш цікавыя для чытача і больш-бы яскрава высьветлілі, у якой меры алькоголізм шкодны для патомства. Агулам кажучы, калі чытаеш гэты артыкул, то немагчыма ўявіць, чаго хочуць дасягнуць яго аўтары.

Самы грунтоўны недахоп у навуковым аддзеле гэта тое, што зусім не адведзена месца для навук прыродазнаўчых і матэматыкі. Выходзіць, што катэдраў на гэтыя дысцыпліны як-бы й няма ў унівэрсытэце, а паміж тым гэтыя катэдры ёсьць, і студэнты пры гэтых катэдрах вядуць энэргічную працу, іх толькі трэба прыцягнуць у шэраг супрацоўнікаў „Чырвонага Сьцягу“. Калі гэтага няма зараз, дык гэта віна рэдколегіі і профкому.

У літаратурным аддзеле зьмешчана шмат прыгожых вершаў, а таксама ня дрэнна напісаны вершы прозаю.

Інформацыйны аддзел у часопісі пастаўлены здавальняюча, толькі ўсё-ж такі патрэбна высьвятляць жыцьцё й патрэбы паасобных аддзяленьняў. Патрэбна ў часопісі ўвесьці аддзел „Навуковыя навіны“, гэта дасьць магчымасьць студэнту быць у курсе справы навуковых дасягненьняў. Па маёй думцы, будзе вельмі карысна зьмяшчаць час-ад-часу весткі аб навуковай дзейнасьці замежных унівэрсытэтаў. Тады наша часопісь набудзе большы лік чытачоў і заслужыць яшчэ большую прыхільнасьць сярод студэнцтва.

Студэнт **Кіпель.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў**

* У канцы кастрычніка вярнуліся з заграцічнае камандыроўкі пісьменьнікі Я. Купала, Ц. Гартны і М. Чарот. Заграніцаю яны пабывалі ў Нямеччыне і ў Чэхаславаччыне і праехалі ў Менск праз Польшчу.

* М. Чарот назначаны рэдактарам газэты „Савецкая Беларусь“.

* Максім Гарэцкі прыгатаваў да друку тры томікі апавяданьняў.

* Зьмітрок Бядуля пасьля ўзвароту з Каўказу прыступіў да працы рэдактарам краязнаўчай часопісі „Наш край“.

* У канцы кастрычніка адбыліся акруговыя конфэрэнцыі маладнякоўскіх філій — Віцебскай, Слуцкай і Гомельскай.

* Пісьменьнікам А. Паўловічам напісана п'еса „Дзекабрысты“.

**Выдавецтва.**

* У Дзяржаўным Выдавецтве за апошні час вышлі з друку наступныя кніжкі: 1) *Падручнікі*: „Выпісы з беларускае літаратуры ч. I, М. Гарэцкага, Ул. Дзяржынскага і П. Каравая; „Чырвоная Зьмена“ А. Федасенкі, першая пасьля лемантара кніжка; „Чырвоная Беларусь“, чытанка для трэцяга году навучаньня, І. Мазура і К. Шапялевіча; „Першыя крокі ў матэматыцы“, М. II ч. Лойкі; „Кароткі курс экономічнае географіі СССР“ проф. П. Цімафеева; „Політычная экономія“ (пачатковы курс) проф. Л. Любімава ў перакладзе П. Зянюка; „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“ У. Ігнатоўскага. 2) *Прыгожае пісьменства*: „Крапіва“ — збор сатырычна-гумарыстычных вершаў Крапівы ў прыгожай вокладцы мастака Баранскага. 3) *Сялянская бібліотэка*: „Новыя й старыя меркі“ Я. Перэльмана і „Як стварыўся сьвет і зямля“ К. Гарабурды.

* З бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“ выданы астатнім часам: „Нарыс гісторыі міжнароднага юнацкага дня (Мюд)“ А. Самахвалава; „Паўстанцы“ — поэма-інсцэніроўка А. Александровіча і „Дзень ураджаю“ І. Барашкі.

* Наркамфінам БССР выдана брошура „Адзіны сельска-гаспадарчы падатак 1925-1926 г. Н. Кірыка.

* Дзяржаўнае вайсковае выдавецтва ў Маскве распачало выданьне на беларускай мове цэлай сэрыі кніжак па вайсковых пытаньнях. Ім ужо выданы: „Якія ільготы і перавагі дае служба ў Чырвонай арміі“ Н. Полева, „Прэзыдыум Рэввоенсавету СССР, Жыцьцёпісы“, „Памятка адпускніка-чырвонаармейца“, „Фрунзэ — народны камісар вайсковых спраў“ і „Ленін і Чырвоная армія“.

* ЦБ „Маладняка“ цягне далей выданьне твораў сваіх сяброў таннаю бібліотэчкаю. Апошнімі часамі вышлі з друку: „Асьцё“ — зборнічак вершаў Крапівы, „Першы паўстанак“ — зборнік апавяданьняў С. Хурсіка, „Пела вясна“ — апавяданьні М. Зарэцкага і „Срэбра жыцьця“ — апавяданьні Кузьмы Чорнага.

* Політычны аддзел другое Беларускае тэрыторыяльнае дывізіі выдаў на беларускай мове „Памятку чырвонаармейца тэрыторыяльнай часьці“.

* Вышаў з друку першы нумар часопісі „Наш край“ цэнтральнага бюро краязнаўства.

* Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі друкуюцца мастацкія дошчачкі з портрэтамі палітычных дзеячоў і пісьменьнікаў для насьценных календароў.

* Гэтым-жа выдавецтвам заказаны мастаку Кругеру портрэт старшыні Саўнаркому БССР т. Я. Адамовіча. Портрэт т. А. Чарвякова Кругерам напісаны і ўжо знаходзіцца ў друку.

* Дзярж. Выд. абвешчаны конкурс на складаньне сялянскай бібліотэкі, якое ўжо выдана ім звыш 40 нумароў.

* Выдавецтвам „Маладняк“ выпушчаны з друку паштоўкі з портрэтамі старшыні Саўнаркому БССР Я. Адамовіча і песьняра М. Чарота. У далейшым гэта выдавецтва мае выпусьціць карткі т. Ігнатоўскага, Купалы, Гартнага і інш.

### Тэатр

* Мастацкая рада БДТ канчаткова вызначыла тэрмін адчыненьня зімовага сэзону на 14 лістапада.

* З другое паловы кастрычніка г. г. пачалася праца ў тэатральнай сэкцыі „Маладняка“. Праца йдзе пад кіраўніцтвам артыстага БДТ т. Ільлінскага. Заняткі адбываюцца тры разы ў тыдзень. Сябры сэкцыі часткаю маладнякоўцы, а часткаю слухачы Белпэдтэхнікуму.

* Мастацкаю радаю Бел. Дзярж. Тэатру вызначана да пастаноўкі на другую палову сэзону чатыры п‘есы, з якіх дзьве з сучаснага быту, а дзьве—клясычных.

* Артыстаю Дзярж. Тэатру Ільлінскім напісана п‘еса пад назваю „Ліпенька“. П‘еса дадзена на разгляд рэжысуры.

* Мастацкая Рада БДТ абвясьціла конкурс на знак тэатру. Знак павінен адбіваць рэволюцыйнасьць і беларускасьць. Першая прэмія вызначана ў 150 р.

* З новых пастановак у гэтым сэзоне намечаны п‘есы: „Вясковы судзьдзя“—Кальдэрона, „Кар‘ера т. Брызгаліна“ — Е. Міровіча, з сучаснага жыцьця, „Вір“—Рамановіча, „Кароль забаўляецца“ — В. Гюго, „Ахвяра крыві“—па Войнічу, „Вірынэя“—паводле Сэйфулінай і інш.

* Маладнякоўцы К. Чорны і Шашалевіч скончылі свае новыя драматычныя творы, якія малююць сучаснае жыцьцё. Камэдыя К. Чорнага дае абраз гарадзкога жыцьця, драма Шашалевіча малюе беларускую вёску 1920 г.

* Маскоўская беларуская студыя апрацоўвае новую пастаноўку „Бакханкі“—Эўрыпіда. Грэцкую плястыку вывучае з студыйцамі знарок запрошаны для гэтага знаўца клясыкаў. Апрача гэтага, студыя намечвае да пастаноўкі п‘есу польскага пісьменьніка Жулаўскага—„Эрос і Псыха“ ў перакладзе Я. Купалы і трагэдыю Ю. Славацкага—„Лільля Вэнэда“.

* Да п‘есы А. Рамановіча—„Вір“ запрошаны напісаць музыку выкладчыкі беларускага музычнага тэхнікуму Аладаў і Фідлон.

* Композытар М. Аладаў працуе зараз над орыгінальнаю беларускаю опэраю на тэму „Сымона Музыкі“—Я. Коласа.

* Композытар Анекаў гармонізаваў некалькі беларускіх народных песень, якія надаслаў у комісію беларускіх песень у Інбелкульце.

* Вайсковая тэрмінолёгічная комісія злажыла беларускі вайсковы сьпеўнік.

* Для сталага і сыстэматычнага вывучэньня беларускага стылю падсэкцыя вобразных мастацтваў ІБК злажыла спэцыяльную комісію пры старшыні М. Шчакаціхіне і сакратары А. Шлюбскім.

### Літаратура

* У Кірэнску, Іркуцкай губ. ў гр. Захара Боркі захаваліся рукапісы і розныя матэрыялы поэты Алеся Га-

руна, які ў свой час быў у ссылцы. Гр. Борка згодзен пераслаць гэты матэрыял у Інбелкульт.

* Артыстым Рамановічам напісана п'еса гістарычнага характару—„Вір", якая прынята да пастаноўкі ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры.

* М. Грамыка піша п'есу з жыцьця і эпохі Ф. Скарыны.

### Інбелкульт

* Канчаткова днём сьвята 400-годзьдзя беларускага друку вызначана 20 сьнежня. Юбілей будзе адзначаны закладкаю помніку ў Полацку, абвяшчэньнем конкурсу на скарынінскі шрыфт, надрукаваньнем скарынінскага зборніку і выпускам асабістых жэтонаў для шырокага ўжываньня.

* Для больш глыбейшай і шырэйшай працы вайсковае тэрмінолёгічнае комісіі будуць сформаваны: спэцыяльная падкомісія для апрацоўкі тэрмінолёгіі і рэдакцыйная падкомісія, якая будзе апрацоўваць статуты, падручнікі і кніжкі для патрэб вайсковай школы.

* Тэатральная падсэкцыя мае ў лістападзе адчыніць драматургічны сэмінарыум, з мэтаю даць тэорытычныя і практычныя веды беларускім і яўрэйскім літаратурным працаўніком, якія прабуюць свае сілы ў галіне драматургіі. У сэмінарыум маецца прыняць 25 асоб. Працяг заняткаў разьлічаны на два месяцы.

* У портфэлі Інбелкульту знаходзіцца да 300 друкаваных лістоў розных рукапісаў; сярод іх ёсьць дужа цікавыя працы па этнографіі—Сяржпутоўскага, Шлюбскага, Гарэцкага і інш., а таксама праца проф. Кайгарадава па кліматолёгіі, проф. Доўнар-Запольскага — па гісторыі і інш. Інбелкульт хадайнічае дастаткаў на іх выданьне.

* Інбелкультам канчаецца абсталяваньне музэю прыроды. Экспонаты для музэю прывезены экспэдыцыяй Інбелкульту.

* Аднавілася пасьля летніх канікулаў праца мэдыцынскай сэкцыі. На першым пасяджэньні д-р Цьвікевіч зрабіў даклад аб пляне працы сэкцыі. Характэрнымі момантамі пляну зьяўляецца: устанаўленьне сувязі з месцамі, падрыхтоўка да першага ўсебеларускага зьезду лекароў і ўдзел у навуковай распрацоўцы пляну працы мэдфаку БДУ. Сэкцыяй таксама прадстаўлены проэкт статуту клінічнай сэкцыі комісіі; задачай комісіі зьяўляецца навуковая распрацоўка пытаньняў клінічнай і экспэрымэнтальнай мэдыцыны, соцыяльна-клінічнае вывучэньне рэспублікі і інш.

* Управа Інбелкульту выдзеліла выдавецка-рэдактарскі аддзел у складзе: загадчыка—А. Смоліча, палітрэдактара—Акуліка і навуковых рэдактароў—Я Лёсіка і пр. Доўнар-Запольскага.

* Т. Агейчыкам, які доўгі час загадваў беларускім аддзелам Смаленскага Губана, здадзена ў слоўнікавую комісію Інбелкульту праца „Краёвы слоўнік Смаленшчыны", над якою т. Агейчык працаваў пяць год.

## З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Кнігасьпілкаю выданы гэткія кніжкі: 1) Прыгожае пісьменства: *Олеся*—„Выбраныя творы“, *Полішчука*—„Раскол Эўропы“, *К. Гордіенкі*—„Фецька“, апавяданьні, *Майскі*—„Ноч“, апавяданьні, *Семенкі М.*—„Стэпопоэзафільмы“. *Ю. Яноўскага*—„Мамантавы біўні“, апавяданьні, *Сосюры*—„Выбраныя поэзіі“, *Йогансена*—„17 хвілін“, апавяданьні, *Капіленкі*—„Вясёлая гісторыя“, апавяданьні, і *Хвілёвага*—„Камо градзешы“, літаратурныя памфлеты; 2) з дзіцячых кніжак: *Ю. Платонава*—„Казкі далёкіх народаў“.

* У дзяржаўнай опэры мастак Хвастоў згатовіў макеты да опэры ВольфаФерары—„Мадоньніна намісга“. Опэра мае пайсьці ў канцы лістапада.

* Пры украінскім дзяржаўным драматычным тэатры заложаны музэй. У музэй увашлі макеты і эскізы дэкорацый, гарнітураў і ў вогуле ўсё, што датычыць да працы тэатру імя І. Франку з моманту яго нараджэньня і да апошніх часоў.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 7.

стар.

**Тарас Гушча.** На парозе . . . . . . . . . . 3

**Алесь Гародня.** На крэсах . . . . . . . . . . 30

**А. Гурло.** Асеньнія чары. *Верш* . . . . . . . . . 58

„ „ Песьні зурновыя. *Верш* . . . . . . . . 59

„ „ Праплыў я шмат. *Верш* . . . . . . . . 60

**Паўлюк Трус.** З поэмы „Сірата Алеся“ . . . . . . . 61

**Мікола Лебедзь.** Пясьняр характва. *Верш* . . . . . . 67

**Падабед Язэп.** У дуброве. *Верш* . . . . . . . . 70

**І. В. Герчыкаў.** Заняпад Ангельскай гаспадарчай гегемоніі і проблема соцыялістычнай рэволюцыі . . . . . . . . . . 72

**Леў Каган.** Люты—Кастрычнік на Беларусі . . . . . . 82

**Е. Марахавец.** Сялянскі рух 1905—1907 г. г. і соцыял-дэмократыя . . . 94

**М. Мялешка.** Сялянскі рух на Віцебшчыне ў 1905 г. . . . . . 106

**Бонч-Асмалоўскі.** Эпоха 1905 г. . . . . . . . . . 115

**А. Харэвіч.** Ф. Скарына і яго эпоха . . . . . . . . 138

**А. В. Багдановіч.** Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу . . . 153

**Проф. Ів. Замоцін.** Сучасныя кірункі ў гісторыяграфіі расійскай мастацкай літаратуры XIX—XX сталецьцяў . . . . . . . . . 164

Кнігапіс . . . . . . . . . . . . 174

Хроніка беларускае культуры . . . . . . . . . 184

З украінскага культурнага жыцьця . . . . . . . . 187

---

Д.В.Б. № 5. Галоўлітбел. № 11556.

Менск, 1-я Дзярж. друк. Зак. № 32. У ліку 2000 экз.